АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА

## ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ ЗБОРНІК

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1992

ББК 81.2 Бел-4
Ж 94

Книга представляет собой сборник лексики разных белорусских говоров, отражаются их особенности, приводятся интересные фразеологические сочетания, даются отдельные тематические группы местных народных обозначений, помещены также статьи об изучении словаря живой народной речи.

Адресуется языковедам, этнографам, всем, кого интересует белорусский язык.

Рэдактары:
кандыдаты філалагічных навук П. А. Міхайлаў, І. Я. Яшкін

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук М. П. Антропаў,
І. І. Лучыц-Федарэц

**Жывое** народнае слова: Дыялектал. зб.— Мн.:
Ж 94 Навука і тэхніка, 1992.— 271 с.
ISBN 5-343-00738-4.

Живое народное слово: Диалектол. сб.

Кніга ўяўляе сабой зборнік лексікі розных беларускіх гаворак, адлюстроўваюцца іх асаблівасці, прыводзяцца цікавыя фразеалагічныя спалучэнні, даюцца асобныя тэматычныя групы мясцовых народных абазначэнняў, змешчаны таксама артыкулы аб вывучэнні слоўніка жывой народнай мовы.

Адрасуецца мовазнаўцам, этнографам, усім, каго цікавіць беларуская мова.

**Ж $\frac{4602020100-055}{М\ 316(03)-92}$ 113—91** **ББК 81.2 Бел-4**

ISBN 5-343-00738-4

# ПРАДМОВА

Пасля публікацыі пяці дыялекталагічных зборнікаў [1], якія змяшчалі артыкулы аб асаблівасцях ужывання слоў у розных народных гаворках Беларусі і мелі даволі станоўчы рэзананс у друку, гэтая цікавая серыя выданняў па розных прычынах была часова спынена. Аднак у апошнія гады ў аддзел дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі неаднаразова звярталіся выкладчыкі і студэнты вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, аматары роднай мовы з розных куткоў Беларусі з просьбай аб аднаўленні выдання дыялекталагічных зборнікаў. Разам з просьбамі яны накіроўвалі на адрас аддзела, а часам і проста на імя яго супрацоўнікаў свае чарговыя цікавыя падборкі рэгіянальнай лексікі. Гэтыя артыкулы і склалі прапануемую кнігу.

Зараз выключна актуальнай як для беларускай дыялекталогіі ў прыватнасці, так і для беларускага мовазнаўства наогул з'яўляецца задача падрыхтоўкі і выдання зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак. На сённяшні дзень беларускімі дыялектолагамі назапашаны даволі значны лексічны матэрыял: выдадзены дзесяткі рэгіянальных слоўнікаў з розных куткоў Беларусі, рыхтуецца шэраг новых рэгіянальных лексічных прац, багаты матэрыял сабраны для Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак, шмат рэгіянальных слоў захоўваюць маладаступныя для шырокіх колаў навукоўцаў і грамадскасці старыя рукапісныя матэрыялы ў розных архівах і бібліятэках, распачата работа і над шэрагам рэгіянальных мікраатласаў. Аднак яшчэ далёка не ўсе залацінкі народнай мудрасці занатаваны і апісаны, не ўсе рэгіёны Беларусі аднолькава даследаваны. Хоць ча-

[1] З народнага слоўніка. Мн., 1975; Народнае слова. Мн., 1976; Народная лексіка. Мн., 1977; Жывое слова. Мн., 1978; Народная словатворчасць. Мн., 1979.

сткова ліквідаваць гэтыя заганы, падключыць вялікую «армію» аматараў роднай мовы да збіральніцкай працы і заклікаты дадзены зборнік.

Гэтая кніга невялікіх лексічных падборак рэгіянальных слоў з розных месцаў Беларусі па сваёй агульнай будове і па прынцыпах укладання і апрацоўкі дыялектных матэрыялаў падобная да пяці папярэдніх зборнікаў народнай лексікі. Яна складаецца з трох асноўных частак. Першую складаюць артыкулы, у якіх змяшчаюцца слоўнічкі характэрных для лексічнага саставу пэўнай гаворкі слоў. У другой частцы змешчаны артыкулы, прысвечаныя апісанню канкрэтных прадметна-тэматычных груп слоў (назвы ежы, ацэначна-працэсуальная лексіка і г. д.). У трэцюю частку ўключаны навуковыя артыкулы, у якіх разглядаюцца важныя для сучаснай дыялекталагічнай навукі пытанні (іншамоўныя лексемы ў беларускіх народных гаворках, гісторыя вывучэння гаворак выганаўскага Палесся і інш.). Пры большасці слоўнічкаў ёсць невялічкія ўступы, у якіх аўтары апісваюць найбольш цікавыя і характэрныя асаблівасці мясцовай гаворкі, часам расказваюць пра традыцыйныя заняткі і звычаі мясцовага насельніцтва. Артыкулы шэрагу аўтараў (І. І. Крамко, М. Н. Крыўко, Т. М. Трухан, Г. К. Усціновіч, І. П. Чыгрын і інш.) з'яўляюцца працягам іх ранейшых публікацый па слоўніку роднай гаворкі ў папярэдніх дыялекталагічных зборніках. Побач з артыкуламі навукоўцаў змяшчаюцца цікавыя падборкі, падрыхтаваныя вясковымі настаўнікамі, вялікімі аматарамі роднага слова (І. І. Волкаў, А. У. Галаўкоў).

У канцы кнігі змяшчаецца агульны алфавітны індэкс, у які ўключана рэгіянальная лексіка, што разглядаецца і апісваецца ва ўсіх артыкулах. Каля кожнага слова ў індэксе прыводзіцца старонка, на якой яно сустракаецца ў выданні. Для зручнасці карыстання словы ў індэксе падаюцца ва уніфікаваным фанетычным абліччы пры дапамозе арфаграфічных сродкаў беларускай літаратурнай мовы.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

| | |
|---|---|
| абразл. | — абразлівае |
| адз. | — адзіночны лік |
| асудж. | — асуджальнае |
| безас. | — безасабовае |
| выкл. | — выклічнік |
| груб. | — грубае |
| гумар. | — гумарыстычнае |
| дзеепрым. | — дзеепрыметнік |
| дзіц. | — дзіцячае |
| ж. | — жаночы род |
| жарт. | — жартоўнае |
| займ. | — займеннік |
| зак. | — закончанае трыванне |
| зборн. | — зборны назоўнік |
| злучн. | — злучнік |
| зневаж. | — зневажальнае |
| іран. | — іранічнае |
| ласк. | — ласкальнае |
| ліч. | — лічэбнік |
| м. | — мужчынскі род |
| м. і ж. | — агульны род |
| метаф. | — метафарычнае |
| мн. | — множны лік |
| н. | — ніякі род |
| незак. | — незакончанае трыванне |
| перан. | — пераноснае значэнне |
| прым. | — прыметнік |
| прыназ. | — прыназоўнік |
| прысл. | — прыслоўе |
| рэдк. | — рэдкаўжывальнае |
| узмацн. | — узмацняльнае |
| уст. | — устарэлае |
| часц. | — часціца |
| экспр. | — экспрэсіўнае |

# З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

---

*У. У. Барысюк*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ БАБРОВІЧЫ ІВАЦЭВІЦКАГА РАЁНА

Ужо каля дзесяці гадоў мне час ад часу даводзіцца бываць у вёсцы Бабровічы. Сустрэчы з палешукамі, з тымі, хто цудам ацалеў у вераснёўскія дні 1942 года, калі в. Бабровічы была знішчана разам з трыма суседнімі вёскамі Красніца, Вядо, Тупічыцы, і дапамаглі скласці гэты невялічкі слоўнік.

АЛЯВО′ *указ. слова.* Вось. *Аляво, бач, буські полетелі.*

БАДУЛЬКІ′ *мн.* Хваёвыя іголкі. *Назгрэбала бадулёк оцепліці погрэба.*

БАРМАКІ′ *мн.* Вілы для насыпання бульбы. *На машыну бульбу накідалі бармакамі.*

БРО′ХАЦІ *незак.* Заганяць рыбу ў сеці. *Звычайно брохаюць вэслом. Кэлько ні брохаў, всё равно німа толку, як німа в берогах рыбы, той ні наловіш.*

БУ′СЬКО *м.* Бусел. *Летось на нашым хлеве жылі буські.*

ВА′ЖКО *прысл.* Цяжка. *Прысыпаці бульбу важко.*

ВЕРХОЛЁДІЦА *ж.* Галалёдзіца. *Пойшоў снег, потым дождж, а потым прыхопіў мороз. В гэтум году была верхолёдіца.*

ВІ′ЛКА *ж.* Вілы. *Осадів держак в вілку.*

ВЫ′ПРОВОДІНЫ *мн.* Провады ў армію. *Пэйдземо сёня на выпроводіны.*

ВЫСІЛЬКО′ *н.* Вясло. *Муй батько зробів высілько.*

ГА′МОР *м.* Папярочка на канцы дзержака. *В вілках, в суховілках і в лопаткі е гамор.*

ГАРБУ′ЗІКІ *мн.* Гарбузовыя семкі. *Насушіла гарбузіков цэлы мэшок і послала доце ешчык.*

ГОЛОШЧО′К *м.* Мароз на зямлю, якая не пакрыта яшчэ снегам. *Сёння замэрзло на голошчок.*

ГОРЕ′ЛІКІ *мн.* Верхняя падсмаленая бульба ў чыгу-

не. *Варылась картошка в печэ — і загорэлі горелікі.*

ГРЭ'БКІ *мн.* Вёслы на ўключынах. *Заглох мотор. Поедзем на грэбках в журахвіны в Бэрозов.*

ГЭ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Памерці. *Надоев вже, коб взяв да гэгнув.* 2. Забіць. *Рубінко зловів в озеры козліка і гэгнув.*

ДІГА'ЛЛЕ *н.* Бацвінне бульбы. *На моей картошцы ссохло дігалле. Восеню даем дігалле коровам, коб давалі мныго молока.*

ДО'ХНА *ж.* Дачка. *Неколі матере звалі своіх дочок так — дохна.*

ДРА'БКІ *мн.* Драбіны, рашотчатыя бакі ў калёсах. *Володя Левко робіть на воз драбкі.*

ЖОНКІ' *мн.* Жанчыны. *Німцы позаганялі всех жонок в клуню і спалілі.*

З'АТОЎКА *ж.* Нутраное сала. *Затовкую добрэ мазаці бліны.*

ЗАЮ'ШЫСТЫ *прым.* Той, хто любіць пабіцца, спусціць каму-н. юшку (кроў). *Вэн як вып'е, то вэльмі заюшысты, коб з кім побітіса.*

ЗБЫТКОВА'ЦЬ *незак.* Здзекавацца. *Вуны вже поженіліcь і жывут кепско, вен над ею збыткуе.*

ЗМЕ'РКІ *мн.* Змярканне. *На змерках побегла корова, і дед пошов шукаці.*

ЗЫ'МНО *прысл.* Холадна. *Іншы ранок бувае зымно.*

КАЛІ'ТНІКІ *мн.* Тыя людзі, якія пасля вайны хадзілі па дварах запісваць на падаткі. *Я ні догадаласа, шчо сын прышов з арміі в отпуск, а думала, шчо калітнік.*

КОЗЛЯКІ' *мн.* Розныя грыбы, акрамя белых. *Набрала вэрэньку козлякэй.*

КОКО'РА *ж.* Частка каркаса лодкі. *Хведзя ходів в лес да накопав яловых кокорэй на лодку.*

КОМЯКІ' *мн.* Тоўчаная бульба. *На ранок я натовкла комякэй.*

КРАСНОГОЛО'ВІК *м.* Падасінавік. *Красноголовікі ростуть по бэрэзніках.*

КРО'ХА *прысл.* Трохі. *Воля секла кроха дрова.*

ЛАСТОВУ'ШКІ *мн.* Ластаўкі. *Вже стало тепло, прылетелі ластовушкі.*

ЛОБАКІ' *мн.* Абутак, зроблены з рызіны. *Бувало, после войны ходілі в клуб хто в чым: радость была, шчо былі лобакі.*

ЛО'ВКІ *прым.* Надзвычай спраўны, прыгожы. *Шчо ні говоры, а дзеўчына вельмі ловкая.*

ЛУПА'ТЫ *прым.* Выпучаны (пра вочы). *В скоціны*

*вочы наверху, та скотіна врэдна. Так в чоловека: вочы лупатые врэдные.*

ЛУПСА'ЧЫЦІ *незак.* Моцна ісці (пра дождж). *Так всю ноч дожч лупсачыв, бы в рабінову ноч.*

ЛЯ'ДО *н.* Прылада для пагрузкі цяжкіх калод у лесе. *У нас до войны в моего батька было лядо, в войну згорэло, як палілі село.*

МАРАКУ'ДНО *прысл.* 1. Марудна. *Ловіці роя вэльмі маракудно.* 2. Моташна. *Шо то мне маракудно.*

МО'ГЛІЦА *мн.* Могілкі. *Только недавно загороділі нашэ могліца.*

МУДРАВА'ЦЦА *незак.* Прыдурняцца. *Унучка, не мудруйся, ты вже велікая.*

НА РО'СТАЎКАХ. Час, калі растае снег. *Поехав по сено на роставках да ввалів коня.*

НА'СТАВКІ *мн.* Дадатковыя рамы ў вулей. *В рамовец буду ставляті пчолом наставкі.*

НЕ'МОЧНЫ *прым.* Хворы. *Дед був немочны.*

ОБЕ'РЭЦ *м.* Купка лесу сярод поля. *Кругом поле, а оберэц бовае в средінє поля.*

ОПЭ'ВЗІНЫ *мн.* Апоўзіны. *На сено кладуть опэвзіны.*

ОСМА'ЛКІ *мн.* Тое, што і ГОРЕ'ЛІКІ. *Мое внукі люблят осмалкі.*

ОШЫ'ЕК *м.* Ашыек. *На карковінні ошыек.*

ПАЛЯ'ХНУЦЬ *зак.* Вытрываць.— *Хведзя, открывай скорэй магазіна, а то німа времені.— Не паляхнеш, шчэ вспееш напіціса.*

ПЕРШОПА'ШНІЦА *ж.* Цяля, якому адзін год і якое да гэтага не хадзіла на пашу. *В Левка хороша тёлка першопашніца, а в нас то нема.*

ПОКЭ'Т *м.* Гарышча. *На покэці всё лежыть непотрэбнэ.*

ПРЫПУСЦІ'ЦЬ *незак.* Пайсці хутчэй. *Давай там, шаг прыпусці.*

ПУ'ШКА *ж. іран.* Пра распаўнелую жанчыну. *Баба Оля — пушка.*

ПЭРЭЗО'В *м.* Заключны этап вяселля. *Пэрэзов едзе до женіха.*

ПЭРЭСЦІ'ЛКУВАТЭ *прым.* З мяснымі праслойкамі (пра сала). *Бувають такіе свіні, сало пэрэсцілкуватэ.*

ПЭРЭ'ХМАРОК *м.* Невялікая хмара. *Во які став цемны пэрэхмарок.*

ПЭРЭ'СЦЮГІ *мн.* Ніткі неаднолькавай таўшчыні.

*Неколі пралі куделю, там тонке, там товстэ, так это называецца пэрэсцюгі.*

ПЭРЭ'ЧЫНОК *м.* Ахапак сена. *В копіцу трэба шэсць пэрэчынкув.*

РАМО'ВЕЦ *м.* Вулей. *Рамовец е, дадомовец е, і просты.*

РАСКУДЗЕ'ЛІЦЦА *зак.* Рассваволіцца. *Унучок, супокойса, а то ты нешто уже раскуделівса.*

РО'СПАЛ *м.* Лучына. *Насеклі роспалу дрова роспальвать.*

СКАЛЬ *ж.* Пчаліная разведка. *Го, Федя. Погляді в колоду, мусіт, скаль летае.*

СКВО'РУШКІ *мн.* Шпакі. *В гэтом году прылетелі вже скворушкі.*

СКОПЭ'Ц *м.* Бурт., капец. *Выкопав скопэц на бульбу.*

СОПЛІ'ВЧЫКІ *мн.* Яршы. *Трэба вжэ поміті сопливчыкі, бо вжэ наспускалі слюзу.*

СТОЛЬНІ'ЦА *ж.* Шуфляда (у стале). *Купілі стола со стольніцамі.*

СТРЭ'ЛОЧНІКІ *мн.* Ласі, якім усяго адзін год. *У іх (ласёў) толькі по одному одростку на рогах. Старые лосі зараз скідають рогі, только стрэлочнікі пыд новы год.*

СТУ'БЛО *н.* Бяздонная яма на балоце. *Неколі в лесі булі стубла, там ловілі в'юны.*

СЦЕ'ЖАР *м.* Стажар'е. *Зробів сцежара малого, не влезе сено.*

СЫНО'ВЕЦ *м.* Сын. *Побач, шо зробів твой сыновец.*

ТАБУ'НІЦЦА *незак.* Збірацца ў чароды. *Ластовушкі хутко полетят, бачыш, вже табуняцца, вжэ буде холодно.*

ТЕНЕТО' *н.* Палатно для сеткі. *Вывязав тенето на сецъ.*

ТО'НЯ *ж.* Колькасць рыбы, злоўленай за адзін раз. *Выцяглі две тоні — мныго рыбы зацянулі.*

УДА'РЫЦЬ (БІЦЬ) У ХАМУ'Т. Адмовіцца, закапрызнічаць. *Зять ударыв в хомут, упартость такая.*

ЦУДОВА'ЦЦА *незак.* Здзіўляцца. *Бульба така вроділа, шо все цудоваліса.*

ШВЭ'ДЫ *мн.* Скваркі. *Поджа́р швэды.*

ШЛУ'ННЕ *зб.* Усе ўнутраныя органы чалавека. *Шчэ в мене, внучок, все шлунне здорове.*

ШТА'ЛКА *ж.* Каўбаснае кольца. *Начыніла велікую шталку колбасой.*

*А. В. Леванцэвіч*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗДЗІТАВА БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

БЛЫ'СКАТЫ *незак.* Бліскаць. *Шэ з вэчора блыскаты почало, а ўночы і грыміло, і блыскало, і дошч вылыкі буў.*

БУ'СНЯЎКА *ж.* Буслава гняздо, буслянка. *Узялы бусняўку на дэрво пырынысллы, а бусэнь узяў дай покінуў йіі зусім.*

ВІ'ТРЫСКО *м.* Моцны вецер. *На двоны такі вітрыско, шо з нуг збывае.*

ВЫ'ДРАПАЧОВАТЫ *зак.* Добра апрацаваць глебу драпаком. *Трэба выдрапачоваты за городом шэ кусок зымні, алэ зарэ драпака ныма дома.*

ВЫ'ЖАР *м.* Азярына-круглавіна сярод тарфяністага балота. *Траву жаты заўшэ на выжар ходымо, туды, дэ раній торпу копалы.*

ВЫ'ЛКІ *мн.* Вілы-трайчакі. *У нас сіно ў стожок вылкамы скідають.*

ВЫ'ЛЮДНЯТЫ *зак.* Вылюднець. *Зарэ ўжэ вылюдніў крохі, а як оно прыйіхаў, то худюшчы буў і до людэй мало говорыў.*

ВЫРХОЎЕ' *н.* 1. Вершаліна. *Вырхоўе обрубаты трэба, і роўны ствул будэ.* 2. Верхняе сена са стога. *Вырхоўе скінуты трэба, звэрху лыжало, почырніло, а там хорошэ сіно.*

ВЫ'ХЛЫПТАТЫ *зак.* Высербаць. *Ны ўспіла на стул поставыты, ўжэ й выхлыптала цілу мыску затіркі.*

Г'ВАЛТОВА'ТЫ *незак.* Гвалтаваць, крычаць, шумець. *Як начнэ ґвалтоваты на ўвэсь двур, то мэртвого розбудыть.*

ГІБЛЁВА'ТЫ *незак.* Габляваць. *Доскі шэ гіблёваты трэба, коб гладкі булы.*

ГОРБА'ТІТЫ *незак.* Гарбацець. *Вун у 50 літ ужэ начаў горбатіты. Зарэ ўжэ настояшчы горб.*

ГОРЛАЧЫ'СКО *м.* Чалавек, які мае гучны голас. *Ну і горлачыско ўродыўся, крычыть і крычыть на ўсю хату.*

ГОСТЫ'ТЫСЬ *незак.* Гасціць. *Уподобала гостытысь, то зарэ оно й йіздыть по гостях.*

ГЭ'НДЭ *часц.* Вунь. *Гэндэ лыжыть на лужку.*

ДОКО'ПЫНЫ *мн.* Дакопкі. *Учора булы докопыны, картоплі ўжэ ўсі докопалы.*

ДЗЫГ'НА'Ч *м.* Цыбаты чалавек. *Ну і дзыгнач, бы на ходулях стоіть.*

ДЗЭ'МБА *ж.* Цыбатая жанчына. *Во дзэмба выросла, ногі такійі ўжэ доўгі.*

ЗАВЫ'ДКІ *мн.* Зайздрасць. *Такі ўжэ вун чоловік, до ўсёго завыдкі быруть, усэ ёму трэба.*

ЗАВЫ'ДНЫ *прым.* Зайздросны. Вун чоловік завыдны, ныц ны дасць.

ЗАГУ'Н *м.* Града. *Одын загун ужэ зробыла на городі, можна сіяты гуркі.*

ЗАЛЯ'ДІТЫ *зак.* Аслабець, змарнець. *Заляділа зусім з тэю учобою. Ныц ны йісць, мусыть, там.*

ЗБУ'ТЛІТЫ *зак.* Збуцвець, сапрэць. *Ныпросушанэ жыто можэ збутліты, як зразу высыплэш у скрыню.*

ЗЛІ'ТУВАНЫ *дзеепрым.* Крыху нагрэты. *Вода оно злітувана була, а вона думала, шо ўжэ гарача.*

ЗЛЫГЧЫ'СЯ *зак.* 1. Зляжацца (пра сена і інш.). *Стожок злігся за місяц, той нышчы стаў.* 2. Пасябравацъ, здружыцца. *Злыглыся одна з другію, шо й водою ны розыллеш.*

ЗОТКА'НЫ *дзеепрым.* Вытканы. *Половікі зотканы своімы рукамы.*

КАРТОПЛЫ'СКО *н.* Бульбянішча. *На картоплышчы, як картоплі выкопають, заўшэ купалы палять.*

КУПА'ЛА *ж.* Вогнішча. *Запалылы купалу коло самого хліва, чуть хліў ны згорыў.*

КУ'ЧМА *ж.* Неахайная, непрычасаная жанчына. *Ходыть, як тая кучма з самого ранку, рошчысатыся ны можэ.*

ЛІ'ТЮШНЫ *прым.* Тое, што пералетавала. *Гэта сіно шэ літюшнэ, його ў прошлым годі косылы.*

ЛУГ *м.* Забалочаная мясціна, невялікае балота. *У гэтым годі вода ў лузі навэть літом була, ны высохла. А так, раній, у нас лугі заўшэ до косовыцы высыхають.*

ЛУПА'Ч *м.* Чалавек з вялікімі вачамі. *О, гэто ўжэ лупач будэ, як выростэ, зарэ ўжэ очы вылыкі.*

МАЗЁПА *м.* і *ж.* Плакса. *Ну і мазёпа, чуть шо і плачэ.*

МІ'СТЫНКА *ж.* Мясцінка. *Е ў лісі містынка одна, там заўшэ грыбы ростуть.*

МУТЫ'ТЫ *незак.* 1. Падманваць. *Попробуй оно мутыты, а ўсё ройно праўду дознаюся.* 2. Каламуціць. *Будэш оно воду мутыты, вона й так ны вельмы чыста.*

НАВЫСУНЯ'ТЫ *зак.* Навыцягваць. *Навысуняла някіх кніжок, ныма шоб поскладвала, якійі ны трэба.*

НАЛА'ПЫТЫ *зак.* Залатаць. *Нагавыцы налапыты трэба на колінях і можна шэ ходыты.*

НІ'КОЛЫ *прысл.* Калісьці. *Ніколы бульш пішком ходылы.*

НУ'ШКА *ж.* Клунак. *Ніколы закінэш нушку на плэчы, дай пошоў аж до Бырэзы, а зарэ сумкі пошлы.*

НЫНА'ВЫДНЫ *прым.* Ненавісны. *Нынавыдны ўсім вун буў, його ныхто ны любыў.*

НЫНА'ЙІДНЫ *прым.* Чалавек, які не можа наесціся. *Някі нынайідны: оно покормы і зноў йісты хочэ.*

ОБНЫДУ'ЖАТЫ *зак.* Занядужаць. *Баба зусім обныдужала, лэдь з дорогі додому прышла.*

ОПРУ'ТНУТЫ *зак.* Моцна змерзнуць. *На дворы так холодно, постоіш крохі і спрутнэш зразу.*

ОТРЫПА'ТЫ *зак.* 1. Атрапаць. *Трэба горох отрыпаты, а то струкі ў зарэ на загун повысыпаецца сам.* 2. Абшыць. *Шэ два ручныкі осталося отрыпаты. Тыі ўчора отрыпалы, а гэты ны ўспіла.*

ОЎСЫ'НА *ж.* Зярнятка аўса. *Одна оўсына ўпадэ, і тую пудныиэ, як овёс бырэ.*

ОЧЫРВА'ТІТЫ *зак.* Растлусцець. *Як постарыў, той очырватіў, ныяка одэжа на йіого ны налазыть, такі тоўсты стаў.*

ПОЖМАКОВА'ТЫ *зак.* Пакамечыць, змяць. *Трэба пожмаковаты ўсю тітрадь, будэ помята ўся, то ны возьмэ.*

ПОРЫ'БЫТЫ *зак.* Няўмела, нявоўна адкляпаць касу. *Ны выклыпаў, а оно порыбыў, зарэ ею зусім ны косытымэш, зусім ныроўна стала.*

ПЫРЫЛІ'ТУВАТЫ *зак.* Прабыць лета, пералетаваць. *Собака ўжэ пырылітуваў у нас, мы його высною ўзялы.*

ПЛУТ *м.* 1. Плот. *Тут зарэ плут будэ, город загороджаны йім.* 2. Пляткар. *На чоловіка, які говорыть абышо, у нас плут кажуть.*

ПУДДА'КУЧ *м.* Чалавек, які заўсёды з усім згаджаецца. *Шо ты як той пуддакуч з усім годысся.*

ПУ'ДПЫРКА *ж.* Падпора. *Шо ты звалылася на мынэ, сама сыды, я тобі ны пудпырка. Продай батька з матырою, купы собі пудпырку* (Прыказка).

ПУП *м.* 1. Малако ў рыбы. *Пуп од рыбы ўсім смачны, ны однуй тобі.* 2. Бацюшка. *Пуп на моглыца прыдэ отпываты.*

ПЫРЭ'НДЖЫ *мн.* Парэнчы. *Прыпэрлася до пырэнджэй моста, а воны ж холодны.*

СМЫ'КСА *м.* і *ж.* Пахатуха. *На того, хто ходыть по сылі от хаты до хаты, дома ны посыдыть, кажуть смыкса.*

СКАСОВА'ТЫ *зак.* Здратаваць, вытаптаць. *Гусы ўсэ жыто скасовалы, оно росты почало. Зарэ загун пусты, хоть бэры да шэ раз сій.*

СЛІПА'К *м.* 1. Чалавек з дрэнным зрокам. *На того, у кого очы нычого не бачать, кажуть сліпак.* 2. Кураслеп. *Сліпак ужэ росцвіў, увэсь грудок жоўты.* 3. Сляпень. *Днём сліпакі кусатыся будуть, коровы додому ўтыкатымуть.*

СЛІПОНДРА *м.* і *ж.* Няўважлівы чалавек. *Гэндэ по грэблі ідэ. Сліпондра няка, ны бачыш!*

ТО'РГАТЫ *незак.* Тузаць, нарываць. *Зразу муцно торгало, а зарэ, як нарыў сходыть, то ны вельмы стало торгаты .*

ЧА'ЙКА *ж.* Кнігаўка. *Чайка заўшэ прылітае до нас у луг, а потом шэ замороскі бувають.*

ЯГОДНЫКІ' *мн.* Жанчыны, якія ідуць па ягады. *Ягодныкі ўжо прышлы, ягуд прынысли поўны відра.*

ЯЗЫ'ЧНЫК *ж.* Жартаўнік, пляткар. *Як молоды буў, ну й язычнык буў — усіх обсміе.*

## ЧОРТАВА ГРЭБЛЯ

Хто гэту грэблю тут насыпаў — ныхто толком ны відае. А люды старыі росказвають, шо насыпаў гэту грэблю чорт.

Любыў хлопэц діўчыну з Кокорыцы, потом умэр і стаў чортом. Ходыў і дальшэ до ейі, оно мучыты почаў ейі. Зусім высохла діўчына, а отчыпытысь од його ны знала як. А вун як ішоў до ейі вечором, сыпаў грэблю од Малого Сокірного. Гэто так называецца грудок у Нывышчах (лісі). Ужэ до рыкі пошчы досыпаў. І гэтуй діўчыны дораілы осыпаты ёго маком-лушчыком, як вун шэ раз прыдэ. Вона гэтак і зробыла. Посля гэтого вун бульш ны прыходыў до ейі. Оно як одыходыў, то сказаў: «Ну, шчасце твое, шо додумаласа, а так я тыбэ забраў бы з собою». Так і пропаў той чорт, оно грэблю осталася досыпана до Ясельды.

Другійі говорать крышку по-іншому.

Кажуть, шо полюбыў чорт діўчыну з Кокорыцы, просыў ейі, шоб замуж вышла. Вона ёму сказала: «Як высыплеш грэблю од Нывышч до мынэ, пока пэршы піўні

заспываюць, то пойду, а так — не». І досыпаў той чорт грэблю оно до Ясельды. Ясельду ны ўспіў засыпаты, піўні заспывалы. Пропаў той чорт, а грэбля осталася сырыд болота.

*І. І. Волкаў*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ПУСТАШЫ ПОЛАЦКАГА РАЁНА

АБЦО′ГАЦЬ *зак.* Занасіць, забрудзіць (пра адзенне). *Трэба ж так, штаны абцогаў, паглядзі, які ты мурзаты, колькі на табе бруду.*

АБЯЗВЕ′ЧЧА *н.* Груваcтая, нязручная рэч. *Аграбільна ж зрабіў, не аграбільна, а абязвечча нейкае.*

АКА′ТАВАЦЬ *незак.* Біць, лупцаваць. *Пачакай, пачакай, будзе цябе маці акатаваць, неслух несусветны.*

АЧАРСТАЦЕ′ЦЬ *груб.* Надакучыць. *Змоўкні, ачарстацеў ужо са сваімі разважаннямі, недаверам да людзей.*

АНАЛЛЁ′ *зборн.* Нахабныя птушкі, жывёла. *Пасеялі ячмень, дык гэтае ж аналлё: куры, вераб'і — узыйсці не дадуць, усё да зярнятка выберуць. Фашысты, як аналлё якое, навaліліся на вёску, абрабавалі людзей, пабілі, папалілі.*

АПРАГА′ЦЦА *незак.* Выгравацца (на печы). *Усю зіму апрагаецца на печы, нічога не робіць, каб палец аб палец ударыла.*

АТРАПЛЁНЫ *прым.* Хуткі, неразважлівы, бесталковы. *Убег у хату, закрычаў, як атраплёны.*

БАДЗЯ′ЛЫ *прым.* 1. Брудны. *Якую ты паддзёўку апрануў? Бадзялую! І табе не сорамна?* 2. Легкадумны ў паводзінах. *За такога бадзялага пойдзеш замуж?*

БЕ′ЦКАВАЦЦА *незак.* Гараваць, адчуваць цяжкасці. *Сена накасілі мала, усю зіму бецкаемся з сенам.*

БУРСМО′ЛІЦЦА *незак.* Калупацца, выбіраць лепшае. *Паглядзі, бацька, як сынок твой не есць, а толькі бурсмоліцца.*

БУШНЕ′ЦЬ *незак.* Паўнець, таўсцець. *Манька з дня на дзень бушнее, ці ні нявольная яна?*

ВЫ′ДЛАЖЫЦЦА *зак.* Паваліцца і ўдарыцца аб зямлю. *Каля сяней так выдлажыўся, што ледзь падняўся.*

ГАЛАЖЫ′ГА *м.* Лянівы, неахайна апрануты чалавек, гультай, лайдак. *Прыйшоў гэты галажыга і клянчыць:*

*«Пазыч грошы, пазыч хлеба...», гультай няшчасны, пусці — паралюся, другога падаб'ю.*

ГАЛУ'ТЛІВА *прысл.* Слізка (у галалёдзіцу). *Будзь сёння асцярожным: на двары галутліва.*

ГАНАШЫ'ЦЬ *незак.* Падганяць, рабіць што-н. хутчэй. *Ганашы іх, Мальвінка, няхай доўга не бавяцца, няхай завідна ідуць дадому.*

Е'МІНКА *ж.* Бульба, адабраная для харчавання. *Сёлета емінкі вялікі засек поўны насыпалі.*

ЖЫГА'ЛА *м.* Жалезны завостраны прут, які накалялі ў печы для прапальвання адтулін у драўлянай планцы. *Пашукай, калі ласка, на пашы жыгала, адтуліну пражыгаліць трэба.*

ЗАБАШЫ'ЦЦА *зак.* Забавіцца. *Пайшоў да Міцькавых і забашыўся, сцямнела ўжо, а яго ўсё няма.*

ЗАВАЛО'ЖЫЦЬ *зак.* Заправіць, пакласці ў страву прыправу. *На вячэру будзе бульба, заваложаная смятанай .*

ЗАДА'ТЛІВЫ *прым.* З добрымі задаткамі. *Купілі кабанёнка, і задатлівы такі, жоркі, расце хутка!*

ЗАТАЛЫ'ЗГАЦЦА *зак.* Стаміцца, нахадзіцца. *Заталызгаўся сёння, сеялі па дрэнна выбарнаванаму полю, насенне скінулі далёка, каля дарогі.*

ЗАЎНІ'ВІЧ *прысл.* Марна, без карысці. *Мальвініна нявестка беражлівая такая: у яе ўжо нічога заўнівіч не пойдзе.*

ЗАЯ'ДРАНІЦЬ *зак.* Пачырванець. *Пераносіцу пацарапаў, за ноч заядранілі раны, нічым не змазаў.*

КА'НКА *ж.* Бітончык. *Прыйшоў з канкай і просіць: «Цётка, дай крыху малака».*

КЛІБІ'НА *ж.* Бярозавы або лазовы дубец. *Ідзі, Ванік, у хату, вось вазьму клібіну і хуценька цябе заганю ў цёплую хату, знайду на цябе ўправу.*

КУРДУЯ'ЧЫЦЬ *незак.* Штосьці спрабаваць гаварыць, лепятаць (пра дзіця). *Глядзі, ён ужо нешта курдуячыць, хутка гаварыць стане.*

ЛЫ'ХА *ж.* Пахатуха, папрашайка. *Во, лыха, у таго выклянчыць адно, у іншага — другое, ні мінуты дома не сядзіць.*

ЛЯДА'ЙКА *ж.* Пякотка. *З'ела капусты ўчарашняй — і такая лядайка цэлы дзень.*

МЯЖДЖУ'ЛІЦЬ *незак.* Мяць, здрабняць. *Як пасек ахрап'е? Толькі памяжджуліў яго.*

НАГАЛЁ'КІ *прысл.* Наўскач. *Коней не берагуць, падшывальцы: нагалёкі на вадапой і з вадапою едуць.*

НА'ЛІССЯ *прысл.* Далёка. *Пайшлі куды налісся, якія там могуць быць ягады, там балота, цьма непралазная.*

НО'ДАЦЬ *незак.* Вышукваць. *Што ты тут нодаеш, скажы, што табе трэба?*

НЯКЛЁПІСТА *прысл.* Непрыстойна, няёмка. *Няклёпіста як атрымалася, ты, кум, прабач яму, малады яшчэ.*

ПАДТАНЁХВАЦЦА *незак.* Імітаваць танцавальныя рухі, прытанцоўваць. *Якая малая Сонькіна, як пачуе музыку, падтанёхваецца на каленях у маці.*

ПАШЫ'НА *ж.* Ссечаны хмызняк для стажар'я. *Пашыны насячыце многа, стог сена будзем вялікі класці.*

ПЕ'ТАВАЦЦА *незак.* Многа і цяжка працаваць. *Во, лёс у нашай Сонькі: усё жыццё петуецца, прасвету не бачыць. Хапіла ў жыцці ўсяго, выпетавалася, адпачыць хвіліны не было.*

ПРЫНО'ДЗІЦЦА *зак.* Уладкавацца, прыстасавацца, прыладзіцца. *Во, глядзі, як прынодзіўся, скурчыўся каля каптура і заснуў.*

ПУРЫ'М *м.* Прыпар, гарачы час. *Прабачце, суседзі, парадак у хаце не дужа ладны: пурым зараз—і сена сушым, і збажыну ўбіраем, і жонка тут-тут радзіць будзе.*

ПУРЫ'МАЦЬ *незак.* Наліваць поўна. *Напурымаў поўнае вядро і да хлява данесці цяжка будзе.*

РАССЯМЕ'НЬКАВАЦЬ *незак.* Лагодна размаўляць пра нешта неканкрэтнае. *Не рассяменькавай там, кажы: ці так, ці гэтак.*

РУЧЫ'ЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Яму ў жыцці ручыла, ён у кашульцы нарадзіўся.*

САЗНІЯ'НІЦЬ *зак.* Падсмаліцца. *Прыгарнуў кашулю да гарачай печкі, а кашуля тая і сазніяніла.*

СПУ'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Украсці. *Во, злодзей, пад самым носам спуліў разноску.*

ТРЫЛУ'ЗІЦЬ *незак.* Трызніць. *Васька ўсю ноч трылузіў. Збірае з дуба голле, трылузіць, вярзе небыліцу.*

ТУРЧО'К *м.* Цвыркун. *Пад печкай турчок цэлую ноч турчыць, спаць не дае.*

УЗАЎРА'ЦЦА *зак.* Наткнуцца. *Ішоў, як сляпы, узараўся на місу з мукой, парассыпаў усю.*

УТАЎПЛЯ'ЦЦА *незак.* Змяшчацца. *Трэба ж, колькі сена накасіў Сямён: у пуню не ўтаўпляецца.*

ХАЛМА'К *м.* Жмут. *Халмак сена карове кінула і бягом на работу.*

ХА′ЛЧЫЦЬ *незак. экспр.* Красці. *Працуе ў кладовай, думае, што людзі не ведаюць, як яна халчыць.*

ХАЛЯРЫ′ЦЦА *незак.* Плакаць, патрабаваць сабе штосьці выключнае. *Паглядзі, бацька! Цэлы дзень халярыцца, няма ж грошай, каб купіць ёй сукенку, якую яна хоча.*

ХО′ЛЕР *м.* Нораў. *Ты мне свой холер не паказвай, малая яшчэ, падумаеш, ёй хочацца, а дзе я табе вазьму.*

ЧУВЕ′РА *ж. экспр.* Неахайная непрыгожая жанчына. *Наша Гэлька на ігрышчы была як чувера, брыдка на яе глядзець было.*

ЧЫ′ГА *ж. дзіц.* Ножык. *Не бяры чыгу: пальчык парэжыш, балець будзе.*

ШАРУ′СЬ *м.* Закаханы хлопец. *Во, шарусь, ні хвіліны дома не пасядзіць, бяжыць і бяжыць да сваіх дзяўчат.*

ШЭ′ДЫ *прым.* Булана-карычневы. *Запрагай шэдую кабылку.*

***А. У. Галаўкоў***

## З ЛЕКСІКІ КРУГЛЯНСКАГА РАЁНА

Словы, якія ўвайшлі ў гэты артыкул, сабраны пераважна ў вёсках Смагілаўка і Загараны.

ГАЛАБРУ′Й *м.* Бессаромнік. *Эх ты, галабруй, луччы шоў бы дроў накалоў, чым з маліနькімі дзеткамі гуляць.* Смагілаўка.

ГАЛАНО′Ш *прысл.* Басанож. *У цябе што розума німа галанош з бані дъхаты біжаць.* Смагілаўка.

ГАМЗА′ТЫ *прым.* Гугнявы. *Я п на ёй жаніўся, калі п ні была яна такой гамзатай.* Смагілаўка.

ГАНЯ′ЦЬ СУ′ЧКУ. Вясельны звычай хаваць мужчыну ў дом, дзе чакаецца наступнае вяселле. *Якое цяпера вяселле: нап'юцца і пат заборам валяюцца, дажа сучку ні гъняюць.* Смагілаўка.

ГА′СПІТАК *м.* Гарачы, запальчывы чалавек. *А тады прыехалі гэтъя гаспіткі, быстра яго с хаты выкурълі.* Загараны.

ГБА′ЛА *н.* Прыстасаванне выгінаць абручы. *Бондар памёр, а гбала асталъсь.* Літоўск.

ГІ′ТАЛКА *ж. экспр.* Каўнер. *Дзеўка і матка яе хваткія, хлопіц разы два прайшоў зь ёй, яны яго за гіталку і ў загс.* Загараны.

ГЛІСЕ′НЬ *м.* 1. Гліст. *Мар'я, што гэта з маім дзяцёнкъм стала, крычыць дзень і ноч, можа, глісьні завялісі?* Смагілаўка. 2. *перан.* Худы высокі чалавек. *У іх у раду усе такія глісьні, адзін тока дзет быў поўны такі мушчына.* Смагілаўка.

ГРАК *м.* Някемлівы чалавек. *Гракам усю жысь пражыў, кнішкі ніводнай ні прачытаў.* Смагілаўка.

ГРЫБАЗВО′Н *м.* Балбатун, пустазвон. *У харошым калікцыві грыбазвоны доўга ні затрымліваюцца: ім млосна сярот ръбацяг.* Загараны.

ГРЫБАЗВО′НІЦЬ *незак.* Балбатаць, пустазвоніць. *Пайшоў за хлебам к суседу, цэлы час грыбазвоніў.* Смагілаўка.

ГРЫБАЗВО′НСТВА *н.* Балбатня, пустазвонства. *Пъсада ў яго тъкая: грыбазвонствам занімацца.* Боўсевічы.

ГРЫБА′ТЫ *прым.* Губаты. *У іх раду ўсе сьлюматыя і грыбатыя.* Смагілаўка.

ГУРШ *м.* Скупы, маўклівы, скрытны чалавек; нелюдзень. *У гэтага гурша сьнега пръшлагодняга ні дапросісся.* Смагілаўка.

ДАЛЯЧЭ′Й *прысл.* Далей. *Твъя сістра жыве далёка, а мъя ш яшчэ дълячэй, аш у Ташкенці. У цябе, вінна, рук німа дълячэй кінуць.* Смагілаўка.

ДАМЭ′НТА *м. экспр.* Шал, вар'яцтва. *Чаго дамэнта цябе бярэ, я ш табе нічога ні гъвару?* Смагілаўка.

ДАРАБЭ′ЧЫНА *ж. экспр.* Разбітая сапсаваная рэч, ламачына. *У цябе ні мътацыклет, а дърабэчына, ты на ім і зь места ні тронісся.* Смагілаўка.

ДЗІ′ЧКА *ж.* Бародаўка. *Дзе тут дзічкі ні пърастуць, калі рукі як у кърайніка.* Смагілаўка.

ДРАНІ′ЦА *ж.* Дошка, якую кладуць на дно воза. *Драніца анна злъмалъся, трэба зьмяніць, а то гной ні вывізіш.* Тубышкі.

ДРАПАНКА′ *ж.* Сукенка з фабрычнага матэрыялу. *Раней бабы насілі ўсё дъмътканъя, калі ў каго дръпънка зъвадзілъсь — першъя дзеўка была нъ дзярэўні.* Дуброва.

ДРА′СЬВІНЫ *мн.* Дратва. *Бяры мае драсьвіны, век бацінкі будуць насіцца.* Смагілаўка.

ЕРША′ *ж.* Загародка з сеткі на рацэ. Тубышкі.

ЗАЗЫКАВА′ЦЬ *зак.* Загізаваць. *Жарка, таму каровы і зъзыкъвалі.* Смагілаўка.

ЗАКАНА′РХАЦЬ *зак.* Закапрызнічаць. *Гэта ш ён як*

*увідзіў пілу ды так зъкънархъў, што прыйшлось даць.* Смагілаўка.

ЗАЛЕ′ЦЬ *незак.* Стынуць, мёрзнуць. *Чаго стаіш на холъдзі, залеіш, пайдзём у хату.* Смагілаўка.

ЗА′РЫЦЦА *зак.* Кваліцца. *Во ўжо жмот, на рухлядзь старухі і то зарыцца.* Смагілаўка.

ЗАХА′КАЦЦА *зак.* Задыхацца. *Пакуль карову зъгнала ў двор, так захакалась, што ажно ў грудзі мляна стала.* Смагілаўка.

ЗАЧЫ′НАК *м.* Выступ на бакавой сценцы печы. *Хіба гэта печ, во раней печы дзелълі, з зачынкам; можна і пъсядзець ды і спіну пагрэць.* Смагілаўка.

ЗБЭ′ЛАЦЬ *зак.* Спесціць. *Ты вінъвата, Матруна, што сын такім вырас, ты яго малым збэлъла.* Смагілаўка.

ЗДЗЕ′ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Січас здзенусь і сяду вячэръць.* Смагілаўка.

ЗЕ′ЛЬНА *прысл.* Тлумна, шумна. *Пайду ъд вас, бо ў вас дужа зельна.* Смагілаўка.

ЗЛЕ′ЦІЦЦА *зак.* Стаць цёплай. *Въда гърачъя дужа, ажно нільзя мыцца, трэба даць ёй злеціцца.* Смагілаўка.

ЗЛЫ′ГАЦЬ *зак. груб.* Схадзіць. *У мъгазін тъвары прывезлі, мъя жонка ўжо ўспела туды злыгъць.* Загараны.

ЗЛЭ′ЎДЗІЦЬ *зак. экспр.* Украсці. *Можа на мінуту с хаты адвярнулася, а ён усе грошы злэўдзіў.* Смагілаўка.

ЗНЕ′ЦІКІ *прысл.* Знянацку. *Сёння Мар'я чуць богу душу ні аддъла: шла, а ёй на плечы ззадзі хто-та знецікі бац!* Смагілаўка.

КАЛАКАЛУ′ША *ж.* Чаромха. *Вясной кълъкалуша гълаву дурманіць, хочыцца зноў у мъладосці апынуцца.* Смагілаўка.

КАЛЫ′ПША *м.* і *ж.* Марудлівы, павольны чалавек. *Гэтая калыпша як пачне што рабіць, да вечару ні ўправіцца.* Смагілаўка.

КАРА′ЎНІК *м.* Анучнік. *Сёння па дзярэўні караўнік ездзіў, цугуны вазіў і плагкі красівыя.* Смагілаўка.

КАСА′Р *м.* Вялікі нож. *У цябе ножык, а ў мяне — късар дык късар!* Тубышкі.

КАЎБЫ′ *мн.* Вантробы. *У маёй свінні каўбы саўсім дрэнныя, усе павыкідывала.* Боўсевічы.

КЛЁЎ *м.* Жалезны штыр для навязвання жывёлы. *Я сваю цёлку ніколі ні пашчу, бяру цэп, убіваю клёў і няхай ходзя.* Елькаўшчына.

КЛЫ'ПША *м.* і *ж. экспр.* Кульгавы чалавек. *С табой, клыпша, хъращо на смерць хадзіць.* Боўсевічы.

КО'ЗНАЯ *прым.* Цельная (пра казу). *У мяне дзве казы козныя, скора казляты будуць.* Бразгучка.

КУЛЁМА *м.* і *ж. экспр.* Нязграбны чалавек. *Жонка ў яго кулёма дык кулёма, пакуль паверніцца — вечар на дварэ.* Загараны.

КУЛЬДА'ЦЦА *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Ганна, ідзі паглядзі, дзеці ў тваёй саломі кульдаюцца.* Смагілаўка.

КУ'ЛЬКА *ж.* Снежка. *Мама, я пайду пагуляю зь дзяцьмі ўралькі.* Смагілаўка.

КУСА'НАК *м.* Недаедзены кавалак. *Жыў я тады ў цёткі, скупая была, сваёй доццы ўсё смачнъя дае, а мне тока кусанкі.* Смагілаўка.

КУЦЮГУ'Р *м.* Гурба снегу. *У тую зіму куцюгуры аш дъ пръвадоў дъстъвалі.* Загараны.

ЛЯДУ'НКА *ж.* Лядзяш. *Днём адлега была, а ноччу марос ударыў, дык лядункі с крыш звісаюць па метру.* Смагілаўка.

МАЧЛІ'ВЫ *прым.* Мокры, дажджлівы. *Калі гот мачлівы, то ціраіцца пълавіна уръжаю.* Загараны.

ПАШВЭ'НДЗІЦЬ *зак. экспр.* Пашанцаваць. *Сёння майму каню пашвэндзіла: цэлы дзень пръгуляў.* Загараны.

ПУ'СЦА *н.* Галёнка. *У маціры маёй атлажэння салей, болі ўсяго пусца баліць.* Загараны.

РЭ'ЦЬМА *прысл.* З усіх ног. *Я крычу быку: «Быка, быка атсюль!», ён рэцьма за мной.* Загараны.

САЛЫ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Чмокаць. *Гляжу Колька прышоў і языком салыпае.* Смагілаўка.

СІМЯ'НКА *ж.* Насенная бульба. *Сімянку сып у гэты засік, а ў тыя два мы ўсыпім буйную — у адзін засік і дробную — у другі.* Смагілаўка.

СКАЛО'ЦІНА *ж.* Маслёнка. Загараны.

УБАСЦІ' *зак.* Баднуць. *Атыдзі ат каровы, бо можа ўбасці.* Смагілаўка.

УГО' *выкл.* Выражэнне здзіўлення. *Уго, стока ягат назьбіраў!* Смагілаўка.

УДЗЮ'РАЦЬ *зак. экспр.* Уліць. *Дош удзюръў, ажно раўкі пабеглі.* Смагілаўка.

УЗЛУ'ЖЖА *н.* Месца каля луга. *Кароў у нас па ўзлужжы пасуць, там тръва бъльшая.* Еськаўшчына.

УСПЯ'Т *прысл.* Услед. *Унук з гораду прыехаў у дзя-*

*рэўню першы рас, ходзіць за мной успят і гаворыць.* Загараны.

УХО'ДДЗЕ *н.* Супакой. *Табе ўходдзя німа!* Смагілаўка.

ХАЛАДЗЁНКА *ж.* Халодная вада для мыцця ў бані. *Цяпер асталъсь пънасіць хъладзёнкі ў баню.* Загараны.

ША'ЯЦ *м.* Легкадумны чалавек. *Толік шайцъм з малых гадоў рос, часу ні мох пражыць, кап ні абмануць.* Смагілаўка.

ШЛО'ХАЎКА *ж. абраз.* Брында. *Матруна тъкая шлохаўка, што пакуль па ўсіх хатах ні пръбяжыць, ні ўгамоніцца.* Смагілаўка.

***М. А. Даніловіч***

## У ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У падборцы змешчаны дыялектныя словы з вёскі Бабіна Гродзенскага раёна.

АББАМБЕ'РЫЦЬ *зак.* Абабраць. *Як панаяжджалі з горада машынамі за дзень усенкія ягады аббамберылі.*

АДВЭ'РЦІК *м.* Дурань. *Згарыць няхай гэта работа! Хіба я адвэрцік, каб рваць жылы!*

АДГА'ЙКАЦЦА *зак.* Акрыяць. *Мой меньшы тры месяцы з грыпай качоўса, ледво адгайкаўса.*

АЗНО'Ў *злучн.* Ажно. *Я думала, што ён акуратны чалавек, азноў дзе вы бачылі!*

АКАРА'ЧЫЦЬ *зак.* Сесці верхам. *Як хочаш завясьці сьвіне дрот, прывяжы за лычовіну да плоту, акарач, і яна ўжэ нікуды ні выбярацца.*

АКА'Ц *выкл.* Вокліч, якім адганяюць ката. *Акац! Кап ты спруцянеў! Крўціса пад нагамі!*

АПУ'ГАЦЦА *зак.* 1. Дрэнна адзецца. *Апугаяцца й ходзіць, як жабрак, бытто лепшага адзеня ні мая.* 2. Намокнуць (пра чалавека, жывёлу). *Тут як люне дошч!.. Апугаласа, с каждай нітачкі ў міне пацякло. Зажэнь куранята ў патшопу, бач, як апугаліса пад дажджом.*

АСМО'ЛАК *м.* Брудны, запэцканы чалавек. *Аля ш і асмолак!.. Памыўса п хоць трохі.*

АТПА'СЬЦЬ *зак.* Другі раз захварэць на тую самую хваробу. *Адзявайса цяплей, ба можаш атпасьць, тады йзноў уколы шпіляць будуць.*

АТПІ'ЦЦА *зак.* Акрэпнуць, зазелянець пры спрыяль-

ных умовах (пра расліну). *Бульба марнянька была, аля пашоў дошч — атпіласа.*

АТСКО′ЧЫЦЬ *зак.* Страціць смакавыя якасці (пра сок). *Ужэ сок заўсем атскочыў, як вада зрабіўса.*

АТХО′ДЗІЦЬ *незак.* Адрозніваецца. *Брушка мало атходзіць ат турнэпсу.*

АХАДНЯ′ *ж.* 1. Догляд жывёлы. *Пачакай, упраўлюса з ахаднёй — тады будзям гаварыць.* 2. Час карміць жывёлу. *Ісьці дахаты, ахадня на носі.*

АХО′ДАЦЬ *зак. гумар.* З'есці. *Помню, заспорыў с хлопцамі й чытыры кілі кілбасы за рас аходаў!*

АШЛЯ′ГНУЦЬ *зак.* Занядужаць. *Гэто ш махоў да абеду касой нічого ў році ні меўшы!.. Так і ашлягнуць можно.*

БА′БА *ж.* Станок для вырабу дуг (часткі конскай вупражы). *Пакінь гэту дубову калотку, я зь яе бабу зраблю, зімой дугі гнуць буду.*

БАЛАБО′СТА *ж.* Сварлівая жанчына. *Гэту балабосту толькі зачапі, та яна табе вочы выдзяра.*

БІ′МБА *ж.* Банкет. *Рыгаровыя сваім гасьцям аш на тры дне бімбу залажылі.*

БІЧКАВА′НЯ *н.* Мучэнне, перажыванне. *Нашто табе такоё бічкаваня з гэтым паступленям? Тры годы паступаяш... І ўсё напрасно. Ішла п леняй у калхос — бяды ні мела п.*

БРАКАВА′ЦЬ *незак.* Шкодзіць. *Хіба табе сало бракуя, што ні ясі?*

БРУТ *м.* Гнус. *Ціпер брут так кароў заядая, што й малака менш сталі даваць.*

БУЗАВА′ЦЬ *незак.* Камечыць. *Ні бузуйця пасьцелі! Места вам німа другого пагуляць.*

БУ′ЙДА: ПУСЬЦІ′ЦЬ БУ′ЙДУ. Пусціць пагалоску. *Былі пусьцілі буйду, што ён разводнік, азноў ніпроўда.*

БУ′ЛДА *м. зневаж.* Чалавек з вялікай галавой. *Ні мая ён красаты: булда, галава, як цэбар, і пустая, як засяк посьля калят.*

БЫ′НЬЦЬ *часц.* Абы. *У гасьцях трэба пабольш гаварыць, хоць быньць-што, аля каб ні маўчоў.*

БЭ′ХАЦЬ *незак.* 1. Стукаць. *Толькі я ўлегласа спаць, каль чую, нехто бэхая ў дзьверы.* 2. *перан.* Кашляць. *Прастудзіўса недзі, та во бэхаю рас-нарас.*

ВАЛАША′Й *м.* Сівец. *Некалі тут густая трава расла, а ціпер — адзін валашай.*

ВА'ЛКА *ж.* Шасцярня. *У маёй сячкарні валка пэнкнула, недзі трэба другую дастаць.*

ВАРАВІ'ТЫ *прым.* Капрызны. *Ні чапай яго, ён натто варавіты.*

ВО'СТАЛЬ *ж.* Астатак. *Выбяры гэту восталь с кадаўба, мы ў яго сьвежаго жыта насыплям.*

ВУША'ЦІК *м.* Чалавек з вялікімі ці адтапыранымі вушамі. *І так вушацік, а як пастрыхса, та вушы яшчэ большымі сталі выглядаць.*

ВУ'ШЛЫ *прым.* Чуткі. *Вушлы мой сабака, за паўкіломятра чужого чуя.*

ВЫ'КАСАК *м.* Невялікая сенажаць сярод кустоў. *Аля на выкаску трава ўрасла! У пахі! Касой ні сьцяняш!*

ВЫРУ'ТНЫ *прым.* Такі самы, як хто-н., вельмі падобны. *Твой хлопяц — вырутны бацько, нават голас пахожы на бацькаваго.*

ВЭ *выкл.* Пры выказванні здзіўлення, захаплення. *Вэ! Пад адным калівям столькі бульбы вырасло!*

ГА'ВЯЛЬ *ж. зборн.* Моладзь. *Сёдня за ўсех вёсак у клуп столькі гавялі набіласо — ні праціснуцца.*

Г'АЛАГ'О'НЫ *мн.* Мясістая нарасць на шыі ў курэй. *Пятух пераначавоў на дварэ, та адмарозіў і грэбянь, і ґалаґоны.*

ГА'МУЗАМ *прысл.* Дакучліва, назойліва. *Німа ратунку ад гэтай машкары, гамузам лезя ў вочы.*

ГАНДО'ЛА *ж.* Калдобіна. *Ні жэнь каня па гандолах — вос растрасеш.*

ГАРБЕ'ЛЬ *м.* Крывое дрэва. *Гэты гарбель ні гадзіцца на драніцы, трэба пашукаць раўнейшу хвойку.*

ГА'СЛО: ПУСЬЦІ'ЦЬ ГА'СЛО. Пусціць пагалоску. *Толькі маўчэця, ні пускайця гасло, кап ціхо было.*

Г'РЭ'ЙДА *ж.* Мел. *Г'рэйды ў нашых краёх німа, трэба за трыццаць вёрст ехаць, каб накапаць.*

ГУЛЕ'Й *м.* Вулей. *Пчолы пашлі яму рукой: с каждаго гуляя вядро мёду дастоў!*

Г'У'МЗА *ж.* Нарасць. *Як пастаяла ў халоднуй вадзе, та такія ґумзы на нагах панакручвало, што мусяла цэлы месяц на ўколы хадзіць. Прывалок бярозу з ґумзамі і хоча, каб зь яе добрыя лыжы палучыліса.*

ДАБІ'ТНЫ *прым.* Чалавек, які ўсяго даможацца. *Дабітны ён хлопяц; як захоча, усюды дойдзя, с каждым пагаворыць.*

ДАЛАВІ'НА *ж.* Даліна. *Гарою ні йдзі, а спускайса ў далавіну, там грып адзін на адном сядзіць.*

ДА′ЎЛЯНІЦА *ж. метаф.* Гарэлка. *Твой ні лепшы: нахляяцца даўляніцы і буяніць пачыная.*

ДЫ′РЗА *ж.* Высокая, цыбатая дзяўчына. *Замучылаca, пакуль з гэтай дырзай да алтобуса дашла, чуць ні подбягам за ёй бегла.*

ДЭ′РЫК *м. дзіц.* Пад'ёмны кран. *Палядзі, які дэрык! Ён дужы-дужы! Нашу хату нават падняць можа!*

ДЭЎШ *ж.* Вялікая адлегласць. *Пяшком ісьці такую дэйш нават і ні думаю.*

ЖУ′ЖАЛЬ *м.* Панос. *Мусі апкарміла парасят, ба такі страшны жужаль у іх!*

ЖУЧО′К *м.* Металічнае кольца, якое служыць для замацавання касы на кассё. *Жучок некі вускі, вухо касы пралазіць ні хоча.*

ЗА′ВАРАЦЯНЬ *м.* Чалавек са слабой памяццю. *Як будзяш атходзіць, та добро падумай, ці ўсё ўзёў, ба ты такі заварацянь, кажды рас нешто забываяса.*

ЗАГА′ЧЫЦЬ *зак.* Задобрыць. *С такімі людзьмі апходзіцца трэба ўмець, трэба загачыць іх, тады яны добрыя становяцца.*

ЗАМАГА′ЦЬ *незак.* Многа браць на сябе клопатаў. *Нашто табе так замагаць? І тоё табе трэба і гэто. Сараўно на той сьвет ні панясеш.*

ЗАМУЗДАВА′ЦЬ *зак. безас. груб.* Заняць (мову). *Кап табе замуздавало! Енчыш, як прыдурак які!*

ЗАПАТЫ′ЛЬНІК *м.* Патыліца. *Як пасьлізнуўса на гэтуй каўзелі, як доўса запатыльнікам аб лёт, аш сьвет мне загарэўса.*

ЗА′РУБА *ж.* Загнуты верхні край вядра. *Вазьмі вядро і набяры па зарубу яблыкаў, гасьцям трэба даць.*

ЗАФЭ′НДАНЫ *дзеепрым. ад* зафэндацца.

ЗАФЭ′НДАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Пайду памыюса, ба зафэндаласа каля печы.*

ЗЬБІ′РКІ *мн.* Ягады, якія засталіся несабранымі. *Ат, якія ціпер ягады, адныя зьбіркі засталіса.*

ЗБРУ′ЙНЫ *прым.* Бадлівы. *Карова, а збруйна, як бык, так і лядзіць, кап пабароцца.*

ЗБЭ′МБІЦЬ *зак. безас.* Раздуць, апухнуць. *Нешто мне ногу збэмбіло, як калотка зрабілася.*

ЗВО′ЧЫЦЬ *зак.* 1. Заўважыць. *Я адразу звочыў, што тут нешто ні тоё.* 2. Сурочыць. *Ужэ тыдзянь ні дае малака. А такая ш карова была! Мусі, нехто звочыў.*

ЗГАРЛА′ЧЫЦЬ *зак.* Скамечыць. *Згарлачыла сукенку, трэба пагладзіць.*

ЗГ'ЕРГ'ЯЛЕ'ЦЬ *зак.* Змерзнуць. *Бедна сінічка!.. Заўсем зґерґялела на марозі.*

ЗГРЫ'ЖА *ж.* Згрызота. *Ні вытрывала Адэля такой згрыжы ў хаці, кінула ўсё, да дачкі ў горат паехала.*

ЗМА'РШЧЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Немцы, вылюткі гэтыя, усю нашу вёску змаршчылі, толькі чытыры хаці пакінулі.*

ЗМА'ХВАЦЬ *незак.* Быць падобным. *Хоць і далёкія сваякі, аля трохі змахваюць адзін на аднаго.*

ЗУЧЫ'ЦЬ *зак.* Вывучыць. *Перша, чым рабіць неко дзело, трэба зучыць яго, як рабіць.*

ІҚРА'ЧҚА *ж.* Ікранка. *Усяку рыбу зь ікрой у нас ікрачкай называюць.*

ҚАБЛУ'Қ *м.* Драцяная дужка ў касе. *Як німа каблука ў касе, та яна рассыпая траву, а ні кладзе ў пракосы.*

ҚАЛУБЕ'ЛЬ *ж.* Рыбалоўная снасць, сплеценая з дубцоў. *Қап калубелю рыбу злавіць, трэба самому па пахі ў воду лесьці.*

ҚАЛЭ'ЙША *ж.* Қалашына. *Ціпер маладыя ў моду ўзялі насіць ганавіцы ш шырокімі калэйшамі.*

ҚАЛЬ *злуч.* Қалі. *Қаль будзяш мець час, та прыхоць, пагаворым.*

ҚАЛЯМБІ'ЦА *ж.* Паляндвіца. *Думала, хоць адну калямбіцу на восянь прыхаваю, азноў дзе ты за дзяцьмі прыхаваяш.*

ҚАМЛЯ'Қ *м.* 1. Қамель. *Папацеяш, пакуль паколяш гэтыя камлякі.* 2. *перан.* Дужы, здаровы мужчына. *Дзе ты справіса з гэтым камляком. У яго адна рука пут важыць!*

ҚАНЕ'Ц *м.* Рыбалоўная снасць, якая нагадвае венцер. *Некалі ў гэтых берагох канцэ ставілі на ліноў.*

ҚАРАБА'НҚА *ж.* Қаробка. *Знайдзі якую карабанку і назьбірай у яе чарвякоў, на рыбу сходзім.*

ҚАРАМБАНАВА'ТЫ *прым.* Қарычневы. *Паршука трэба да тых пор смаліць, пакуль скура карамбанавата ні станя.*

ҚАРМУ'ШҚА *ж.* Страва з сумесі хлеба і малака. *Қаль так есьці табе захацеласо, та вазьмі наламай хлеба (малако ў збанку), зрабі кармушку і паеш.*

ҚАРШЫ'ДЛО *н.* Қарак. *Сыты паршук, бач, якоё каршыдло кругло, аж блішчыць.*

ҚАЎБА'Р *м.* Плотка. *Прыгрэло сонцо, та каўбарэ цэлымі кучамі на нераст ідуць.*

КАЎБЯ'К *м.* Калода. *Дубовы каўбяк цяшко раскалоць без доўбні.*

КАЎЗЕ'ЛЬ *ж.* Слізгота. *Па такой каўзелі ніпаткаванага каня пускаць німа як.*

КА'ЦКА *ж. дзіц.* Бруд. *Што ты ў рукі ўзёў? Быстрэй выкідай! Гэта ш — фэ, кацка!*

КВІЛІ'ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Ні квілі малога, аддай яму цацку.*

КЕ'ПЯЛ *м. груб.* Галава. *І як толькі зварыў твой кепял сьпілаваць такую харошу яблыну?*

КЕ'ЦКА *ж.* Жмут (грошай). *Грошы — вада. Ехала ў горат — узяла цэлу кецку й ўсе да рубля распшыкала.*

КЛА *мн.* Клыкі. *Навязвайця вы сваго сабаку! Прайсьці ні дае, выставіць кла і кусацца лезя.*

КЛЯ'КНУЦЬ *зак.* Загінуць, прапасць. *Цэло лето дагглядала памідоры, і тут — на табе, марос выскачыў. Усе клякнулі.*

КО'ШАНІЦА *ж.* Трава, якая толькі што скошана. *Схадзі бычку кошаніцы прынясі, ба сена ў рот ні бярэ.*

КРАМПО'Н *м.* Драўляны ці металічны латак, па якім сцякае сок з падсочанага дрэва. *Забі крампон глыбяй. Бач, палова соку па бярозі цячэ.*

КРУТАГАЛО'ВІКІ *мн.* Буякі (ягады). *Пайду зьбіраць крутагаловікі.*

КУМІЛЬГА' *прысл.* Стрымгалоў. *Чаго ляціш кумільга, нагноў хіба хто?*

КУРГА'Н *м.* Сухая, неўрадлівая глеба. *На гэтум кургане нават сьвірэпа расьці ні хоча.*

КУРЭ'НДАЦЦА *незак.* Курэць, дыміць. *Прынясі лепшых дроў, ба гэтыя ні гараць, а толькі курэндаюцца.*

ЛАГО'ДНЫ *прым.* Смачны. *Кап чаго лагоднага дала, а то кажды дзень бульба й бульба.*

ЛАЖАМЭ'НТЫ *мн.* Начынне. *Наш пячнік ужэ пашоў дахат, аля лажамэнты забыўса ўзяць.*

ЛА'ЗАР *м.* Чалавек, прыкуты хваробай да ложка. *Яму ўсё самому прыходзіцца рабіць: маці — лазар, ужэ чытыры годы як ні ўстае.*

ЛА'МАТ *м.* Грукат. *Што ў вас за ламат такі? Хіба падлогу пачалі ўкладаць?*

ЛАМАТА'ЦЬ *незак.* Грукатаць. *Пайдзі палядзі, хто там у дзьверы ламоча, каму там чаго трэба.*

ЛА'ЎКІ *мн.* Тронкі. *Дзе ш мой ножык падзеўса? Такі зь зялёнымі лаўкамі?*

ЛА'ХАЦЬ *незак.* Прагна есці (пра жывёлу). *Усыпала*

*ў мяшанку мукі, та парасята так лахалі, аш карыто выгрызьлі.*

ЛАХУНДА′ *м. і ж.* Балбатун. *На гэтаго лахунду я нават услухацца ні хачу.*

ЛУПА′СІЦЬ *незак.* Стукаць, ударaць. *Асьцярожно, ні лупась так моцно, ба капыл расколяш.*

ЛЫЧО′ВІНА *ж.* 1. Лыч. *Паршук натто рыяцца, трэба яму дрот у лычовіну завясьці.* 2. *перан.* Нос чалавека. *Як будзяш выступаць, та ў лычовіну палучыш.*

ЛЮ′ХА *ж.* Лівень. *Зграбаймо быстрэй сено! Вун якая хмара суняцца, зара люха будзя.*

ЛЯПНЯ′К *м.* Праснак. *Як німа лепшаго хлеба, та й ляпняк пойдзя.*

МАКРАЦІНА′ *ж.* Макрата. *На дварэ такая макраціна! Ужэ каторы дзень дошч лецца беспераcтанку.*

МАЛО′ТКА *ж.* Божая кароўка. *Ні душы малотку, яна тлю паядая.*

МАРАКАВА′ЦЬ *незак.* Меркаваць. *Маракавалі, што гэта зіма бесь сьнегу будзя, азноў во якія гурбы панакручвало.*

МАРСКАНУ′ЦЬ *зак.* Хутка збегаць ці з'ездзіць. *Марскані да магазіна, ба зара закрыюць.*

МАТУЗНІ′ЦА *ж.* Матуз. *Недзі дзяга прапала, та дай хоць якую матузьніцу патпяразацца.*

МАЧУ′ЛО *м. і ж.* Флегматык. *Гэты мачуло пакуль адзеняцца — паўгадзіны поркацца будзя.*

МЕДАКА′ЧКА *ж.* Медагонка (машына). *Даўней ніхто мядакачак ні зноў, мёт рукамі выціскалі з вашчыны.*

МУЗА′ *ж.* Асадак. *Трэба яшчэ рас сок перацадзіць — муза на дне засталаса.*

НА′ГАРАТКА *ж.* Фізічнае пашкоджанне. *Нідалэнга!.. За якую работу ні возьмяцца, та ўсе нагаратку неку сабе зробіць: та паляц парэжа, та ногу зломіць, та яшчэ што...*

НА′КІСЬЦЬ *ж.* Насланнё. *Што за накісьць да міне прывязаласа? Усе хварэю й хварэю.*

НАЛІВА′ЙКА *ж.* Начыненая дранай бульбай і падсмажаная кішка (прадукт харчавання). *Хоцьця есьці, ба астыня налівайка, тады нісмашна станя.*

НАРО′ШНЯ *прысл.* Знарок. *Нарошня папытоўса, кап палядзець, што ён скажа.*

НІЗАХО′ДНЫ *прым.* Глухі, бязлюдны. *Каля Бурмістрахі такоё нізаходно месцо... Нават ні чуваць, кап пташкі сьпявалі.*

ПАЗАДРЫ′НІЧУ *прысл.* Пазагуменні. *Ідзі пазадрынічу, каб у вочы людзям ні кідоўса.*

ПАІ′МКА *ж.* Даход, які атрымліваецца ад якога-небудзь роду заняткаў. *У нікаторых вёсках раннія агуркі садзяць, на базар возяць. Добру паімку маюць!*

ПАЛЁ′КА *ж.* Палёгка. *Дзеці малыя — малая бяда, а вырастуць — сяраўно ніякай палёкі, яшчэ больша бяда.*

ПАПЯРЭ′ЧКА *м. і ж.* Чалавек, які многа спрачаецца, пярэчыць. *Гэтаго папярэчку ніколі ні пераспорыш.*

ПАСВЯ′ЧЫЦЬ *зак.* Пасведчыць. *Кажды зь вёскі можа пасьвячыць, што чалавек ён нідобры.*

ПАСО′ВАЛКА *м. і ж.* Той, хто ходзіць без справы. *Ну й пасовалка... Нігоднаго вечара ў хаці ні ўседзіць, усе недзі суняцца.*

ПАТАРМО′Л *м. груб.* Павольны, марудны, няспрытны ў рухах чалавек. *Быстрэй трохі! Патармол! Суняса як на зоўтра.*

ПЕРАКАНТАВА′ЦЦА *зак.* Перажыць нястачу, перабіцца. *Перакантуямса як-нібуць і без малака, покуль карова ацеліцца.*

ПЕРШАЖЭ′ДНЫ *прым.* Выдатны, адмысловы. *Першажэдны твой квас! Налі яшчэ кубачак!*

ПІДА′Л *м.* Педаль. *Як будзяш заходзіць у магазін, та палядзі, ці есьць там підалы да ровара.*

ПІЛЬГАВА′ЦЬ *незак.* Старанна і доўга мыць. *Цалюсянькі дзень порця пільгавала, рук ні чую.*

ПІ′НКІ *мн.* Кпіны. *Што ты зь міне пінкі строіш?.. Разумны знашоўса...*

ПЛІ′С *м.* Зрэзаны або няроўны кант дошкі, бруска. *Гэта доска нігадзяшча. Бачыш, у ёй пліс; як пакладзеш, та падлога нiроўна будзя.*

ПО′ВАЛАК *м.* След пахучай прынады, пракладзены з мэтай прывабіць звера. *Некалі лавіў і лісаў. Апсмальваў курыцу ці якую пташку, прывязваў яе да вяроўкі і цягнуў на вяроўцы па сьнезі, рабіў повалак. Потум на гэтум повалаку расстаўлёў петлі ці пасткі. Пападаліса калі-нікалі.*

ПО′ДСКАКАМ *прысл.* Падскокваючы. *Выгуляласа цялушачка, бяжыць подскакам.*

ПО′ЖАР *м.* Пажарышча ў лесе. *На гэтум пожары прас пару гот, палядзіш, будуць зялёнкі расьці.*

ПО′КУЦЯНЬ [1] *м.* Дамасед. *Пайдзі хоць па дварэ пахадзі, а то такі покуцянь зрабіўса — с хаты носа ні высуняш.*

ПО'КУЦЯНЬ [2] *м.* Спекулянт. *Які ты купец? Покуцянь ты! Ні рас бачыла, як грыбы перапрадавоў!*

ПРАКАЛТО'ПІЦЬ *зак.* Памыць на скорую руку. *Дай твае шкарпеткі пракалтоплю, яшчэ высахнуць, пакуль да алтобуса ісьці.*

ПРАНА'ТРАЦЬ *зак.* Панадзіцца. *Пранатралі коні ў лубін хадзіць, рады зь імі німа.*

ПРУ'ЖЫЦЦА *незак.* Напружвацца. *Ні прушса: сяраўно ні падымяш мяшка.*

ПРЫ'ВЯРКА *ж.* Адтуліна ў венцеры, праз якую заходзіць рыба. *Як карась усуняцца прас прывярку, назат зь веньцера ўжэ ні выбярацца.*

ПРЫ'ЖАР *м.* Чад. *Аткрый трохі люхту: чуваць, прыжар па хаці пашоў.*

ПРЫПО'РЫСКО *н.* Прыстанішча. *Немцы як вынішчылі вёску, та прышлосо па людзёх хадзіць, каб дзе якоё прыпорыско далі.*

ПРЫСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Выступаць з канцэртам. *Кажуць, салдаты прыедуць, прыстаўляць у клубі будуць.*

ПРЫТАРО'ПНЫ *прым.* Брыдкі. *Збрый ты бораду, ба зь ёй такі прытаропны, што ўглядацца ні хочацца.*

ПСТРЫ'ЧКА *ж. жарт.* Нізкая ростам жанчына. *Хоць і пстрычка гэта баба, аля якая ш спраўна!*

ПУЦАВА'ЦЬ *незак. груб.* Прагна есці. *Памалу! Ні пуцуй як воўк, ба возьмяш задавіса.*

ПЫ'ПКА *м. і ж.* Панурысты чалавек. *Хіба гэты пыпка дзе даб'ецца чаго? Ён ш скажа слово й маўчыць.*

ПЭ'ТРАХІ *мн.* Вантробы. *Воўк кап толькі схапіў авечку за жывот, зразу пэтрахі выпусьціць.*

РАЗАКА' *ж.* Асака. *Будзям касіць і разаку, карова зімой за маліну ізесьць.*

РАСКО'П *м.* Насыпная дарога. *Раней праз гэто балото прайсьці ні можно было, а ціпер, як зрабілі раскоп, так файно стало.*

РАСПШЫ'КАЦЬ *зак.* Распусціць (грошы). *Ні варто яго за пакупкамі пасылаць: распшыкая грошы і нічого добраго ні купіць.*

РАСТАТО'ХА *м. і ж.* Расхрыстаны, неахайна адзеты чалавек. *Гэты растатоха так налізоўса, што й зашпіліцца ні дасьць рады.*

САМСАВА'ЦЬ *незак.* Тое, што і пуцаваць.

СВА'РГ'А *ж.* Сварка. *Ні завоцьса ты зь ёй; надаела ўжэ мне ваша сварґа.*

СКАЛАКАНУ'ЦЬ *зак.* Узбоўтаць. *Скалакані малако,*

*няхай сь сьмятанай перамяшаяцца, смашнейшо будзя.*

СКАРАПЕ'ЧКА *ж.* Хлеб, спечаны на патэльні ў форме бліна. *Хлеп вышаў, і ў магазін ні прывязьлі; трэба скарапечкі напячы.*

СКІ'ДАЦЬ: СКІ'ДАЦЬ ЦЯЛЯ'. Без пары ацяліцца. *Рыгарова карова цяля скідала, у лесі знашлі.*

СКЛА'ДАНКА *ж.* Складчына, вечарынка. *Работу скончым раней і зробім складанку.*

СКРАБА'ЛКА *ж.* Машынка для збірання ягад. *Скрабалкай быстрэй зьбіраць брушніцы, чым рукамі, толькі сьмяцця разам много горняцца.*

СКРАК *м.* Худая, недагледжаная жывёліна. *Ужэ ўся скварка вышла, та мы думаям на сьвято хоць гэтаго скрака закалоць.*

СКРА'ЎЗА *ж.* Кавалачак мяса ў супе. *Столькі скраўзаў плавая, а ён нават і лошкі ні памачыў.*

СМАГЛЕ'ЦЬ *незак.* Карпець над нечым. *Ні смаглей ты над гэтым радзівам, ні сёдня зробіш, та ўзоўтра. Выйдзі на двор хоць воздухам падыхай.*

СМАКТУ'Н *м.* Дрыгва. *Халестрына карова як залезла ў смактун — ледво выцянулі.*

СМЫ'ЖНІК *м.* Гушчар. *Каля возяра Гліняц такі смыжнік, што ні прайсьці, ні пралесьці.*

СПАРАДЗІ'МОСЬЦІ *прысл.* Ад нараджэння. *Гэта хвароба ў яго спарадзімосьці.*

СПАРВА'ЦЬ *зак.* Схапіць. *Палядзі, што там сабака спарвоў; мусі, тоё мясо, што на слоні ляжало.*

СПА'ТКІ *мн.* Астаткі. *Прысяць да стала, яшчэ такія-сякія спаткі засталіса.*

СПРАВЯДЛО'ВЫ *прым.* 1. Справядлівы. *Ён чалавек справядловы і натто ні любіць, як яму ніпроўду гаворać.* 2. Натуральны. *Ні веру, што ў яе справядловы мёт: яна ш сваім пчолам цало лето цукяр давала.*

СТО'ЎДАР *м. абразл.* Дурань. *З гэтым стоўдарам работу рабіць — мучэня цэло.*

СТРАМЯ'К *м.* Нож з адламаным канцом ляза. *Вазьмі лепяй страмяк, ім спраўней грыбы ачышчаць і ў кішэнь можно палажыць.*

СТРЫ'МКА *ж.* Пажылая незамужняя жанчына. *І чаму так? Кажда стымка неку злосьць на людзей мая.*

СТРЫХЛІ'НА *м. і ж. асудж.* Гультай. *Лядзіш, люцкія дзяўчата нешто робяць, рупяцца, а гэта — такая стрыхліна!.. Заваліць некаму рукі.*

СУДЗІ′НА *ж.* Пасудзіна. *Вазьмі гэту судзіну, схадзі карову падой.*

СУ′ДЗЯ *н. зборн.* Посуд. *Залаты чалавек яе мужык, нават сам судзя мыя.*

СХА′ВА *ж.* Сховы. *У гэтум месьці кепска схава, тут людзі часто ходзяць.*

СХАПІ′ЦЦА *зак.* Ссесціся (пасля мыцця). *Памыла сукенку ў парашку — схапіласа, налазіць ні хоча.*

СЭ′ПАЛЬ *м.* Лядзяш. *Ужэ сонцо нешто значыць! Вун пат страхой які сэпаль выцянуўса.*

СЯЛЕ′ЗЯ *ж.* Гатунак бульбы. *У нас, як помню сібе, та ўсе сялезю садзяць; яна хоць і нівелька расьце, аля ядрона.*

ТАРО′ЧЫЦЬ *незак. зневаж.* Гаварыць. *Што ён там табе тарочыў, пустабрэх гэты?*

ТАЎЛЕ′ТКА *ж.* Вялікае люстра, якое ставіцца на падлогу. *Красіва сукенка! Пайдзі ў таўлетку паглядзіса.*

ТО′ЎБА *ж. зневаж.* Тоўстая жанчына. *Як вышла замуж, такой тоўбай зрабіласа, што ні адна сукенка на міне ні прыходзіцца.*

ТРАСЯ′НКА *ж.* Усякі стары, зношаны транспарт. *Аля то дадумаўса ў гэту трасянку каня запрагаць. Каб добры матоцык быў, та й слова ні сказала п, аля ш трасянку, выкупіў.*

ТРА′ХАТ *м.* Трэск. *Ласе як убачылі міне, як далі ходу, толькі трахат па лесі пашоў.*

ТРАХАТА′ЦЬ *незак.* Ламаць, крышыць. *Каровы, ліхо на іх, убіліса ў гарот і трахочуць капусту.*

ТРУСЬЦЁ′ *н.* Парушынка. *Натто воко пячэ, мусі, трусьцё папало.*

ТРЭ′МЗЬЛІ *мн.* Рыззё. *Да работы што добро шкада адзяваць, вазьмі во гэтыя трэмзьлі.*

ТУМА′НІЦЬ *незак. метаф.* Лгаць. *Туманіш, хлопяц, ні аднаму тваму слову ні веру.*

ТУ′ХНУЦЬ *незак. асудж.* Спаць. *Уставай! Работы па вушы, а ён тухня хоць бы што!*

ТХЛІ′ЦА *ж.* Мор рыбы ад недахопу паветра. *Гэтай зімой на Доўгянскум возяры тхліца была — уся рыба клякнула.*

УБРО′ХАЦЦА *зак.* Абрасіцца. *Ні йдзі па траве: раса велька, уброхаяса.*

УКРО′ПІЦЬ *зак.* Сцебануць. *Укропіў каня пугай — аткуль толькі ў яго рухавасьць ўзяласа.*

У'РВАЛ *м.* Кавалак. *Ну й розум! Такі ўрвал хлеба сабаццы кінуў.*

УСА'МІЦЬ *зак.* Дапасаваць. *Перша ўсаміць тапарыско трэба, а потум ужэ ў сакеру заганяць.*

УЦЕ'КІ *прысл.* Наўцёкі. *Я крыкнуў яму, кап пачакоў, а ён — уцекі.*

УЦЕ'НТНАСЬЦЬ *ж.* Заўзятасць. *Аля то ўцентнасьці ў яго хватая цэлу зіму па лесі с стрэльбай соваცца.*

ХЛЯ'ЦЬ *незак. груб.* Жлукціць. *Ні хляй халоднай вады! Хочаш, каб і зноў горло запухло!*

ХЭ'ЎРАЦЬ *незак.* Чаўрэць. *Цяшко сказаць, ці пераэжыве яна гэту зіму, усе больш і больш хэўрая.*

ЦА'ПІНУЦЦА *зак.* Спахапіцца. *Слонцо прыгрэло, та я й прыдрамала седзячы. А потум каль цапнуса, ляджу — усе каровы ў шкодзі.*

ЦЯЛЯХА'ЦЬ *незак.* Сёрбаць. *Налю дзецям міску расолу, бульбы пастаўлю — цяляхаюць аж вушы трасуцца.*

ЦЯ'ПЯЛЬ *м.* 1. Ласкут. *Падай той зялёны цяпяль, што на лосцы ляжыць, мо акрас на кішэнь прыдзецца.* 2. Малы ўчастак ворнай зямлі. *Згарэм заадно й гэты цяпяль, кап потум ні варочацца.*

ЧАРА'ПКАЦЦА *незак.* Скрэбціся. *Палядзі, хіба мыш у шафцы чарапкаяцца.*

ЧЛО'НКА *ж.* Бакас. *Члонка сьпявая, як баран бляе.*

ЧУМА'К *м.* Падбярозавік. *Чумакоў брацъ ні будзям, яны натто скоро чарвіваюць.*

ЧЫПІРА'ДЛО *н.* Пудзіла. *У гэтых трэмзьлях на чыпірадло змахваяш, адзеньса лепяй.*

ЧЫРЫ'МКАЦЬ *незак.* Дрэнна іграць на музычным інструменце. *Які зь яго музыкант! Чырымкая ўвесь час адно: сьвіня — у рэпу, сьвіня — у рэпу, парасята — у бульбу.*

ШАРА'Г'А *ж.* Зброд. *Скажу вучастковаму — ён быстро ражжане вашу шпікулянску шараґу.*

ШЛАПА'К *м.* Усякі стары грыб. *Ні бяры шлапакоў, яны толькі месцо ў кошыку занімаюць.*

ШЛІХТАВА'ЦЬ *незак.* Ачышчаць ад слізі (кішкі). *Памажы шліхтаваць кішкі, будзям кілбасы рабіць.*

ШМА'ГЛЫ *прым.* Мажны. *Іх уся фаміля такая: шмаглыя, здаровыя, як мурэ!*

ШМА'РА *ж.* Змазачнае масла. *Вазьмі шмары й змаш калёса, каб ні скрыпелі.*

ШПРЫХ *м.* Вязальны пруток. *Хацела швэдар вязаць і ніяк шпрыхоў ні найду.*

ШЧУПЕ'ЛЬ *м.* Шчупак (самец). *Як шчупачыха нерастуя, за ёй кучамі шчупяле ходзяць.*

ШЧЫБІРКА'ЦЬ *незак.* Скубці (траву). *Цялушка ні разу на пашы ні была, а выпусьцілі — зразу пачала траву шчыбіркаць.*

ШЫ'БЯНІК *м. груб.* Вісус. *За гэтым шыбянікам трэба воко й воко, каль тольк адвярнуўса, так шкоды й наробіць.*

*І. А. Карней*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ВАЎЧУНЫ СЛОНІМСКАГА РАЁНА

АТЛІ'Ў *м.* Дошка, прыбітая да шчыта хаты для сцёку дажджавой вады. *Гніе атліў, трэба мяняць.*

АТОСКА *ж.* Металічная дэталь, пры дапамозе якой замацоўваюцца ручкі плуга. *Атоскамі плух з лапамі зьвязваяцца. Гэто такія жалезныя пруцікі.*

БАЁЎКА *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Мне маці гэту баёўку падарыла.*

ГАНУ'ЧНІК *м.* Анучнік. *Гэту фуфайку аддай ганучніку, яна ўжэ старая.*

ГІБА' *ж.* Мера даўжыні тканага палатна прыкладна каля 5 метраў. *Учора заткала, а сёння ўжэ дзьве гібе выткала.*

ДРАПАЧЭ' *мн.* Вілы з загнутымі зубамі. *Драпачэ сам с сахароў зрабіў, адно зубы загнуў.*

ЗАКВЭ'ЗАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Касьцюм так заквэзаў, як трахтарыст які.*

ЗАПАТЫ'ЛАЧАК *м.* Клінок, пры дапамозе якога замацоўваецца каса на кассі. *Калі запатылачак шчыльно сядзіць, то каса с косьнішча ні спадзя.*

ЗАСМАРГНУ'ЦЬ *зак.* Захацець есці. *Як засмаргне табе, то і хлеба с соллю паясі.*

ЗА'СТРАМКА *ж.* Стрэмка. *Ні глаць рукою па дзераві, а то будзя застрамка.*

ЗАЎЗЯ'ТНЫ *прым.* Заўзяты. *Мой Міша такі заўзятны быў: спаць ні ляжа, пакуль работы ні зробіць.*

ЗАШМАРГНУ'ЦЬ *зак.* Завязаць у тугі вузел. *Зашмаргні нітку, каб ні развязалася.*

ЗА'ЯЦ *м.* Від грыба. *Заяц на баравік пахожы, толькі жоўты і с танейшай ношкай.*

ЗБО'ІЧ *м.* Драўляная перакладзіна, пры дапамозе якой замацоўваецца ткацкі станок. *Старыя ўжэ збоічы, трэба новыя рабіць.*

КАПЕ'ЙКА *ж.* Драўляны клінок, які ўбіваюць у вугал вянка, звязанага ў зрубе не дастаткова шчыльна. *Як добры паляц, то й капейкі ні трэба ўстаўляць.*

КАРАПЛЯ'НКА *ж.* Цёплая хустка. *Адзень караплянку, а то халадно на вуліцы.*

КАЧАРГЕ'ШНІК *м.* Качарэжнік. *Як будзяш двойкі палучаць, то ў качаргешнік на цэлы дзень пастаўлю.*

КО'РБА *ж.* Свярдзёлак з механічным прывадам. *Мо корбу маяш — пазыч.*

КО'СНІШЧО *н.* Кассё. *Староё косьнішчо і вельмі глатко было, а гэто шурпато.*

КО'ТУХ *м.* Катух. *Палажы карові сена ў котух.*

КРЭ'ЙДА *ж.* Каляровы аловак. *Ты шчэ малая была, як бацько табе крэйды купіў, натто ш рысаваць любіла.*

КУ'ЛЬКА *ж.* Ручка касы. *Калі косіш, то трымай кульку правай рукой, а косьнішчо — левай.*

ЛА'ПА *ж.* Ручка плуга. *Вазьмі плух уніс лапамі на вос палажы.*

ЛЮ'ХНУЦЬ *зак.* Паліцца. *Як люхнула кроў з носа, увесь твар заліла.*

ЛЮ'ХТА *ж.* Поласць у печы, пры дапамозе якой ствараецца цяга. *Добро было п люхты пачысьціць — сажы нагарэло.*

ЛЯ'ДО *н.* Набіліцы. *Мужык ново лядо зрабіў.*

МАРАКАВА'ЦЬ *незак.* Крыўдзіцца. *Хай паступая ў той інсьцітут, а то як адгаворыш, то патом маракаваць будзя.*

МО'ЧАЛО *н.* Мокрае месца. *У том мочалі нічого ні расьце.*

НАБРА'ЦЬ *зак.* Купіць. *Прадуктаў на дваццаць рублёў набрала.*

НАЛІВА'НКА *ж.* Крывяная каўбаса. *Зрабілі наліванку, смачна палучылася.*

НА'РВІНА *ж.* Драўляная дэталь саней. *Нарвіна з нешырокаго бруска або дзеравіны робіцца. Патом у яе ўстаўляюцца ручкі, якія трымаюць дрова з бакоў.*

ПАДУЗО'РНІК *м.* Карункі. *Усе гэтыя падузорнікі некалі сама рабіла.*

ПАДЭ'ШВА *ж.* Лямеш. *Як арэш, падэшва падразая зямлю зьнізу.*

ПАМО'СТ *м.* Перакрыцце ў яме для бульбы (ад марозу). *Памост робіцца так: спачатку дзераво кладуць, патом — кляёнку, а наверх пяску насыпаюць.*

ПАМЫ'ЛАК м. Памылка (толькі ў адносінах да сталярства і ткацтва). *Тут у міне адзін памылак есьць, але ўжэ ні буду перарабляць.*

ПА'СМО *н.* Тры трасціны ў бердзе (*гл.* трасціна). *Шчэ адно пасмо ў бердзі гуляя, слабодно засталосё.*

ПАЦЁС *м.* Столь. *Пацёс у вас добро пакрашаны.*

ПЕРАБІРА'ЧКА *ж.* Дзяруга, вытканая асобым, складаным спосабам. *Гэту перабірачку з аленямі выткала, калі маладая была.*

ПО'ШВА *ж.* Навалачка. *Пошву трэба зьмяніць, бо гэта ўжо гразна.*

ПО'ЯС *м.* Брус, які змацоўвае кроквы. *Доўго ні мох дзерава на пояс прывясьці.*

ПЯРЭ'ДНІЦА *ж.* Перакладзіна на згібе палазоў у санях. *Пярэдніцу можно з любого дзерава рабіць.*

ПЯЧУ'РА *ж. і м.* Чалавек, які не любіць бываць на людзях, дамасед. *Як ты такая, пячура, то ніколі замуш ні выйдзяш.*

РАДЗЮ'ГА *ж.* Дзяруга. *У міне на лошках усе свае радзюгі засланыя, дзеўкаю много наткала.*

РЭ'ХВАЧКА *ж.* Металічнае кольца, якое прымацоўвае касу да кассяя. *Недзя ў міне есьць рэхвачка запасная, пашукаям.*

САБА'КІ *мн.* Брусы, якімі змацоўваюцца кроквы. *Сабакі спачатку прыбівай, а патом — атлій.*

САХАРЫ'ШЧО *н.* Ручка вілаў. *У тваіх сахарох закароткаё сахарышчо, кепско стох класьці.*

САХАРЭ' *мн.* Вілы. *Адны сахарэ недзя прапалі.*

СВІНЯ' *ж.* Від грыба, свінуха. *Назьбірай ты некіх сьвіней, зайцаў, кабылак — цэлы зьвярынец, толькі сем баравікоў.*

СВОЙ *м.* Скрутак палатна, сувой. *Нікаторыя ў нас раней грошы ў свої хавалі.*

СТАЛЬНІ'ЦА *ж.* Днушка. *Вазьмі стальніцу і нарэш цыбулі.*

СТАЦІВІ'НА *ж.* Прыстасаванне, на якім замацоўваецца ткацкі станок. *Стацівіна ў маіх кроснах шчэ добрая.*

СТА'ЦІВО *н.* Адзін з варыянтаў пастаноўкі кросен. *Я ўсё врэмя на стаціве ткала.*

СТРАМЯ′КА *ж.* Стрэмка. *У паляц страмяку засадзіла... Баліць!*

СТУПЕ′Ц *м.* Дэталь грабель, у якую ўбіваюцца зубы. *Сам граблі раблю: і граблішчо, і ступец, і зубы.*

СУХА′Р *м. перан.* Вельмі худы чалавек. *Такого сухара я шчэ ні бачыла, адны косьці ды скура.*

СУХАРЫ′НА *ж.* і *м.* Вельмі худы чалавек. *Яе мужык такі ўжэ сухарына, што ажно, на сонцы прасьвечваяцца.*

ТРАСЦІ′НА *ж.* Металічная пласцінка ў бердзе. *У бердзі дзьве трасьціны паламаліся.*

УСТУПІ′ЦЦА *зак.* Ссесціся пасля мыцця (пра вырабы з тканіны). *Уступілася спадніца, ціпер закаротка будзя.*

УТО′К *м.* Ніткі, прызначаныя для ткання ўзору. *У міне ўтоку будзя мало, хоць пазычаць ідзі да каго.*

ХВАРАВЕ′КАВЫ *прым.* Чалавек, які часта хварэе, слабы здароўем. *Некі ён у цібе хваравекавы, кожны гот атхварэя.*

ЦЮ′ЦЯЛЬКА *ж.* Драўляная калодачка для падтрымкі нічальніц у кроснах. *Абедзьве цюцялькі раскалоліся, німа як ткаць.*

ЧАРЭ′ПКАЦЦА *незак.* Лезці, залазіць куды-н. *Чарэпкайся да міне на печ, пагрэясься.*

ЧУГА′Н *м.* Чыгунны гаршчок. *Цэлы чуган картофлі зьелі.*

ШАРСЦЯ′НКА *ж.* Шарсцяныя ніткі. *На свэдар шарсьцянкі купіла, вязаць буду.*

***Ф. Д. Клімчук***

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КАМЯНЮКІ КАМЯНЕЦКАГА РАЁНА

Вёска Камянюкі (мясц. *Камыэнюкы*[1]) знаходзіцца ў паўночнай частцы Камянецкага раёна. Гаворка вёскі адносіцца да сярэднезагародскіх, аднак характарызуецца некаторымі спецыфічнымі асаблівасцямі.

На месцы галоснага *о* ў новых закрытых складах пад націскам вымаўляецца *ӥ* (умляут) часта з наступнай, рэдка з папярэдняй дыфтангічнай часткай *і*. Абазначаем гэты гук праз *і* (пасля мяккіх зычных) або *ы* (пасля цвёрдых зычных).

На месцы націскнога *ѣ* пасля зычных *д, т, з, с, н* вы-

маўляецца галосны гук, «сярэдні» паміж *ы* і *і*, абазначаем яго праз *ы*. Зычныя гукі перад ім цвёрдыя: *дыд, тыло, зылле, сыно, мны* (*дзед, цела, зелле, сена, мне*).

Ненаціскны *о* вымаўляецца з адценнем *у*; абазначаем гэты гук праз *о*. Нярэдка галосны *о* вымаўляецца ў ненаціскным становішчы на месцы *а*: *хому́т, посажы́р, рохма́ный*.

На месцы *е*(<*е, ь, ѣ*) у ненаціскным становішчы вымаўляецца гук *ы* з адценнем *е*, абазначаем яго праз *ы*.

Пасля заднеязычных у былых спалучэннях *гы, кы, хы* вымаўляецца гук, сярэдні паміж *і* і *ы*, зычныя перад ім цвёрдыя; абазначаем гэты гук праз *ы*. Спарадычна такі гук вымаўляецца пасля губных, шыпячых, *ц, р*.

Галосны *ы*(<*ы, і*) і галосны *і*(<*і*) пад націскам у канцавых адкрытых складах не пад націскам часам вымаўляюцца з адценнем *е*.

Перад націскнымі *і*(<*ѣ*), *а*(<'*а, ę*) этымалагічна мяккія шыпячыя і *р'* аднымі і тымі асобамі ў адных і тых словах вымаўляюцца цвёрда або мякка. Пры мяккім вымаўленні шыпячых на месцы *а*(<'*а, ę*) часам вымаўляюцца як гук, сярэдні паміж *а* і *е*: *кача́*$^{е}$*ло, жя*$^{е}$*р*.

Адзначана адпадзенне пачатковага ненаціскнога *о* або яго пераход у *в*: *дна* 'адна', *д* 'ад', *вся́ный* 'аўсяны', *вчэй* 'ачэй'.

Зычны *л* перад этымалагічнымі *е, і* па характару вымаўлення блізкі да «паўмяккага», хоць часам вымаўляецца як мяккі. Абазначаем яго як мяккі зычны (умоўна).

Назіраецца аслабленая велярызацыя шыпячых, заднеязычных, *р, ц*.

Гаворцы характэрна няпоўнае аглушэнне звонкіх зычных перад глухімі.

Зычны *в* пасля галосных перад зычнымі губна-зубны, зрэдку вымаўляецца як губна-губны.

Адзначаны формы назоўнікаў ніякага роду: *быр́эмыне, вы́мыне, сы́мыне*.

Дзеясловы ў 3-й асобе множнага ліку маюць канчаткі *-ут, -ют, -ат, -ят*: *мэ́лют, іду́т, хо́дят, ро́бат*.

Матэрыял запісаны аўтарам у снежні 1974 г.

А'МЫНЬ *м.* Амін. *Знаю, як амынь у пацеровы.*

БА'ЙКЫ *прысл.* Няважна. *То ныць, шо грымыт, абы ны было, то байкы, шо грымыт.*

БА'ЙКЫЙ *прым.* Нядрэнны. *Байкый хлопыць.*

БАРА'НЫЦЯ *ж.* Аўчына. *З бараныць кожухы шылі.*

БОГОМО'ЛІТЫ *незак.* Моцна прасіць. *Почала вона богомоліты.*

БОЛВАНЫ'ТЫ *незак.* Трохі віднецца. *Чуть, трохы выдно, болваные.*

БОРУ'ШКАТЫСЬ *незак.* Барукацца. *Корова борушкалась с сусыдовою.*

БРАКІ'ВНЫЙ *прым.* Які мае недахоп. *Вона браківна, ганьба в іі е.*

БРУІ'ТЫ *незак.* Моцна шумець (пра ваду). *Вода шумыт, аж бурчыт, бруіт.*

БРУКОТЫ'ТЫ *незак.* Моцна стукаць. *Всэ шось стукотыт, брукуе, брукотыт.*

БРЫЗЬ *выкл.* Шусь. *Корова с хліва брызь у садок.*

БУ'БА *ж. дзіц.* Ягады. *Дыты малыі, як буба.*

БУВНА' *ж.* Вялікія хвалі. *Сільна бувна б'е.*

БУГРЫ'НА *ж.* Узгорачак. *Ой, выйду я на бугрыну, стану-гляну на дуліну* (з песні).

БУ'ДА *ж.* Нешта вялікае. *Корова — як буда, як вагон.*

БУ'ЙДА *ж. экспр.* Няпраўда. *Гэто буйда, ыправда.*

БУЛТО'ХЫС *м.* і *ж.* Немалады хлопец ці дзяўчына. *Бултохыс — старый кавалер чы сстарылася дывкою.*

БШКРЭ'БЧУВАТЫ *незак.* Аскрабаць. *Бшкрэпчуют моркву.*

БЫЛЬЧЯ'ТЫ *незак.* Бляяць. *Быльчят овычкы.*

Б'Ю'ШЧАВЫЙ *прым.* Парывісты. *Гэтымы судочкамы як вдарыт вітёр, такый б'юшчавый.*

ВА'РА: ШОБ ТЫБЭ ВАРА ЗВАРЫЛА. Каб ты памёр (праклён).

ВБА'ДАТЫ *зак.* Расстарацца. *Дэсь собі собаку вбадав, забыв, да пыв жыр собаччый і вылічыв лёхкы.*

ВВІ'РЫТЫСЬ *зак.* Моцна надакучыць, дацца ў знакі. *Мны сыно ввірылось — ны могла згрыбсты, всё дошч.*

ВГО'ВТАТЫСЬ *зак.* Асвойтацца, прывыкнуць. *Вговталась, прывыкла там.*

ВДУШЫ'ТЫ *зак. экспр.* Загубіць. *Жэбы тыбэ зымля вдушыла* (праклён).

ВЗРЫ'ВЫСТЫЙ *прым.* Парывісты. *Взрывыстый вітёр.*

ВКРА'СА *ж. кулін.* Заправа, закраса. *Посныця, в іі нымаш ныякыі вкрасы.*

ВМАТА'ТЫ *зак. экспр.* Змардаваць. *Вматала мынэ ліхая доля, ліхая доля — чужа сторона* (з песні).

ВОЗА'К *м.* Возчык. *Возак ліс возыт.*

ВОЛОСЫ'Й *м.* Валасяная частка хваста. *Волосый — хвіст з волысся.*

ВОЛОСЫ'НА *ж.* Волас. *Була одна волосына, й тую мухы откусылі.*

ВОЛОШЫ'НКА *ж.* Від жаночага верхняга адзення. *Волошынка — довга свытына, с хвалдамы, жэнська.*

ВПЫНА'ТЫСЬ *незак.* Захінацца вялікай хусткай.

ВПЫ'ТЫСЬ: ВПЫТЫСЬ В ШКУРУ. Моцна надакучыць. *Вона мны впылась в шкуру.*

ВПЭ'РШЭ *прысл.* Упершыню. *За якую роботу братыся впэршэ.*

ВРОНЫ'ТЫ: ВРОНЫТЫ СЛЁЗУ. Пусціць слязу. *Я бы слёзы ны вроныла.*

ВСТРОМЫ'ТЫ *зак.* Уткнуць, уторкнуць, убіць. *Встромыты іголку в клубок. Встромыты патычку в пысок. Я тобі встромлю сокіру в голову.*

ВСЯ'НЫЙ *прым.* Аўсяны. *Всяна солома.*

ВХЫЛЯ'ТЫСЬ *незак.* Захінацца (вялікай хусткай).

ВЫ'БРОД *м.* Вытаптаная жывёлай мясціна. *Там выброд такый, скотына бродыт.*

ВЫ'БЫГНІ *мн.* Бакавыя вырасты ў спечаным хлебе.

ВЫ'ВЫНУТЫСЬ *зак.* Хутка схадзіць куды-н. *Пошла под хлів, вывынулася і знов вырнулася.*

ВЫ'ЙНЯТЫ *зак.* Выдзяўбсці. *Крук круковы вчэй ны выймэ* (прыказка).

ВЫ'КРУТ *м.* Круты выгіб. *Выкрут — то коліно, круто рыка поворачуе.*

ВЫ'ЛЯСК *м.* Трэск, гром. *Пырун б'е, то выляск.*

ВЫРІ'СТКА *ж.* Адна з вяровак, на якіх вісіць калыска. *Колыска вісыла на вырестках.*

ВЫРЫСКО'ВЫЙ *прым.* Верасавы. *Вырысковый мід, з вэросу.*

ВЫСКАКА'НЭЦЬ *м. бат.* Каўпак кольчасты. *Выскаканці вжэ е.*

ВЫСЛУ'ЖЫНЬКА *ж. памянш.* Прыслужванне. *Моя родына пообідае — поідэ, мынэ молоду на выслужыньку покынэ* (з песні).

ВЫСЫПЛЯ'ТЫСЬ *незак.* Высыпáцца. *Я ны высыплялась, ны досыпляла.*

ВЫ'ХОР *м.* Віхор. *Выхор крутыт; як бачыш, шо він ідэ на тыбэ, то кінь ножа складаного, і ны поврыдыт, а так як на чоловіка найдэ, то або пэрэліг, або шчо.*

ВЭЧОРОВЫ'МА *прысл.* Вечарамі. *Вэчоровыма ходыла до школы.*

ВЭ'ЧЫРА *прысл.* Вечарам. *Вэчыра прыіхалі.*

ГА'В'ЯДА: МНЫГО, ЯК ГАВ'ЯДЫ'. Вельмі многа.

ГАЛЁВЫ'ТЫЙ *прым.* Гнуткі. *Кый галёвытый.*

ГАЛУ'ЗА *ж.* і *м. экспр.* Няўклюда. *Ой, галуза ты, галу́зуватый.*

ГАРАХОВА'ТЫЙ *прым.* Кучаравы. *Гараховатый хлопыць.*

ГАРБУЗЫНЯ'ТА *мн.* Насенне гарбуза. *Дам гарбузынят, іжтэ.*

ГВОЗДЫ'ТЫ *незак.* Моцна біць. *Качалкою в ба́лёк гвоздыт маршалок.*

ГЛЁК: СЫРЫЙ ХЛІБ, ЯК ГЛЁК. Пра недапечаны хлеб.

ГЛОДА'ТЫ *незак. экспр.* Есці, жэрці. *Хоч зэмлю глоджы́.*

ГЛЯДЫ'ТЫ *незак.* Пільнаваць. *Глядыш, як ока в лобу.*

ГНЫВ *м.* Крыўда. Найліпшэ пэршый гныв, ныж друга ласка (прыказка).

ГОВОРЫ'ТЫ: НА ЁМУ ШКУРА ГОВОРЫТ. Пра запальчывага чалавека. *Спыльчывый, на ёму шкура говорыт.*

ГОЛО'ТА *зборн.* Бедныя людзі. *Голота вылізла з болота — на бідного чоловіка казалі. Голота ны боіцьця ны огня, ны болота.*

ГОМЫ'ЛКУВАТЫЙ *прым.* Няспрытны, някемлівы. *Той шофёр такый гомылкуватый, а я думала, шо він будэ подаваты мышкы.*

ГО'РЛО *н.* Рот. *Повным горлом валкуе, ісць завыдліво.*

ГРАША'НЧЫК *м. памянш.* Скрылік. *Грашанчык — кусочок ковбасы, сала.*

ГРЯ'ДЫ *мн.* Жэрдкі каля столі ў даўняй хаце. *Гряды — дьві жэрдкы коло потолка* (*гл.* коля́ды).

Д *прыназ.* Ад. *Отчыпыся д мынэ.*

ДОГА'НА *ж.* Папрок. *Будэ мэнчуй сыстрі догана, будут доганяты.*

ДОГА'НКА *ж.* Папрок. *Будэ тобі доганка, будут доганяты.*

ДОГАНЯ'ТЫ *незак.* Папракаць. *Будут тобі доганяты за тое.*

ДОМА'Ш *м.* Той, хто знаходзіцца дома. *Вітэ йідьтэ на высылле, а я буду за домашя́.*

ДОПЫ′ТЫНЫ *мн.* Роспыт. *До тыбэ прышов мужчына на допытыны.*

ДОТЁН *м.* Папрок. *Будэ тобі дотён.*

ДОТЫНА′ТЫ *незак.* Папракаць. *Будут тыбэ дотынаты.*

ДРЯ′СКА *ж.* Стрэмка. *Дряску встромыв.* ВЫСОХЛА НА ДРЯСКУ. Моцна пахудзела.

ДУХ: ДУХ ОПУСТЫВСЯ. Адчаяцца. *Дух опустывся — так пырылякався.*

ДЫ′КСАТЫ *незак.* Завіхацца. *Я ліжу в кроваті, а вона на кухні шось дыксае.*

ЖНЫ′РКА *ж.* Жаўлак на хрыбце ў каровы. *Жныркувата корова, жныркы на спыны.*

ЖУВНА′ *ж.* Валляк.

ЖЫВЫ′Й: ЖЫВАЯ ЗЫМЛЯ. Слой зямлі, які знаходзіцца ніжэй ворнай зямлі. *Зайняв аж до жывэі зымлі, достав.*

ЖЫ′ЛА *ж. экспр.* Спадчыннасць. *Такое кодло, такэі він крыві, такэі жылы.*

ЖЭ′БЫ *прыназ.* Каб. *Жэбы тыбэ зымля прыйняла* (праклён).

ЖЭ′ШКЫЙ *прым.* Гарачы. *Жэшкый вітёр.*

ЗА′БЫГНІ *мн.* Нахіл на саннай дарозе.

ЗАВЗЕ′НТНО *прысл.* Заўзята. *Завзентно робыт.*

ЗА′ВОЛОТ *м.* Валацуга. *Заволот, став тягатыся.*

ЗАВІ′НУТЫ *зак.* Пачаць патрабаваць, прасіць. *Дытына завінула, коб шо далі ля еі.*

ЗА′ВОРОТЫ *мн. экспр.* Дурасць, дурата. *Шо в тыбэ завороты в голові?*

ЗАВЫНУ′ТЫСЬ *зак.* Узяцца шчыра за працу. *Завынувся — хутко взявся і зробыв. Встымка завынулась робыты — взялася шчыро.*

ЗАДЫРА′ЧЛІВЫЙ *прым.* Задзірлівы. *Задырачлівы хлопці.*

ЗАДЭРТОНО′СЫЙ *прым.* Курносы.

ЗАЙТЫ′: ЗАЙТЫ В ГОЛОВУ. Намерыцца. *Кому в голову зайдэ — на пычі найдэ.*

ЗАКАПУ′СТЫТЫСЬ *зак. экспр.* Змарнавацца. *Сэб ты закапустывся* (праклён).

ЗАЛУ′БЫЦІ *мн.* Выязныя сані. *В залубыцях е крыла.*

ЗАМОЗЫ′ЛІНА *ж.* Барвенак. *Замозыліна — колісь звалі барвінок, в городы ростэ, росплітаіцьця, сынім цвітом цвытэ, шэ й ны цвытушчый е.*

ЗАМУТЫ'ТЫ *зак.* Заправіць, затлусціць. *Ныма чым горшка замутыты.*

ЗАПЛА'КАТЫ: ЗАПЛАКАВ МОРОЗ. Пачалося пацяпленне.

ЗАПОВІ'ТРЫТЫСЬ *зак.* Прапасці. *Сэб ты заповітрывся* (праклён).

ЗАПОМО'ГА *ж.* Дапамога. *Давав запомогу — по дэсэть кілограм мукы.*

ЗАПЫВА'ТЫ *незак.* Рабіць заручыны. *В нас обычай такый: як запывают дывчыну, то тягнут стріху і встылают дорогы, гэть на гуліцю выстылют, хат на чотырып'ять, скажут: на чыім дворі натряшано, там запывалі.*

ЗАПЫРХНУ'ТЫСЬ *зак.* Папярхнуцца і памерці. *Хоч ты запырхныся.*

ЗАХЛЫ'СТУВАТЫ *незак.* Запіваць. *Картоплі чясом молоком захлыстуіш.*

ЗБА'ВЫТЫ: ЗБАВЫТЫ СВІТА. Загубіць. *Ты його збавыла світа. Взяв сыбэ збавыв світа.*

ЗБЫЁДАТЫ *зак.* Змарнаваць. *Збыёдав тое тыля, а тылушку я здала.*

ЗВЁНЗЛЫЙ *прым.* Мажны. *Такый звёнзлый, здоровый мужчына.*

ЗГРЫЗЛІ'ВЫЙ *прым.* Сварлівы. *Такая була баба згрызліва, проклінна.*

ЗГУ'ЦЯТЫ *зак.* Зрабіць няякасна. *Абы як згуцяла сальтісона, і тое мнясо просмэргло.*

З'І'СТЫ *зак.* Давесці да нязноснага стану. *Воны з'ідят його.*

ЗЛОДЫЙКУВА'ТЫЙ *прым.* Зладзеяваты. *Злодыйкуватэ дытына.*

ЗМЫГНУ'ТЫ: ЗМЫГНУТЫ ОЧЫМА. Стуліць вочы. *Ны зміг і очыма змыгнуты.*

ЗУДОСЫ'ТЫ *зак.* Сустрэць. *Зудосыла Встымку.*

ЗУДОСЫ'ТЫСЬ *зак.* Сустрэцца. *Дэ мы зудосымося?*

ЗЭ'ЛЯВЫНЬ *ж.* Недаспелы плод. *Зэлявынь упала.*

І'РХА *ж.* Шчаціне ў свіней на спіне. *Ірха — в дыкых свынэй на спыны.*

ЙІСТУВЛІ'ВЫЙ *прым.* Непераборлівы ў ежы. *Йістувлівы поросята — мныго йідят.*

ЙІЧКО' *н. памянш.* Яечка. *Воны з ім, як з вылікон-ным йічком.*

ҚАЛІ'ТЫ *незак.* Бяліць. *В чым піч калю, в тым бога хвалю* (прыказка).

КАРАЧІ'НЬ *ж.* Крывое, непрыгожае дрэва. *Карачіноватэ дэрыво, карачінь.*

КАРЭ'НКУВАТЫЙ *прым.* Каржакаваты. *Монголы — крэпкы люды, воны малыі, такыі карэнкуваты.*

КЕ'МПА *ж.* Востраў (на рацэ). *Кемпы на рыці.*

КЛАК *м. экспр.* Жмут, вельмі мала. *Клак сына осталось — с повкопыці.*

КЛЁКОТУ'Н *м. экспр.* Бусел. *Бусён, бусён, клёкотун, узяв бабу за ковтун, тягав, тягав, волочыв і в помыі намочыв.*

КЛЁЦ *м.* Бервяно. *Клёц — колода, ціла сосна, вжэ обрубана. Возылі клёцы.*

КОЛО'ДКА *ж.* Бервяно. *Шоб так вас прывызлі з ліса, як вітэ колодкы возытэ* (праклён).

КОЛО'ШКАТЫСЬ *незак.* Завіхацца. *Колошкаіцьця коло домы.*

КОЛЮ'ШЧАВЫЙ *прым.* Калючы. *Лопух ны колюшчавый, а чортополох колюшчавый, він од пырыполоху.*

КОПА'Ч *м.* Той, хто капае бульбу. *Як с копачямы наёмнымы, то робылі докопыны.*

КОРЧ *м.* Куст. *Якый корч, такыі лозы.*

КРУЧАНЫ'НА *ж.* Завіруха. *Такая кручанына, так сныг крутыт.*

КРЫВОГО'РЛЫЙ *прым.* Крывароты.

КРЫ'ПА *ж.* Паром. *Крыпа, чы порóн, — шырока й довга, на іі с кіньмы.*

КУБАСА' *ж.* Каўбаса. *Кубас наробыла.*

КУВА'ТЫ *зак.* Падкоўваць. *Куды ты, жабо, лізыш, дэ коны кують, лапы короткы маіш і тыі одоб'ют.*

КУРДЯВЭ'ШКА *ж.* Абгарэлы кавалак чаго-н. *Курдявэшка — подгоріло поліно дэсь в лісы.*

КУСО'К *м.* Кавалак. *Дай божэ пэршым куском удавытысь, но ны другым.*

КУ'ЦЫЙ *прым.* Куртаты. *Оглядывся кýцый, шо хвіст угурів* (прыказка).

КУ'ЧА *ж.* Катух. *Жытте тылячэ — наівся і до кучы* (прыказка).

КУ'ЧКА *ж.* Малая хата. *Кучку поставылі да й жылі.*

КЫТА'ЙКА *ж.* Стужка. *Зложыт андарака з кытайкáмы.*

КЫТРА'ДЬ *ж.* Сшытак. *Кытрадей купыла, буду пысьма пысаты.*

КЫХЫ'КАТЫ *незак.* Кашляць (не моцна). *Кыхыкае — кашляе бы овэчка.*

КЭ'МЛЯТЫ *незак.* Есці, жаваць. *Сіла і кэмляе той хліб.*

КЭ'ПЫЛЕ *н. экспр.* Розум. *Чы е в його кэпыле?*

ЛА'ЙЗА *ж. экспр.* Нікчэмнасць. *Лайза ты!*

ЛЕМЗ-ЛЕМЗ *выкл.* Абазначае захопліванне языком ежы. *Лемз-лемз языком той зубр.*

ЛЁК *м.* Нара, вымытая вадой. *Вода попромывае лёкы.*

ЛІ'ТЮШКА *ж.* Тая, што нарадзілася (з'явілася на свет) у мінулым годзе. *В мынэ тры курыці літюшкы, одна позалітюшка.*

ЛО'МА *ж.* Абломкі. *Ныма ны домы, ны ломы* (прыказка).

ЛУ'ПАТЫ *незак.* Лыпаць. *Сыдыт, лупае очыма, бы голодна сова.*

ЛУТЫ'К *м.* Драўляны посуд з аднаго кавалка дрэва. *Лутык — вылі́ка колодка выдовбана, всырэдыны око, чырыз око сыпалі збіж; мныго всыпліш в його, він лыжяв.*

ЛЯ'ЧЫК *м.* Старадаўняя мера вагі. *Лячык — п'ять хунтув.*

МАЛЕ'НСТВО *н.* Малеча. *Такое маленство.*

МА'НЬКА *ж.* Левая рука. *Манька — гэто ліва рука. Він манькою робыт.*

МАНЬКУ'Н *м.* Ляўша. *Манькун манькою робыт.*

МАХТАЛА'ТЫ *незак.* Матляць. *Корова махталае хвостом.*

МЛОСЦЬ *ж.* Млоснасць. *Млосць по ногах ходыт.*

МЛЯ'МКО *прысл.* Нудна. *Мыні млямко.*

МЛЯ'МЧЫТЫ *незак.* Нудзіць. *Мынэ млямчыт.*

МО'ВА *ж.* Гутарка, размова, гаворка. *Там в Рогачовы такая мова. Мову завылі. Ны мовы, ны ґло́вы.*

МОЗЫ'ЛЬ *м.* Вузел. *Вона взяла сым мозолів нав'язала на ленточку і кажэ: йды нав'яжы на слівку, то слівка всохла, а мны опырацыю робылі.*

МУДРОВА'ТЫ *незак.* Жартаваць, бавіцца. *Дыты мудрують, бавацця. Хлопці, дывчята мудрують, бавацця. Ты всё мудруіш.*

МУ'ДРЫ *мн.* Жарты. *Дэсь кажут «жарты», а в нас «мудры».*

МУРШЫ'ВЫЙ, МУРШЭ'ВЫЙ *прым.* Трухлявы, спарахнелы. *Муршывэ (муршэвэ) дэрыво.*

МУРШ. *м.* Парахня. *Муршывэ дэрыво, мурш.*

МЫРЛІ'НЫ *мн.* Хаўтуры. *Була на мырлінах.*

МЫРОВЫ'Й *прым.* Тыповы. *Гультяй мыровый — лыка ны зв'яжэ.*

МЭ'РШЧЫНА *ж.* Хаўтуры. *Тыхо, як мэршчына.*

НАБУ'РЫТЫСЬ *зак.* Насупіць бровы. *Чого ты набурывся?*

НАГАНУ'ТЫ *зак.* Нагадаць. *Вона наганула, а він пойняв.*

НАДОКУ'РЫТЫ *зак.* Надакучыць. *Він ім надокурыв.*

НАКАНУ'НІ *прысл.* Перад смерцю. *Ужэ накануні була.*

НАПЫРЫСПЫХЫ' *прысл.* Навыперадкі. *Колісь у нас напырыспыхы біглі, хто пэршый зажнэ.*

НАРВА'НЫЙ *прым.* Запальчывы. *Нарваный — вэльмы сэрдытый, по-руску — вспыльчывый.*

НЫ *часц.* Не. *О ны, так ны будэ.*

НЫБУРАЧЫНЯ' *н. экспр.* Дзіця. *Ныбурачынята быжат за ім.*

НЫВІ'ДЬ *прысл.* Немаведама. *Нывідь шчо говорыт.*

НЫВІ'ЛНЫЦЯ *ж.* Злосць, лютасць. *Будэ оно нывілныця, злысьць.*

НЫВЫ'ЛАЗОМ *прысл.* Бесперапынна. *Турістув тут у пушчы нывылазом.*

НЫВЫСНА'Я *ж.* Сляпая жанчына.

НЫДОЛУ'ГУВАТЫЙ *прым.* Недалужны. *Ныдолугуватый — ны шыты, ны спороты.*

НЫДОПІ'Р'Е *н.* Недарэка. *Тая дывчына — такое дохлэ ныдопір'е.*

НЫМА'Ш *прысл.* Няма. *Дочкы нымаш — і зять ны наш.*

НЫЧУГА' *м.* і *ж.* Недарэка. *Такая нычуга, шо більш, як раз, ны гляныш.*

НЫЯКІ'ВСЬКЫЙ *прым.* Аніякі. *Посныця, в іі нымаш ныяківськыі вкрасы.*

НЮ'ХТЫКА *м* і *ж.* Паганец. *Такая сволоч, такая нюхтыка.*

НЯ'КОСЬ *прысл.* Нёяк. *Някось зроблю.*

ОБВЫНУ'ТЫ *зак.* Абкруціць. *Взяла ленточку, пальця обвынула.*

ОБРАТА'НТ: ЗДОРОВЫЙ ЯК ОБРАТАНТ. Пра чалавека атлетычнага складу.

ОБТЯ'ЖЫТЫСЬ *зак.* Ператаміцца. *Як обтяжысся чы пудорвэсся, то е порушэныць, зылле такое.*

О'ГНЫК *ж.* Запаленне скуры. *Як огнык, то бырут жяр і чырыз оголле прыхают водою.*

ОГНЯ'ЧКА *ж.* Запаленне. *Коб тыбэ огнячка взяла* (праклён).

ОГОТОВА'ТЫ *зак.* Падрыхтаваць, угаварыць. *Оготовав він мынэ.*

О'ГРАД *м.* і *ж.* Веліч, гмах. *Корова — оград: такая товста, оградліва.*

ОГРАДЛІ'ВЫЙ, ОГРА'ДНЫЙ *прым.* Велізарны. *Корова такая товста, оградліва. Такый оград, такый оградный бычок.*

ОДНОБІ'ЧНЫЙ *прым.* Аднабаковы. *Е ячмінь, колос однобічный.*

ОЖМЫНЫ'ТЫ *зак.* Наверадзіць у час жніва. *Пэршый дэнь ны трэба вылікы жмыні браты, бо руку ожмыныш. Як ожмыныш руку, то суконнью ныткью зав'язувалі чы ліныллом од гадюкы або ужя.*

ОЗНАЙМЫ'ТЫ *зак.* Паведаміць. *Ознаймыла мны, шо прыідэ.*

О'ПРУЧ *прысл.* Апрача. *Опруч ныток я шэ шо куплю.*

ОПЫ'ТУВАТЫСЬ *незак.* Вітацца за руку. *Бачу, опытуюцьця воны.*

ОТІ'СОК *м.* Атоса. *Отісок — іх два в возовы.*

ОТПАЛЁВУВАТЫ *незак.* Спароўвацца. *За Польшчы свыны ходылі в ліс, то бувае, шо отпалёвувалі свыны з дыкымы.*

ПАЗЮ'Р *м.* Ногаць. *Мало — на сыній пазюр. Ныма правды на сыній пазюр.*

ПАЛА'ГЫ: ПАЛАГЫ ЗБЫТЫ. Уціхамірыць. *Я вам однуй і другуй палагы зоб'ю, обое успокою.*

ПАЛЬ *м.* Межавы слупок *Морда — хоть палі бы.*

ПА'НШЧЫНСЬКЫЙ *прым.* Паншчынны. *Гэто шэ паншчынська пісня.*

ПІ'ДРУКЫ *мн.* Падпахі. *Воды по самы підрукы.*

ПЛЫВСТЫ' *незак.* Плыць. *Ой, чы якая доля ліхая, плынь на морэ з водою, плынь ты на рікы, згынь ты навікы, ны плывы ты зо мною* (з песні).

ПОВО'Д *м.* Вывадак. *Мацёра два поводы поросят водыла.*

ПОВОЛО'КА *ж.* Ніва. *Ой, чыя ж то поволока такая довга, шырока* (з песні).

ПОГА'РДУВАТЫ *зак.* Заганарыцца. *Погардувалі, ны схотылі істы мого кысылю.*

ПОГНЫ'ВНЫЙ *прым.* Той, які можа расці толькі ў вільготных месцах. *Грыб погнывный, тылько в стыках ростэ.*

ПОГОВІ'РНЫЙ *прым.* Гаваркі. *Такый поговірный чоловік.*

ПОДОБА'ТЫ *зак.* Упадабаць. *А я його полюбыла, а він мынэ подобав* (з песні).

ПО'ДЮС *м.* Прасніца. *До подюса прыв'язуют кудэлю. В подюсовы дынныщчэ, дэ сыдыты.*

ПОЗАГУ'ШШУ *прысл.* Патаемна, скрыта. *Я ны люблю позагушшу говорыты.*

ПОЗАШЛЕ'ЙБУВАТЫ *зак.* Пазабруджваць. *Позашлейбуют рубашкы.*

ПОКЛАДОВЫ'ТЫ *зак.* Пакласці спаць. *Покладовлю дыты.*

ПОКЫРОВА'ТЫ *зак.* Накіраваць. *Господь його покыровав такое зробыты, вжэныв ся.*

ПОМЫНТА'ТЫ *незак.* Памятаць. *Ны помынтаю, мны і ны в голові.*

ПОНАДРІ'ЧЧУ *прысл.* Над ракой, каля ракі. *Понадрічну строілісь, а тыпэр божкают, богкают, бо вода.*

ПОНО'ВА *ж.* Снежная цаліна. *По поновы йіхалі, сныг выпав.*

ПО'ПУСКОМ *прысл.* Павольнай хадой, адначасова пасучыся. *Пастух скотыну попуском погнав.*

ПОРО'БКЫ *мн.* Чары. *Казалі, шо тыі поробкы действуют, шо воны робылі.*

ПОСКА'РЖЫТЫСЯ *зак.* Паскардзіцца. *Поскаржылася батьковы.*

ПОСМУТЫ'ТЫ *зак.* Засумаваць. *Тыі дыты посмутылі.*

ПОТОПЛЕ'ННЫК *м.* Тапелец. *Раньшэ потопленныка ны хавалі на могліцях.*

ПОТО'П *м.* Затапленне. *Сныг ростанэ, то потопы будут.*

ПОТРА'ВА *ж.* Страва. *Дэвыть потрав трэба на коляду.*

ПОТУ'РА *ж.* Патуранне. *Батько ны дав потуры. Далы йому потуру.*

ПОХО'ЖЫЙ *прым.* Падобны. *Похожый — каплі позбырав.*

ПОЧУ'ГАТЫ *зак.* Памазаць. *Квочом почугае вісь.*

ПОЧЭ'СТКА *ж.* Частаванне. *Твоя почэстка мны ны трэба, хоч частуй, хоч ны частуй.*

ПО'ЯЗД *м.* Цягнік. *Тут автобусом, а з Бэрыстя поїздом поіхалі.*

ПРА'ВЫТЫ *незак.* Апавядаць. *Мны свыкруха гэтэ правыла.*

ПРОТОБА'ШНЫЦЯ. *ж.* Скураны мяшочак для тытуню.

ПРОШЫБНУ'ТЫСЬ *зак.* Памыліцца. *Прошыбнэсься, нышчясна.*

ПРЫБЭ'ЦЬКАТЫ *зак.* Прывесці. *Прыбэцькала коня за грыву і завыла в хлів.*

ПРЫ'ВЫЗНЫНА *ж.* Мяккія адходы валакна пры часанні ільну.

ПРЫЖДА'ТЫ *зак.* Дачакацца. *Страшно ночы прыждаты. Коб ты прыждав мого жыття* (праклён).

ПРЫНЫМУ'С *м.* Прымус. *Под прынымусом робылі, заставлялі робыты.*

ПРЫОРА'ТЫСЯ *зак.* Даарацца. *Орэ Сымін, орэ Сымін да прыорався до долу* (з песні).

ПРЫПУ'НА *ж.* Меры стрымлівання. *Ныма ім ныякыі прыпуны.*

ПРЫСВІ'ТНЫЙ *прым.* *Вольны* (пра час). *Ны маім прысвітныі годыны.*

ПРЫСТАСОВА'ТЫ *зак.* Прыстасаваць. *Однэ к другому трэба прыстасоваты.*

ПРЫСТУ'ПЫ *мн.* Прымы. *Пошов у прыступы.*

ПРЫСТЫ'НОК *м.* Прыбудова. *С прыстынком хата.*

ПРЫТІПА'ТЫСЬ *зак. экспр.* Прыйсці. *Прышов, прышов, прытіпався, дала боршчу — нахліпався* (з песні).

ПРЫТУ'ЛЬ, ПРЫТУ'ЛІЧ *м.* Прымак. *Прытуль (прытуліч) з-за пушчы.*

ПТАШЫ'ННІЙ *прым.* Птушыны. *Пташыннёго молока, то нымаш.*

ПУДГОЛО'ВНЫЙ *прым.* Які кладзецца пад галаву. *Пудголовна подушка, под голову* (у адрозненне ад падушкі, на якой спалі).

ПУДГЫБА'ТЫ *зак.* Падагнуць. *Прышов, сыв коло мынэ і ножэнькы пудгыбав* (з песні).

ПУДСТА'ВЭЦЬ *м.* Невялікі цэбар. *Пудставэць — малый цэбор.*

ПУЛЬВЫНА' *зборн.* Мясцовасць ад Каменца і Брэста на ўсход у бок Пінска, дзе мала лесу і балот, многа палёў. *Пульвына, полюхі — Дмытровычы і далей; мы іх так звэмо, а воны нас — багнюкы́, багню́чка, лісовы́і люды. І за Кобрэнь Пульвына, але мы найліпш знаімо тут,*

*од Дмытровыч на Камынэць, до Бэрыстя. Вона з глібокыі Пульвыны, там полюхы.*

ПУЛЬНУ'ТЫ *зак. экспр.* Кінуць. *Як схватыла вона тую кружку, так і пульнула ёму.*

ПУЛЬНЯКЫ', ПО'ЛЮХЫ *мн.* Жыхары *Пульвыны* (*гл.* Пульвына). *У пульняків, у полюхах купылі.*

ПЫ'МСТЫВЫЙ *прым.* Мсцівы. *Такый пымстывый чоловік.*

ПЫРЫДРЯ'ГА *ж.* Непагадзь. *Пырыдряга — і дошч, і слота, і сныг.*

ПЫРЫМОГТЫ'СЬ *зак.*Ператаміцца. *Втомылась, пырымоглась Марыля.*

ПЫРЫПЫВА'ТЫ *незак.* Дарыць маладым на вяселлі. *Пырыпывайтэ кіньмы, воламы і золотымы долярамы* (з песні).

ПЫРЫСТРІ'НУТЫ *зак.* Дагнаць і перагарадзіць дарогу. *Мотоцыклём його пырыстрів, ны зміг і очыма змыгнуты.*

ПЫРЫТРУБЫ'ТЫ *зак.* Пагубляць. *Я всы голкы пырытрубыла.*

ПЫРЭ'РОДОК *м.* Чалавек, які мяняе сваю нацыянальную прыналежнасць. *Пырэродок — був однэі нацыі, зарэ другэі, так можэ й трэтіі статы.*

ПЫРЭ'СЛЮГА *ж.* Грузкая мясціна. *Там будэ такая пырэслюга, пырэрва, ны пройты. Пырэслюга — шэ до рыкы, там гонылі скотыну, там зброджано.*

ПЫСКУТЫ'ТЫ *незак.* Пішчаць. *Мышы пыскутят.*

ПЭ'КАНЫЙ *прым.* Спечаны. *Пэканы картоплі чомся добры.*

РАПОВА'ТЫЙ *прым.* Камяністы (пра зямлю). *Раповата зымля.*

РОЗВІ'ТРЫТЫ *зак.* Праветрыць, асвяжыць. *Йгнат, пуйдыш голову розвітрыш.*

РОЗВЫННЯ'ТЫ *незак.* Развіднецца. *Розвынняе, чуть світ.*

РОЗДЯГА'ТЫСЬ *незак.* Распранацца. *Буду роздягатысь, ныкуды вжэ ны пойду.*

РОЗМАЗДРЫ'ТЫ *зак.* Размажджэрыць. *Я тобі голову розмаздру.*

РЫ'ЖЫЦЯ *ж.* Цела хваста. *Рыжыця — жывый хвіст.*

РЫ'ШКАТЫ *незак.* Шукаць лычом ежы (пра свіней). *Поросята рышкают в соломы.*

СІ'ЛКО *н.* Вёсачка. *В нас сілка маленькы.*

СКЫ'ПКА *ж.* Лучына. *Скыпкы — рубана лучына, а лучына — пэнь.*

СЛІЗА'ТЫСЬ *незак.* Слязіцца. *Як слізацця очы, то трэба орабу, сліпоты курячыі і румінцю.*

СЛІМАЗА'РНЫЙ *прым.* Мізэрны. *Слімазарныі ныткы ныма.*

СЛОТА' *ж.* Непагадзь. *Будэ шчэ слота, колі жовтобрушка літыт под стрыху.*

СМОК *м.* Цмок. *П'ют пыво, як смокы.*

СМОРКНУ'ТЫ *зак. экспр.* Выпіць *Корова трохы сморкнула воды і знов у хлів.*

СНУЗ *м.* Чарада. *На горі цілый снуз кныгув.*

СОРОМНО' *прысл.* Усё роўна. *Соромно він прыдэ.*

СПОРЫ'Ш *м.* Нячысцік. *Казалі, котора баба занімаіцьця чародействoм, то до іі пташка такая прылітае, спорыш зовэцьця, то чорт, казалі, вона говорыт з ім у комын.*

СПРАВЛЯ'ТЫ *незак.* Святкаваць, адзначаць. *Пастухы справляют Юр'я, збыраюцьця на болоты, роскладают огонь, йіечню пычут.*

СПРУ'ТА *ж. экспр.* Пагібель. *А коб на вас понаходыла спрута* (праклён).

СПУСКА'ТЫСЬ *незак.* Разлічваць (на дапамогу). *Я на тыбэ ны спускаюсь, сама роблю.*

СПЫВА'ЛЬНЫК *м.* Спявак. *Хорошэ спывают нашы спывальныкы.*

СПЫРТЫ' *зак. экспр.* Загубіць. *Коб тыбэ кілка спырла* (праклён).

СТАНКІ'ВКА *ж.* Грубка. *Буду станківку топыты.*

СТАРА'ЙЛІВЫЙ *прым.* Старанны. *Коля — выкапаный дыд, такый старайлівый.*

СТА'РЫТЫСЬ *зак.* Састарыцца. *Старывся — мало парывся.*

СТОВПО'М *прысл.* Адзінока. *Стала сама жыты стовпом в літях молодых.*

СТРАНУ'ТЫ *зак.* Страсянуць. *Странула грушу.*

СТРА'ТЫТЫ *зак.* Пазбавіць жыцця. *Хотылы его стратыты. Була беременна, да стратыла.*

СТРАХОПУ'ДІЕ *зборн.* Баязліўцы. *Страхопудіе — вороб'і.*

СТРЫМІ'ТЫ *незак. экспр.* Знаходзіцца. *Всё жыттє в лісі стрымілі.*

СТРЯ'ГНУТЫ *незак.* Гразнуць; лёгка ўціскацца ў што-н. *Там пальці стрягнут. Скотына по коліна стрягнэ.*

СТРЯ'ПКА *ж.* Вузенькі ручнік для рук. *Полотно на страпкы. Повісыла стряпку, вытырай рукы.*

СТЭ'ЖОР *м.* Стажар. *Стэжор — тычка, шо посырэдыны стога, шоб рівно вывысты стога.*

СЫ'ЛНЫЙ *прым.* Спорны. *О, якая сылна туча.*

СЫНОКО'С *м.* Сенажаць. *Сынокос — і собака ны хочэ спаты, ны то шо скотына йісты.*

СЫ'ТЫЙ *займ.* Гэты. *У нас більш скажут «гэтый», алэ скажут і «сытый».*

СЯХОТЫ'ТЫ *незак.* Зззяць. *Зоры сяхотят.*

ТАНЦЮРІ'СТ *м.* Танцор. *Збродыв чырывыкы танцюріст за дэнь.*

ТОХ-ТОХ-ТОХ *выкл.* Стук-стук-стук. *Тітка ключкою тох-тох-тох.*

ТРІ'ПНУТЫ *зак.* Страпянуцца. *Упав мэртвый і ны тріпнув.*

ТРІ'ШЧЫТЫ *незак.* Лупцаваць. *Давай його тріщчыты тым кыём.*

ТРУ'ЯНЫЙ *прым.* Атручаны. *Ходыт, як труяна рыба.*

ТЫ'ЦЯТЫ *незак.* Рабіць што-н., пераходзячы з месца на месца. *Катырына Грыцёва по городы тыцяла, побачыла Яся — за бокы взялася.*

ФІ'РМА *ж.* Ферма. *Вона робыт на фірмы.*

ХВАЛЕ'БНЫШ *м.* Хвалько. *Ны хваліся, хвалебныш!*

ХВОРОВІ'КУВАТЫЙ *прым.* Хваравіты. *Вона хворовікувата, всё хвора й хвора.*

ХЛОП *м. экспр.* Мужчына. *За добрым хлопом добрэ і под плотом* (прыказка).

ХЛЮШЧ: МОКРЫЙ ЯК ХЛЮШЧ. Вельмі мокры.

ХМЫЛЬНУ'ТЫ *зак.* Шмыгнуць. *То туды хмыльнув, то туды хмыльнув, а на місці його ныма.*

ХНЫ'ТЫ *незак.* Працягла хварэць. *Кажна корова в його гэты рокы хные, хные і пропадэ.*

ХЫМЭ'РЫНЫ *мн.* Капрызы. *Воны за ім як вылыконнэ йічко, а він ім тыі хамэрыны показуе.*

ЦВЯХ *м.* Цвік. *Здоровый, як цвях.*

ЦІЛЮЛЯ'ТЫСЬ *незак.* Швэндацца. *Цілюляіцьця позауголлю.*

ЦЮ'РЫ *мн.* Дробныя кавалкі. *Тарелка розбылась в одны цюры.*

ЧО'МСЯ *прысл.* Чамусьці. *Чомся ны прышов.*

ЧУВО'Н *м.* Човен. *Чувон выдовбаный, а лодка з досок.*

ЧУЖЯ'ТЫСЬ *незак.* Станавіцца чужымі. *Ны чужяй-*

*мося, покохаймося, мое мылое сэрце* (з песні).

ЧУРХНУ'ТЫ *зак.* Чыркнуць. *Чурхнэш запалкою по кіёвы — і він загорыцьця.*

ЧУСТРЫ'ТЫ *незак.* Церці. *Чустрыш кій по кіёвы, і він станэ гарячый.*

ЧЫКЫНДА' *ж.* і *м. экспр.* Кульгавы чалавек.

ЧЫРЫМШЫ'НА *ж.* Чаромха. *Садыла на сыну чырвону каліну, а на нывістоньцы білу чырымшыну* (з песні).

ШКОДЮ'Х *м.* Шкадлівец. *Такый шкодюх гэтый кіт.*

ШКРА'МЫНЬ *м.* Крэмень. *Крысало — тры шкрамыні і губка помыз двума.*

ШЛО'ІТЫ *незак.* Плявузгаць. *Шлоіт абы шчо.*

ШПУРГІ'ТЬ *выкл.* Бразь. *Тарелку шпургіть пуд поріг.*

ШПУРГЫТА'ТЫ *незак. экспр.* Кідаць. *Шпургытае всё, тое туды, тое сюды.*

ШТЫ'БНО *прысл.* Модна, прыгожа. *Штыбно ткалі.*

ШУГЫ'ТЬ *выкл.* Бразь. *За тыі половыкы, шугыть, повыкыдав.*

ШЧОРО'КУ *прысл.* Штогод. *Частыі дыты: шчороку до боку.*

ЯДКЫ'Й *прым.* Смачны (пра траву, сена). *Ядкое сыно, коровы добрэ йідят.*

ЯЛОВНЫ'К *м.* Ялавая карова. *Продам гэтого яловныка.*

ЯЛОВЭ'ЦЬ *м.* Ядловец. *Яловэць у квіты разом, свянцоны, на Йвана посвятят, встромлюют в стріху, прыдут і встромат, гэто од грому.*

Я'ТЁЛ *м.* Дзяцел. *Ятёл рабый ны раб'ячы* (з песні).

ЯМЛІ'ТЫ *незак.* Прагнуць. *Ямліт мотоцыкла купыты.*

## КОЗАКЫ НА ВЫСЫЛЛІ

На высыллі жывэ п'ять козаків. Вэ́рхамы йідут, на сёдлах, коны осы́дланы. Цвыткы́ коло шапо́к, з лентамы, ленты ззаду (на шапка́х) вітёр односыт, цвыткы напыро́д, а ленты ззаду. Ручныкамы пырыпоя́саны вы́шытымы, на концях кру́жыва, на ручныках. Одінаковы косьцюмы клалі, рубашкы́ білы. П'ять козаків: два спэ́роду, тры ззаду — йідут. Попыро́д молоду́хы йідут, як мо́жут узяты. Молоду́ха одйіжджа́е вынчатыся і козакы одйіжджают. Зайідут под цэркву, собшча́т, шо молодуха йідэ,

окóла цэрквы обйідут, завэ́рнуцьця і йідут навстречу до молодэі. Розвэ́рнуцьця і пырыд молодэю, і йідут до цэрквы, два спэ́роді, тры ззаді. Прыйідут до цэрквы, станут коло хурманкы тэі, шо йіхала молодуха, коны прыв'яжут. Козакы вводят молодуху в цэркву, а самы ждут. Ідут в цэркву, два спэроду, тры ззаду, за імы молодуха з молодцём, коло молодця пóмолодый, коло молодухы дрýжка. Як звынчялісь, то козакы знов йідут попырод молодых, шо сы́лі, два спэроду, тры ззаду. Йідут до молодоі, до хаты, собшчают, і знов назудóс до молодых йідут. І знов провожают молодых до домы, але попырод йідут. Послі коны роспраглі. А послі запрагают тыі коны.

А як бідна молодуха, то могло буты тры козакы́, одын спэрэду, два ззаду.

## ЖЫТНЯ ПЭРЭПІЛКА

Дожалі жыто, робат квітку з жыта, додому нысут і спывают:

Дожяла жыто, выгнала вовка.
В мого господаря́ сыва головка.

А жмэню жыта остáват на полі, дэ в сторонí. Гэто — пэрэпілка. Кылька стэ́блюв жыта там. Клалі камінчыкы, камінчыкамы обгородят тую пэрэпілку. Встрóмыт туды кыя, кыёчка воткнэ́ чы óраба голя́ку. І сядэ і поле тую пэрэпілку. Як обжынают, то спывают:

— Вылітай, пэрэпілко,
Бо в мынэ вжэ жыта тылько.
— Я ны буду вылітаты —
Я тут буду зымоваты.

Як почынае полоты, то пэрэпілку пырыхрыстыт. Як поле, то спывае:

Мы пшэныцю пололі,
Ручкы поколоті,
Коровая ны кушалі.

Выполе всю травы́чку, коб була чыста зымля. Ополовшы (і огородывшы), убырэ цвітамы, квыточкáмы, зы́лля пов'яжэ, красівымы тряпкамы, шоб красіво було. Значыт — хозяін убрав. Вжэ пэрэпілку зловылі. Вжэ пэрэпілка стоіт. Убырэ пэрэпілку, ополовшы, położыт хлі-

ба кусочок і водою, рукою на долоню зыльйе і покро́пыт на́крыж.

Квітку тую святят. А як почынают сыяты, то жыто обоб'ют. А стэбло́ встро́мат на полі, дэ почынают сыяты.

А тая пэрэпілка з жыта так і остаецьця на полі, овычкы́ її пола́мат.

*Нікіцюк Параска Аляксееўна, 1911 г. нар.*

## ПАВЕР'І, ЗВЫЧАІ

Вона стала говорыты, а спорыш, гэто чорт, ударыв тую чародейку, вона впала і ны одозвалася ны слова; мусыт її такая робота, шо ны можна говорыты — так колісь росказувалі.

В чытвэр на высыллі орут прыпычка, постронкы бырут, плуга, бычя, лейці, одного мужыка за коня запрагают, одён з одного боку прыпычка, другый — з другого; ны розорут ёго, а вжэ горілку пылі.

Казалі, як быз вычэры ляжэш, то цыган прысныцьця. Можня купатысь, як зозуля закуе. Русалка — як рыба, по тых морях загранычных. Собакы выют, скавычат на пожяр, на войну, на смэрть. Уголёк вылітыв — госты прыдут. Як блудыт, то, казалі, злый водыт. Як пальця насторчыш, то чырыз поріг пырытягаты трэба. Як попрощчаюцьця і одйїжджают, то трэба трохы впырод, после трохы назад, то жывый вэрнысся.

## ПРАКЛЁНЫ

Ёму трэба чыстоту, а коб ёго счыстыло з гэтого світа. Коб вашэ слово вітёр розныс. Сэб тыбэ міра ны знала. Хай вітэ рукы позбыраітэ на сыбэ, як мы збыраімо. Хай ім на лікарство тыі грошы. Хай тобі на лобу чорты напышут, як ты пышэш.

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, УСТОЙЛІВЫЯ ВЫРАЗЫ

Бідный — як стоіт. Він — обрубай рукы, ныць ны вміе. Вырос лён — жабы по око. Глядыш, як ока в лобі. Дывыцьця, бы баран на воду. Дэ гай, дэ май, чорт чорта познав да на пыво позвав. Дэсять місяці прожыла, а потом слёзы пыла. Зароблю, як Заблоцькый на мылі. Здо-

ровый, як зруб. Здоровый, як зубр. Колісь булі хлопці, як лід. Колісь казалі: быз Бога ны до порога, а з Богом хоч за морэ. Коляды — пошлі слугы на гряды (на каляды разлічваліся за працу з парабкамі, наймітамі). Ліс — то есть біс (тяшка робота в лісы). Мае око на ii (падабаецца яна яму). Мняхкый, хоч шый ім. Наварыла ты булёну — нэбо выдно, ны днэі цятыны ныма. На похылэ дэрыво всы козы скачут. Ны дай, Божэ, шмат грошы і жінку хорошу. Ны догоджу ны тылом, ны дылом. Ны одён Марко в пэклі. Ны світа, ны нэба ны выдно. Очы як у рыбы. Плюнь на жабу — ныхай далей скачэ. Под лыжячый камынь вода ны подбыжыт. По лыкоть руку одрубаты дала бы, шо то правда. Потрібный був, як чортовы постолы. П'яный, бы лыко. Сама собі, коб достала, то лыкті грызла бы. Сова ны вродыт сокола, а такого чорта, як і я. С п'яным говорыты, то трэба кусок мыла ззісты. С сыном быся і за стыл дывыся, а з зятём быся і на двэры дывыся. Сынокос — і собака ны хочэ спаты, ны то шо скотына йісты. Сыно чорнэ, як зымля в мулі. Сюды повырныся — стына, туды — стына, ныгдэ ныма стыгна. Трэба вона мны, як вода. Тыхо, як у вуховы. Хай бы була зыма, абя чорна стопа. Хвороба входыт пудамы, а выходыт лутамы; лут — одён грам. Хотыв так сюда йты, як у жару пыты. Хоч за кота, альбы за батьковы ворота. Чужую быду пальцём розвыду, а в своюй і толку ны найду. Чыі бычкы ны скакалі, а тылятка моі. Чы ты робы й порвыся, чы ты на сонце дывыся. Шо с пыром, то ны с топором. Як з йіця, так і до конця. Як кіт наплакав. Як на сто коны сылы. Як сыдлают, то гладят, осыдлают, то бычом дадут. Як у льновы наростэ лібыда, то нывылікая быда, а як дросён, то дойдэ до кросён, а як жытыця, то лён знытыцьця.

*І. І. Крамко*

## МАТЧЫНА СЛОВА*

АБГАСА'ЦЬ *зак.* Абгойсаць. *Грыбоў ма́ло цяпер. Я ўчора абгасаў усе Бярштаны, а нічо́го ні назьбіраў.*

АБЕ'ДЗЬЕ *н.* Адходы пры веянні зерня, у якіх многа перабітай саломы і нявымалачаных каласоў.

* У артыкуле падаюцца словы, якія зафіксаваны ў вёсцы Бераж-на Карэліцкага раёна.

АБШНЫ'РЫЦЬ *зак.* Абшнарыць. *Ад яго нічо́го ні схава́яш, бо апшнырыць усе закаву́лкі і зна́йдзя.*

АЁЦ *выкл.* Ужываецца пры адганянні парасят, тады як «усь!» — пры адганянні дарослых свіней.

АКА'ЛЕЦ *м.* Слой хлеба, які разам са скарынкай адстае ад асноўнай часткі бохана. *У яе ніколі хлеп ні ўдаецца, заўсюды ака́ляц на па́ляц, а мякіш хоць у сьцену пуляй.*

АПЫ'НІШЧА *н.* Прыстанішча. *Ён мно́го работ памяняў, а апынішча сабе ні знайшоў.*

АСМЫ'ЧЫНЫ *мн.* Адходы пры часанні ільну. *Спрадзём кужаль, а потым трэба бу́дзя і гэтыя асмычыны нек скруціць, хоць на мяшке́ згадзяцца.*

АСЯРО'ДКАВАТЫ *прым.* З вялікім асяродкам і малой абалонай. *Рэжучы дрова, асяроткаватыя куске́ аткідай, можа вы́бярам на клёпкі.*

А-ТА-ТА і А-ЦІ-ЦІ *выкл.* Ужываецца як вокліч пры біцці або імітацыі біцця дзіцяці. *Вот табе! А-та-та!*

АТАТУ'РЫЦЦА *зак.* Разленавацца. *Спачатку ён ахво́тно бра́ўсё за ўсялякую работу, а потым нек ататурыўсё і нават на людзі ні паказваяцца.*

АШЧА'ПАК *м.* Шчэпка. *Як я сек дрова, велькі ашчапак адляцеў і даў мне па назе.*

БАХУ'Р *м.* Падшыванец, жэўжык. *Разгуляліся нешто сёння бахурэ́ гэтыя, што і нам, старэйшым, німа спакою за імі.*

БАЦУ'К *м.* Пацук. *Як толькі надыходзіць зіма, бацук шука́я сабе прыстанішча ў будынках.*

БІ'ТКА *ж.* Яйка, выйгранае ў велікоднай гульні, якая называецца цюканне, яйка, якое аказалася пабітым.

БЛЭ'НДАЦЦА *незак.* Швэндацца. *Люблю ў сьвяточны дзень блэндацца па тых мястах, дзе яшчэ пастухом хадзіў.*

БОЎТ *м.* Доўгі кій, якім рыбакі выганяюць з-пад кустоў і водарасцяў рыбу. *Ты лепш таўчы баўтом пад куст, то, можа, і сома вытурыш.*

БУХІ'КАЛА *м.* і *ж.* Той, хто многа кашляе. *Бухікало гэ́таё цэлу ноч сам ні спаў і другім мяшаў.*

БУХІ'КАЦЬ *незак.* Кашляць. *Ён нахлепчацца халоднаі вады і потым бухікая бясьпярастанку.*

БЭ'ЙСАЦЬ *незак.* Пляткарыць. *Калі сама ні ведаяш, то ні бэйсай абы-чаго.*

ВЕ'РАЦЕНЬ *м.* Вератнік, гоні. *Гэты верацянь ты даары, а тагды дай каню аддыхнуць.*

ВЕСЯНЧУ'К *м.* Ягня вясенняга акоту. *Як паша добрая, дак бывая, што вясянчуке ў росьці даганяюць асянчукоў.*

ВУ'ЗГАЛАЎЕ *н.* Пярэднія канцы палазоў у санях, звязаныя вязам у адно цэлае. *Ты гальля даляй за вузгалаўё ні высоўвай, бо будзя даставаць да ног каня.*

ВУ'НЬДЗЯКА *прысл.* Вунь там.— *Ты ні бачыў, дзе мая карова? — Вуньдзяка ў лазе схавалася ат аваднёў.*

ВЫ'ЛЕХЧАНЫ *прым.* Кастрыраваны. *Як будзяш купляць парасята, глядзі, каб япручок быў выляхчаны, ато ў нас німа каму гэтым займацца.*

ВЫ'ЛЕХЧАЦЬ *зак.,* ЛЯХЧА'ЦЬ *незак.* Кастрыраваць. *Як трохі падрастуць, усіх япручкоў трэба будзя выляхчаць.*

ВЫСТРЭ'НЧВАЦЬ *незак.,* ВЫ'СТРАНЧЫЦЬ *зак.* Спраўляцца, паспяваць, справіцца. *Ты трохі памалей кладзі вос, бо я ні выстранчу зграбаць сено і падаваць.*

ВЫ'ЯДРЫЦЦА *зак.* Распагодзіцца. *Зранку кругом было зацягнуло хмарамі, а посьлі полудня выядрыласё, ні хмаркі.*

ВЭ'РГАЦЬ *незак.* Вякаць. *Ні вэргай ты і ні надаядай! Як трохі аслабанюсё, дак зраблю.*

ГАЛАМО'ЎЗА *ж.* Так называюць бязрогую ад прыроды карову.

ГРАБАВІ'ЛНО *н.* Грабільна. *Гэта копка ні вёлькая, давай на грабавілнах папробуям пяранясьці.*

ГРУПЯКА' ДАЦЬ. Кухталя даць *Ні лесь да больша-го, ато дасьць групяка ў плечы і носам зарыяш!*

ГЫ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць гусей.

ГЭ'ПАЛА *м.* і *ж.* Грубы, нехлямяжы чалавек. *Ён ці павёрняцца, ці слово скажа, дак відаць, што гэпало нёкаё.*

ДЗЕЙ-БАЙ *м.* Байка, няпраўда. *Яна то мне гаварыла, што старалася ўсё як трэба зрабіць, але гэто дзейбай.*

ДЗЯРБУ'Н *м.* Той, хто драпаецца. *Калі ён такі дзярбун, то яму трэба нохці пазразаць.*

ДНУ'ШКА *м.* Донца. *Каб лішне не выкіпаў, ты накрый чыгунчык днушкам ат пабітаго гаршка.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* Смактаць. *Зрабі суслу ды няхай дундзіць, то можа трохі памаўчыць.*

Е'ЛКА *ж.* Палявы хвошч. *Падзі нарві сьвіням с кошык елкі!*

ЖАЎТА'ЧКА *ж.* Жаўтуха. *Мне яшчэ было шаснаццаць нядзель, як мой бацько памёр ад жаўтачкі.*

ЗАГЛА'ДУХА *ж.* Здаровая, гладкая жанчына. *Ні дзіво, што яна такая згладуха: ні ў чом ні пяраробіць.*

ЗАМЕ'ЦІЦА *ж.* Замець, завея. *Зранку было ціхо, а потым такая замеціца паднялася, што с хаты вылазіць ні хацéласё.*

ЗАМУРЗА'НЕЦ *м.* Мурза. *Ты п хоць трохі даглядзеў сябе, ато цэлы дзень замурзанцам так і ходзіш.*

ЗАПЯРЫ'ЛАК *м.* Дашчаная перагародка ў гумне паміж токам і стараною.

ЗБУ'РЫЦЦА *зак.* Сабрацца ў адно месца. *Трэба трохі рассыпацца па лéсі, ато збурыліся ў адну кучу: гэдак мы нічóго ні знайдзям.*

ЗБУ'РЫЦЬ *зак.* Сабраць у адно месца. *Якая тут работа! Збўрылі ўсіх у малую комнату, што і дыхаць німа чым.*

ЗВЕ'ТРАЦЬ *зак.* Здзьмуць ветрам. *Ён толькі што быў тут, а дзе яго завéтрало, ні ведаю.*

ЗВО'ДЫ *мн.* Зводніцва, пляткарства. *Да работы яна ні вельмі кідаяцца, а толькі ходзіць па хатах ды звóдамі займáяцца.*

ЗМІНТРЭ'ЖЫЦЦА *зак.* Змарнавацца. *Кап там карова посьлі ацёлу ні зьмінтрэ́жылася, бо маладыя гаспадарэ́ ні ўмеюць яшчэ глядзець скаціну.*

ЗЯЛЕ'ПУХА *м.* і *ж.* 1. Няспелы плод садавіны. 2. *перан.* Кволае дзіцянё. *Твой хлопяц як ляпячок, а мой — зялепуха некая, бо ўсё хварэ́я.*

КАТАРЭ'ЗНІК *м.* Бязлітасны чалавек. *У яго любы конь дóбро цягня, бо па духу чуя, што катарэзьнік.*

КАЦА' *ж.* Тупейшы канец яйка, у якім знаходзіцца паветраная каморка.

КЛЫПА'ТЫ *прым.* Кульгавы. *Трэба бўдзя Валодзіка клыпатаго папрасіць сёння на вячарынцы пограць.*

КУПА'ЛА *н.* Жоўты (лясны) рамонак. *Ні ва ўсякум лéсі купáло расце, каля нас яго мнóго ў Схедзі.*

КУРАНЯ'ТНІЦА *ж.* Кураводка. *Яна нат сваімі дзецьмі трасецца як куранятніца якая: чуць толькі што — адразу ў паніку.*

КУРЧ *м.* Сутарга. *Дóўго ў халóднуй вадзе ні сядзі, бо курч у ногі ўб'ецца.*

ЛАГІЗАВА'ЦЬ *незак.* Прагульваць. *Хваціць табе лагізаваць! Работы так мнóго, што потым зарáс ні ўхваціш.*

ЛАГІЗО'Н *м.* Прагульшчык. *На языку ён толькі руплівы і талковы, а папраўдзі — лагізон.*

ЛАГУ'Н *м.* Трава на лагчынах, якая сцелецца па зямлі. *Гэтаго лагуну нават вострая каса ні бярэ.*

ЛЯПЯ'К *м.* Таўстун. *Такому ляпяку пастухом быць цяшко, бо ні зьбегаяцца за каровамі.*

ЛЯ'СКАЛКА *ж.* Ляскотка. *Раней у нас у сяле ноч'ю заўсюды варта была, хто-небудзь хадзіў па сяле з ляскалкаю.*

МАЦУ'К *м.* Моцнае яйка, якім выігрываюць многа бітак. *Пакажы, што там у цябе за мацук, кап ні нагінсованы быў.*

МАЦЫЯ' *м.* і *ж.* Важная асоба. *Ні велькі ён мацыя, кап сьпіцыяльно для яго нешто варыць, хай разам с усімі есьць.*

МУЧА'Н *м.* Талакнянка. *Цяпер усялякія мазі, а даўней, як дзіця падапрэя, дак мучану сатрэш і прысыпаяш.*

МЫ'ЦКА *ж.* Маленькая мушка, якая часта пападае ў вока, асабліва пад вечар.

МЭХ *м.* Скваплая асоба. *Які ты мэх! Задарам я табе гэты ножык ні дам, хіба давай паманяямсё.*

НАДЗЕЛЕНЬ *прым.* Зеленкаваты. *На гэтыя яблыкі ты вельмі ні нападай, бо яны яшчэ надзялянь, можа забалець жывот.*

НАЛІВА'НКА *ж.* Сорт яблык, від белага наліву.

НАМЫ'ЗНІК *м.* Наморднік. *Зрабі цяляці намызьнік, каб ужо ні ссало карову.*

НАСЛАНО'Е *н.* Насланнё. *Чаго ты прыстаў, як насланоё, пайдзі трохі пагуляй, пака я прыбяру!*

НАЦЯ'ГІЧ *м.* Бондарская прылада для нацягвання абручоў.

НЯХЛЮ'Й *м.* Неахайны чалавек. *Ты ш трохі прыбярыся, ато ходзіш цэлы дзень як няхлюй які.*

ПАДВЕ'СІЦЬ *зак.* Умоўна засудзіць. *Яго судзілі, але ў цюрму ні пасадзілі, а толькі падвесілі на два годы.*

ПАДВЕ'ШАНЫ *дзеепрым.* у *знач.* назоўніка. Засуджаны. *Як згарэло тоё гумно, пазывалі ўсіх падвешаных.*

ПАДЖУГО'ЎВАЦЬ *незак.*, ПАДЖУГАВА'ЦЬ *зак.* Падбухторваць, падбухторыць. *Ты ні паджугоўвай яго, бо ён і так скоры да сваркі.*

ПАД ЗЛАМА'НІЦУ. К чорту. *Ідзі ты адгэтуль пад зламаніцу і ні мяшай рабіць!*

ПАДКУ'СВАЦЬ *незак.*, ПАДКУСІ'ЦЬ *зак.* Патаем-

на даносіць, данесці. *Мусіць нéхто яго паткусіў, што пазывалі да сьлéдавацяля, але абышлосё.*

ПАДШЫ′ТЫ ВЕТРАМ. Шпаркі, хуткі. *Ты яго ні дагоніш, бо ходзіць ён як патшыты ветрам.*

ПАЖА′РЫНА *ж.* Участак лесу, дзе быў пажар. *За гадоў пяць гэта пажарына так зарасьце маладняком, што ні пралéзяш.*

ПАЗАТАКРО′К *прысл.* Пазалетась. *Пазатакрок у гэтум мéсьці копы насілкамі насілі, а сёлята з возам éдзям.*

ПАЗЫ′ЧЫЦЬ У РАКА ВОЧЫ. Страціць сумленне. *Я ні магу яму салгаць, што мне тагды, хіба ў рака вочы пазычыць?*

ПАЛАВЕ′НЬКА *ж.* Памянш. ад палоўня.

ПАЛАСЯ′НЫ *прым.* Лыкавы. *Цяперашняя маладзёш ў вочы паласяных лапцяў ні бачыла, а мы нават на вячоркі ў іх хадзілі.*

ПАЛО′СІНА *ж.* Палоска лыка. *Гэтаі палосіны ні хваціць даплясьці лапаць, прынясі яшчэ трохі.*

ПАЛО′ССЕ *зборн.* Лыка. *Сáмаё лéпшаё палóсьё зь ліпы, а лазóваё ні такóё мóцнаё.*

ПАЛО′ЎНЯ *ж.* Адгароджанае ў гумне месца, дзе ссыпалі мякіну і клалі дробнае начынне.

ПАЛУ′ПАНАК *м.* Паўпанак. *Так заўсю́ды было, што палýпанак горш за пана: фанабэрыі мнóго, а спагады ні чакай.*

ПАЛЯНЯ′КА *ж.* Палена. *Палажы вунь тую паляняку на агонь, бо малы ўжо.*

ПАМІНТРЭ′ЖЫЦЦА *зак.* Памарнавацца. *Зь вясны ў нас было мнóго куранят, але за лето нек памінтрэжыліся, мáло асталóсё.*

ПАМО′Р *м.* Паморак. *На маіх курэй некі памор напаў, атсыпаюцца адна за другою.*

ПАНУ′РА *м.* і *ж.* Пануры чалавек. *Ён такі панура, што ніколі ні засьмяецца, ні пажартýя.*

ПАЎПА′ЛІТ *м.* Паўпаліто. *На паліто гэтаі мацеры ні хваціць, а паўпаліт вы́дзя добры.*

ПАЎСІ′ТАК *м.* Невялікае сіта. *Гэту муку на паўсітку прасéяш, а потым сходзіш пазычыш сіта.*

ПАЎСЛУ′ПАК *м.* Каблук сярэдняй вышыні і таўшчыні. *Для мяне найлепш падыходзяць туфлі на паўслупку.*

ПЕРАПАРЭ′ЦЬ *зак.* Скончыцца. *А ці пара ўжо палоднаваць? І пара пярапарэла!*

ПІ′ГАРКА *ж.* Дзіцячая гульня са збіваннем калодачкі.

ПІ′КАР *м.* Гульня, аналагічная пігарцы, але замест калодачкі ўтыкаецца ў зямлю кіёк.

ПІЦЬ-ПАЛО′ЦЬ *выкл.* Гукапераймальнае слова, якім імітуецца песня перапёлкі.

ПРАШТЫХНУ′ЦЦА *зак.* Прапароцца. *Сахор заўсюды пóсьлі работы ўбівай ў землю, а ні лажы, бо і сам можаш праштыхнуцца.*

ПРАШТЫХНУ′ЦЬ *зак.* Прапароць. *Да чужоі каровы бліско ні падлась, бо можа праштыхнуць!*

ПРО′ЛУПКА *ж. перан.* Дзірка. *Дзе тыя ў мяне грошы, калі кажды дзень на іх новая пролупка знаходзіцца?*

ПРЫ′ЖЫЦЬ *незак.*, НАПРЫЖЫЦЬ, СПРЫЖЫЦЬ *зак.* Пражыць, напражыць. *Мы мелі прывычку напрыжыць гароху, панасыпаць кішэні і с сабою браць.*

ПРЫПУСКА′ЦЦА *незак.* Рухацца з затрымкамі, падпасваючы (пра жывёлу). *Ты яшчэ авечак дадому ні гані, а патрохі прыпускайся, хай яшчэ лепш пад′ядуць.*

ПРЫСТО′ЛІК *м.* Шуфлядка ў стале. *Паглядзі ў прыстоліку — відэлцы павінны быць там.*

ПУЛЯ′ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Ну ты і хлеп сьпякла — хоць ў сьцену пуляй!*

ПЭ′РХАЦЬ *незак.* Пакашліваць. *Нéшто ты пачаў чáсто пэрхаць, можа дзе прастудзіўсё.*

ПЯЛЮ′ШКА *ж.* Дзікі гарох. *Там у лахчынцы жыта касою ні пакосіш, бо пялюшка моцно яго спляла.*

ПЯРЭ′ДАЙКА *ж.* Перадойка. *У гэтум гóдзі ў нас малака саўсім ні бýдзя, бо карова асталася пярэдайкаю.*

ПЯСТУ′НКА *ж.* Пястуха. *Яна нічóго ні ўмéя па гаспадарцы рабіць, бо расла пястункаю ў мамы.*

РАБРЫ′ЦЦА: РАБРЫ′ЦЦА ВАДА. Вада з рабізною, з дробнымі хвалямі ад павеву ветру.

РАЗМАЖДЖЫ′ЦЬ *зак.* Размажджэрыць. *Ні лесь туды, дзе кідаюцца камéнням, бо размажджыць і табе хто-небудзь голаву!*

РАЗМАТЛАШЫ′ЦЬ *зак.* Паразрываць, параскідаць. *Пóсьлі тóго, што ты зрабіў, ні пападайся яму на вочы, бо разматлашыць.*

РАСПШЫ′КАЦЬ *зак.* Зрасходаваць, патраціць. *Яму добрыя спаткі асталіся, але ўсё нек бясталкóво распшыкаў.*

РАСТУРХА′Н *м.* Неахайна адзеты, расшпілены. *Ты*

*хоць бы часам у зёркало паглядзёўсё, ходзіш як растурхан які!*

РЫ'МСЦІЦЬ *незак.* Карцець. *Ён такі ніпаседлівы, яму ўвесь час рымсьціць, кап дзе-небудзь улесьці і шкоду зрабіць.*

РЭ'СПУСТ *м.* Распуснік. *Увесь час яму бацько мнóго патурай, дак вырас з яго рэспуст.*

САЛАМЯ'НКА *ж.* Дыванок з саломы для выціранння ног перад дзвярамі.

СА'ЧАК *м.* Сачок (адзенне). *Ідзеш ні на гадзіну, а на цэлы дзень, дак вазьмі з сабою плюшавы сачак, бо нівядома, якая будзя пагода.*

СВЕ'ЧКІ ГАРАЦЬ *(з-за каго).* Быць прычынай непрыемнасцей. *Ты ні шукай вінаватых, бо ўсе свечкі з-за Лёні гарацЬ.*

СКАЛАЗУ'Б *м.* Выскаляка. *Ні сур'ёзны ён чалавек, так, скалазуп некі.*

СКАПУ'СЦІЦЦА *зак.* Скіснуць, павесіць нос. *Мусіць у яго дома нешта сталасё, бо скапусьціўсё, сядзіць і ў разгавор ні ўмёшваяцца.*

СКРАБА'ЧКА *ж.* Прылада для саскрабання гразі і пяску з абутку.

СКРУЦІ'ЦЦА *зак.* Ашалець, стаць кручаным. *Як кручаны сабака ўкусіць, дак любая скаціна скруціцца. У Ганісёўскага быў конь скруціўсё.*

СКРЫП : ЗА АДНЫМ СКРЫПАМ. Разам, зарáз. *Хай бы ўжо выходзілі ўсе за адным скрыпам, ато хату толькі выстуджваяцца.*

СКУДЗЕ'ЛЬНІЦЫ *мн.* Зборышча жанчын для прадзення кудзелі. *Дома яна ні хоча прасьці, а ўсю зіму ў скудзельніцы ходзіць.*

СКУЛЯ'ЧКА *ж.* Скулянка. *Ты хай бы чым заняўсё, ато тóпчасься пад нагамі і мяшáяш як скулячка.*

СЛЯКО'ТА *ж.* Хлюпота. *Нешто ў гэтум годзі марозных дзён мáло, а ўсё больш сьлякота.*

СМАГУ'ЛЬ *м.* Мурза. *Што ты рабіў, што ўвесь чорны як смагуль?*

СМЯРДЗ'ЮХ *м.* Смярдзючы, у брудным адзенні чалавек. *Ты ш пяраадзéнься і адмыйся ат сваіх мазутаў, ато такóго сьмярдзюха і ў клуп ні пусьцяць.*

СПА'СНЫ *прым.* Які добра есць, скора адпасваецца. *Як карова спасная, дак на любой пашы скóро папрáвіцца.*

СЯКА′Ч *м.* Мядзведка. *Мусіць сякач ў картоплі завёўсё, бо мнóго пасóхло.*

ТАРНАВА′ЦЦА *незак.* Швартавацца. *Пярадавай там на пярэднія плытэ, як вы́дзям на плёсо, бýдзям тарнавацца.*

ТО′ПТА *м.* і *ж.* Той, хто многа есць. *Ён такі топта, што скольki ні дасі, усё з'есьць.*

ТРЫБУХА′Ч *м.* Чалавек з вялікім жыватом. *Такі трыбухач ні ў я́куй рабóці спрыту ні праявіць, бо і седзячы чуць мóжа ссапціся.*

УСТУПІ′ЦЦА *зак.* Усунуць ногі ў абутак. *Уступіся ў што-небудзь і выдзі паглядзі, чаго там куры ўспалашыліся.*

ХВАРАВЕ′КІ *прым.* Хваравіты. *Яна ўсю жызьню мучылася, бо мужык быў хваравекі, мáло памагаў у гаспадарцы.*

ХВАШЧА′НКА *ж.* Мачалка з якой-н. расліны для мыцця посуду.

ЦІ′ПЦЯ *ж. дзіц.* Курыца. *Пакармі ціпцю — яна табе зьнясе яечко.*

ЦЮ′КАННЕ *н.* Велікодная гульня, у час якой партнёры б'юць яйка аб яйка. Праігрывае і аддае той, чыё пабілася.

ЦЮ′ЛІК *м.* Цюцька. *Што ты як цюлік пазірáяш яму ў вочы?*

ЦЯЛЕ′ПКАВАТЫ *прым.* Цяльпукаваты. *Яго ні трэба было пасылаць, бо ён такі цялепкаваты, што можа ні пасьпець.*

ЧАЛАВЕ′ЧАК *м.* Зрэнка. *Ён тачыў пілу і струшка ў вóко папала, у самы чалавечак.*

ШЛЁ′ГАЦЬ *незак.*, ПАШЛЁ′ГАЦЬ *зак.* Шлёпаць, пашлёпаць. *Гэты конь вельмі гарачы: пашлёгай ляйчыною і ён бýдзя бехчы.*

ШМАРАВО′З *м.* Непаседа. *Шмаравос ты, ні пасядзіш спакóйно, а ўсё сóваясься то с хаты, то ў хату!*

ШНЫ′РЫЦЬ *незак.* Шнарыць. *Ні шныр ў шкапчыку, бо цукеркі так схованы, што ні знáйдзяш!*

ШУ′ТКА-ШУ′ТКА і ШУ-ШУ-ШУ *выкл.* Гэтымі словамі клічуць авечак.

ШЧАРУ′БІНА *ж.* Шчарбіна. *Што ты рэзаў маім нажом, што такая велькая шчарубіна на ём?*

ШЧЫНЯ′ЦЬ *незак.*, НАШЧЫНЯ′ЦЬ, ПАШЧЫНЯ′ЦЬ *зак.* Рабіць (зрабіць) пэўным чынам раскладку ва-

лакна для пражы. *Ты пачынай шчыняць новую порцыю льну, бо гэты я скоро дапраду!*

ШЫЛАХВО'СТЫ *прым.* Караткастволы. *Тую шылахвостую хваіну спускаць ні будзям, бо на зруп яна ні гадзіцца.*

ЯК РА'КІ ЎЧХНУ'ЛІ. Заціхнуць, затаіцца. *Ён раней усюды першы вытыкаўсё, а цяпер як ракі ўчхнулі, і з дому рэтко вылазіць.*

*М. Н. Крыўко*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЯСЁВА МЁРСКАГА РАЁНА

Лексіка, якая падаецца ў гэтым артыкуле, запісана аўтарам у час дыялекталагічнай камандзіроўкі па збіранню моўнага матэрыялу для «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» у жніўні 1978 года.

Інфарматарамі былі муж і жонка Тамашэвічы — Андрэй Пятровіч (1909 г. н.) і Аўдакея Аляксандраўна (1916 г. н.). Абое нарадзіліся і пастаянна жывуць у гэтай вёсцы. Аўдакея Аляксандраўна — выдатная мясцовая ткачыха і вышывальшчыца. Яе рукадзелле неаднаразова дэманстравалася на выстаўках і ў музеях, паказвалася па абласному тэлебачанню. Андрэй Пятровіч — прафесіянальны сталяр.

Вёска размешчана на поўначы Мёрскага раёна, у 11 км ад р. Заходняя Дзвіна, па якой праходзіць мяжа Мёрскага раёна з Верхнядзвінскім. Па сваіх важнейшых асаблівасцях гаворка дадзенай вёскі адносіцца да паўночна-ўсходняга дыялекту. Мясцовыя рысы гаворак Мёршчыны (у большай ступені яе паўднёва-ўсходняй часткі) былі апісаны аўтарам у зборніку «З народнага слоўніка» (Мн., 1975. С. 279—283). У дадатак адзначым яшчэ дзве мясцовыя моўныя асаблівасці, якія не характэрны для паўднёва-ўсходніх гаворак Мёрскага раёна,— 1) спарадычную адсутнасць падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы: *свіня́, ра́ня* 'ранне', але *тканнё, спаннё, зміркáння;* 2) адсутнасць пераходу *л* у *ў: до́лгі, Далгінава, бо́лтаць, бо́лдзіла, далгацы́бы.*

Тут падаецца звыш 270 слоў, якія адсутнічаюць у БРС-62. Яны разнастайныя ў семантычных, лексіка-граматычных, словаўтваральных і акцэнталагічных адносі-

нах і не належаць да якой-небудзь пэўнай тэматычнай групы.

АБЛІВЕ´НЬ *м.* Галалёдзіца, абліваха. *Такі аблівень быўшы, мы пад гару на каленьках паўзлі.*

АБМА´НКА, АБМА´ННАЧКА *ж.* Пустышка.

АБО´Д *м.* Вобад.

АБРАЦЯ´ *ж.* Аброць. *Абрацця буваіць з цуґламі і без цуґлуў.*

АБРУДЫ´ *мн.* Ніжняя частка дзежкі, цэбра. *Дзежка ў абрудах рассохлася.*

АБСЫ´ПНІК *м.* Акучнік. *Абсыпнікам бульбу абсыпаім, ганяім.*

АДБО´РНІК *м.* Від гэбля. *Адборнікам адбіраюць пад сцякло.*

АДКО´СЫ *мн.* Дзве жардзіны, якія злучаюць вязы з галоўкамі саней.

АКО´Т *м. зборн.* Асцё.

АКО´ЦІНА *ж.* Асцюк.

АЛЬХО´ВІКІ *мн.* Яблыкі, прывітыя на алешыне.

АПА´ДАШ *м.* Плод, які ўпаў з дрэва. *Пайду пад яблыну ападашы свіням збяру.*

АПЕ´ЧКА *ж.* Апечак. *У нас апечка дзіраўляная.*

АПУ´ХА *ж.* Узлесак. *Апуха — біражына каля лесу.*

АРО´МЫ: АРОМЫ ХАМУТ. Хамут, у які запрагаюць каня, калі аруць. *А дзе дзеўшысі наш аромы хамут?*

АРТА´Й *м.* Араты.

А´РХА *ж.* Арфа. *С архы сыпіцца дабро ў кош.*

АСІ´НАВІКІ *мн.* Яблыкі, прывітыя на асіне.

АТНІ´МКА, АТМА´ЛКА *ж.* Ануча, якой вымаюць чыгуны з печы. *Атнімка, ці атмалка,— гразная трапка катлы насіць.*

АТРЫСМАЛІВА´ЦЬ *зак.* Абгабляваць рысмусам.

БАЛДЫ´Р *м. груб.* Дурань, бесталковы.

БАНДАРАВА´ЦЬ *незак.* Займацца бондарствам. *Я во ўсю жызню бандарую.*

БАРАВУ´ХІ *мн.* Гатунак чырванаватых яблыкаў.

БАРАНІ´ЦЬ *незак.* Габляваць бараном. *У бара́на дзве ручкі, бара́нюць удваіх.*

БЕ´Г´АМ, БЕ´Г´ІМ *прысл.* Бягом, подбегам. *А ты ўсё беґам ды беґам. Куды ты беґім ляцела пірад паўднём?*

БІЛЯ´НКІ *мн.* Яблыкі белы наліў.

БІРАЖНІ´ЦА *ж.* Замёрзлая вада каля берага ракі.

*Біражніцы ўжо пашлі. Біражніца ішчэ была замёршы тады.*

БІРАЖЫ́НА *ж.* Бераг. *Нада скасіць гену біражыну.*

БЛУ́ТАЦЦА *незак.* Блытацца. *Чаго табе там блутацца, тут во йдзі.*

БО́ЛТКА 1. *ж.* Доўгая палка з тоўстым наканечнікам, якой заганяюць рыбу ў сетку. *Дзе твая болтка, стары, паказаць во чалавеку?* 2. *м.* і *ж.* Дурань, бесталковы. *Што ты ў болткі толку дайдзіш?*

БО́ХАЎКА *ж.* Птушка пліска.

БРАНЗАВА́НЫ *прым.* Пакрыты бронзай. *Бранзаваныі шлеі длі красаты.*

БРУШНІ́ЦЫ *мн.* Брусніцы. *Пойдзім на балота ў брушніцы.*

БУЛЬБЕ́ЎНІК *м.* Бульбоўнік. *Пайду бульбеўнік жаць.*

БУТЛЯ́К *м.* Бутля. *Бутлякі буваюць і па дзесіць, і па пітнаццыць, і па двацыць літруў.*

БЯЛЮ́ГА *ж.* Падзол. *Бялюга — белая пустая зімля.*

ВАҐА́Н *м. груб.* Вельмі здаровы, мажны чалавек. *Гэткі ваґан, а ляніцца робіць.*

ВАЖО́МЫ: ВАЖОМЫ ХАМУТ. Хамут, у які запрагаюць каня, калі што-н. возяць. *Ёсь аромы хамут і важомы хамут.*

ВАЛЮ́ГА *м.* і *ж.* Асоба, якая ходзіць, пераваліваючыся з боку на бок.

ВІШАЛЫ́ *мн.* Прыстасаванне сушыць сена, бульбоўнік.

ВО́БЖА *ж.* Бакавая планка ў баране, за якую чапляецца гуж.

ВУШЛА́ТКА *ж.* Курыца, у якой па баках галавы ніжэй вока вырастае чубок.

ВУШЛА́ТЫ: ВУШЛАТАЯ КУРЫ́ЦА. Тое, што і вушлатка.

ВЫСО́ЧЫНЬКІ *прым.* Ступень параўнання да прым. высокі. *Гэта зёлка высочынькая ні буваіць.*

ВЯТО́Х, ВІТАШО́К *м.* Ветах. *Вятох свеціць. І с поўнаты сходзіць, тожа кажуць віташок.*

ВЯЦІ́СТЫ *прым.* Бухматы (пра суквецце аўса). *Во вяцісты авёс!*

ГАЛАДРА́ *м.* і *ж.* Абадранец, абадранка. *Іна была такая галадра усю жызню.*

ГАЛАЎНЯ́ *ж.* Спарыння. *Галаўня — як сажа. У пшаніцы іна болі буваіць.*

ГАЛУ′ТА *ж.* Асенні мароз без снегу. *У галуту ішчэ кароў можна пасціць, калі што ёсць на полі.*

ГА′МБУР *м.* Ручка ў падоўжнай піле.

ГАРБУ′К *м.* Выступ. *Гарбук увярху і ўнізу, як у муштуку, у такім напілку.*

ГАРБУ′ЛЬКА *м.* і *ж.* Гарбатая асоба.

ГАРБЭ′ЛЬ *м. зневаж.* Гарбаты чалавек.

ГАРШКА′ЛЬ *м.* Ганчар. *У Дзісне гаршкалі гаршкі выпалівалі. Лудзяць нечым жоўтым, палуду накладаюць.*

ГЕ′НЫ *займ.* Той. *Дзе гены стаўбункі?*

Г′ІГ′Е′ЛЬ *м.* Хвошч.

ГРАБАЎЁ *н.* Грабільна. *З рабініны зробюў грабаўё.*

ГРАЦКО′ВЫ *прым.* Грэцкі. *Мне пляменніца прывёшшы грацковых круп із Рыгі.*

ГРАЧА′НІШЧА *н.* 1. Поле, на якім расла грэчка. *Каровы ходзюць па грачанішчы.* 2. Грэцкая салома. *Састагавалі грачанішча.*

ГРУДЛІ′ВЫ *прым.* Цвёрды, змёрзлы (пра зямлю). *Грудлівая зімля была тады, снегу ішчэ ні було найшоўшы.*

ГРЭ′ЦКА *ж.* Грэчка.

ГЭ′СТАК *м.* Верхняя частка капыла ў ботах.

ДАЛЯВЫ′ *прым.* Падоўжны. *Далівая піла ў мяне паламаўшысі.*

ДЗЯНЁК *м.* Золак. *Чуць дзянёк, а іна ўжо карову вядзець на пасту.*

ДЗЯ′ТЛАВІНА *ж.* Дзяцеліна. *Дзятлавіна буваіць і красная, і белая.*

ДЛІНЯ′ *ж.* Даўжыня. *Дліня палатна — дзве-тры сцяны.*

ДО′СВІТА *прысл.* На золку. *Я ўстала ішчэ досвіта.*

ДРАБНАЗУ′БКА *ж.* Пілка з дробнымі зубамі. *Драбназубкый можна падагнаць рамку шчытна.*

ДРАГБІ′ШЧА *ж.*, ДРАГБА′ *ж.* Дрыгва; гразь, балота. *Такая драгбішча стала, нідзе ні прайсці, ні праехаць. Ня сунься ў драгбу, абыйдзі там.*

ДРА′КА *ж.* 1. Прылада для пазавання бярвення. *Ёсь прамая драка, а ёсь і сагнёная драка. Прамая драка прыміняіцца, калі гладкі ўгол, сагнёная драка — длі пажэння бравён.* 2. След, пакінуты на бервяне гэтай прыладай. *Глядзі, дзе драка, там і выбірай дзерава тапаром.*

ДРА′НЫ: ДРАНАЯ КАША. Бабка (страва). *Сягоння драный кашы наварыла.*

ДРО′НГ′І *мн.* Від калёс без бакавых сценак для перавозкі мяшкоў, камення.

ДРУГА′К *м.* Другі рой.

ДРЫ′КІ *мн.* Тое, што і вішалы.

ДУБІ′ЦА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з дрэва. *Уперад па Дзвіне плавалі на дубіцах.*

ДУ′ЛЬКА *ж.* Чахол на ручку пілы. *Кожаныі дулькі надзівалісі на ручкі пілы, кап рукі ня рэзала аб дзерава.*

ДУ′НДАР *м.* Музыкант на духавым інструменце. *Музукантуў даўней звалі дундары.*

ДУПЛЁ *н.* Дупло. *Рой залітаў і ў дуплё. У караніку дуплё называіцца, а так нутро.*

ЖАРСЦВЯ′НІК *м.* Жарсцвяны камень, жарсцвяк. *У нас у бані ёсць жарсцвянік.*

ЖВІРО′ЎНЯ *ж.* Жвіровы кар'ер.

ЖУЎКЛЯ′ВЫ *прым.* Жаўтлявы. *Сушонікі сівыі, а падбярозавікі жуўклявыі.*

ЖУШЧЭ′ЦЬ *незак.* Гусці (пра мух). *Мухі жушчаць, спасу нет.*

ЖЫГА′ЛА *н.* Джала.

ЖЭ′Г′ІНЫ *мн.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога сушаць боб, гарох, фасолю і пад. *Боп удзяецца ў жэґіны.*

ЗА′ДАРАШКІ *мн.* Драбіны ў санях.

ЗАЖЫ′НАК *м.* Першы зжаты сноп жыта.

ЗАЗІ′МАК *м.* Першы мароз.

ЗАКАЖАНЕ′ЦЬ *зак.* Захірэць, змарнець. *Парасёнак закажанеўшы.*

ЗА′КЛІВІНА *ж.* Не роўны, з заваротам або клінападобны ўчастак зямлі. *Я выкасюўшы гену заклівіну.*

ЗАКРО′Й *м.* Пілачка выбіраць дно ў бочцы.

ЗАКРУ′ТКА *ж.* Вяроўка для мацавання аглоблі для саней. *Ялушку тонкую скручывалі і робілі закрутку, вяроўкамі прывязывалі, і такая была закрутка.*

ЗАМАРО′ЗКІ *мн.* Замаразкі. *Замарозкі былі зачаўшысі, а ў мяне цыбуля быўшы на лясе.*

ЗА′СУШ *ж.* Засуха. *Такая засуш стаіць.*

ЗА ЧА′САМ. З цягам часу. *За часам усё зраблю.*

ЗЕ′РНІТА *н.* Зерне (адно).

ЗО′РАК, ЗО′РАЧАК *м.* Золак. *Чуць на зорак, мой*

*ужо касіць сабіраіцца. На зорак бралася, а я ўжо ўстала. Чуць зорачак быў, як нашы тады прыехалі.*

ЗО'РКА *ж.* Толькі як назва ранняй і вячэрняй зоркі. *Зорка — гэта толькі раннія і вячэрнія звізда, а так звёзды завём.*

ЙІ'НІЯ *ж.* Іней.

ЙІСК *м.* Пчаліная разведка.

КАВЁЛКА *ж.* Папярочка на цаўі віл, рыдлёўкі. *Бяры вілы з кавёлкай.*

КАЖЫ'НЫ *прым.* Кожны. *Кажыны па-свойму гукаіць.*

КАЗА' *ж.* Бекас. *Каза блякочыць угарэ.*

КАЗЁЛ *м.* Гронка арэхаў; адно гняздо, корч цыбулі. *Казёл арэхуў. Прынясі мне казёл цыбулі.*

КАКО'РЫНА *ж.* Пірог на содзе. *Какорына — пірох ні на драждждах, а на содзі; а такі пірох на паду спячэш, завецца падавая какорына.*

КАЛЯСНІ'К *м.* Чалавек, які робіць калёсы.

КАМЕ'ШНІК *м.* Куток, дзе стаяць вілы, качарга, чапяла. *Замяці шуму ў камешнік.*

КАНЕ'ЎНІК *м.* Воўк, які нападаў на коней.

КАПАВА'ЦЬ: ГАЛАВА КАПУІЦЬ *(у каго).* Пра кемлівага, разумнага чалавека. *О, у яго галава капуіць.*

КАРАНІ'К *м.* Невялічкі калодачны вулей, які ставілі на дрэве для прываблівання пчол.

КАРО'МІСЛА *н.* 1. Каромысел. *Дзе маё каромісла гэта дзелася?* 2. Сузор'е Малая Мядзведзіца. *Каромісла — чатыры звязды.*

КАСАЎЁ *н.* Кассё.

КАСЯ'Ч *м.* Касач.

КІСЛЯ' *ж.* Кусочак пакінутага ў дзяжы цеста для закваскі.

КІШЭ'НЬ *м.* 1. Кішэнь. *Правы кішэнь атарвываіцца.* 2. Аддзел у арфе, куды паступае пазаддзе. *Азаддзя ідзець у кішэнь.*

КЛІНЦЫ' *мн.* Адходы пры вырабе алею. *Алей ціскалі, аставалісі адходы, звалісі клінцы.*

КЛЫК *м.*, КЛЫКІ' *мн.* Галаўня. *Сёліта нешта дужа многа клыкоў у жыці.*

КОНЬ: КОНЬ З ВАЗОМ. Сузор'е Вялікая Мядзведзіца. *Конь з вазом — сем штук звёзд.*

КО'РБА *ж.* Від свердла.

КРУГЛО'ВІНА *ж.* Участак зямлі круглай формы. *Пайду гену кругловіну выкашу.*

КРЫВУ'ЛІ *мн.* Від калёс для перавозкі доўгіх матэрыялаў.

КУЛЯ'ВЫ *прым.* Кульгавы.

КУЛЯ'ЦЦА *незак.* Хадзіць кульгаючы.

КУНА' *ж.* Куніца.

КУРАДЫ'МКА *ж.* Лямпа без шкла.

КУРУЯ' *ж.* Курыца з нявыражанымі палавымі адзнакамі.

ЛАБА'ТЫ: ЛАБАТАЯ СТРАХА. Круглаватая страха, пад якой няма франтона.

ЛАГ'О'ШЫ *мн.* Сані, спецыяльна прыстасаваныя для перавозкі мяшкоў са збожжам і інш.

ЛАНТРУ'ГА *м.* Гультай, п'яніца. *Лантруга — гэта й гультай і п'яніца.*

ЛАТЭ'ХА *м.* і *ж.* Асоба, якая любіць пагаварыць. *Латэха, пірастань латэшыць.*

ЛАТЭ'ШЫЦЬ *незак.* Лапатаць (языком). *Латэшыць а латэшыць, латэха гэта.*

ЛЕ'ШАЧКА: ТОЛЬКІ СОНЦА Ў ЛЕШАЧКУ (ЎЗЫЙШЛО). Толькі пачало ўзыходзіць (сонца). *Толькі сонца ў лешачку ўзышло, я ўжо стала збірацца у Мёры.*

ЛЁЗНЫ *прым.* Ветлівы. *Такі лёзны ейны маліц.*

ЛІЖА'К *м.* Від вулея. *У ліжаку рагатку ўстраівалі.*

ЛІЎНЫ' *прым.* Ліўневы. *Ліўны дождж пашоў.*

ЛІХА' *ж.* Града. *Я толькі ляху цыбулі пасадзіўшы.*

ЛЮБО'ВІНА *ж.* Сала з мясной праслойкай. *Яму каб толькі любовіна, а жырная хто будзіць есці?*

ЛЮБО'ВЫ *прым.* З мяснымі праслойкамі ў сале (пра мяса). *Дай мне любовага мяса.*

МАЛАНЯ' *ж.* Маланка. *Маланя сячэць.*

МАЛІНО'ЎКА *ж.* Вельмі далікатная, выпеставаная, модная асоба. *Маліноўка гэта да работы ні даткнецца, ей кап вымазацца, вымаліваціца ды куды паляцець.*

МА'ТАЧНІК *м.* Рашотчатая каробачка ў вулеі для ўтрымання маткі.

МАТО'К *м.* Вязка цыбулі. *Маток цыбулі дачцэ дала.*

МАХЛЮ'Й *м.* Ілгун.

МУРЗУ'ТА *м.* і *ж.* Мурзатая асоба. *Ай, ікая мурзута, ідзі січас жа памыйся!*

МУРЛЫ'Г'А *м. груб.* Мурлаты чалавек. *Пятрок — во мурлыґа быў.*

МЯДО'ВЫ: МЯДОВАЯ РАСА. Від мёду малой цукрыстасці. *Мядовая раса ў зіму ня можыць гадзіцца.*

НАЙДЭ′ЗЫ *мн.* Прылада для наразання разьбы на балтах.

НА′МАРЖАНЬ *м.* Намарзень.

НА′ПІРАДЗІ *прысл.* Наперадзе. *Садзіся напірадзі, у галоўках.*

НАСУ′ЛЬ, НОС *м.* Насаты чалавек.

НАЧО′ЎКА *ж.* Ночвы. *Прынясі начоўку ў хату.*

ПАБАЕ′ШКА, ПАБО′ЙНЯ *ж.* Доўбня. *Пабаешкай загані кол. Вун у мяне ля хлеву пабойня стаіць.*

ПАГУ′РАК *м.* Узгорак. *Іх хата на пагурку стаіць.*

ПА′ДАЛЬНІК *м.* Мак, які сам насяваецца.

ПАДВАРО′ТНІЦА *ж.* Дошка, якой закладалі падваротню.

ПАДГРО′БЫ *мн.* Грузды. *Падгробы — грыбы белыі такіі, крэпкіі.*

ПАДЖУ′ЛІСТАВЫ *прым.* Тонкі, худы, цыбаты.

ПАДКЛЕ′ЙКА *ж.* Тое, што і паднарад.

ПАДМЕ′ЛЬШЫ *наз.* Млынар. *Падмельшы рукаводзіць млынам, меліць на млыні.*

ПАДМУРО′ВАК *м.* Падмурак. *Нада пабяліць падмуровак.*

ПАДНАРА′Д *м.* Падкладка, унутраная частка бота. *Падклейка, футроўка і паднарат — адно і тоя самая.*

ПАЖЭ′ННЯ *н.* Пазаванне. *Сагнёная драка — длі пажэння бравён.*

ПАЛАВІ′ННІК *м.* Від гэбля. *Палавіннікам габлюіць адзін чалавек.*

ПАЛІЎНІКІ′ *мн.* Яблыні, што выраслі на палях самі. *Паліўнікі — на палях яблыны; вот некалі насеілася семя із яблыкаў і яны выраслі із яго.*

ПАЛО′ЎКА *ж.* Неарфаванае жыта. *Некалі хлеб пяклі з палоўкі.*

ПАЛЬНЫ′ *прым.* 1. Палявы. *Назбірала пальных малін.* 2. Дзікі (пра жывёл, птушак). *Тут водзюцца і гусі пальныі, і вуткі пальныі.*

ПАЛЬНЮ′К *м.* 1. Дзікая яблыня, груша на полі, у лесе. 2. Плод з такога дрэва. *Пальнюкі — яблыкі з пальной яблыны.*

ПАЛЮ′К *м.* Ручка на кассі для правай рукі. *Палюк рашшалтаўся, нада заціснуць.*

ПАРАХО′ННЯ *н.* Парахня, гнілякі. *Парахоння палюць, як пчол акурываюць.*

ПАСТА′ЦЬ *ж.* Постаць, палоска. *Каждая жнія жала сваю пастаць.*

ПІРАЛЁТ *м.* Белая канюшына. *Піралёт — гэта белы клевір, па руччах расцець.*

ПІРША′К *м.* Першы рой.

ПЛУЦІ′ЦЬ *незак.* Рабіць плыты. *Лес плуцілі, робілі ганкі. Ганкі гналі ў Рыгу.*

ПО′ЛІВА *н.* Палонне. *Поліва завялося многа ў гародзі.*

ПО′ЎДЗЕН *м.* Поўдзень (напрамак свету). *Нашы вокны на поўдзен.*

ПО′ЎНАТА *ж.* Поўня. *Ужо з поўнаты, можа, надвор'я зменіцца.*

ПО′ШАЎКА *ж.* Навалачка. *Даўней звалі пошаўка, а цяпер навалка.*

ПРЫБАБУ′НЬКАВАЦЬ *незак.* Прыгаворваць, рабіць невыразныя заўвагі. *Што ты там прыбабунькаваіш?*

ПРЫВА′БА *ж.* Прыманка. *Прываба для пчол можыць быць усякая.*

ПРЫВУШЫ′ЦЬ *зак.* Прымайстраваць, прыладзіць да вушака (раму). *Нада прывушыць на раму.*

ПРЫ′ПАР *м.* Пільніца, гарачая пара ў рабоце. *Надходзіць прыпар: нада жаць, нада й касіць.*

ПРЫСКА′КАМ *прысл.* Перапынкамі, сваім часам, у перамежку паміж асноўнай работай, заняткам. *Я сваю бульбу прыскакам капала, а так усё калхозную.*

ПРЫСЦЯ′ЖКА *ж.* Прыпрэжка.

ПРЫТО′САК *м.* Канец атосы ў выглядзе кольца.

ПУБАЧНІ′ *мн.* Бакавыя сценкі ў калёсах.

ПУГУРЫ′НКА *ж.* Узгорачак.

ПУЗУВА′ТЫ *прым.* Выпуклы. *Правідла — дзве плашкі. Заддзі троху пузуватая плашка.*

ПУК *м.* Кветаноснае сцябло цыбулі, шчаўя. *І цыбуля ў пукі ідзець, і шчавіль.*

РАГУ′ЛЬ *м. зневаж.* 1. Непаваротлівы, марудлівы чалавек. *Які гэнан рагуль ніпаваротны.* 2. Непрыгожы чалавек. *Во які рагуль нікрасівы.*

РАЁЎКА *ж.* Раёўня.

РАЗА′К *м.* Спецыяльны плуг, якім наразалі дзёран. *Разаком з пожні дзірваны наразалі.*

РАЗНІ′ЦА *ж.* Сячкарня. *Салому, асаку рэжым на разніцу.*

РАМА′НІК *м.* Рамонак.

РА′МЫ *мн.* Тое, што і задарашкі.

РАСКАШАВА′ЦЬ *незак.* Раскашацца. *Вот яны цяпер раскашуюць.*

РАСПУСКНІ′ *мн.* Тое, што і крывулі.

РЫ′ДЗІЛЬ *м.* Драўляная рыдлёўка з акаванымі краямі. *Рыдзіль — такая дзіравянная лапата. Канец зварaны. Дзерава ўступляіцца туды.*

РЫ′СМУС *м.* Від гэбля.

РЫ′ТАВІНА *ж.* Калдобіна.

РЭ′ДАЛІ *мн.* Калёсы з высокімі драбінамі, на якіх возяць сена.

СА′ЛА *н.* Цурбан, што абціскае бервяно, калі яго пілуюць.

САПЛІ′ *мн.* Ледзяшы. *Саплі са страхі вісяць.*

САРО′КА *ж.* Страва з дранай запечанай бульбы. *Сарока — гэта драная каша.*

СВЯЖУ′Н *м.* Неаплодненае яйцо.

СЕ′ІНКА *ж.* Гатунак гаркаватых яблыкаў. *Сеінка — гарклявыі яблыкі.*

СІПУ′Н *м.* Тое, што і бялюга. *Сіпун — гэта пустая белая зімля, падзол.*

СІ′ТЦА *н.* Сузор'е Стажары. *Ужо Сітца заходзіць, скора дзень.*

СКРАБЁЛКА *ж.* Прылада для саскрэбвання кары з бервяна.

СЛА′НІШЧА *н.* Сцелішча. *Па сланішчы цяпер такая лоўкая трава паднілася, нада кароў гнаць туды пасціць.*

СЛЯДНІ′К *м.* Пратаптаная нагамі сцежка ці наезджаны санямі след на снезе.

СМАРКА′ЧКА *ж.* Лямпа без шкла.

СМЕ′ЛНЫ *прым.* Смелы. *Глядзі, які ты стаў смелны.*

СО′ПСКІ *прым.* Уласны. *Сопскый кватэры ішчэ ні маіць, снімаіць у некага тамака.*

СПА′САЎКІ *мн.* Ранні сорт ігруш.

СТАЖА′РКА *ж.* Стог са стрэшкай. *Я вун звіўшы стажарку за хлевам.*

СТАЙНО′ *н.* Прыстасаванне трапаць лён — увагнаны ў зямлю кол.

СТАРАБЫ′ТНЫ *прым.* Стары, устарэлы. *Я табе нагавару ўсякіх старабытных славоў. Гэта была старабытная работа.*

СТА′ЎКА *ж.* Вулей на дрэве для прываблівання пчол.

СТАЯ′НКА *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога дзіця вучыцца стаяць, хадзіць.

СТРАНА′ТКА *ж.* Мясцовая назва нейкай шэрай

птушкі з жоўтым брушкам. *Странатка — жоўцінькая брушка, сама шэрынькая.*

СТРУЖО'К *м.* Від гэбля. *Стружком па вярху чысцюоць.*

СТУ'ТВЫ *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе двух калоў, якія падстаўляюцца пад канец бервяна каля козлаў.

СЫ'СКА *ж.* Соска.

СЯВЕ'Ц *м.* Назва нейкай птушкі. *Як пачынаюць сеіць, сяўцы лётаюць і крычаць. Шэрыі, як ґалкі, як вароны.*

ТАРПА'К *м.* Спружыноўка. *Тарпаком тарпачым.*

ТАРПА'ЧЫЦЬ *незак.* Баранаваць спружыноўкай.

ТАЎСТАЛУ'ПЫ *прым.* З тоўстымі губамі. *Таўсталупага завуць лупач.*

ТРАНТО'ЎКА *ж.* Коўдра або дыван, вытканыя з рыззя.

ТРАСКУ'Н *м.* Моцны мароз. *Мой і ў траскун можыць хадзіць у ботах.*

ТРАЦЯ'К *м.* Трэці рой.

ТУ'МАР *м.* Пра самастойнага, сур'ёзнага чалавека. *Тумар — удалейшы чалавек, буяны, сір'ёзны.*

ТУ'ХМАЛКА *ж. груб.* Твар. *Даць у тухмалку.*

УВЁРТКА *ж.* Тое, што і закрутка. *Увёртка і закрутка — тоя самая.*

УЗДЗЯНІ'ЦА *ж.* Спецыяльная аброць, за якую навязвалі каня.

УПУ'Д *м.* Спалох. *Ці знаіш ты, Аўдакея, якіі зёлкі ат упуду?*

ФАРФЛІ'ЦА *ж.* Дэталь у жорнах — металічная планачка ў верхнім камені з упадзінай, якая ўздзяецца на шпянёк ніжняга каменя.

ФІГ'У'РНЫ: ФІГ'УРНАЯ ПІЛКА. Пілка, якой выразаюць розныя фігуры. *Фіґурная пілка — фіґуры выразаць, націжная, у рамцы нацягаваіцца.*

ФУГ'А'Н *м.* Фуганак. *Фуґан і спуск — адно і тоя ж.*

ФУ'КСА *ж.* Нажоўка. *Фукса — гэта пілка-нажоўка.*

ФУТРО'ЎКА *ж.* Тое, што і паднарад.

ХАДУ'ЛІ *мн.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога дзіця вучыцца хадзіць.

ХА'ЛІПА *ж.* Беспарадак. *Халіпа — гэта біспарадак, а на надвор'я так ні скажуць.*

ХЛАПЕ'Ц *м.* Станок, у які ўстаўляецца вітушка ці малатарня.

ЦЁЛНАЯ *прым.* Цельная.

ЦІЛІЗНА′ *ж.* Агрэх. *Кінуў цілязну.*

ЦЫ′НДРА *м.* і *ж.* Цыбатая асоба. *Цындра — далгацыбы чалавек.*

ЦЯГУ′ЛА *м.* і *ж.* Асоба з маруднай хадой; марудлівая ў рабоце.

ЦЯЛЬПЕ′Х *м.* Цяльпук. *Такі цяльпех: нічога ня ўмеіць, нічога ні знаіць, нідзе ні стараіцца.*

ЦЯЛЬПЕ′ХА *ж.* Жан. да цяльпех. *Такая цяльпеха, што з яе хацець.*

ЦЯМЦЮ′ЛЯ *м.* і *ж.* Маўклівая, марудлівая асоба. *Цямцюля такі, у яго прама слова нада купіць.*

ЧА′РКІ *мн.* Соты.

ЧАСЛО′ЎКА *ж.* Пасма на клубку. *Пасма на клубку — гэта ж часлоўка.*

ЧАЦВЯРЭ′НЬ *м.* Палена, расшчэпленае на чатыры часткі.

ЧО′СНАК *м.* Часнок.

ШАЛУ′ПКІ *мн.* Шалупінне (ад бульбы, яец, цыбулі). *Выкінь у памыйкі шалупкі.*

ШАПЯТЛІ′ВЫ *прым.* Шапялявы. *Нейкая ейная дзіўчынёха шапятлівая.*

ШЛЁПАНКА *ж.* Дажджлівае ці снежнае надвор′е. *Шлёпанка — як снех ідзець.*

ШНЭ′ЛДАЛА *м.* і *ж.* Асоба, якая ходзіць без справы, занятку.

ШНЭ′ЛДАЦЬ *незак.* Хадзіць без справы. *Шнэлдаіш без канца па сяле.*

ШПАГ′А′ТА *ж.* Шпагат. *Шпаґатай умацавана трось. Трось гэта ў бёрдзі.*

ШПАРА′К *м.* Спаржа.

ШПУНТО′ЎНІК *м.* Прылада шпунтаваць дошкі. *Шпунтоўнікам доскі шпунтуюць.*

ШТЫ′ЎНА *прысл.* Роўна, прама, не нахілена. *Кросны штыўна стаяць і ні касяцца, як пярэчкі ўставюцца і кліны загонюцца.*

ШУМЁЛЫ *мн.* Званочкі, бразготкі.

ШЧЭ′ЦІ *мн.* Станок для часання воўны. *Воўну часалі на шчэці.*

ШЭ′РАШ *ж.* Мароз з туманам. *Як марос із туманом, гэта шэраш.*

*В. М. Курцова*

## З НАРОДНАГА СЛОЎНІКА

Моўная сітуацыя, якая ў сучасны момант склалася ў сельскай мясцовасці Беларусі, характарызуецца неаднароднасцю. Зараз у якасці сродкаў вуснага маўлення сельскія жыхары выкарыстоўваюць, як правіла, тры моўныя сістэмы. Гэта традыцыйная мясцовая гаворка, беларуская і руская літаратурныя мовы. Выбар адной з іх прадвызначаецца сацыяльнымі параметрамі камунікантаў і сітуацыйнымі асаблівасцямі зносін. У адпаведнасці з данымі дэтэрмінантамі дыферэнцыруюцца маўленчыя сродкі. Сёння, як паказваюць нашы асабістыя назіранні і сведчыць сацыялінгвістычная літаратура, у сельскай мясцовасці Беларусі пануючым сродкам маўлення выступаюць мясцовыя традыцыйныя дыялектныя гаворкі. Аднак іх асаблівасці на ўсіх моўных узроўнях у камунікантаў з рознымі сацыяльнымі пераменнымі рэалізуюцца неаднолькава поўна і паслядоўна. Найбольш выразна тыповыя і унікальныя рысы дыялектнага маўлення захоўваюцца ў сельскіх жыхароў сталага і старэйшага ўзросту. Менавіта яны найчасцей карыстаюцца такой лексікай, якая мала характэрна для маўлення прадстаўнікоў малодшага пакалення. Некаторыя з такіх слоў, запісаныя аўтарам у в. Залёссе Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці, прапануюцца ўвазе чытачоў.

АБПЯНУ′ЦЦА *зак.* 1. Накрыцца. *Абпянулась увёрткай і шчас жа цяплей стала.* 2. Прытуліцца да чаго-, каго-н. *Абпянулася аб стула і стаіць, жджэ.*

АБЧЫРКНУ′ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Ні тронь, абчыркнесся аб цяпло, рукі спаліш.*

АБШАХНУ′ЦЦА *зак.* Неасцярожна ступіць. *Ідзі цішэй, а то абшахнесся з кладкі і паваліся ў ваду.*

АДЛО′ГА *ж.* Адліга. *Пайшло на адлогу, і на вуліцу хоць ні вылазь.*

АДЗІЯ′ЛА *н.* Саматканая шарсцяная коўдра на льняной аснове. *Калісь толькі па бальшых празніках такея красівые адзіялы засцілалі.*

БАЛО′ННЯ *н.* Месца, што ў час разліву затапляецца вадой. *А ў нас гусі на балонні ходзюць чуць ні цэлы год.*

БЕЛЬ *ж.* Белая фарба. *Калі нада у белая піракрасіць, бель купім у лаўцы і сам красіш.*

БІЗ ПІРАШЧУ′КУ *прысл.* Безупынку. *Сённі дождж ідзе цэлы дзень біз пірашчуку.*

БУГО′НЬКА *ж.* Невялікі надзел зямлі. *Зямлі ў нас сваёй ні было, так, адна бугонька, там усігда жыта сеілі.*

БЫВА′Я *злуч.* Калі. *Бывая прыйдзя Лісім, скажыш пададжэ ніхай.*

ВІ′ДЗІК *м.* Паштоўка. *Сёдні відзікаў купіла паздравіць дачку з мянінамі.*

ВЫСТАНЧА′ЦЬ *незак.* Апранацца вельмі модна. *Ні выстанчай ты так з адзежай, усё ні перакупляіш.*

ВЫЦІ′РКА *ж.* Ручнік. *Ціпер выціркі усякіе ў магазіне ё, а даўней самы іх ткалі.*

ВЫШЧАМЕ′РВАЦЦА *незак.* Тое, што і выстанчаць. *Што ты так вышчамерваісся, нічога ў маткі ні засталося, паследніе грошы выманіла на сібе.*

ВЫ′СЦЯГНУЦЬ *зак.* Выпрастаць, выпраміць. *Высцягнула я натруджаныя ногі і ляжу ціхінька.*

ВЯЗКІ′ *мн.* Лазовы пляцень для пераправы па неглыбокай вадзе. *Вада шчэ ўсюдах, а мы ў першы шчавіль па візках хадзілі.*

ГАЛА′ЙДА *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Ці то матка добрая — галайда нейкая, дзіцей кучку насабірала, а гадаваць іх німа каму.*

ГА′РУСКА *ж.* Шарсцяная тонкая хустка. *У міне і гарусак новых багата.*

ГА′ПЛІК *м.* Аплік. *Заместа пугавіцы я ў спадніцу гаплік прышываю.*

ҐВІЛ, КВІЛ *м.* Гоман, шум. *У хаці квілу надзелалі такога, што на вуліцы чутна.*

ГЛЫ′ЖКА *ж.* Снежка. *Мы зімой пастаянна ў глыжкі гулялі.*

ГРУ′ДКІ *мн.* Прасаваны цукар-рафінад. *Я чай з грудкамі люблю піць.*

ДО′ЛІ *прысл.* На падлозе. *Летам мы ўсе долі спалі.*

ДОР *м.* Драніца. *Зляпіў сенцы з дору.*

ДО′СЮЛЬ *прысл.* 1. Дасюль, да гэтага часу. *Досюль вайна мне сніцца.* 2. Да гэтага месца, да гэтай мяжы. *Досюль сена саграбай, а там ніхай ляжыць.*

ДО′ТУЛЬ *прысл.* 1. Да таго месца. *Дотуль шла пяшком, дзе дарога на Куклічы павярнула.* 2. Да таго часу. *Дотуль хадзіла па ягадах, пакуль ні сцямнела.*

ДЫ′ХАННЯ *н.* Дыханне. *Прабегла быстра і ціпер серца б'ецца часцей дыхання.*

ЗА′БЛАЦЬ *ж.* Мулінэ. *Дужа я заблаццю любіла вышываць, як маладзейшай была.*

ЗА′ВАДЗЬ *ж.* Насенне для новага заводу. *Пакінь мне такіх гуркоў на завадзь.*

ЗА ЖЫВО′СЦЮ *прысл.* Пры жыцці. *Чалавека трэба за жывосцю глядзець.*

ЗАНО′ВУ *прысл.* Па-новаму. *Плаццѣ занову папрала на рэццы.*

ЗАРА′НЕЙ *прысл.* Задоўга да падзеі, раней. *Заранеі трэба ў школу ўсё купляць, а ні ў паследні дзень.*

ЗБУНТАВА′ЦЦА *зак.* Зблытацца пры лічэнні. *Лічыла, лічыла і зноў збунтавалася.*

ЗЕ′ЛЛЯ *н.* Лякарства. *Пайду ў апцеку зелля купіць.*

ЗМЫ′ЛКІ *мн.* 1. Змылак, рэшткі мыла. *Змылкі пакладзі ў пяколку, шчэ калі знойдзім.* 2. Брудная мыльная вада. *Змылкі ў вядрэ вынясі і вылді за хлевам.*

ЗНЕ′ЦІКІ *прысл.* Знянацку, нечакана. *Як я крыкнула знецікі, аж піражахнуўся малінькі.*

ЗЫ′КАЦЬ *незак.* Пазычаць. *Пабегла Каця зноў па хатах зыкаць грошай, саўсім ні ўмея жыць.*

З'ЯНО′К *м.* Гузак. *З'янок добры пасадзіў малы пад вокам.*

КАЗА′БА *пабочн.* Здаецца. *Казаба, пацяплела на дварэ.*

КАЗЕ′ЛІЦЦА, КАЗЕ′НІЦЦА *незак.* Лашчыцца. *Во й та бацька, так казеліцца з дзіцёнкам, маткі луччы другой.*

КА′ЛІЎКА *прысл.* Няшмат, крыху. *Пазыч мне каліўка хлеба, свой увесь расходалі.*

КАРАНІ′ЦЬ *незак.* Нязлобна лаяцца. *І чаго ўжо кароніш хлопца, бурчыш, як кіла.*

КАРНА′Ч *м.* Стары, зрэзаны нож. *Я ў лес заўсігда с сабой карначык бяру.*

КА′РЫ *мн.* Вялікія драўляныя сані для перавозкі грузаў трактарам. *Раней зімой вазілі на карах, ціпер часцей на машыні.*

КАСНІ′ЦА *ж.* Стужка, каснік. *Я як маладзей была, касніцы ў косы ўсігда уплітала.*

КІЁЎКА *ж.* Пачатак кукурузы. *Кіёўкі ўжо паспелі, можна наварыць.*

КІЮ′ШКА *ж.* Тое, што і кіёўка. *Кіюшак дзіцям навару поўны чугун і сілкуюцца імі цэлы дзень.*

КІ′ЦІЦЫ *мн.* Махры на конскай збруі. *Калі свадзьба, каню збрую з кіціцамі надзівалі.*

КЛА'ДАУЯ н. Могілкі. *У нас кладаўя блізка ад дзярэўні, там усіх хаваюць.*

КЛЁЦ м. 1. Дзіцячая гульня. *Як толькі снег сыходзіць пачыная, і дзеці ў клёца пачынаюць гуляць.* 2. Палка пры гульні ў клёц. *Сам закінуў клёц, сам ідзі і шукай.*

К НАЛЕ'ЦЦЮ прысл. На будучы год. *К налеццю мой і меншынькі ў школу пойдзе, падраслі дзеці.*

КО'КАТ м. Тоўстая галіна на дрэвах. *Бурай кокат з грушы зламала.*

КОЦ м. Саматканая посцілка на льняной аснове, вытканая стужкамі са старога адзення. *Даўней, бывала, зімой тры-чатыры кацы новых вытку, а ціпер ужо ўсё.*

КРУГАЛЯ' прысл. Кругом. *Абыйдзі кругаля, так ні пройдзіш.*

КУЁ'ЎДЗІЦЦА, КІЁ'ЎДЗІЦЦА незак. Варочацца з боку на бок. *Ночку сёдні пракуёўдзілась, так і ні заснула.*

ЛА'СІЦЦА незак. Лашчыцца, песціцца. *Так іна з етым дзіцёнкам ласілась пастаянна, як чула серца бяду.*

ЛЕ'ТАШКА ж. Цяля мінулагодняга ацёлу. *Дзяржу дома старую карову і цёлку-леташку.*

ЛІДА'ЦЬ незак. Ванітаваць. *Так мне ноч лідала, ледзьве жыва.*

ЛІ'ПНІК м. Чай з ліпавага цвету. *Я ўлетку назбіраю ўсігда ліпавага цвету, а зімой чай з яго вару. Ён, ліпнік, як добрая зелля.*

ЛУ'ХМАННЯ н. Лахмоцце. Старое, паношанае або падранае адзенне. *Ні так даўно адвізла каравашніку цэлы воз усякага лухмання.*

ЛУ'ХМАЦЦЯ н. Тое, што лухмання. *Кожны год лухмацця збіраіцца і збіраіцца, прама ні знаіш, куды яго дзець.*

ЛЯСКО'ЎКА ж. 1. Дзікая яблыня. *Расце ў міне на гародзі ляскоўка, а яблакі на ёй смашней, чым садовые.* 2. Плод дзікай яблыні. *Насушу ўвосінь лясковак і на ўсю зіму на чай хватая.*

МАЗКО'ЛІЦЦА незак. Вазіцца з якім-н. прадметам. *Ні мазколься болі з візанням, пашлі сходзім к бабі.*

МАРМЫ'ЛЬ м. Чалавек, які звычайна незадаволены. *Вот захацела ўгадзіць гэтаму мармылю, яму ўсё ні так.*

МА'СЛІЦЦА незак. Доўга вазіцца з нечым. *Цэлы дзень прамасліліс з мясам: то каўбасы чынілі, то каўбух дзелалі.*

МУДО'ХАЦЦА незак. Шмат, звыш меры працаваць.

*Мудохаюсь, мудохаюсь адна, а канцы з канцамі ні зводжу.*

МЯ′ТЛУШКА *ж.* Матылёк. *Мятлушак на дварах, як нікалі.*

НАБУХТО′РЫЦЬ *зак. экспр.* Наліць вельмі поўна. *Поўнінькая вядро вады набухторыла.*

НАГДЫ′СЬ *прысл.* Некалі, даўней. *Нагдысь самы ўсё дзелаць паспівалі і аддыхаць ні забывалі.*

НАДЗЕ′ЖА *ж.* Надзея. *Надзежы на здароўя ніякай, з'ела міне работа.*

НАЗУ′БІЦЦА *зак.* Крыху прарасці. *Жыта ўжо назубілася, а там і ў колас пойдзя.*

НАКА′ХЛІЦЬ *зак.* Моцна напаліць у хаце. *Так ужо накахліў у хаці, што дыхнуць німа чым.*

НА ЎЛО′ННЯ *прысл.* На каленкі. *Вазьмі хлопчыка на ўлоння, пазабаўляйся з ім.*

НЕ′БЫТЫ *мн.* Жаночыя ўборы. *Усіх небытаў ні піракупіш.*

НЕ′ТРА *ж.* Гушчар. *Там, у нетры, ласі жывуць, надоячы кароў пасціла, сама бачыла.*

НІПАСТРО′ЖЫЦЦА *незак., зак.* Паводзіць сябе неахайна, неакуратна. *Як жа ты так ніпастрожыўся, паследнюю тарэлку разбіў.*

НІ′ЦЫ *прым.* Кволы, слабы. *Іна такая ў нас усю жысць ніцая. Сама біз чужой помачы нічога ніўздалея здзелаць.*

НІ′ЦІЦЦА *незак.* Мець выгляд нездаровага, хворага чалавека. *І во так цэлы дзень ніціцца, места сабе ні знаходзя.*

НЫКНУ′ЦЬ *зак.* Схавацца. *Куды чалавек ныкнуў, галавы ні прыкладу.*

НЮ′МА КО′ЛЬКІ *прысл.* Шмат, вельмі многа. *У лесі сёліта нюма колькі грыбоў.*

НЮ′НЬКІ *мн.* Аер. *У прудку, на балонні нюняк назбіраім і ў апцеку здаём.*

НЯВО′Ж *часц.* Няўжо. *Ну, нявож пайду с табой, а дзіцей куды.*

НЯГО′Ж *часц.* Тое, што і нявож. *Нягож, жылі раней добра: адны працавалі, другея — балявалі.*

ПАЛІНА′ *ж.* Пала, крысо. *Выцерлась уся паліна ў пальце, ні знаю, як зіму піраходжу.*

ПАНАРО′ЎКА *ж.* Звычка. *Узяў панароўку спаздаць.*

ПАМЕ′ЦЦА *зак.* Паабяцаць. *Памелась, дзеванька, памэжч, ідзі пакапай ім дзень бульбу.*

ПАТВО′РЫЦЬ *незак.* Патурацць просьбам, жаданням. *З малалества патворылі яму, вот такім гадкім і вырас ён.*

ПАТВО′РА *м.* і *ж.* Пястун. *Барыс іхні, як і наша Каця, патвора бальшая.*

ПАЧАРСЦВЕ′ЦЬ *зак.* 1. Пасвяжэць. *Послі дажджу на дварэ пачарсцвела.* 2. Крыху прасохнуць. *Жыта на ветрыку скора пачарсцвела.*

ПІРАШЧУ′КНУЦЬ *зак.* Перастаць. *Дождж пірашчук, пакуль гаварылі.*

ПО′ВЕРКА *ж.* Прыстасаванне з двух палак, дошак для нашэння грузаў. *Адзежу клалі на поверку і ўдвух насілі.*

ПО′МАЧ *ж.* Дапамога. *Каб была якая помач ціпер, хату б новаю шчэ пастроіла. А так дажыву тут свой век.*

ПО′НАГУ *прысл.* Ушчэнт, цалкам. *Понагу абчысцілі іхнаю хату, лахманіны добрай ні засталося.*

ПРАСЦЯ′ГНУТЫ *дзеепрым.* Працягнуты. *Калі й далей так жыць будзім, пойдзім па свету з прасцягнутай рукой.*

ПРАСЦЯГНУ′ЦЬ *зак.* Працягнуць. *Прасцягні руку і сам дастань хлеба.*

ПЯРЭ′ЛІТКА *ж.* Гусь мінулага года. *Я сабе на зіму толькі дзве пярэліткі аставіла, астальных прадала.*

РА′ННЯ *н.* Раніца. *Рання сёдні такоя, сонца столькі.*

РАСКРЭ′СЫ *мн.* Перакрыжаванне, скрыжаванне. *Стаю на раскрэсах і думаю, як мне дамоў іціць.*

РЫМСАВА′ЦЬ *незак.* Плакаць, упарціцца. *Рымсуй, рымса, боляй, дык галава забаліць, і нічога шчэ.*

РЫ′ХМАЗКА *ж.* Неахайная жанчына. *Іна ўсігда ходзіць рыхмазка рыхмазкай, каб хоць раз надзелась палюдзкі.*

САНАПРА′ХА *ж.* Калаўрот. *Раней усю зіму бабы на санапрахах пралі.*

САЦВЕ′ЦЬ *зак.* Патушыцца. *Пакладзі смітану ў боршч, йна і сацвея, і боршч будзя смашнейшы.*

СЕ′НАЧЫ *прысл.* У сённяшнюю ноч. *Казалі, Куклічы і Покаць абакралі сеначы.*

СІРАДАВІ′НА *ж.* Сярэдзіна (вёскі). *Даўней мы на сірадавіні жылі, а ціпер тут хату паставілі.*

СЕ′РВАЦЬ *незак.* Сіверацць. *Ад марозу рукі у міне часта серваюць, баляць.*

СКАРЖАНЕ′ЛЫ *дзеепрым.* Цвёрды, скаржэлы. *Хлеб такі скаржанелы, ні ўкусіць.*

СКАРЖАНЕ′ЦЬ *зак.* Зрабіцца цвёрдым, скаржэць.

*Ад жары зімля скаржанела, ніяк ні скапанічыць бульбу.*

СКУЛА′ *ж. мед.* Фурункул, гнойны нарыў. *У яго змалку скулы с цела ні сходзілі.*

СЛІНЬ *ж.* Рыбная чашуя. *У яршоў слінь здзіраць цяжола.*

СУ′ПІЦЬ: СУ′ПІЦЬ ХО′ЛАДАМ. Стан хворага, калі цела працінае холад. *Так мне супіць холадам, што ні знаю куды дзецца.*

СУСО′ЛКІ *мн.* Соплі. *Эт малая, сусолкі аж да поіса павесіла.* СУСОЛКІ РАСПУСЦІЦЬ. Плакаць. *Навошта было сусолкі распускаць, плакаць біз прычыны.*

ТА′НБУРКА, ТА′МБУРКА *ж.* Кручок для вязання. *Люблю я танбуркай візаць, усе карункі, скаціркі ёй звізала.*

ТАРНАВА′ЦЦА *незак.* Неспакойна стаяць, кідацца ва ўсе бакі. *Нешта карова наша тарнуіцца, чуць падаіла.*

ТРУСКАЛЯ′ *прысл.* Бягом. *Бяжыць мой хлопіц трускаля, увесь у слёзах.*

ТРУСКО′М *прысл.* Тое, што і трускаля. *Маліанькі труском, труском і дагнаў матку кала леса.*

ТУРА′ЦЬ *незак.* Ганяць. *З добры час цялёнка туралі, а ў хлеў ніяк ні загнаць.*

ТУРЛЫ′ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць невыразна, бубніць. *Ніхай сабе турлычыць пад нос, а ты ні слухай.*

ТЫРС *м.* Апілкі. *Тырс прывязлі, пайду, набяру каровам на падсцілку.*

УВАСМЯ′ГНУЦЬ *зак.* Утушыцца. *Мяса добра ў печы увасмягла.*

УЗВА′ЦЬ *зак.* Абразіць. *Ён чым-та узваў яго крэпка, што ў таго слёзы пакаціліся.*

УЗВЯ′ЛІЦЦА *зак.* Настойліва патрабаваць. *Як узвяліўся мой хлопіц: дай і дай яму, хоць з-пад зямлі дастань.*

УМУДО′ХАЦЦА *зак.*Ператаміцца. *Так за дзень умудохаўся, што ноч ні спаў.*

УПЛЁТ *м.* Стужка. *Тры касіны, а ўплёт ні развяжу.*

ЦВЯ′ЛІЦЬ *незак.* Дражніць. *Пацвяль дзіцёнка болей, пакуль ні заплача.*

ЦМЫ′ГАЦЬ *незак.* Скакаць. *Як толькі вісна, усе дзеці цмыгаюць ціраз рызінкі.*

ЦЯПЛО′ *н.* Агонь. *Дзеці адны расклалі кала хаты цяпло і бульбу пякуць. У печы цяпло гарыць, хата напіта, і дома нікога німа. Уключы ўжо цяпло, цёмна стала на двары.*

ЧЭРНЬ *ж.* Чорная фарба. *Калі чорных нітак ні было, дык самы ў чэрні красілі.*

ШАРО′ЙКІ *мн.* Вотруб'е. *Етыя шаройкі я карові часта аддаю.*

ШАРХАНУ′ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Так рука баліць, што шархануцца да йе ні магу.*

ШКІРКІ: СХАПІЦЬ ЗА ШКІРКІ. Схапіць за грудзі. *П'яны быў, схапіў за шкіркі і трасе, як паследні асінавы ліст.*

ШЛУ′ННЯ *н.* Вантробы. *Выіў ты мне сваім выццём і просьбамі ўсё шлуння.*

ШЫ′ГАЛЛЯ *н.* Апаўшыя іголкі сасны, ёлкі. *Дзеўка мая ягад прынісла напалавіну с шыгаллям.*

ХІ′НЦЯ: ХІНЦЯ КАЛОЦІЦЬ. Б'е ліхаманка. *Во з рання хінця калоця, места сабе ні знайду.*

ЯЛІ′ЦЦЯ: АДБІЦЬ ЯЛІЦЦЯ. Пашкодзіць унутраныя органы. *Ён шчэ малы быў, адбіў сабе яліцця, з той пары і хварэя.*

Я′РНІЦА *ж.* Жыта, пасеянае вясной. *Ярніцу сёдні б'юць, кажуць, багата ўрадзіла.*

*І. І. Лучыц-Федарэц*

## ЛЕКСІКА З ВАКОЛІЦ ДРАГІЧЫНА

Даная падборка дыялектнай лексікі, запісаная ад маёй маці Алены Тарасаўны Лучыц-Федарэц, з'яўляецца працягам папярэдніх публікацый, змешчаных у «Народнай лексіцы», «Народнай словатворчасці». Там жа апісваюцца характэрныя фанетычныя асаблівасці гаворкі в. Акропна (цяпер Нямержа) Драгічынскага раёна.

БЛЮ′ТАТЫСЬ *незак.* Блытацца. *Ек кото́ра баба в'е клубка́ ныміцно, то па́сма з ёго поспадають, і ныткэ́ так заблю́таюцца, шо йіх нэ́ґдэ ны розмота́йіш.*

БО′ЎТЫР *м.* Пухір, вадыр. *Ек я колэ́сь капусту сырыд жэ́та поло́ла, то на́дто спыкла́сь, і на тому місьці боўтырі поробэ́лыся.*

БУЛЬДО′ *н.* Вельмі кароткія (каля 1 см) «англійскія» вусы. *Наш ба́тько з госпіталя прыйі́хаў з бульдо́м под но́сом, а ўжэ пото́м стаў брэ́тысь.*

БУРДЮГЭ′ *мн.* Бігудзі. *Тыпэ́рішне дэ́ўкэ пазюрі понакра́шують, бурдюгэ́ навыду́ть, а ў горо́дэ зільле, бы гай шумэ́ть.*

БУ′РКЭ *мн.* Валёнкі, пашытыя з сукна і ваты. *Якéйі там колэ́сь булэ́ та́почке. Помытаю, мэ на́віть фізкультуру робэ́лэ ў бу́рках.*

БУ′СЬНЫЦА *ж.* Буслянка. *Колэсь у Тынывэ́ч хлопцэ одному там Ёсыповэ помынéлэ éйца буськовэ на гусéчэ, то ў хатэ вэ́вылыся буськэ́, а на хатэ ў бу́сьныцэ — гу́сэ.*

ВЭ′ЛЫВОК *м.* Вылівак. *Вэ́лывок жывэ тоді, ек хто курыцу вэ́тнэ по спэ́нэ, або ек вона́ розоб'é собі жывота́.*

ГА′РАХЭ *мн.* Кучаравыя валасы. *Нашэ дéўкэ ек выбыра́лыся на му́зыку, то пошчі за́ўшэ га́рахэ собі навыва́лэ ґо́зьдзём.*

Г′О′ЗЬДЗЬ *м.* Цвік. *Колэ́сь усё більшу ча́сьць булэ́ дырвéннэ ґо́зьдзі, хто там куплéў зылізнэ, дай за шо́ йіх було купэ́тэ?*

ГОРО′ДІНА *ж.* Агародніна. *Тыпэ́р мэ со́тке засадэ́лэ горо́діныю, бо карто́плі нэц ны родять.*

ГРА′ТЭ: ВОЎКЭ ГРАЮТЬ. Гайня, воўчае «вяселле».

ГЭ′НЫЙ *м.* Іней. *Ек спа́лэ ў коморэ, то гэ́нчі раз прочнэ́сься, а на пéрначовэ гэ́ный лыжэ́ть.*

ГЭ′РКА, ГЭ′РОЧКА *ж.* Гладыш з адбітым верхам. *У гэ́роцэ стоéло на полэ́цэ са́ло топлёнэ, або на́віть моглэ́ ў йій варэ́тэ дэ́шо мэ́нчэ.*

ДА′ЙКА *ж.* Чутка. *До́брэ, Манічко, шо я тыбэ́ судосэ́ў, а то лю́дэ да́йку пустэ́лэ, нэ́бісьто тэ ў Амэрыку пойіхала.*

ДЗЁМГАТЭ *незак.* Звягаць. *Кілька тэ шэ мыні дзёмгатымiш? Зусім го́лову одурэ́ў.*

ДОГАНЕ′ТЭ *незак.* Папракаць. *Нé, я ны хо́чу твэйі по́мочэ. Тэ ж потом мыні до смэ́ртэ доганéтыміш.*

ДОЛЯГА′ТЭ *незак.* Перашкаджаць, шкодзіць (аб здароўі), балець. *Дохтур кажэ, шо я здоро́вы, а я чу́ствую, шо шось там мыні долягáе.*

ДРАПЧЕ′СТЫ *прым.* Дробненькі, з дробнымі кветачкамі. *Колэ́сь усё помыта́ла, а за́рэ нэ́ц ны віду, ек гэтэ зільле драпчéстыньке называ́йіца.*

ДУДА′Н *м.* Цвёрдая частка пяра. *Шэ ба́ба моя казала, шо дуданэ́ ў гусéчых пірах заго́струвалэ і пыса́лэ йімэ.*

ДУ′НДЫТЭ *незак.* Жлукціць, адразу многа выпіць. *Учора було на́дто гарачэ́: я одра́зу пошчі цілу бу́ньку водэ́ выду́ндыла.*

ЕКЖЭ′ *прысл.* Як належыць, як трэба. *Убырэ́сь хорошэ́, вэ́прасуй собі ганавэ́цэ, да бу́дыш екжэ́ кавалер.*

ЖО'МНЫ, ЖО'ЎНЫ *прым.* Пругкі. ЖОМНІ'ШІ *прым.* Прутчэйшы, таўсцейшы. *Хáй бэ Зося зробэ́ла тобі рызінку ў свэ́дровэ ў дьві пéтлі, то він бýў бэ жомніші. Поліно прóсто твэ́рдэ, а матір'я́л* ('тканіна') *жóмны.*

ЖОЎТОБРУ'ШЫЧКА *ж.* Жаўтабрух. *Напрáўду, шо ў жоўтобрýшычкэ жывіт жоўты.*

ЖЭ'ЖАВЫЦА *ж.* Вадкі гной. *Ідэ́ подстылэ́ кýчку, а тó шэ поросéта потóпляца ў гэтый жэ́жавыцэ.*

ЗАБУ'РДА, ЗАБУ'РДЫНА *ж.* Складка тлушчу на целе. *У гэ́нчыйі бáбэ ек поднэ́мыца кохта, то забýрдынэ выднó: рýкэ бы завэ́тэ.*

ЗАВЫНУ'ТЫСЬ *зак.* Раптоўна захацець і настойліва патрабаваць. *Наша ўнýка гыткáя: ек завынýлася, онó зав'яжэ́ йій зáрыска чырвону кутáсю і гóдэ.*

ЗАГРА'НЫ *дзеепрым.* Аплоднены (аб яйку). *Ек йіцэ́ загрáнэ, то там е такéй кружок, а ек нé — то бы водá, усё розбóўтанэ.*

ЗАПАДА'ТЭ *незак. спагадл.* Хварэць. *Ганна стала западáтэ, мýсыть шось йій нáдто долягáе.*

ЗА'ПІЧ *м.* Запечак. *Дітэ, марш на зáпіч, ны слыпотітэ мыні тут, ек пэ́шкэ спычýцца, то тоді я вас поклэ́чу.*

ЗАХВЭ'НЬДЯНЫ *дзеепрым.* Запэцканы. *Покóйныца Шчéра зáўшэ булá нéка захвэ́ньдяна: дітэ, свэ́нэ — усё йій ны було колэ́ помэ́тысь.*

ЗБУ'РЫТЫСЬ *зак.* Раптоўна і моцна пабегчы, паліцца, пацячы. *Нішо кроў з носа збýрылася, лэдь спынэ́ў.*

ЗЛОЖЭ'ТЭ: ЗЛОЖЭТЭ СМІХ. Смяяцца з каго-н. *З мынэ хлопцэ такей сміх зложэлэ, шо ўсі бокэ порвалэ.*

ҚАМІ'НЬЧЫҚ *м.* Қостачка ў пладах. *Вышніўку с камíньчыкамэ нычóго стáвытэ: жывіт од йійі болітымэ.*

ҚІ'ХА *ж.* Қамера ў коле веласіпеда, машыны. *Кíху ўкладáють у опóну і чырыз віньтіль пóмпыю надувáють.*

ҚЛЕ'СТОР *м.* Қляштар. *У Торокáні булá колэ́сь бытó цэрква ў поля́ку — клéстор звáлэ.*

ҚОСТЫЛІ'ТЭ *незак.* Қасцянець. *Қолэ́сь я боса ішлá на тырнíўку* [свята 26 кастрычніка] *до тíткэ ў Завыліўе, то ў мынэ́ нóгэ зусім покостылілэ.*

ҚО'ЎМАТЭ *незак.* Паволі жаваць беззубым ротам. *На высільлі ў Сайкэ ўсі ўжэ дайно гулéють, а однá баба быззýба ўсё кóўмае.*

ҚРУЖЫЛЕ'ТЭ *незак.* Працягла кружыцца. *Йіроплáн кружылéў над сылом, алэ́ ны бомбэ́ў.*

ҚЫЛЫВА'ТЫСЬ *незак.* Хістацца. *Ны кылывáйся на кріслові, бо ўпадэ́ш.*

ЛЕ′ДВА *мн.* Сцёгны. *Тыпэ́р нам пошыхува́ло: мяснэ́йі лёдва купэ́лэ, до́брэ сьцёгна* ('кумпякі') *з йіх полу́чацца.*

ЛЭ′ВІЙ, ЛЫВЭ′Й *прым.* Сівы. *Зачу́ла ма́тёнка голосо́к, по новому дворі́ хо́дячэ, лывэ́йі гусэ го́нячэ.*

ЛЭ′Я *ж.* Тоўстая жанчына. *Тэ ху́тко бу́дыш, бы лэ́я, шо й у двэ́рэ ны у́лізыш.*

МІ′ШАНЭ *прым.* Курыца-гермафрадыт. *Гэ́то ны то́ курыца, ны то́ півінь.*

МО′ДА *ж.* Узор. *Ек я була́ молода́я, то і я у́міла тка́тэ у́се́кэ модэ.*

НА ОДЫХІ′ДНЭ *прысл.* На адыход, развітваючыся. *Ну то шэ́, браці, давай с тобо́ю по одны́й по́рцыйі вэ́пйімо на одыхі́днэ.*

НАВЫСНІ′ *прысл.* Вясной. *Навысні́ оно́ трава зазылыніе, дай выганёють корові на пашу, ек сіно у кого́ ко́нчылось.*

НАДОЗОЛЕ′ТЭ *незак.* Назаляць, лезці ў вочы. *По́кэ но́гэ ходять, то я бу́ду тут жэ́тэ, бо ны хо́чу тобі́ у Мінсковэ надозолётэ.*

НАСТО′РЧЫТЭ *зак.* Стукнуцца, ударыцца прамым пальцам (рукой) аж да хрусту ў касцях. *А коб тыбэ́ огонь спалэ́у, ек я чырыз тыбэ́ ёмко па́льца насто́рчыу.*

НАШТЫРХНУ′ТЫСЬ *зак.* Натыкнуцца. *Уважёй, дітятко, добрэ дывэ́сь, коб на вылкэ́ ны наштырхну́уся.*

О′БУЙ *ж.* Абутак. *Ба́ло у мага́зінэ о́буйі у́се́кійі-у́се́кійі.*

ОЗА′ДЬДЕ *н. зборн.* Пазадкі. *Вэ́йшло більш оза́дьдя, чым зірна́.*

ОКРУ′ШЧІК *м.* Акрайчык. *Ек пэ́ршы раз хліба з бухо́нка одрі́жыш, то гэто окру́шчік, а пото́м ужэ скёбка.*

ОСУ′ШЧІК *м.* Сухі выраст па краях буханкі хлеба. *Повыла́зылэ осу́шчыкэ з бу́лкэ.*

ОПО′НА *ж.* Пакрышка. *О́т порёдок: ровырі́ продаю́ть, а опо́н ныма́.*

ОПЫТА′ТЫСЬ *зак.* Прывітацца, паздароўкацца за руку. *Ха́йно подма́ныть, то нэ́ґдэ з ёю на́выть ны опыта́юсь.*

ОЧУВА′ТЫСЬ *незак.* Адчувацца, выяўляцца. *Колэ́сь бо́сымэ бі́галэ, аж по́кэ сніг ны вэ́падэ, а за́рэ на ста́росьць літ усё воно очува́йіца.*

ПАЛЬ *м.* Слуп. *Па́лі ста́вылэ, коб було выдно́, чыя гэто зымнё.*

ПЕ′РНАЧ *м.* Пярына. *Бáло молодэ́йі ў комóрэ спáлэ до колéд: ны мэ́рзлэ, бо накрывáлыся пéрначом.*

ПЛЫТ, ПЛЫТЮГА′ *м. перан.* Рэдка звязаны світэр. *Чы ж гэ́то свэ́дёр? Плытюгá одна. Тэ́ ж у ёмý зымóю зохлýдыйіш.*

ПОПУСТЭ′ТЭ *зак.* Кінуць. *Я пушлá ў сад вэ́гнатэ дытэ́й, шо ўлізлэ, а вонэ́, бандю́гэ, попустэ́лэ ў мынэ́ éблыком.*

ПОПЫРЫТРУ′БЛЮВАТЭ *зак. зніж.* Папсаваць, змарнаваць, звесці, з'есці. *Тэ готóва за гóсынь усё попырытрýблюватэ. А зымóю шó бýдыш йістэ? Зубэ на полэ́цу заложыш?*

ПРОСВІ′ТНЫ *прым.* Свабодны, без работы. *За дытэ́скамэ я ўжэ дванáццыть рік ны маю просвітныйі годэ́нэ.*

ПРЫВІ′ТЧІ *прым.* Прыветлівы. *Наш Гéнік прывітчі: зáўшэ опытáйіца.*

ПРЫСКРЭ′НОК *м.* Скрыначка, паліца з вечкам уздоўж бакавой сценкі куфра для захоўвання дробных прадметаў. *Мáтэ у прыскрэ́нковэ хавала своґó вынчéлного выночка, прысьціні, ґýзікэ і нашэ сухэ́йі пупэ́.*

ПЭ′ШЧЫК *м.* Рагавая частка птушынага пяра. *Ек станыш кýрыцу скýбстэ, то з йійі вылазять пэ́шчыкэ; йіх трэба вырывáтэ, бо будэ гэ́дко йістэ.*

РА′КАТЭ *незак.* Кракаць. *Качкэ́ рáкають табэ жабэ́.*

РЭ′КАТЭ *незак.* Доўга, заікаючыся, расказваць. *Цэть, гóдэ тобі рэ́катэ, надойіў ужэ, ек гірка рэдька.*

РО′ШЧА *ж.* Расліны. *Усё, шо посáджано у горóдэ, гэ́то рошча.*

СВЫСТА′ТЭ *незак.* Цёхкаць (пра салаўя). *У нас буськó клёкóчэ, а соловэ́й свэ́шчэ.*

СІ′ЧКА *ж.* Мядзведка. *Січка быто чырвякэ́, алэ чырвякэ білэ, рабэ́йі, а січка чорна, подсікае коріньне ў горóдэ, і рóшча тоді сóхнэ.*

СПУ′РХНУТЭ *зак.* Успыхнуць, зазлаваць. *Дэсь нáша нывістка зáўшэ моўчéла, а то онó я одозвáўся, одрáзу спýрхнула, бы запáлок.*

СТА′ЛКА *ж.* Столка. *У бýркэ кладуть вату ў дьві стáлкэ.*

СТРЭНЬ *м.* Калена. *Вонэ́ нам — далёка роднé, мусыть, ужэ́ чытвóрты стрэнь.*

СУМО′ВЫНЭ *мн.* Змовіны. *На сумóвынэ договóрующа, колэ́ робэ́тэ высільле.*

СЧЫНЕ′ТЭ *незак.* Граблямі знімаць з кучы абма-

лочанага збожжа дробную салому і каласкі. *Шчынэ́ доб́рэ, то лёкші бу́дэ ёго віятэ.*

УГАМЭ'ТЫСЬ *зак.* Уціхамірыцца. *Шчурі́ крэшку ўгамэ́лыся, ек кубасэ́ с трутэ́зныю пойілэ.*

ХЛУД: ХЛУДОМ ПОСТАВЫТЭ. Адубянець. *Так змэ́рзла, шо ўсю́ хлу́дом поста́выло, і ны тэ́нутысь.*

ЦО'ХАТЭ *незак.* Есці з ахвотай, злёгку чмякаючы. *Поросе́та ўжэ то́жэ цо́хають карто́плі з о́сыпкію.*

*М. П. Пазнякоў*

## З ЛЕКСІКІ РОДНАЙ ВЁСКІ

Прыведзеныя ніжэй словы запісаны ў 1978 годзе ў в. Заброддзе Быхаўскага раёна. Вёска знаходзіцца ў 18 км ад г. Быхава і ў 12 км ад Баркалабава. Побач працякае невялікая рака Грэза, якая ўпадае ў Друць.

АБВЯСЦІ'ЦЦА *зак.* Абазвацца, падаць голас. *Гэта ж нада так абідзіцца. Шукалі, звалі, звалі — ні абвясціўся дажы.*

АБЛЕ'ТНІК *м.* Дровы, якія праляжалі лета. *Зімой аблетнікам будзім тапіць печ, а цяпер і трэскі і смалякі ў ход пойдуць.*

АБМЫ'ЛКІ *мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну. *Занясі абмылкі вылі, толькі ні ля бульбы. Ёй ат іх урэдна, яны ж мыльныя дужа.*

АБШЧАПЕ'РЫЦЬ *зак.* Моцна абняць, абшчапіць. *Хацела іна сына аставіць на зіму ў бабкі, а ён як абшчаперыў матку за галаву, як заплакаў, так іна і ні пакінула.*

АКАНО'М *м.* Страва з мёду, булкі і гатаванай вады, якую каштавалі перад ядой на Вялікдзень.

БА'БА *ж.* Бэра. *Баба — груша восенская. Кампот з яе харашо ставіць. Іна і паляжыць доўга, тады дужа смашная.*

БАЛА'БУШКА *ж.* Мянтуз. *Балабушка мяккая, слізкая, біз касцей іна. Смашная дужа рыба.*

БАЛАНДЗЮ'К *м. зневаж.* Брадзяга, валацуга. *Пацягнуўся ўжо, як баландзюк які, па вуліцы. Ні розуму, ні страму німа ў чалавека.*

БАСЬЦЯ'ЦЦА *незак. асудж.* Валачыцца. *І што за*

*чалавек такі, басьцяецца дзень дзе папала, дому ні глядзіць.*

БІЛАЗО'РЫ *прым.* З вялікімі блакітнымі вачамі. *Чый гэта хлопчык білазоры бегая, ці ня Кузьмічоў?*

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, укалоць (нажом, віламі, рагамі і інш.). *Біцца ні лезь, а то нажом варсане хто ішчэ. Глядзі, каб каровы цялушку не варсанулі, а то ж іна першы дзень ідзе на пашу.*

ВАШЧА'НКА *ж.* Мачалка. *Распар вашчанку, мякчэй будзя сьпіну церці.*

ВУЛЛЁ *н.* Вулей. *Гэта вуллё ішчэ дзед твой усьцягваў на ліпу.*

ВЫ'КНАРХАЦЬ *зак.* Выпрасіць, выкленчыць. *Дзень хадзіў за бацькам, прасіў, прасіў і выкнархаў у яго грошы на матацыкал.*

ВЫ'МІРГ'АВАЦЬ *зак.* Выкамбінаваць, сэканоміць. *Думала вымірґаваць трохі грошы ў гэтым месіцы, дык дзе там — ішчэ і пазычыла.*

ВЫКІДА'ЦЦА *незак.,* ВЫ'КІНУЦЦА *зак.* Вырастаць, з'яўляцца (вырасці) у вялікай колькасці (аб грыбах). *Баравікі як выкінуліся, дык уся дзярэўня ў лесі днюя.*

ВЫ'ЧХНУЦЦА *зак.* Стаміцца, займаючыся непасільнай працай. *Ну што, вычхнуўся. Я ж казаў табе — не занясеш адзін. Дваім лягчэй будзя.*

ГАРЫ'ШЧА *н.* Выгараўшае месца ў лесе. *Учора на гарышчы быў. І лесу ж пагарэла там — гіктараў дзесіць.*

ГАРЭ'ЛІК *м.* Бульбіна з падгарэлым верхам. *Зьнімі гарэлікі з чыгуна і патаўчы бульбу.*

ГЛІ'НКІ *мн.* Глінішча. *Схадзі ў глінкі, накапай вядры са два гліны.*

ГРА'НКА *ж.* Соты разам з мёдам. *Я мёд больш люблю ў гранках, ні катаны.*

ГРАЦКО'ЎЯ *н.* Грэцкая салома. *Схадзі ношку грацкоўя прынясі, карові ўкінь.*

ГУЛЁК *м.* Ігрок. *Гулёк мне знайшоўся — караля вальтом б'е.*

ГУСАКІ' *мн.* Пасмы травы, якія могуць застацца пасля касьбы. *Прыжымай касу, а то гусакоў многа астаўляіш пасля сябе.*

ДАБА'ВІЦЬ *зак.* Завезці, занесці што-н. куды-н. *Лажыся спаць раней сёння. Заўтра ранінька дабавіш мне яблыкі на аўтобус.*

ДЗЕ'ВІЦА *ж.* Гатунак летніх вялікіх чырванабокіх

груш. *Ну і грушы ў Кузьміча, дзевіцамі заве іх. Бальшыя, красівыя, салодкія, варэнне з іх дужа харошае палучаецца.*

ДОР *м.* Гонта. *Залетась хату шыфірам накрыў, а хлеў дорам. Дор, праўда, стары, ішчэ з бацькам драў, ды ж гадоў з дзесіць паляжыць.*

ДРАЧ *м.* Блін з дранай бульбы, дранік. *Тры драчы з'еў вутрам, так дзень ваду папівайю.*

ЖВЭ'НЬКАЦЬ *незак. асудж.* Гаварыць што-н. пустое. *Як ты ўжо надаеў сваімі разгаворамі, калі ты жвэнькаць пірастаніш.*

ЖМОТ *м.*, ЖМО'ЦІНА *м.* і *ж.* Жмінда, скнара. *Ён такім жмотам стаў, што і йсьці к яму с прозьбай ні стоя. Гэты жмоціна ніколі сваім ні раскініцца.*

ЗАДО'ЎЖЫЦЦА *зак.* Затрымацца, засядзецца. *Учора на пасядзелках задоўжылася, так сёння позна спала.*

ЗАМАГА'ЦЬ *незак.* Браць верх, крыўдзіць. *Твой хлопіц хоць і меншы, а большага замагая.*

ЗАЮЎРЫ'ЦЬ *зак.* Раззлавацца. *Мой так заюўрыў учора, што й гаварыць ні хацеў.*

ЗБА'ЙСАЦЬ *зак.* Згубіць. *Дзе гэта твой складанчык? Харошы ножык быў. Няўжо збайсаў дзе?*

ЗМАНТА'ЧЫЦЬ *зак.* Абмануць, схлусіць. *Нада ж так змантачыць! Сказаў, што ў дзядзькі два дні гасціў, а дзядзька прыехаў сёння і кажа, што і ў вочы яго не бачыў.*

ІСК *м.* Пчаліная разведка. *Другі дзень іск у вульлі, можа і рой сядзя.*

ІСКАВА'ЦЬ *незак.* Весці разведку (пра пчол). *Калі пчолы каля вульля ў'юцца і нікуды ні ліцяць, то гэта яны ішчэ іскуюць, ні селі ішчэ.*

КАЛАТУ'ШКА *ж.* Доўгая палка з замацаванай накрыж на таўсцейшым канцы кароткай планкай для загону рыбы ў сетку. *Дзьвюмя калатушкамі луччэй рыбу заганяць, з двух бірагоў зразу.*

КАПАНІ'ЧЫЦЬ *незак.* Матычыць. *Сёння бульбу капанічыла, заўтра нада буракі пракапанічыць.*

КАРПЫ'ЛЬКА *ж.* Тое, што і ярачка.

КАЎЗЕ'ЛІ *мн.* Каток. *Вывучы ўрокі спірва, тады ідзі на сваe каўзелі.*

КІЁЎКА *ж.* Кукурузны пачатак, кіях. *Ачысьці кіёўкі. Напарым кукурузы свежай.*

КЛЁЦ *м.* Металічны зуб у баране. *Нада барану паправіць, а то тры кляцы паціраліся.*

КНА′РХАЦЬ *незак. асудж.* Выпрошваць. *Ні сядзі, ні кнархай, усядно нічога я ні дам табе.*

КУБА′Р *м.* Пасудзіна з кары вольхі або асіны для збірання ягад. *Ягад знайшоў у лесі многа, так во кубар здзелаў з кары альховай і набраў дзіцям трохі.*

КУ′МІЛЬГАМ: ВЫЛІЗЦІ КУМІЛЬГАМ. Дрэнна скончыцца. *Гэта ж нада цэлы дзень у вадзе і ў вадзе, глядзі, каб кумільгам табе гэта купання ні вылізла.*

КУПЕ′ЛА *н.* Невялікая круглай формы забалочаная мясціна сярод поля, звычайна зарослая травой і хмызняком. *У купелах раней вуткі вадзіліся, а на купінах брусьніцы расьлі.*

КУРАСПЕ′ЛКА *ж.* Скараспе́лка (бульба). *Накапайця кураспелкі, зварым на вячэру. Дужа свежай бульбачкі хочыцца.*

КУСА′НІЦ *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Еш хлеп да канца, ні пакідай кусаніц.*

ЛАБАЗЬЗЁ *н. зборн.* Быллё. *Канаву абкашваю я, дык не сена, а лабазьзё адно там.*

ЛЕ′ЖАНІЦ *м.* Яблык, які праляжаў нейкі час. *Яблык сарвеш, укусіш раз і есьці ні хочыцца, а як паляжыць — другое дзела. Лежаніц на многа смашней.*

ЛЕ′ЖАНКА *ж.* Груша, якая праляжала нейкі час. *Спытайця грушы. Лежанкі. Дужа смашныя. Месіц у сені ліжалі.*

ЛЕ′ТАШКА *ж.* Цялушка, якая нарадзілася ў мінулым годзе. *Чыя гэта леташка з кароўмі не ходзя? Харошая цялушка.*

ЛІСІ′ЦА *ж.* Прапаленае месца на вопратцы. *Што, схапіў лісіцу? Не патлазь к агню бліска, а то ўвесь загарысся.*

ЛЬЛЯ′ННЯ *н.* Месца, дзе рос лён; скошаная трава з такога поля. *На льлянні ўжо кароў пасуць. Ён прывёс два вазы льляння з поля.*

ЛЯСУ′НАК *м.* Дзікі яблык. *Учора ў лесі лясункаў назьбіраў — горкія, як асіна, а свінні ядуць уваўсю.*

МАНТА′Ч *м. зневаж.* Хлус. *Ай, мантач які! Наплёў, нагаварыў, а каб хоць грам праўды было.*

МІРТВА′ *ж. зборн.* Мёртвыя пчолы пасля зімоўкі. *Нада вуллё ад міртвы ачысьціць.*

МО′ТУРНА *прысл.* Моташна. *На цябе і глядзець мотурна, а не толькі ўмесьці жыць.*

НАБІРА′НКА *ж.* Пасудзіна малога памеру для збі-

рання ягад. *Пакуль ён адну набіранку чарніц набярэ, дык я дзве ўжо набяру і ў вядро высыплю.*

НАРУГА'ЦЦА *незак.* Дражніцца, насміхацца. *Ні наругайся яму, а то дагоня, дык бедны будзіш.*

НАЎСКАСЯ'К *прысл.* Напрамік. *Ад рэчкі йдзіця наўскасяк аж да лесу, а там рукой падаць.*

НАХВАРО'БЫ *прысл.* Навошта. *Нахваробы табе тая рыба. Пасядзі дома, холад на дварэ.*

НО'ГДЫ *злучн.* Бо, а то. *Нада сена скласьці, ногды ішчэ дож пад вечар пойдзя.*

ПАГО'Н *м.* Канава без вады ўздоўж дарогі. *Прошлы раз пагон абкасіў, так вазок харошы сена прывёз.*

ПА'ДАНАК *м.* Апад. *Паданкі ўсе сабрала ў саду, хай свінні ядуць.*

ПАДМІТА'ЛЬНІК *м.* Вугал ля дзвярэй, дзе ставяць венік і шуфлік. *Пастаў венік у падмітальнік, хай пад нагамі ні валяіцца.*

ПАДСЛЁПІСТЫ *прым.* Падслепаваты. *Ты Сьціпана ні знала, на хутары жыў. Высокі, падслёпісты такі. Памёр ужо, людзі казалі.*

ПАД'ЯЛДЫ'КА *м.* і *ж. асудж.* Пра чалавека, які ўгодліва падтаквае. *Пад'ялдыка хіба скажа што путнае? Сёння табе падпяе, а заўтра на цябе нагавора.*

ПА'ЙКА *ж.* 1. Дзялянка травы на лузе. *Мельнікавы хлопцы ўчора скасілі ўжо сваю пайку, сёньня цёццы косюць.* 2. Абед, які бяруць з сабой на работу. *Харошую пайку табе жонка дала, аб'есьціся можна.*

ПІ'НТУС *м.* Нервовы чалавек, псіх. *Расхадзіўся ўжо пінтус, дома нільзя сядзець.*

ПІРАБО'Р *м.* Пласт сена. *Набірай меншы пірабор, а то сыраватае ішэ сена, цяжкае.*

ПО'ДМАЗАК *м.* Подмазка. *Ну што гэта за кот, узноў подмазак сьцягнуў.*

ПО'СІК *м.* Надзьмуты і высушаны мачавы пузыр кабана.— *Ці гэта вы ўжо свайго кабана забілі? Бачу хлопіц ваш з посікам гуляіцца.— Не. Гэта ж дзядзька надуў яму ды прынёс. Ён біў на той нядзелі свайго.*

ПРЫБА'ННІК *м.* Прылазнік. *Як толькі дзед лез на палок парыцца, усе выбігалі ў прыбаннік і сядзелі там, пакуль ён ні выходзіў.*

ПРЫГА'РКА *ж.* Корка бабкі, кашы. *Бабка ўжо ўвапрэла. Хай ішчэ трохі пастаіць, прыгарка смашней будзя.*

ПРЫТЫ'РАК *м. зневаж.* Дурань. *Што ад яго дажджэсся, прытырак ды і толькі.*

ПРЫТЫ'РАНЫ *прым. зневаж.* Дурнаваты. *А-а! Прытыранаму гэтаму што ні кажы, ён сваё будзя плесці.*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Многа і часта піць. *Што ты ўсё памінутна ваду пугаеш ды пугаеш?*

ПЯ'КАЦЬ *незак.* Падаць (пра плады). *Яблыкі і дзень і ноч пякаюць і пякаюць. Чуіця: пяк! пяк!*

ПЯЧУ'РКА *ж.* Невялікая нара ў беразе ракі, вадаёма пад вадою, у якой хаваецца рыба. *Нашы хлопцы рукамі рыбу ловяць. Дзесяць, пятнаццаць пячурак абгледзяць і кілаграмы тры рыбы ёсь.*

РАСЬЦЯРО'БАК *м.* Месца высечанага хмызняку. *Кароў на расьцяробку пасьціць харашо. Травы там хапае і ядкая ўся.*

РАЧКАВА'ЦЬ *незак.* Працаваць нагнуўшыся. *Другі дзень на гародзі рачкую, а ат травы ні атбіцца.*

САБА'ЧКІ *мн.* Учэпістыя калючкі ваўчкоў. *Прайшоў па балоту, дык сабачак да кален начапляў.*

САПРА'ЎДАШНІ *прым.* Сапраўдны. *Сапраўдашняга мядзьведзя я ні бачыў, у кіне толькі.*

САРО'КІ *мн.* Гатунак летніх чырванабокіх яблыкаў. *Гэтыя яблыкі завуць сарокі. Растуць яны бальшыя, краснабокія і дужа сочныя.*

СЕ'ІНКА *ж.* Насенная бульба. *Сеінку мы ў восінь атбіраім і ў скапец закапваім.*

СЕ'РКА *ж.* 1. Галоўка запалкі. *Серкі ў спічках атсырэлі.* 2. Стрыжань у алоўку. *Гэты карандаш ужо ні застругаіш, серка ў ім патрэскалася.*

СЁЛІТКА *ж.* Цялушка, якая нарадзілася ў гэтым годзе. *У мяне самога сёлітка ёсь, дык ні ведаю ці здаць яе, ці на каройку пакінуць.*

СІВА'ЛКА *ж.* Пасудзіна з ліпавай кары для ручной сяўбы. *Цяпер машынамі сеюць, а бывала ж сівалку на плечы і ходзіш па полю.*

СІ'КАЎКА *ж.* Рыба сечка. *Сёліта ў рэццы сікавак дужа многа. У пясок яны любяць заточвацца.*

СКАЛО'ЦІНА *ж.* Маслёнка. *Выпі скалоціны свежай, толькі што масла збіла.*

СКАПЕ'Ц *м.* Капец. *Бульбу на насеньня ў скапец сыпця.*

СКРЫЛІ' *мн.* Парэзаная тушаная бульба. *Сёння на абет скрылі паставіла. Скора даўжны ўжо ўвапрэць.*

СЛА'НІШЧА *н.* Сцелішча. *На сланішчы ішчэ ляжыць лён. Як паднімуць яго, тады кароў можна будзя пасціць і там.*

СТРА′МНІК *м.* Бессаромны чалавек. *Ну і страмнік жа ён: напіўся, стаў людзей абгаворваць, ругацца — ці ж гэта чалавек?*

СУЛІ′ЦЬ *незак.* Даваць, прапаноўваць. *Ці суліла ты сёння поіла карові?*

СХАПІ′ЦЬ *зак.* Збіць адно з другім цвіком, змацаваць. *Тут гвозд нада бальшы, каб гэтыя жэрдкі схапіць.*

СЬЛІПЯНДЗЯ′ *м.* і *ж. зневаж.* Слепаватая асоба. *Сьліпяндзя ты, ішоў па вуліцы і ні замеціў, стаіць машына лі крамы ці не.*

ТАПЛЁНКА *ж.* Кіпячонае малако. *Ні пі сырое малако, таплёнкі січас нальлю.*

ТРАПА′ЧЫЦЬ *незак.* Вастрыць касу мянташкай або бруском. *Часьцей касу трапач, лягчэй касіць вострай, а то стомісся быстра.*

УГРЫНЁМ *прысл.* Бягом. *Чаго гэта іна ўгрынём дамоў кінулася?*

УЗЯ′ТАК *м.* Медазбор. *Сёліта пчалам узятка ніяк німа з-за дажжой.*

УКЛЯПА′ЦЦА *зак.* Абазнацца. *Думала, Васіль наш, так пахожы быў на яго той чалавек. Ну, як выкапаны. Алі ж не, укляпалася.*

УПРО′ЦІЎ *прысл.* Супраць. *Я не ўпроціў таго, што ў горад едзіш, толькі глядзі вярнісь посьлізаўтра.*

УПРО′ЧКІ: ІСЦІ ЎПРОЧКІ. Кідаць сям'ю. *Бацька йіхны ўжо два гады як упрочкі пайшоў. Жыве цяпер дзе-та пад Смаленскам, жаніўся ўзноў там.*

УРЫ′НУЦЦА *зак.* Уваліцца. *Ён ішоў позна вечарам і ў канаву ўрынуўся.*

УСТУРЫ′ЦЬ *зак. зневаж.* Падняць, разбудзіць. *Хто цябе устурыў ні свет ні зара?*

УСЯДНО′ *прысл.* Усё роўна. *Яму ўсядно, ці дож заўтра, ці снег.*

ХАЛАДЗІ′ЛКА *ж.* Халодная вада (у лазні). *Німа ў бані халадзілкі, прынесьці нада, а то сённі ў катле вада — кіпяток.*

ХА′ЛІПА *ж. груб.* Рот. *Чаго ты халіпу сваю раскрыў, я з табой ні гавару.*

ХЛУДЗІ′НА *ж.* Дубец. *Дзе гэта ты два дні быў? Німа на цябе хлудзіны добрай.*

ХЛЯ′БАЦЬ *ж.* Слата, хлюпота. *На дварэ хлябаць, макрата, што і выхадзіць ні хочыцца.*

ЦЕ′ПІРСЯ *прысл.* Даўнавата. *Цепірся ты пайшоў, дзе так доўга бавіўся?*

ЦЫ'РКАЦЦА *незак.* Марудна рабіць. *Што ты цыркаесся тут з гэтай копкай, разьвярні, разьвярні ды хай сохня — травы тут з пуд, а ты калупайесся.*

ЧАЎПЕ'ШКА *м.* і *ж. зневаж.* Пра чалавека, які гаворыць штосьці бязглуздае. *Што ты гаворыш, чаўпешка ты, хто павера табе?*

ШКА'РАДА *ж. зневаж.* Блазнота. *Во шкарада, агрэст увесь абарваў учора.*

ШЛУ'НЬНЯ *н.* Нервы. *Сыйшоў бы ён куды на дзень, не чапаў яе, а то ўсё шлуньня парве маладзіца крычучы.*

ШО'ЛАМ *м. абразл.* Дурань, шалапут. *Ад гэтага шолама дабра дажджэсся? Яму як ні трубі, а ён сваё дзелая.*

ШПО'КАЦЬ *незак.* Падаць (пра плады). *Грушы пасьпелі ўжо, на зямлю шпокаюць, шпок ды шпок. Скора ўсе абсыпуцца.*

ШУ'МКА *ж.* Пенка на малацэ. *Сёння шумкі многа на малацэ — заўтра дож будзя.*

ШУР-ШУР-ШУ'Р і ШУ'РА-ШУ'РА-ШУ'РА. Словы, якімі падзываюць авечак.

ШЫТНЫ: ШЫТНЫЯ НІТКІ. Тонкія, роўныя ніткі, прыгодныя для шыцця.

Я'РАЧКА *ж.* Маленькая прадаўгаватая ямачка для дзіцячай гульні ў чыжыка. *Дзеці ярачак накапалі, гуляючы ў чыжыка, вуліцу папорцілі.*

***І. У. Сацута***

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КРЫТЫШЫН ІВАНАЎСКАГА РАЁНА

Вёска Крытышын знаходзіцца ў 10 км ад г. Іванава Брэсцкай вобласці. Гаворка вёскі адносіцца да паўднёва-заходняга дыялектнага масіву (паўднёвазагародскі тып брэсцка-пінскіх ці заходнепалескіх гаворак). Найбольш яркімі асаблівасцямі гаворкі з'яўляюцца наступныя: вымаўленне *і* на месцы *о* ў новых закрытых складах пад націскам (*він* 'ён', *більш* 'больш', *кінь* 'конь', *віз* 'воз'), аканне (*головá, сіно, глыбóко, высóко*), непераходнае памякчэнне *д, т* перад галоснымі пярэдняга рада (*діло, тісто, дялка, тяга*), спалучэнне *мн'* на месцы *м'* (*мнéсо, сімне*), пашырэнне пратэтычнага *г* (*гокнó, гóзыро, гýлыца*), суфікс *-ыск-* (*хлопчыско, картоплыско,*

*льнўско)*, ужыванне сінтэтычнай формы будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання *(пысатыму, робытыму, ходытыму)*, наяўнасць постфікса *-са(-с)* у зваротных дзеясловах *(мыўса, наробыўса, одвырнўлас, хытáлас)* і інш.

БІ'ЙКА *ж.* Бойка. *З бійкы масло смачнійшэ, чым городскэе.*

БО'ДНЯ *ж.* Вялікая бочка з ручкамі, у якую складвалі адзенне. *На высіллі подымалы бодню і дывылыса, чы много прыданного ў дійкы.*

БОСА'К *м.* Багор. *Босаком чэплялы дырывыны і вытягвалы іх з канавы.*

БУ'НЬКА *ж.* Збан з вузкай гарлавінай. *У буньцы бралы на сынокос воду чы молоко.*

БЫДЭ'ЛЛЕ *н.* Бадылле. *Угосынь згрібалы быдэлле і накрывалы ім картоплі.*

ВАРЫМНЕ' *ж.* Уцепленая кладоўка ў доме. *У комору клалы жыто, а ў варымню — картоплі.*

ВЫРСТА'Т *м.* Варштат. *Колысь вырстат у нас цілу вэсну буў у роботы.*

ГА'ФЛІ *мн.* Вілы для падняцця і пераносу бульбы, буракоў. *До картоплюв бралы ны гноёвылы, а гафлі.*

ГОПАЛА'ТЫ *незак.* Палаць (зерне). *У запускы на току гопалалы жыто.*

ГОПАЛКЫ' *мн.* Начовачкі для палання. *Гопалкы робылы лёхкымы, шчоб ны тяшко було гопалаты.*

ГОЛІ'І *мн.* Алей. *Голіі робылы з льняного сімня.*

ДОЙНЫ'ЦА *ж.* Даёнка. *З дойныцы прос цыдылок молоко вылывають у банку.*

ДРАНЫ'ЦА *ж.* Лазовыя пруты для пляцення кашоў. *Нарізаў драныцы і сплів собі коше.*

Е'СЛА *мн.* Дзёсны. *Есла болеть, трэба до дохтора пойті.*

ЗАПО'НКА *ж.* Фіранка. *Запонка каля прыпычка ў сажу вымазалас.*

ЗА'ПУСКЫ *мн.* Час ад канца восені да каляд. *Корова отылыласа шчэ ў запускы.*

ЗОЛЫ'ТЫ *незак.* Запарваць бялізну. *Пырыт светом кыпятылы воду і золылы платте.*

КАРТОПЛЫ'ННЕ *н.* Бульбянае бадылле. *Картоплынне наросло, а картоплюв ныма.*

КВА'ШЫЛЫНА *ж.* Халадзец. *На высіллі подавалы сыр, квашылыну, кысіль.*

КНЭ′БЫЛЬ *м.* Кіёчак для вязання снапоў. *Загубыла дэсь кнэбыля, прыйшлоса в'язаты сноны палічынью.*

КОЦЮБА′ *ж.* Качарга. *Маты выгрыбла коцюбою попыл с пычі.*

КРЫШАНЫ′ *мн.* Бульбяны суп. *На обіт варылы капусту чы крышаны.*

КУЗА′КА *ж.* Казяўка. *Ты тоді буў шчэ ек кузака малэнькый.*

КЫНДЮ′Х *м.* Страўнік. *Так найіўса, шчо ажно кындюх болыть.*

ЛАДЫ′ШКА *ж.* Гладышка. *Выпыў цілу ладышку молока.*

ЛУГ *м.* Вада, працэджаная праз попел. *Лух буў мнехкый, ек шампунь.*

ЛУ′ЧКА *ж.* 1. Ніткі з воўны. *По вычорах прелы лучку.* 2. Невялікая ручная піла. *Тонкы дрова поріжу лучкыю.*

ЛЫМІ′ШКА *ж.* Страва з запаранага цеста, разведзенага вадой. *З одного мішка хліп і лымішка.*

МАРЫНА′РКА *ж.* Пінжак. *На свето батько одываў марынарку.*

МНЯСНЫ′ЦЫ *мн.* Мясаед. *Кабана мы былы пырыд мнясныцамы.*

МЫРГУВА′ТЫ *незак.* Меркаваць. *Мыргую тылушку здаты до Янова.*

НАВЫ′ПЫРЫДКЫ *прысл.* Наперагонкі. *Коровы навыпырыдкы кынулыса ў шкоду.*

НАДІ′ЖНЫК *м.* Палатно, якім накрывалі дзяжу з цестам. *Дійка, ек выходыла замуж, то брала з собою надіжныка.*

ОБІ′ЧКА *ж.* Вобад у рэшаце. *У рышыті зробы обічку вышшу.*

ОДЖЫМА′ТЫ *незак.* Мыць (бялізну). *Сорочкы оджымала ў ночовах.*

ПОЗО′ЛЫ *мн.* Вада са жлукта пасля запарвання бялізны. *Вырывалы колочок унызю жлукта і спускалы позолы.*

ПОПЫЛЬНЮ′Х *м.* Фартух, якім накрывалі жлукта. *Попыльнюха маты моя шчэ й тыпэр хавае.*

ПО′ТЫСЬ *м.* Прасніца. *По вычорам прыносылы каждый своёго потыся і прелы лён.*

ПРАВЫ′ЛО *н.* Бервяно, якое кладзецца ў апошнім вянку зруба. *Гэта дырывына на правыло добра будэ.*

ПРО'ШЧЫНА *ж.* Сорт палатна. *З прошчыны шылы сорочкы.*

ПЫЛЫ'ПОЎКА *ж.* Піліпаўскі пост. *У пылыпоўку почалы мы молотыты.*

ПЫ'ПЫЦЬ *м.* Птушыны страўнік. *Маты зварыла суп з курынымы пыпцямы.*

ПЫТРІ'ЎКА *ж.* Пятроўскі пост. *Пытріўка того року холодна була.*

ПЭ'ДРЫК *м.* Божая кароўка. *У пэдрыка пыталы про погоду.*

СВЫНЫ'НЫЦ *м.* Драўляны хлеўчык для свіней. *Поросет дыржелы ў свынынцы.*

СІ'ДАЛО *н.* Шасток. *Тхір курэй на сідалы ны зачыпыў.*

СПА'СОЎКА *ж.* Спасаўскі пост. *На спасоўку ходылы за козлякамы.*

СЫ'ЛНЫК *м.* Хлеўчык для сена, сплецены з лазы. *Сіно з болота дыржелы ў сылныку.*

ТЫ'ЧКА *ж.* 1. Крот. *Тычка ўсёй двір погурбыла.* 2. Шост. *Ек ны було шчэ ўзвода, то бралы воду тычкыю.*

ТЯ'ПКА *ж.* Матыка. *Задынь так намахаешса тяпкою, шчо лэдь до хаты ногы дотягныш.*

ЦЭ'ПКА *ж.* Замок-маланка. *Цэпка ў сподныцы розыйшласа.*

ЧЫНУВА'ТНЭ *н.* Сорт палатна. *Чынуватнэ йшло на радюгы.*

ШПУРНУ'ТЫ *зак.* Кінуць. *Мняче трэба було шпурнуты до мэты.*

ШЫМАНУ'ТЫ *зак.* Паваліць (з размаху). *А Стыпан ек шыманэ его на зэмню, шчо ажно гук пойшов.*

ШЫ'ТЫК *м.* Папружка. *Батько гучыв нас чесом і шытыком.*

ЮХТ *м.* Юшка. *Зачыны юхта, а то груба выхолодае.*

ЮЦ *м.* Сальцісон. *Замало пычонкы ў юц дала.*

***Т. М. Трухан***

## З ЛЕКСІКІ ЗАМОШЦАЎ

Прыведзеныя словы запісаны ў роднай вёсцы Замошша Любанскага раёна Мінскай вобласці. Гаворка гэтай вёскі характарызуецца захаваннем форм парнага ліку назоўнікаў ж. і н. роду ў спалучэнні з лічэбнікамі

*два, тры, чатыры (дз'в'е п'іс'м'е, тры наз'е, чатыры вакн'е)*, націскным канчаткам *-ом* у 1-й асобе мн. ліку дзеясловаў 1-га спражэння *(б'аро́м, грабо́м, кладо́м, нясо́м)*.

Матэрыялы запісаны ў 1986—1988 гг. ад Трухана Мікалая Фёдаравіча (1930 г. н.) і Трухан Вольгі Георгіеўны (1934 г. н.).

АБВЯРНУ'ЦЬ *зак.* Абвярцець. *Абвярні ногі анучамі да ў чобаты, то цяплей будзе старажыць на свінарніку.*

АБЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Зацягнуць (пра неба). *Абцягнуло ўжэ ўсе небо, цемната зрабіласа, ну і ліне зараз.*

АБШАРАШЫ'ЦЬ *зак.* Абабраць шалупінне цыбулі. *Пайду на двор цыбулю абшарашу, а заўтрэ ў пляцёнкі паўю.*

АБШЧАПЕ'РЫЦЬ *зак.* Абняць за шыю. *Абшчаперыла за шыю і сядзіць, а ты нясі яе да яшчэ патгушквай.*

АГЛЫ'ХНУЦЬ *зак.* Аглухнуць. *Твая цётка і аглыхла, і рабіць ужэ нічого ні можэ, стара жанчына.*

АГЫ'ЛЯ *выкл.* Выгук, якім адганяюць гусей. *Агыля, штоб вы здохлі, стапталі ўвесь загон с картоплямі.*

А'ЙСЯ *выкл.* Выгук, якім адганяюць свіней. *Айся ў хлявушнік, хваціць рыць землю, яшчэ ў лыч па дроту загнаць трэба.*

АКЫ'Ш, АКЫ'ША *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць курэй. *Акыш с поля, насыпала ячменю ў карыто, то ешце.*

АЛЮ'Ш *выкл.* Выгук, якім адганяюць цялят. *Алюш у хлёў, сена цэлые лескі наклала да мукі ў чан усыпала.*

АПА'ТРЫЦЦА *зак.* Абмыцца, прыбрацца. *Цэлы дзень была на гэтуй спякоце, трэба хоць трохі апатрыцца.*

АПТУЖА'ЦЬ *зак.* Стаць больш тугім, пругкім. *Аптужалі на дварэ каўбасы, то можно ўжэ ў камору нясці, хай там дасыхаюць.*

АПУ'ЛЯ *выкл.* Выгук, якім адганяюць куранят. *Апуля ў куратнік, хопіць па двару лятаць.*

АПЧА'ХНУЦЬ *зак.* Падсохнуць. *Трохі апчахне каўбаса на насіле і бацько пачне з ножыкам бегаць.*

АСЦЕПЯНІ'ЦЦА *зак.* Пасталець. *Стаў стары, то трохі асцепяніўса, а то лятаў па сялу.*

АСЬНІ'К *м.* Асіннік. *Асьніку ўзяла два паленца, дак і трашчаць на ўсю хату.*

АТЛЕ'ГЦІ *зак.* Адпусціць. *Трохі атлягло ат серца, то зноў пайду ў калхоз на работу.*

АТЛЁГА *ж.* Адліга. *Як соль мокра на стале, то атлёга на дварэ* (прыказка). *Атлёга на дварэ і с крыш пачынае капаць.*

АХВАТНЕ'Й *прысл.* Ахвотней. *Гуртам і рабіць ахватней, а то адзін сядзіш ззаду.*

БА'БСКІ *прым.* Жаночы. *Што ты надзеў бабскі жакет, хіба ў цябе насіць німа чаго?*

БАГА'СТВО *н.* Багацце. *Накапіла багаства на ўсю жызь, ужэ і дзецям і ўнукам хваціць.*

БА'ЛЬКА *ж.* Бэлька. *Бальку трэба пакласці, а потым доскі.*

БАЛЬШУ'ШЧЫ *прым.* Вялізны. *Ну і хлопец у цябе бальшушчы вырас да і рабіць усе ўмее.*

БАРА'НАК *м.* Абаранак. *Паехала ў Пагост на кані, то першым дзелам баранкаў накупляла дзецям.*

БЕ'ЛЬМА *мн. груб.* Вочы. *Чаго ты бельма свае вытрашчыў?*

БЕРАЖЫ'ЦЦА *незак.* Сцерагчыся. *Трэба беражыцца, адзявацца цёпло, каб ні прастыць.*

БЛІШЧА'СТЫ *прым.* Бліскучы. *Такі мацяр'ял блішчасты, аж глядзець нельга, і купіла нейдзе.*

БЛУ'ТАЦЦА *незак.* Бадзяцца. *Ні блутайса па хатах, лепш ляш да атдыхні.*

ВАБІРЫ'Ч: УЗЯЦЬ У ВАБІРЫЧ. Абхапіць, сціснуць рукой. *Так мьясо ўзяла ў вабірыч і цярэбіць сабе.*

ВА'РЫВА *н.* Вараная страва. *Бацько нічого ні хочэ з варыва есці, хоць што хочэш рабі.*

ВАТО' *прысл.* Хутка, зараз. *Толькі падаю карову, дам свіньям і вато прыду.*

ВО'ДЗЕ *прысл.* Тут. *Ні туды глядзіш, водзе вядро стаіць.*

ВОНЬ *прысл.* Вунь. *Вонь там стаялі дзве ёлкі, да вайны зрэзалі, а цяпер соткі.*

ВО'ТДЗЕКАВО *прысл.* Вось тут. *Бяры нітку і завяжы вотдзекаво і вотдзекаво.*

ВУ'НЬДЗЕ *прысл.* Вунь. *Вуньдзе стаяла стара хата, а нову бліжэй к агароду паставілі.*

ГАРУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Гаротны. *Якая гарушча жанчына, а ідзе, як струна.*

ГАРЭ'ТНЫ *прым.* Гаротны. *Гарэтна жанчына, усе жыццё адна прагаравала.*

ГРАБЯНЕ'Ц *м.* Грэбень. *Дачухна, дзе ты мой грабянец дзела? Трэба хоць косы рашчасаць.*

ГУБЕ′ЛЬ *м.* Губаты чалавек. *Атвесіў ўжэ свае вялізные губы, губель гэты, і яшчэ нешто даказвае.*

ГУРО′ЧНІК *м.* Агурочнік. *Палій гурочнік увечарэ, каб хоць трохі гуркі выраслі.*

ГУСЦЕ′ЧА *ж.* Гушчыня, зараснік. *Адна гусцеча ў Пажарніцы, хай мужыкі пойдуць да выцярабяць.*

ДАБРЭ′ННЫ *прым.* Вельмі добры. *Такі ўжэ дабрэнны чалавек, што ні папрасі, усе дась.*

ДАЛІКА′ТНЫ *прым.* Пераборлівы. *Далікатны твой хлопец: і етэ ні так, і тое ні етак.*

ДАНО′СКІ *мн.* Абноскі. *Я ні буду Коліны даноскі насіць, лепш жыду ў воз выкінь!*

ДРАБА′НЧЫК *м.* Дробны кавалачак бульбы. *Юху ўсю з'есь, драбанчыкі на дне астаюцца.*

Е′СЯКА *незак.* Ёсць. *Воля, ці есяка ў цябе сіто, хоць муку прасею на хлеб.*

ЖВА′КА: ЖВАКУ ЖАВАЦЬ. Жвачку жаваць. *К вечару вопухаль у каровы спала, стала жваку жаваць.*

ЖНЕ′ЎНІК *ж.* Іржышча. *На другі год на жнеўніку картоплі пасадзім, а цяпер хай жыто расце.*

ЖЫВУ′ШЧЫ *прым.* Жывы, жывучы. *Такі ўжэ жывушчы гэты чалавек.*

ЗАВУ′ТКА *ж.* Вытачка. *Вечар такі доўгі зімою, што завуткі пазаганяла ў кохце і падлажыла.*

ЗА′ДАК *м.* Азадак. *Я к парасяці, а яно затка не паднімае.*

ЗАПНУ′ЦЬ *зак.* Завесіць. *Трэба запнуць вокна, а то ўжэ вечар на дварэ.*

ЗАЧА′ХНУЦЬ *зак.* Патухнуць. *Пакуль стаяла каля калодзейзя, то ў печы зачахло, трэба патрашанкі ставіць.*

ЗДО′БНО *прысл.* Зручна. *Абы здобно было ў ботах хадзіць.*

КАПАЦЕ′ЦЬ *незак.* Капаць, працякаць. *Нешто вядро капаціць, мабыць цячэ, хай бацько выражэ дно, памідоры добрэ закрываць нанач.*

КАРТАПЛЯ′НЫ *прым.* Бульбяны. *Заўтрэ напяку картапляных блінцоў, сёдне картопляў вечарам начышчу.*

КАСЦЯРО′ВІЦА *ж.* Курынае проса. *Хоць касцяровіцы свіньям нарві, а то дзень равуць у хляве.*

КАЎТА′ЦЬ *незак.* Глытаць. *А ты есці толкам ні можэш, толькі каўтаеш, хіба цябе хто гоніць?*

КІРЗА′ТЫ *прым.* Кірпаты. *Кірзаты кажуць на таго, у каго нос як картопля, круглы такі.*

КВАКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Хлюпацець. *Два цюкі ўкінуў пат карову і сядно квакаціць пад нагамі.*

КЛАДЫ' *мн.* Могілкі. *Цяпер хаваюць людзей толькі на новых кладох, а старыя ўжэ зараслі.*

КМЕ'ТНЫ *прым.* Кемлівы. *Цяпер дзеці кметныя.*

ЛАХА'НЯ *ж.* Вялікая міска. *Налій вады ў лаханю, парашку ўсып да памый што.*

ЛУ'НУЦЬ *зак.* Адурманіцца, упасці. *Я чуць ні лунула на загоне.*

ЛУПА'СІЦЬ *незак.* Лупцаваць. *Калі будзеш ні слухацца, то буду лупасіць, як сідараву козу.*

ЛЫГА'ЦЬ *незак.* Прагна есці. *Колькі табе ні пастаў, ты ўсе палыгаеш, як век нічого ні бачыў.*

МАРШЧА'ТЫ *прым.* Маршчыністы. *Нешто ты пастарэў, маршчаты ўвесь зрабіўса.*

МАЦА'К *м.* Яйка з моцнай шкарлупінай. *На вялікдзень дзеці цэлы дзень у мацакі гуляюць.*

НАРО'ЧНО *прысл.* Знарок, наўмысна. *Нарочно сядзіць на печы, штоб мяне зло брало.*

НА'СЦЕ *прысл.* Насцеж. *Вецер атчыніў — і ўсю ноч дзверы насце.*

НЕК *прысл.* Неяк. *Даўно Кацю ні бачыла, нек гэтыя часы ні раблю я з ею разам.*

НІЎДА'ТНЫ *прым.* Няўдалы. *Яго машына тожэ ніўдатна. Я пякла хлеб да такі ніўдатны.*

НІЎЦЯ'ГНУТЫ *дзеепрым.* Не прывыкшы да работы. *Шэфы ніўцягнутые ў работу, ето ж табе ні калхознік.*

НО'ЖАНКІ *мн.* Нажніцы. *Дзе ты ўжэ ножанкі задзеў, трэба хоць кіпці пазрэзваць.*

ПАДО'ШВА *ж.* Падэшва. *Падошва атстала па такой гразі ходзячы, хай бацько прыклеіць.*

ПАКРЫ'ШКА *ж.* Пакрывала на падушку. *Падушкі пастаў і пакрышкамі накрый, глядзець харашэ.*

ПА'КРЫШКІ *мн.* Астаткі яды. *Хопіць табе бегаць на пакрышкі — і свае яды хапае.*

ПАМРАЧЭ'ННЕ *н.* Галавакружэнне. *После гэтаго льну, як панагінаесса доўго, то аж памрачэнне ў галаве робіцца.*

ПАПАЛАКА'ЦЬ *зак.* Спаласнуць. *Трэба, мабыць, папалакаць сетку, а то мухі садзіцьмуцца.*

ПАПЕРАДУ'ШВАЦЬ *зак.* Перадушыць. *Папрадушваў воўк усіх цялят у калхозе, як уварваўса.*

ПАСЛУ'ШНЫ *прым.* Паслухмяны. *Наш Коля маленькі такі ўжэ быў паслушны.*

ПАЎПО′ЙВАЦЬ *зак.* Упіцца (пра кіпцюры). *Паўпойваеш кіпці ў кіньдзюк да дыркі паробіш.*

ПАХЛІ′СТАЦЬ *зак.* Пасёрбаць. *Хочэш і горке, і салотке, і ўсяке пахлістаць.*

ПЕРАКІ′ : ПЕРАКІ СТАВІЦЬ. Пярэчыць. *Штоб яно знало малое першкі ставіць.*

ПЕ′ЎНЯ *прысл.* Напэўна. *Аппытала ўсіх баб у сяле, ніўкого пасолі німа, то мо ў Волі есь, пеўня.*

ПЛЁХАЦЦА *незак.* Пялёскацца. *Хопіць табе плёхацца ў гэтых ночвах, і так з ранку ні атдыхнула.*

ПРАТКАВЕ′КАЎСКІ *прым.* Стары, даўні. *Ты нейкі праткавекаўскі чалавек, нічого табе ні трэба.*

ПРАШО′РХНУЦЬ *зак.* Утварыць шорах, зашуршаць. *Абы учуюць свіньи, што прашорхнеш, равуць немым голасам, на дзверы лезуць.*

ПРЫСЛЯПІ′ЦЦА *зак.* Прычапіцца. *Чаго ты прысляпіўса к гэтуй дзеўцэ?*

ПЧАЛЯ′НЫ *прым.* Пчаліны. *От кап хоць адзін раз мьёду пчалянаго пад'есці ўдоваль.*

ПЫЛІ′ШЧЭ *н.* Пыл. *Няма дажджу, то на вуліцы пылішчэ стаіць.*

ПЫТАЛЬ: ДАЦЬ ПЫТЛЮ. Насварыцца, даць наганяй. *Як даў пытлю бабам, дак яны тут жэ замоўклі.*

РАЗАП′Я′ЦЬ *зак.* Развесіць, расцягнуць. *Разапні вяроўку да штаны свае павесь, хай сохнуць.*

РАСПАРЭ′Х *м.* Разрэз. *Ну й распарэх зрабіла ў спадніцы, аж цело відаць.*

РЭ′ДЗЯНЬКО *прысл.* Вельмі рэдка. *Бацько ні любіць, калі крышаны зварыш рэдзянько, трэба штоб гушча была і лошка стаяла.*

САЎСІ′М *прысл.* Зусім. *Усю ноч свіньню пільнавала ў хлявушніку, саўсім адубела.*

СВІНУ′Х *м.* Хлеўчык. *У той меншы свінух ні перагнала свіней.*

СКАМЯ′КАНЫ *прым.* Скомканы. *Нейке галянішчэ скамяканэ ў цябе.*

СЛАБО′ДНО *прысл.* Свабодна. *Слабодно цяпер у хаце, то хоць кішкі можно пачысціць.*

СНО′ЎГАЦЦА *незак.* Сноўдацца. *Чаго ты сноўгаесса па хаце, вазьмі зрабі што.*

СТАРА′ТЛІВЫ *прым.* Старанны. *Стаатліва дзеўка, усе ў хаце парабіла.*

СТАРА′ТНЫ *прым.* Старанны. *У гэтум сяле ўсе людзі старатные.*

СТРАХА'ЦЬ *незак.* Стрэсваць. *Страхай добрэ павяндліцу, каб солі ні было, нашто яна салёна.*

СТРУПЛІ'ВЫ *прым.* Пупышкавы. *Струплівые гуркі трэба ў банку закатаць.*

СЫРО'ГІ *мн.* Рагі поту. *З мяне сырогі йшлі, так нарабіласа за дзень.*

СЫЦЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі тлусты, гладкі. *Сыцезна карова, вым'я ні відаць, уся зліласа.*

СЫЦЬ *ж.* Тлустасць. *Дай, божэ, вяліке здароўе да малую сыць* (прыказка).

СЯДНО' *прысл.* Усё роўна. *Будам два кабаны дзяржаць, вясною сядно калоць трэба.*

ТАЎСЦЕ'ННЫ *прым.* Таўшчэзны. *Такі ўжэ таўсценны стаў, скорэ ў дзверы няўлезе.*

ТО'ЛЯЧКІ *прысл.* Толькі што. *Толячкі стаяў каля вас, а ўжэ на канюшні круціцца.*

ТЫ'ЦНУЦЬ *зак.* Сунуць. *Табе бацько тыцнуў грошы ў руку, каб ні бачыла я.*

У *прыназ.* За. *Бывае, што карова у пьяць гадоў пакрываецца.*

УДО'ХЛА *ж.* Смерць, канец. *Скорэ ўдохла прыдзе, вельмо цяшко мне.*

УДУ'БЛА *ж.* Халадэча. *Удубла нейка на мяне напала.*

УКІ'НУЦЬ *зак.* Даць. *Хоць бы ты крышаноў зварыла да ўкінула з'есці, а то ўсе на сухом.*

УПЕ'РАК *прысл.* Упоперак. *Уперак палажы корт і разрэж.*

УСЯДНО' *прысл.* Усё роўна. *Усядно я ні паеду ў горат, дома застануса.*

УХУТРО'ВАНЫ *прым.* Уцеплены. *Кажацца, і хата ўхутрована, а зімою холадно.*

ХАЛО'ДНЭ *н.* Халадзец. *Ты свінячые ногі ні сячы і ні кідай у кубелец, астаў на халоднэ.*

ХІСА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Ногі заднія хісаюцца ў кабана, хоць ты ў калхоз здай.*

ХЛОМ *м.* Хлам. *Толькі лісту да хлому ўсякаго с клёну, добрэ што бацько зрэзаў.*

ХРАМАЛІ'Н *м.* Гуталін. *Чаго ты тут лазіш, храмалін я ў дрывотнік вынясла, там і храмалінь.*

ХРАМАЛІ'НІЦЬ *незак.* Васкаваць. *Храмалініць трэба чобаты, а ні вешаць сухіе.*

ХУДЗЮ'ШЧЫ *прым.* Вельмі худы. *Нешто наш кабан*

*худзюшчы стаў, скорэ ж калоць трэба, а ты яго, мабыць, саўсім ні корміш.*

ЦЫНКАВА'ЦЬ *незак.* Пасынкаваць. *Пайду ў агарод грады папалю, да і памідоры ўжэ трэба цынкаваць.*

ЦЮХЛЯ'К *м.* Цюфяк. *Ні чапай цюхляк, ён чысты, на том тыдні я яго выбівала.*

ЦЯМО'К: АТ ЦЯМКА ДА ЦЯМКА. Ад цямна да цямна. *Ат цямка да цямка на етуй рабоце ўсе лето.*

ЧНУЦЬ *зак.* Падаць гук (з адмоўем *не*). *Як увайшоў у хату, то бабы і ні чнулі.*

ШНУРАВА'ЦЬ *незак.* Часта хадзіць узад і ўперад. *Гэто вы шнуруючы с хату ў хату мух панапускалі.*

ШТО *займ.* Хто. *Ні той багаты, што ідзе замуж да бярэ, а той, што сам нажыве* (прыказка).

ШУМЕ'ЦЬ *незак.* Хутка ісці, шыбаваць. *Так шумела дадому, што аж пьяты патскаквалі.*

***Г. К. Усціновіч***

## ДА СЛОЎНІКА НАВАГРУДЧЫНЫ

Словы, уключаныя ў гэтую падборку, запісаны ў вёсцы Купіск Навагрудскага раёна. Яна з'яўляецца працягам артыкулаў «Асаблівая лексіка гаворкі аколіц Любчы» [1], «Палятынка, манынарка і розны вобуй» [2], «Лексіка плытагонаў Прынямоння» [3], «Так гаворац у Купіску» [4]. Адметныя фанетычныя і граматычныя асаблівасці гаворкі вёскі Купіск ужо называліся ў папярэдніх працах. Акрамя гэтага, варта адзначыць наступныя:

1) захаванне ненаціскнога канцавога *о*: *са́ло, жы́то, мно́го, ма́сло, блі́ско, ву́хо;*

2) выкарыстанне паланізмаў: *ровар — веласіпед, цёнгля — заўсёды, гавэнда — размова, філіжанка — кубак, тэчка — партфель, ксёнжка — кніга;*

3) наяўнасць канчатка *-а* ў назоўнікаў ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку: *парасята, цялята, вокна, вёдра, куранята, ягнята;*

4) скланенне жаночых імён па бацьку не як назоўні-

[1] З народнага слоўніка. С. 53—63.
[2] Народнае слова. С. 236—241.
[3] Народная лексіка. С. 151—155.
[4] Народная словатворчасць. С. 41—49.

каў, а як прыметнікаў, акрамя назоўнага і вінавальнага склонаў: *у Марыі Антонаўнай, Галіны Іванаўнай,* аб *Марыі Антонаўнай, Галіне Іванаўнай.*

Вядома, што на тэрыторыі Навагрудчыны праводзілася збіранне лексічных матэрыялаў для Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парганіччча. У нашу падборку ўключана лексіка, якая не трапіла ў названы слоўнік. Выключэнне склала нязначная колькасць слоў, значэнне якіх у гаворцы вёскі разыходзіцца са значэннем, месцам націску, словаўтварэннем у слоўніку.

АБАЛВА'НІЦЬ *зак.* Коратка пастрыгчы нажнамі. *Абалваніла хлопца, як авечку, вушы вялікія тарчаць.*

АБІВА'ЦЬ *незак.* Абмалочваць жыта (удараючы аб барану з мэтай выбіць самае буйное зерне), лён (пранікам). *Абівалі жыто заўсёды на насенё, кап велькім і буйным збожам засеяць. Абівалі лён на полі пранікам, разаслаўшы дзяругу і палажыўшы дошчачку.*

АБІ'ДА *ж.* Крыўда. *Плакаць ат абіды, а ня ат болі. Няма большай абіды, як ат родных дзяцей пачуць нядобраё слово.*

АДЗІНА'ЦЦАЦЯРО *ліч. зборн.* Адзінаццаць. *Адзінаццацяро дзяцей засталісь у леся начаваць адны.*

АРШЭ'НЯЦ *м.* Страшная атрута, яд. *За такую работу аршэнцу ты наяс'іс'я, а ня мяса.*

АСЛАБАДЗІ'ЦЯЛЬ *м.* Вызваліцель. *Прышлі нашы аслабадзіцялі толькі ў ліпяні, немца тады выгналі.*

АСЯНЧУ'К *м.* Ягня асенняга прыплоду. *Да зімы ў воўну ўбяруцца ягнята, яны ш асянчукі.*

АТВО'Й *м.* Ціхае і вельмі глыбокае месца ў рэчцы. *У атвоі рыбу паткарміў, то сённяка добра налавіў.*

АТПУСЦІ'ЦЦА *зак.* Атсырэць, стаць вільготным (пра сена). *Учора сено было сухоё, а сёння атпусьціласё расою.*

АТХА'ЯЦЬ *зак.* Адкачаць. *Лець атхаялі хлопца, быў бяс памяці і натто слабы.*

АЮ'СЬ *выкл.* Вокліч, якім адганяюць свіней. *Аюсь ат парога, прышла і стала рыць.*

БА'ПКАЦЬ *незак.* Клікаць бабу. *Чаго ты бапкаяш, сам бы ўстаў дай напіўсь.*

БО'НДА *ж.* Няўдалы, ацеслівы хлеб. *У мяне пазычала хлеп, як каравай, высокі, наздраваты, а мне прынесла бонду, што хоць у сьцену пыляй.*

ВАДА′: ВАДЫ НАПІЦЦА. Пра вельмі прыгожага (гаворацъ). *Такі хлопяц харошы, што можно адной вады напіцца, і даволі.*

ВО′КА: ВОЧЫ ЗЛІПАЮЦЦА. Пра жаданне спаць. *Нічога ня могу рабіць, вочы зліпаюцца, мусіць дошч будзя;* ВОЧЫ МАЗОЛІЦЬ. Надакучаць сваёй прысутнасцю. *Прыдзя, сядзя, вочы мазоліць дзень, ня ведаяш, куды схавацца;* ВОЧЫ НА ЛОБ ЛЕЗУЦЬ. Пры вялікім здзіўленні, болю. *Так парэзала паляц, што вочы на лоп лезьлі;* ВОЧЫ РАЗБЯГАЮЦЦА. Разгубленасць ад мноства незвычайных прадметаў. *Вочы разбягаюцца ад тавару, што прывезьлі ў лаўку;* ВОЧЫ ЎЗНЯЦЬ. Глянуць, паглядзець. *У касьбу шмат работы, што вочы няма калі ўзьняць;* ПРАЛУПІЦЬ ВОЧЫ. Прачнуцца.

ВУ′ГАЛІ: ВУГЛЫ АЦІРАЦЬ. Бяздзейнічаць, гультаяваць. *Ня вуглы аціраць цэлы дзень, а рабіць трэба, мацяры памагчы.*

ВУМ: ВУМ ЗА РОЗУМ ЗАХОДЗІЦЬ. Пра немагчымасць разумна разважаць ад моцнага болю або ад незвычайнай узрушанасці. *Як сказалі, што хлопца ў бальніцу завезьлі, то ня помніла, што рабіла і гаварыла, вум за розум заходзіў.*

ВУЧЫ′ЦЬ: ВУЧЫЦЬ ВУМУ-РОЗУМУ. Даваць разумныя парады. *Яны яшчэ маладыя, трэба вучыць вуму-розуму.*

ВЫ′БІЦЬ: ВЫБІЦЬ ДУР З ГАЛАВЫ. Прывесці да парадку. *Будзяш хадзіць на работу, як міляныкі, а не толькі гулямі займацца, выбью дур з галавы.*

ВЫГА′ДВАЦЦА *незак.* Абзываць зневажальнымі словамі. *Хлопяц схамянуўся, што так нядобра выгадвацца на брата перат дзедам.*

ВЫ′КРЫВІЦЬ *зак.* Пакрывіць (звычайна туфлі). *За тыдзянь так выкрывіла туфлі, што няма як ісьці ў госьці.*

ВЫ′СТРАПАЦЬ *зак.* Растрэсці. *Добра плацё выстрапай пасля мыцця, а то будзя вісець, як з горла дастаная.*

ВЫСЫХА′ЦЬ: НЯ ВЫСЫХАЦЬ. Пра беспрабуднае п'янства. *Ён ніколі ня высыхая, з раніцы да вечара і ад панядзелка да суботы.*

ВЫЯДА′ЦЦА *незак.* Наесціся ўволю смачнага. *У нядзелю наварыла буракоў, зрабіла халаднік і выялася за весь тыдзянь.*

ГАВАРЫ′ЦЬ: З НЕБАМ ГАВОРЫЦЬ. Пра высокага

чалавека. *Сын вырас, што з небам гаворыць, а бацькі малыя, нязавідныя.*

ГАЛАВА′: ГАЛАВА ПУХНЯ. Хваляваццa, турбавацца ад шматлікіх і цяжкіх думак; ГАЛАВА САЛОМАЮ НАБІТА. Пра някемлівага, разумова слабога чалавека. *Што ты думала ад яе пачуць добраё, у яе ш галава саломаю набіта.*

ГАРКУ′ША *ж.* Жанчына, якая не выгаворвае *р. Гаркуша ўсех перакрывіць, перадражніць, а сама гаворыць р, што трактар ляхоча.*

ГРО′БІЦЬ: ГРОБІЦЬ СЯБЕ. Надрываць сваё здароўе. *З гэтага стараня нічога ня будзя, такою работаю толькі гробіць сябе.*

ГРЭ′ШНЫ: ГРЭШНЫМ ДЗЕЛАМ. Не сумненна, таксама. *Я грэшным дзелам спілаваў пень у леся бяс кляйма.*

ГУБА′: ГУБЫ БАНЦІКАМ. Надзьмуцца. *Ня ведаяш з якога боку падысьці да яе, сядзя, губы банцікам і маўчыць, як сыч;* ГУБЫ ЗАКАПЫЛІЦЬ. Пакрыўдзіцца. *З ёю ня пагаворыш, губы закапыліць і маўчыць, як сьцяна;* ГУБЫ СКЛАСЦІ. Пачаць плакаць. *Паглядзі, ужо губы склала, а зарас і сьлёзы пусьціць.*

ГУ′ТАТАЦЬ *незак.* Гушкаць. *Бацька садзіў на ногу сына і высока падкідаў, гутатаў так вечарам заўсёды, як быў дома пасьля работы.*

ДАВА′ЦЬ: ДАВАЦЬ ПАТАЧКУ. Патураць. *Дзецям патачку ня давай, а то на галаву сядуць, іх любі, як душу, а калаці, як грушу.*

ДЖО′РГАЦЦА *незак.* Драцца, чухацца. *Чаго ты джоргаясся, як каросьлівы.*

ДЗЁМКАЦЬ *незак.* Надаядаць сваімі размовамі; клянчыць. *Прыдзя бяз дай патрэбы і пайдня будзя дзёмкаць, як лавіў рыбу палазамі.*

ДЗЁМКІ *мн.* Надаедлівыя разгаворы. *У яго адны і тыя ш дзёмкі кожны дзень: колькі разоў у магазін схадзіў і колькі прынёс булак хлеба.*

ДЗЯЛО′К *м. зневаж.* Пра чалавека, які выстаўляецца сваімі здольнасцямі, а на самай справе нічога не ўмее добра рабіць. *Знайшоўсь такі дзялок, а сам зуп у граблі зрабіць ня ўмея.*

ДЗЯСЯ′ТУХА *ж.* Свята, якое адзначаецца на дзясятым тыдні пасля Вялікадня. *На Дзясятуху фэст у Гнесічах, трэба будзя ісці ў госьці.*

ДО′ШЧАЧКА: У ДОШЧАЧКІ. Асобы спосаб ткання,

калі пры дапамозе дошчачак паднімаюць (апускаюць) патрэбную частку асновы. *Дзяругу у дошчачкі шарсцяную дала свацеі.*

ДРАЖНІ'ЦЦА *незак.* Абзывацца, называць мянушкамі. *Брытко такімі словамі дражніцца са старым чалавекам.*

ДУРНІ'ЦА *ж.* 1. Дурань, дурны чалавек. *Ці ш гэта гаспадар, што так лупіць скаціну, дурніца.* 2. Глупства. *За што пабіліс ь дзеці, а за дурніцу, ня маглі падзяліць забайку.*

ДЫХЛЯ'ЦІНА *ж.* 1. Здыхата, мор. *Дыхляціна напала на свіней.* 2. Пра вельмі худога чалавека. *Колькі і чым яго ні кармі, а дыхляцінай застаецца.*

Е'НКАТ *м.* Енк. *Сякануў па назе, дак енкату на ўсё сяло нарабіў.*

ЖА'БЯЦЬ *незак.* Моршчыцца, сцягвацца (ад вады). *Рукі жабяюць, як доўго ў вадзе пабудуць.*

ЖАЛЯ'СКО *н.* 1. Рэжучая частка ў гэбліку, фуганку, рубанку. 2. Прас, які награваецца вуголлем. *Жаляскам руку апякла, як гладзіла.*

ЖАЎЦЯ'К *м.* 1. Перазрэлы агурок, насеннік. *Адны жаўцякі на градах ляжаць.* 2. Рачны жоўты пясок. *Жаўцяком добра вышаравала цаґаны.* 3. Пра чалавека, які пазбаўлены прыроднага румянцу.

ЗАЙМА'ЦЦА: ЗАЙМАЦЦА (ЗАНІМАЦЦА) НА ДЗЕНЬ. Світаць. *Скоро раніца, займаяцца на дзень.*

ЗАКО'Н *м.* Звычай, традыцыя. *У нас такі закон — хто прышоў у хату, таго павінны пачаставаць, чым есць.*

ЗА'ЛАП *прысл.* За валасы. *Як пачнуць сварыцца, то ня толькі крычаць, а і хватаюцца залап.* ЗАЛАП ЦЯГАЦЬ. Цягаць за валасы, караць. *Хлопца залап цягала за тое, што прапасьвіў каровы.*

ЗАПРА'ВІЦЬ *зак.* Схаваць, пакласці так, каб не бачылі. *Усю хату пяравярнула, а грошы ня найшла, куды я іх заправіла.*

ЗАРВА'ЦЬ *зак.* Узяць, што трапіла пад руку. *За гэтаго хлопца маці ня думая, ён што зарве, тое і зьесць.*

ЗАСКА'ЛІЦЬ *зак.* Зажмурыць. *Яна адно воко заскальвая, а я думала, што яна сьляпая.*

ЗБЯСІ'ЦЦА *зак.* Ашалець. *Ката забілі, бо збясіўся.*

ЗДУБЕ'ЦЬ *зак.* Моцна замерзнуць. *Так здубеў пасучы каровы, што ледва дадому прышоў.*

ЗУБЫ' *мн.* Карункі да прасціны, рушніка. *Зубы вывязала, цяпер выбялю і прышыю да просціны.*

КА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Сказаны. НЕ ПРЫ НАС КАЗАНО. Каб мінула тое, пра што ідзе гутарка. *Не пры нас казано, хвароба ў яе страшная, рады ніхто ня дасць.*

КАПАВА'ЦЬ *незак.* Кумекаць. *Галава капуя, задачы добра рашая.*

КАСЬЦЕ'РАВО *н.* Каласоўнік. *У касьцерава крэпкаё карэнё, як поляш, ня выдраць з зямлі.*

КАЎБЕ'ЛЬ *ж.* Калыска. *Каўбель была сплецена з лазы, у ёй дзіцяці здорава было спаць.*

КІЦЬ-КІЦЬ-КІЦЬ, КІ'ЦІ-КІ'ЦІ-КІ'ЦІ *выкл.* Выгукі, якімі клічуць ката.

КУ'ПАЛО *н.* Кубло, месца, дзе нясецца курыца. *Вазьмі яйца ў купаля.*

ЛІ'НЬКА *ж.* 1. Канат з дроту. *Ліньку нацягнулі, добра трымая забому, сьмело можно ісьці.* 2. Перыяд, час, у які жывёлы скідаюць шэрсць, гадзюкі, вужы — скуру. *Цяпер скаціна жырная, бо пачалася лінька.*

ЛІ'ХО *н.* Хвароба. *Аткуль гэто страшнаё ліхо да яе прывязалось.*

ЛЯХАТА'ЦЬ *незак.* Хрыпець у грудзях. *Прастудзіўсь моцно, у грудзях граюць пятухі, ляхоча.*

ЛЯХКАВУ'ШКА *ж.* Легкавы аўтамабіль. *Пыл падняла на сяле ляхкавушка.*

ЛЯЦЕ'ЦЬ: ЛЯЦЕЦЬ КУЛЁМ. Моцна, хутка бегчы. *Як убачыў, што хата гарыць, то па сяле ляцеў кулём.*

МАРКАВІ'НЁ *н.* Маркоўнік. *Моркаў малая парасла, уся ў маркавінё пашла.*

МА'РЫЦЬ *незак.* Зморваць (пра сон). *Марыць сон, мусіць дошч будзя.*

МАЦА'К *м.* Моцнае яйцо. *Выбраў мацака, а цяпер выб'ю шмат бітак.*

МЕ'КАЦЬ *незак.* Крычаць (пра ягня). *Ягнята мекаюць, халаднавато ў хляве.*

МО'КНУЦЬ *незак.* Беспрабудна піць. *А ён мокня ўжо цэлы тыдзянь, дзе толькі ўзяць здароўё.*

НААПЛЯТА'ЦЦА *зак.* Наесціся ўволю. *Нааплятаўсь капусты, што цэлы дзень ваду толькі пью.*

НАБАМБУ'ЛІЦЦА *зак.* Напіцца ўволю. *Набамбулілась так малака, што здыхацца ня магу, цэлы дзень была на сянакося бяз вады.*

НАВЕ'СЦІ: НАВЕСЦІ СПРАВУНКІ. Высвятліць, удакладніць. *Я наваду справункі, буду ведаць, хто вінаваты, а хто не.*

НАГА': І НАГА НЯ СТУПАЛА. Ніколі не быць, не

наведваць. *Пражыў такое жыццё, а ў лес і нага ня ступала.*

НАГО'ЛО *прысл.* Дагала. *Хлопцаў, як былі малымі, я стрыгла наголо, то бачыш, якія валасы вырасьлі.*

НА МА'Г'ЕР *прысл.* Набок. *Шапку адзеня на маґер і на гулянё.*

НАПЕ'РНІК *м.* Насыпка на пяро ў падушцы. *Напернікі новыя купіла, трэба пяро памыць і высушыць.*

НАРАСХОП *прысл.* Нарасхват. *Дзяўчына яна ўдалая, бяруць замуш на расхоп.*

НАШМО'РГАЦЬ *зак.* Нарваць, цягнучы рукой па галінцы, сцяблу. *Нашморгалі аўса поўныя кішэні, аш цяжко ісьці, мяшая.*

НАШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца. *Ну ты і нашушкалась, хоць замест бабы станавісь стаяць.*

НАШУ'ШКАЦЬ *зак.* Цёпла адзець каго-н. *Нашушкала так дзіця, што ня можа павярнуцца.*

НІ'ШЧАЧКАМ *прысл.* Моўчкі. *Другая паела, што дасць нявестка, ды ляжала бы нішчачкам, а то гэта не так, то тоя ня гэтак.*

НІЯ'КАВА *прысл.* Няёмка. *Ісьці ў госьці с пустымі рукамі ніякава.*

НУ'РЧЫК: ДАВАЦЬ НУРЧЫКА. 1. Ныраць. *Даваў нурчыка пакуль ня дастаў са дна вуду.* 2. Знікаць нечакана. *Як пачуў, што пахня гарэлым, толькі яго і бачылі — даў нурчыка.*

НЯДАБРЫ'ЦЦА *незак. безас.* Нездаровіцца. *Сягодня мне нядабрыцца, мучыць галава.*

НЯЗАВІ'ДНЫ *прым.* Такі, якому нельга зайздросціць. *Ну як картоплі ўрадзілі? Малыя, нязавідныя.*

НЯПАСЛУ'ШНЫ *прым.* Непаслухмяны. *На хлопца нешта нашло, стаў такі няпаслушны, упарты, ставіць усё на сваём.*

ПАВЕ'ТРЫЁ *н.* Пошасць. *Гінуць страшно куранята, паветрыё мусіць такоё.*

ПАДВЕ'СЦІ *зак.* Аддаць каму-н., ведаючы, што вярнуць не прыйдзецца. *Падвяла сусетцы грошы, думала, што яна чалавек і прынясе, як будуць.*

ПАДВЯРНУ'ЦЬ: ПАДВЯРНУЦЬ ГАЛАВУ. Загінуць непрыстойна. *Пій датуль, пакуль галаву ня падвярнуў.*

ПА'ДЛІНА *ж.* Здыхляціна. *Падліну зацягнулі на пашу і закапалі.*

ПАЛАВІ'НКІ *мн.* Неабіраная зваpаная бульба, раз-

рэзаная напалам. *На вячэру зварым палавінак, толькі хорашо памый картоплі.*

ПА'ЛЕЦ: ПАЛЯЦ ПАЛАЖЫЦЬ. Набіць. *Я на яе паляц ня палажыў, а усё кепскі.*

ПАЛЁВЫ *м.* Вартаўнік палёў і сенакосаў. *Глядзі пасі каровы добра, у шкоду ня пускай, а то палёвы займя.*

ПА'ЛІК *м.* Слупок (укапаны). *Зьбіла ногу аб палік, кап ён згарэў.*

ПАНАДЗЕ'ЛАК *м.* Панядзелак.

ПАНТАЛЫ'К *м.* Парадак, паслядоўнасць. *Зьбілась с панталыку, што гаварыла і аб чым, ня помню. У яе няма панталыку у хаця, абы-як і абы-дзе ўсё ляжыць, валяяцца.*

ПАНЯВЕ'РКА *ж.* Пагарда, занядбанне. *Мужык у яе ў паняверцы, ломанага гроша ня варты.*

ПАПАДУРЭ'ЦЬ *зак.* Надурэцца ўволю. *Таптали сено ў гумне, вот пападурэлі дзе.*

ПАПАНАСІ'ЦЦА *зак.* Нанасіцца доўга і ўволю. *Загналі кароў у хлеў, а самі папанасіліcь на падалешніцы, што аш валасэ былі мокрыя.*

ПАПАПЛЁХАЦЦА *зак.* Наплёхацца ўволю. *Папаплёхаліcь дзеці ў Нёмні, пакуль мыла плацё.*

ПАПАРАБІ'ЦЬ *зак.* Папрацаваць доўга і ўволю. *Папарабіла на полі за сваю жысць.*

ПАПАРАГАТА'ЦЬ *зак.* Парагатаць уволю. *Папарагаталі мы з дзеда, як ён касіў абломкам касы гумнішчо.*

ПА'ХНУЦЬ: ПАХНЯ ГАРЭЛЫМ. Пра адчуванне небяспекі, непрыемнасцей. *Зьнік у адзін дзень, як адчуў, што пахня гарэлым.*

ПАЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Пакрыць сукном кажух. *Кажух быў стары, пацягнулі сукном, цяпер можно і ў людзі адзяваць.*

ПЕНЬ: ЯК ДА ПНЯ. Вельмі любіць, з азартам (піць, біцца). *Ён да гарэлкі, як да пня, за чарку на каленях на край свету дойдзя.*

ПЕРАНО'СІЦА *ж.* Пераноссе. *Як была малая, стукнулась, пераносіца і цяпер сіняя.*

ПІ'КАР *м.* Дзіцячая гульня. *Дзеці цэлымі днямі ў пікара іграюць, як прыдзя вясна.*

ПІРЫ'НДЗІЦЬ *незак.* 1. Вельмі тонка прасці. *Ня пірындзі так тонко, ніткі будуць рвацца пры суканні.* 2. Нагаворваць на каго-н. *Толькі тое і робіць, што ходзіць па хатах і пірындзіць то адной, то другой.*

ПЫЛЯ'ЦЬ *незак.* Кідаць з сілай у што-н. *Булка такая няўдалая, што хоць у сцяну пыляй, сцяна праб'ецца, а булка застанецца, не разваліцца.*

ПЫ'ЦЯЛЯМ *прысл.* Вельмі хутка. *С кухні пыцялям ляцяць, толькі кап ня мыць талеркі.*

РАБА'Я ТРАВА'. Шаўковая трава. *Рабая трава так разраслась, што весь агаротчык заглушыла.*

РАБІ'ЦЬ: РАБІЦЬ І ГУБАМІ І ЗУБАМІ. Шчыра, старанна працаваць. *Як пачнецца жніво, то ужо хапая, робіць губамі і зубамі ат цямна і да цямна, кап першай кончыць.*

РАЗА'К *м.* Востры моцны боль у жываце. *Кап цябе разак рэзаў, як ты маю душу рэжаш, такі неслух.*

РАЗБАЗЫ'РАЦЬ *зак.* Разленавацца. *Пакуль дома сядзела, так разбазырала, што ня хочацца нічога рабіць.*

РО'СШЫЎКА *ж.* Прошва. *Росшыўку ў настольнік ушыла, цяпер можно засьцілаць.*

РУКА': РУК НЯ ПАДЛО'ЖЫШ. Пра бяссілле памагчы. *Як з доўгім векам, то выжывя, а сваіх рук ня падложыш;* У ЛЕ'ВУЮ РУКУ' УЗЯ'ЦЬ. Пачаць есці хлеб самому (пра дзяцей). *Ле дзеці датуль худыя былі, пакуль ня змаглі у левую руку узяць.*

РЭ'ДЗЯСЬ *ж.* Рэдкае палатно, падобнае на марлю. *Хто с такоі рэдзясі шыя сукенку, з яе толькі сятак рабіць для матылёў.*

СА'ДЗЯЦЬ *незак.* Садніць, пячы. *Абадрала ногі асакою, так садзялі, як памыла вечарам.*

САКВА' *ж.* Вадкая частка гною. *Трэба спусьціць сакву, а то ў хляве сівіня плаваюць.*

СКА'ЗІНА *ж.* Тонкая лінія, штрых, рыска на паверхні (шкла і інш.). *Па гэтым можно браць люстэрка, хоць і малая сказіна на ём.*

СКА'ЗІНКА *ж.* Тое, што і сказіна. *Сказінка на вакне на сонцы відаць.*

СПАНА'ТРЫЦЬ *зак.* Прызвычаіцца, прывыкнуць рабіць што-н. непажаданае. *Як скоро спанатрыў піць вяршок малака, паняў, што с-пат банкі пустоё.*

СПА'СЬВІЦЦА *зак.* Папраівіцца, стаць поўным. *Бачыш, як спасьвіўся, такі харошы, тоўсты стаў, як цяшко ня рабіў.*

СТРУХНУ'ЦЦА *зак.* Скалануцца. *Узяла лімон у рот, струхнулась ат яго кіслаты.*

СЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Знясіліць смактаннем, сасмактаць.

*Кацянята так сцягнулі кошку, што ледва ходзіць, бок да боку прысох.*

ТАВА'Р *м.* 1. Матэрыя. *У лаўку шмат тавару рознага прывезьлі.* 2. Вырабленая скура на боты, туфлі. *Тавар на боты купіць трэба.*

ТРЭ'ПЯЦЬ *ж.* Тое, што вельмі белае. *Памыла плацё, ня плацё, а трэпяць, аш у вочы коля сваёю бялізною.*

УЗБАБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Моцна стукнуць. *Так узбабэнчыў палкай, што ледва падняўсь.*

УЗЯ'ТКА *ж.* Ношка, пчаліны збор. *У гэтым годзя мёду ня будзя, узяткі няма, ліе дожч, пчолы сядзяць у вульях.*

УПО'КАТ *прысл.* Покатам. *Месца ня было, усе упокат ляглі.*

УРА'Т *прысл.* Наўрад, малаверагодна. *Урат ці змагу скасіць гэтую дзялку травы.*

ХІ'ПЯР *м.* 1. Валасы, грыва. *Хіпяр адрасціў, а здаройкацца ня навучыўсь.* 2. *перан.* Пыха, фанабэрыстасць. *Во начальнік, ня чалавек, а хіпяр адзін.* ПАДНЯ'ЦЬ ХІ'ПЯР. Заганарыцца, стаць фанабэрыстым.

ЦА'ПСТРЫКІ *мн.* 1. Цацкі. *Хоць бы вы пападбіралі свае цапстрыкі з-пат нох, валяюцца па ўсём двары.* 2. Вырабы з цеста. *Якіх толькі цапстрыкаў яна не навыпякала.* 3. *перан.* Выбрыкі. *Ня ведаяш якіх цапстрыкаў чакаць ат яе: добра, добра, а раптам злосць.*

ЦЯГА'ШЧЫ *прым.* Які не адпавядае правілам прыстойнасці. *Хто за гэтага цягашчага мужчыну пойдзя замуш, толькі палуумная.* ЦЯГА'ШЧЫ КОТ. Пра чалавека непрыстойных паводзін. *На гэтаго цягашчаго ката няма стрыму, хоць і дзеці выраськлі.*

ШЛЁГАЦЬ *незак.* Біць лазінай. *Добра шлёгая свайго малого, хоць і любіць, як душу.*

ЯЗЫ'К: ВЫ'СУНУЎШЫ ЯЗЫ'К. З апошніх сіл. *Бегала на работу высунуўшы язык, пакуль ня зьлегла;* З ЯЗЫКА' НЯ СПУСКА'Я. Пастаянна гаварыць пра адно і тое ж. *Яна з языка ня спускае, усё пра сына гаворыць, які вучоны, які разумны, які харошы.*

*Н. А. Чабатар*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

Лексічны матэрыял, які падаецца ў гэтым артыкуле, сабраны ў час дыялекталагічнай экспедыцыі па збору матэрыялу для Лінгвістычнага атласа Еўропы (ЛАЕ) у 1985 г. Гаворка вёскі адносіцца да паўднёва-заходняга дыялекту. Найбольш прыкметнымі фанетычнымі і марфалагічнымі асаблівасцямі мясцовых слоў з'яўляюцца наступныя:

1) выпадзенне *ц* у канцы слоў пасля мяккага *с* (*но́вась, есь, шэсь, гось, кось*);

2) ужыванне прыставачнага *в* у пачатку слова (*вагаро́т, во́блако, во́чарацъ, ву́ксус, во́блась*);

3) вымаўленне *у* замест *ы* пасля губных (*муць, адмука́ць, ву́сушыць*);

4) вымаўленне зваротных дзеясловаў з постфіксам *-са* (*памы́ўса, нае́ўса, аста́ўса, забы́ўса*);

5) зацвярдзенне мяккіх губных перад *а, о* (*п'ацъ, м'а́кіш, м'а́со, жараб'а́, м'од, п'а́тніца*);

6) аглушэнне звонкіх гукаў у канцы слова і перад глухімі (*гот, клуп, бры́тко* (выключэннем з'яўляецца *дож*));

7) наяўнасць у асобных словах выбухнога *ґ* (*ґаро́нкі, ґа́рнец, ґа́нак*);

8) захаванне канцавога ненаціскнога *о* ў назоўніках ніякага роду і прыслоўях (*се́но, жы́то, за́шмаргом, ма́ло, бага́то*);

9) наяўнасць падаўжэння зычных гукаў у інтэрвакальным становішчы (*насе́нне, карэ́нне, вясе́лле*) і адсутнасць падаўжэння ў слове *сёні;*

10) існаванне канчатка *-а* ў назоўным склоне множнага ліку ніякага роду (*во́кна, вёдра, кураня́та*).

АВА'Т *м.* Авадзень. *Авады ўсю карову апкусалі.*

АГАДА'ЦЬ *зак.* Прыдбаць, купіць. *Хоць бы ён сабе касцюм агадаў, палучаючы столькі грошэй, а то ходзіць у адным і на работу, і ў клуп.*

АГРА'ТКА *ж.* Агароджа. *Пойдзем на клады агратку паправім і пакрасім.*

АКАПА'ЦЬ *зак.* Апратаць, надаць чысты выгляд. *Домна сама сабе ні акапае, а хваліцца вечно.*

АНІГА'ТКІ *прысл.* Добра, бестурботна. *Жыве яна за Іваном анігаткі.*

АПЕ'НІК *м.* Апенька. *У Доўгім сёлета апенікоў ну й нарасло, вазамі можна было вазіць.*

АПШЧАПЕ'РЫЦЬ *зак.* Моцна абняць, абхапіць рукамі. *Малая доўга ні бачыла сваю мацеру, а як тая прыехала, унучка апшчаперыла мяне за шыю і ні хочэ іці к ёй.*

АСО'ВІК *м.* Падасінавік. *Асовікі часцей растуць пуд асінамі і ёлкамі, на іх трэба добры дож.*

АТКІ'НУЦЬ *зак.* Адсадзіць, аддзяліць (цяля ад каровы). *Такое вялікае цяля вырасло, трэба аткінуць ат каровы ўжэ.*

АХАЛО'ДАЦЬ *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Ідзіце есьці, усе ахалодало на стале.*

БРЫ'ТВАЧКА *ж.* Лязо. *На стале ляжала брытвачка.*

БУ'ЛЬМА *ж.* Бручка. *На етой градзе садзіла бульму, а яна й ні ўзышла.*

БУРАКІ' *мн.* Боршч. *Буракі сёні смашные, з грыбамі.*

ВА'ТНІКІ *мн.* Ватовыя штаны. *Даніло зімою і летом можэ хадзіць у ватніках.*

ВАЎКІ' *мн.* Ваўчкі. *Цэлы вечэр ваўкі абірала на спадніцы.*

ВЕ'ШКО-ВЕ'ШКО *выкл.* Выгук, якім падзываюць кабана.

ВІД *м.* Твар. *Від у яго быў гразны.*

ВІТУ'КА *ж.* Мак-самасей. *Вітуку ніхто ні сее, яна сама ўсходзіць.*

ВУ'НЕКА *часц.* Вунь. *Вунека куры ўсе ў градах грабуцца, а ты ні бачыш.*

ВУ'ЧАРНЕЦЬ *зак.* Моцна захацець (есці, піць). *А кап ты здох, як ты вучарнеў за дзень, дай хоць уваліць у карыто* (на кабана).

ВЫ'ГАПТАВАНЫ *прым.* Упрыгожаны гафтам. *На вокнах віселі выгаптаваные занавескі.*

ВЯСЕ'ЛІК *м.* Страчок, смарчок. *Вяселікі растуць увесну.*

ГАЛУ'ЗА *ж.* Недагарэлае палена. *Як усе галузы падагараюць, так ты закрый юшку.*

Г'АРО'НКІ *мн.* Карункі. *Раней ґаронкі к рушнікам прышывалі.*

ГІБЕ'ЛЬНІЦА *прысл.* Шмат, вялікае мноства. *Хто ні ленаваўса, то гібельніцу грыбоў нанасіў.*

Г'О'РЫН *м.* Ніткі для вышывання. *Раней вышывалі*

*рушнікі, пакрышкі, просьціні ґорыном, і так было хорашэ глядзець на іх.*

ГУ'ШЧА *ж.* Каша з ячных круп. *Трэба на дзень гушчы ў печ прыставіць.*

ДВО'РЫШЧЭ *н.* Сядзіба. *Як пам'ёр Янка, так і дворышчэ зарасло травою.*

ДЗЮ'ТА-ДЗЮ'ТА *выкл.* Выгук, якім падзываюць свіней.

ДЗЯ'ДЗІНА *ж.* Жонка дзядзькі. *Як дзяцько пам'ёр, так дзядзіна пераехала к сыну жыць.*

ДНАВА'ЦЬ *незак.* Дняваць. *Домна як прыдзе, можэ цэлы дзень днаваць, языком малаціць.*

ДО'СЮЛЬ *прысл.* Да гэтага часу, дасюль. *Яшчэ вунь досюль людзі носяць грыбы, а ўжэ позняя восень.*

ЁМКА *ж.* Чапяла. *Баба Палаг'я раз за разам вынімала ёмкаю скавараду з аладзямі.*

ЖВОТ *м.* Жывот. *Калі баліць жвот, добрэ чорных ягад з'есьці.*

ЖУКО'ВІНА *ж.* Пярсцёнак. *Нявестка жуковіну загубіла, столькі плакала, бедная.*

ЖЫ'ТКА *ж.* Жыццё. *Вот так і жытка яе прашла пры таком п'яніцы.*

ЖЫ'ТНІКІ *мн.* Яблыкі, якія наспяваюць у жніўні. *Першымі наспяваюць у нас жытнікі.*

ЗАКЛА'ДЗЕНКА *ж.* Саматканая посцілка. *Заккладзенку вельмі марудно ткаць.*

ЗА'ТАЎКА *ж.* Здор. *Подмаска з затаўкі ляжала на скаварадзе.*

ЗАЎВІ'ЦА *ж.* Залоўка. *Заўвіцу сустрэла ў горадзе, доўго гаварыла з ёю.*

ЗА'ШМАРГОМ *прысл.* Вузлом са свабоднай пятлёй. *Бацінкі былі завязаны зашмаргом.*

ЗБУ'ЦЕЦЬ *зак.* Збуяць. *Удабрэння насыпала на загон, гічнік збуцеў.*

ЗВАЖА'ЦЬ *незак.* Саромецца. *Я п калі прышла і пасядзела, так зважаю.*

ЗВА'ЛАХАЦЬ *зак.* Кастрыраваць. *Кабаньчыка трэба звалахаць.*

ЗВО'ДЫ *мн.* Плёткі. *А што ёй рабіць, яна толькі зводы і зводзіць.*

ЗДО'ХЛІЦА *ж.* Смерць. *Ніяка яе здохліца ні возьме.*

ЗНАХО'РКА *ж.* Знахарка. *Харціна як сама знахорка, так у яе і карова добра.*

ЗЯЛЕ'ПУХІ *мн.* Няспелыя плады. *Зялепухоў надзяцца, а тады равуць — жвот баліць.*

ЗУ'РКО *прысл.* Горача, добра напалена. *Рано ішчэ ставіць пірагі, у печы вельмі зурко.*

КАЛАМА'ШКА *ж.* Невялікая двухколая каляска для перавозкі грузаў. *Смецце з двара вувезла на каламашцэ на паплоўчык.*

КАЛАТУ'ША *ж.* Зацірка. *Карова запусціцца, ні будзе чым калатушы забяліць.*

КАМАКІ' *мн.* Пюрэ. *Зваранье кардоплі, пам'ятые таўкачыком,— ето камакі.*

КАМЕ'НЬЧЫК *м.* Костачка ў пладах (слівах, вішнях і г. д.). *Вішнёвае варэнне купіла с каменьчыкамі.*

КАМЕ'ШНІК *м.* Качарэжнік. *У камешніку стаялі кіе.*

КАМЛЯ'К *м.* Клунак. *Таня нейкі камляк у руках панесла.*

КАПА'ННІЦА *ж.* Капальніца. *Капанніцы ўжэ папрыходзілі, а ты ўсе капошысса.*

КАРАВА'ЦЬ *ж.* Ложак. *У спальні стаяць дзве жалезные караваці.*

КАРДАПЛЯ'НІК *м.* Блін з дранай бульбы. *Уранку кардаплянікі пякла.*

КАРДО'ПЛІ *мн.* Бульба. *Лето зусім сухое, відаць кардопляў ні будзе.*

КАЎНЕ'РЫК *м.* Манжэта. *Каўнерыкі засталоса папрышываць у рукава.*

КІ'ЖЛА *м.* і *ж. экспр.* Пра неакуратнага, неахайнага мужчыну. *Кіжла ты, колькі будзеш хадзіць чорным.*

КІЯ'К *м.* Пачатак кукурузы. *Прэжаные кіякі вельмі смашные.*

КЛАДЫ' *мн.* Могілкі. *На клады ходзяць усе ў нас на радаўніцу.*

КЛЕ'СЦІ *незак.* Клясці. *Аўдоцця кляла свайго на чым свет стаіць.*

КО'ЧКІ *мн.* Скочкі. *Кочкі растуць толькі на кладах.*

КРУЖЭ'НІКІ *мн.* Нарэзаная ў выглядзе кружкоў тушаная бульба. *На дзень паставіла кружэнікоў у печ.*

КРУПЯ'НКА *ж.* Крывяная каўбаса. *Крупянка смашная, калі ў яе дабаўляюць грэчку ці рыс.*

КРЫ'ШКІ *мн.* Бульбяны суп. *Крышкі, засмачаные салом з цыбуляю, пахлі на ўсю хату.*

КРЭ'СЛО *н.* Прарэх. *Зашпілі ты крэсло свае, а то ходзіш расхрыстаным.*

КУ'КСА *ж.* Від жаночай прычоскі. *Тацяна як стала скакаць, так і кукса раскідаласа.*

КУЛІ'ТКА *ж.* Булка хлеба. *Ета кулітка зусім глеўкая.*

КУ'РА *ж.* Курыца. *Рабая кура перастала несціса.*

КУ'РАВО *н.* Пыл. *Кураво стаўбом стаіць у дварэ, як машына пройдзе па дарозе.*

КУХАНЫ' *мн.* Печаныя вырабы ў выглядзе ромбаў. *На сталe стаяла міска куханоў.*

ЛУШПА'І *мн.* Лупіны. *Мытые лушпаі кабану зварым.*

МАЛЕ'НЬЧЫЦЦА *незак.* Прытварацца, прыдурвацца. *Скорэ састарэе, а ўсё маленьчыцца.*

МЕ'МКО *м.* Нямы мужчына. *Паглядзі ты на яго, маўчыць, як той мемко.*

МЕ'НТОМ *прысл.* Умомант. *Ментом усё зраблю і прыду.*

МО'РКА *ж.* Морква. *Садзіла красную морку, а паўсходзіла жоўтая.*

НАБІ'РКА *ж.* Невялікая пасудзіна з лубу для ягад. *Маці насыпала набірку ягад бабе Парасцэ.*

НАВА'ЛЬНЫ *прым.* Вельмі вялікі. *Дож навальны буў.*

НАВУВО'ДЗІЦЬ, НАЎВО'ДЗІЦЬ *зак.* Навыводзіць. *Куру ні садзіла, сама навуводзіла куранят.*

НА'ГЛІЦА *ж.* Пра бессаромную, нахабную жанчыну. *Етой нагліцэ ўсе мало.*

НАКАЎГА'ЦЬ *зак.* Набіць. *Маўчы, ато накаўгаю, ішчэ агрызаецца.*

НА'МЕТКА *ж.* Кужэльны ручнік з вытканым ці вышытым па краях узорам. *У мамы і цяпер ляжаць у шкапу наметкі.*

НАПО'ДДЫМКУ *прысл.* Пад вечар. *Наподдымку пойдзем сено зграбём.*

НАРА'НКІ *прысл.* Вельмі рана. *Воля ўжэ наранкі ў грыбы схадзіла, у печы выпаліла і на работу пабегла.*

НАЦЫКАВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Атайдзі ты ат мяне, а то сабаку нацыкую.*

НЕДАБРЫ'ЦЦА *незак., безас.* Нездаровіцца. *Яму даўно недабрыласо, але ш усё цягаўса, покуль ні зваліўса.*

НЕЎМАВЕ'РНЫ *прым.* Вельмі вялікі. *Неўмаверную дзярушку саломы прынесла.*

НО'СІК *м.* Востры канец у яйку. *У етым яйцэ носік крэпкі, калі гуляў у біткі, багато яец ім выбіў.*

НЯБО'ГА *ж.* Пляменніца. *Нябога прыходзіла ў госці.*

ПА'ДАЛКІ *мн.* Апад. *У сад хадзіла падалак цялусе назбірала.*

ПАДЗО'РНІК *м.* Падзор. *На каравацях былі пацэплены вышываные падзорнікі.*

ПАДУ'ЖАЦЬ *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Дачка ўжэ падужала.*

ПАДУ'МКІ *мн.* Дрэнныя думкі. *Падумкі трэба ішчэ палячыць.*

ПАЖМА'ЦЬ *зак.* Памыць (бялізну). *Сёні нагрэем у катле вады і пажмём плацце.*

ПАЗА'РЫЦЦА *зак.* Пакваліцца. *Насця пазарыласа на чужое багаство, так замуш уздумала іці за дзеда.*

ПАЗБІВА'ЦЬ *зак. экспр.* Пакасіць. *Сынок, вазьмі косу, пазбівай траву ў вагародзе ля плоту.*

ПАКРЫ'ЦЦА *зак.* Апладніцца (пра карову). *Прашло ўжэ тры месяцы, як наша карова пакрыласа.*

ПАЛА'ТКІ *мн.* Месца ў хляве пад страхой, дзе ляжыць сена. *За зіму ўсе сено карова з'ела, трошкі засталоса на палатках.*

ПАЛУ'ПУШАК *м.* Плецены з лазы вялікі кош, які ўстаўляўся ў воз. *Цэлы палупушак кардопляў назбіралі, калі загон пераворвалі.*

ПАМАСНІ'ЦА *м.* Масніца. *Адна памасніца ў памосце зусім згніла.*

ПАМЕРГАВА'ЦЬ *зак.* Параіцца з кім-н. пра што-н. *Німа с кім, свахно, памергавацъ, зяце ліхіе.*

ПАМО'СТ *м.* Падлога. *Нашто еты памост мыць, ён ішчэ чысты.*

ПАРО'Х *м.* Г'анак. *Як ідзе дож, так вечно на парозе вады багато.*

ПА'РША *м.* і *ж.* Паршывец. *Ах ты, парша, ішчэ ні слухае мяне.*

ПАЎГАЛО'ДВАЦЦА *зак.* Выгаладацца. *Хадзіла на поле зелле рваць, прышла дадому, а куры так паўгалодваліса, папрыбягалі, сталі ля мяне і глядзяць, каб есьці дала.*

ПЕ'НДАРКО *н.* Божая кароўка. *Пендаркі любяць цяпло.*

ПЕРАПЯРЭ'СЦІЦЬ *зак.* Набіць. *Перапярэшчу раз-другі па спіне, скорэнько пойдзеш.*

ПЕРЭ'ДАЙКА *ж.* Перадойка. *Карова ў нас — перэдайка, малака мало дае.*

ПЛА'ЦЦЕ *н.* Бялізна. *У сонечны дзень плацце добрэ жмаць.*

ПРЫДЗІ'РАК *м.* Маленькі кусочак поплава. *Прыдзірак — ето тое, што прыдралі ат паплоўчыка.*

ПРЫСЛАНІ'ЦЦА *зак.* Прыхіліцца да чаго-н. *Прысланіласа к групцэ і задрамала.*

ПРЫ'ШЧЫЦЦА *незак.* Пакрывацца пупырышкамі (пра аладкі). *Нешто аладзікі прышчацца, мо соды мало.*

ПСЕ-ПСЕ, ПСЕ-ПСЕ, ПСЕЙКО-ПСЕЙКО *выкл.* Выгук, якім падзываюць карову.

ПУДГРЭ'ПЦІ *зак.* Падмесці. *Вазьмі ты хоць хату пудграбі.*

ПУ'ТАНІЦА *ж.* Курыца, якая нясе яйкі ў розных месцах. *Завядзецца адна путаніца, усіх курэй пазбівае, тады шукай, дзе яны нясуцца.*

ПУ'ТКІ *прым.* Палахлівы, пужлівы. *Ета кура путка, ніяк ні зловіш.*

ПУТЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Сёні куру рабую путцікавала, у дровах нясецца.*

ПУТШАЛІНО'ЎКА *ж.* Маленькая тонкая шарсцяная хустка ў кветкі з махрамі. *Путшаліноўкі дзве купіла ў магазіне.*

ПУЦЁВЫ *прым.* Добры, спагадлівы. *Чалавек Мар'і папаўса пуцёвы.*

РАБЕ'ЙЗА *ж. зневаж.* Жанчына з рабаціннем. *Рабейза на херму пашла каровы даіць.*

РАБО'ЦЬКО *м. зневаж.* Пра дрэннага работніка. *Ну і рабоцько з яго: у самого дома ні кала ні двара німа.*

РАДАБО'ДДЗЕ *н.* Пра старыя непатрэбныя рэчы. *Радабоддзе трэба пазбіраць і ў караўкі паздаваць.*

РАЗМУЦІ'ЦЬ *зак.* Разбоўтаць. *У міску размуці п'яць яец, яешні напяком.*

СВА'ХА *ж.* Свацця. *Сваха Маніна прыехала.*

СЕМА'К *м.* Дзіця, якое нарадзілася ў сем месяцаў. *У Ларысы дзіця радзіласо — семак.*

СІ'ВАЕ ЗЕ'ЛЛЕ *н.* Сушаніца. *Усе балото ў сівым зеллі.*

СКАРАСПЕ'ЙКА *ж.* Скараспелка. *На полі так добрэ цвіце скараспейка.*

СКА'ЦЕРКА *ж.* Сурвэтка. *На сталe ляжала саматканая скацерка.*

СКУПЕРДЗЯ'Й *м.* Скупянда. *У етаго скупердзяя ты што-нібудзь возьмеш — хваробу.*

СО'НЯШНІК *м.* Сланечнік. *Вераб'і павуклёўвалі семачкі ў сонешніках.*

СПАНЯВО'ЛЬ *прысл.* Абавязкова. *Хочэш ні хочэш, а спаняволь трэба іці на вяселле.*

СТАЎБУ'ННЕ *н.* Кветаноснае сцябло цыбулі. *Цыбуля пашла ў стаўбунне.*

СТУЖАВА'НКА *ж.* Саматканая посцілка. *Стужаванкі пажмала на рацэ.*

СХАРАШЫ'ЦЬ *зак.* Ачысціць. *Вядро кардопляў схарашыла ат храсткоў.*

СЦЁБНУЦЬ, СЦІ'БРЫЦЬ *зак. экспр.* Украсці, узяць чужое без дазволу. *Аркадзя заўсёды што-нібудзь сцёбне ў гаражы.*

СЯЛЕ'НЕЦ *м.* Селядзец. *Сяленцы ў лаўку прывезлі.*

ТАЎЧЫ'СА *незак. экспр.* Рабіць што-н., займацца чым-н., увіхацца. *Вот так кожны ранак таўкуса.*

ТРЫСЬЦЕ'ННІК *м.* Трысценак. *У суседа ўжэ колькі гадоў стаіць нінакрыты трысьценнік.*

ТРЭ'ЙКО *ліч.* Трое. *Трэйко тoлькі і вувеласо качанятак.*

УДЗВЕ'ЙГУ *прысл.* У дзве столкі. *Удзвейгу гардзіны павесь, хай патсыхаюць.*

УПЯРО'ЧКА *ж.* Вузкая, крайняя папярочная палоска загона. *Упярочку ўскапала на грады.*

УЦІРА'ННІК *м.* Уціральнік. *Дачушка, павесь чысты уціраннік.*

ХАЛАДНІ'К *м.* Халадзец. *Халаднік добрэ ні застыў.*

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Пазяхаць часта. *Чаго ты вечар хаўкаеш, ідзі лажыса.*

ХВА'НДА *ж.* Фалда. *Мар'і папрасіла спадніцу пашыць с хвандамі.*

ХРАМАЛІ'Н *м.* Вакса. *Храмаліну хацела купіць у магазіне, так німа.*

ХРА'ПА *ж.* Храпка. *Аткідай у вядро храпы, карова паесь.*

ХРАСТО'К *м.* Расток у прарошчаным насенні. *Буракі, што былі намочаны на насенне, пусцілі храсткі.*

ХТОЛЬ *займ.* Хто-небудзь. *Кінуў сахор на вуліцы, вот хтоль забярэ.*

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Цёмнай парой. *Цёмначы прыцягнуласа дадому, сено грэбла Зосі.*

ЦУ'РБАЛКА *ж.* Сцябло расліны. *Жукі пабжыралі ўсе бацьвінне, адны цурбалкі тырчаць.*

ЦЯЛУ'ХА *ж.* Маладая карова, цялушка. *Цялуха даўжна аццяліцца.*

ЧО'РНЫЕ Я'ГАДЫ *мн.* Чарніцы. *Кажды гот чорных ягат багато ў Кабулеве.*

ЧЫКІЛЬДА' *м.* і *ж.* Пра кульгавага чалавека. *Чыкільда пашла.*

ША'ТКО *прысл.* Быстра. *Харціне ўжэ восімсят гадоў, а так шатко ішчэ ходзіць.*

ШВЭ'РКАЦЬ *незак.* Гаварыць многа і пустое. *Сядзіць вечэр, швэркае абы-што.*

ШКУРА'ПКА *ж.* Зарумяненая пенка малака пры кіпенні ў печы. *Дзеці шкурапку ат малака ні ядзяць.*

ЧАЎПЦІ' *незак.* Сварыцца з кім-н. *Ранак Воля чаўпе са сваім.*

Ю'ШКА *ж.* Вадкая частка стравы. *Юшку паеў, а густое аставіў.*

***І. П. Чыгрын***

## ЯШЧЭ РАЗ З НАШАЙ ЛЕКСІКІ
## (вёска Чамяры, Слонімскі раён)

АБАПЯ'ЦЬ, АПЯ'ЦЬ *зак.* Абгарадзіць. *Абапяў бы ты картоплі дротам збольшаго — так каравэ збрухінялі, так збрухінялі.*

АБЛІЗА'НЯЦ: ПАЛУЧЫЦЬ АБЛІЗАНЯЦ *перан.* Быць пакараным. *Як будзяш рабіць наперакор — аблізаняц палучыш. Дам аблізанца — дагаруяшся ты ў мяне, нібось.*

АДПЫНІ'ЦЬ *зак.* Адагнаць. *Адпыні карову ад аўса.*

АГІНА'ЦЦА *незак.* Ухіляцца ад работы, ад абавязкаў і г. д. *Усё жыццё агінаяцца, нічого ні хоча рабіць. Агінаяцца тут, як цуцак, цэлы дзень.*

АГЛАМО'ЗДАК *м.* Дурань. *З агламоздкам такім нешто зробіш добраё — усё сапсуе.*

АГЛЮ'ЗЛЫ *прым.* Аслізлы. *Некі аглюзлы кусок сала прынясла, еш ты яго, гаспадынька, сама: дурняў найшла.*

АГЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Пакрыцца сліззю, аслізнуць. *Аглюзло мясо вэтнуць. Як гэто вы дапусцілі?*

АПАЛО'ХАЦЦА *зак.* Стаць, пачаць баяцца. *Яна гэдак апалохалася дактароў, як заходзіць да каторага, як асіна калоціцца.*

АСТРАШЫ'ЦЦА *зак.* Адцурацца (па нейкай прычы-

не), пачаць баяцца. *Астрашыўся хлопяц хаты — нашто ты яго ўсё сцябаяш за што трэба, за што ні трэба: галаву скруціць пад ліхую гадзіну.*

АХЛАБУ'ЧЫЦЬ *зак.* Ашаламіць, зрабіць нешта нечакана — ударыць, запытаць і інш. *Ахлабуч ты гэтаго каня камяням якім — нібось, ні палезя ў аўёс: прывык прыпасвацца. Ахлабучыў ты мяне сваім расказам.*

АШНА'РЫЦЬ *зак.* Знайсці. *Ашнарыў адну добрую палянку — от табе і поўны кошык грыбоў. І дзе ён толькі такую дзеўку сабе ашнарыў, от прайдзісвет гэты.*

БАСЯ'К, БАСЯЧЫ'ДЛО *м. экспр.* Жулік, прайдзісвет; жэўжык. *Ой, і басяк у цябе расце, ой, і басячыдло.*

БЗЫ'КАЦЬ *незак.* Капрызнічаць. *Чо ты бзыкаяш вечно?*

БЛЯВУ'ЗГАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *От блявузгаяш абы-што — перш чым гаварыць, мазгаўнёю сваёю трэба варушыць.*

БРАШЧА'ЦЬ *незак.* Бразгатаць, брынчаць, брынкаць. *Недзя бляха на стрэсі брашчыць — вецяр адарваў ці што: чуяш, мацi?*

ВАЛЮ'Ш *м.* Лежабока, гультай, абібок. *Валюш гэты ляжыць на печы цэлы дзень. Ляжыш цэлы дзень, як валюш.*

ВАЎКАЧЭ'ЧЫНА *м.* і *ж.* 1. Воўк. *Ну, ваўкачэчына, папомніш ты мяне і мае авечкі, вылезуць яны табе бокам, хіба не пападзешся ты мне на вочы.* 2. *экспр.* Злы, панурысты чалавек. *Дзе ты з ваўкачэчынай гэтым зладзіш? Хіба ён чалавек?*

ВЕЧАРКЕ' *мн.* Вячоркі, вечарніцы. *На вечарке яна часто хадзіла — і з кудзеляю, і так.*

ВО'БУЙ *м.* Абутак. *Вобуй такі-сякі агораць трэба — зіма блізко. Вобуві жаднай німа.*

ВО'ДУР *м.* Дурань. *Што ты з водурам такім зробіш? Водур ды водур.*

ВО'НЁ *прысл.* Вунь. *Вонё твая рыдляўка.*

ВО'ТОВО *прысл.* Зараз, вось зараз. *Вотово пайдзем — куды спяшацца так.*

ВУ'МЯНЁ *н.* Вымя. *У нашае каровы вялікаё вумянё. Мыя вумянё — даіць будзя.*

ВУ'НЬДЗЕКА, ВУ'НДЗЕКА *прысл.* Вунь, там. *Воньдзека (вундзека) твой каптан, паложыш і ні помніш, дзе палажыў.*

ВЫ'ЗБІРАЦЬ *зак.* Пазбіраць падчыстую, самым

пільным чынам. *Вызбіралі грыбэ, ці ты шукай ці ні шукай — німа.*

ГАЛАМО'ЎЗА *ж. зневаж.* Галава. *Галамоўза ты, галамоўза. І чым ты толькі думаяш. Галамоўза цэлы дзень баліць. І чаго толькі?*

ГАЛАПУ'ПЯЦ *м.* Недаростак, малеча. *Куды ты лезяш — галапупяц! Сілы ў цябе малавато, каб гэтую калоду падняць.*

ГАРБЕ'ЛЬ *м.* 1. Горб. *Гарбель такі ў чалавека вырас — і калі ён толькі меўся, Максім жа і не такі стары ўжэ.* 2. Гарбаты чалавек. *І куды гэты гарбель пайшоў, на ноч гледзячы.*

ГАРБУЗЕ'НЁ *н.* Лісце гарбуза. *А ў гарбузені ў нас, на пажарышчы, заяц ад дажджу хаваяцца.*

ГВА'КНУЦЦА *зак. экспр.* Упасці з усяго маху, рухнуць. *Гвакнуўся на дарозі, ледзьвя падняўся, якжэбто стары чалавек.*

ГВА'КНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, стукнуць з усяе сілы. *Так гвакнуць камяням у голаў карові! І гэто ў цябе розум е?*

ГЛЫІК *м.* Пражора. *От глык дык глык — усё паеў, што на стале было: на такога ні наўмеяшся.*

ГЛЫІКА'ЦЬ *незак.* Каўтаць, глытаць. *Глыкая катлеты, як бусял жабы: ні агледзішся, як ужэ німа. Глыкнуў разгарачаны вады — от і застудзіў гарло.*

ГЛЮЗ *м.* Слізь. *Глюзам некім сало пакрыласё. Кішкі свіныя цэлы дзень чысціла — бачыш глюзу колькі.*

ГНЁ'НІК *м. экспр.* Абібок, гультай, хітрун. *І куды гэты гнёнік толькі пацягнуўся чуць свет?*

ГО'НДЗЕВО, ГУ'НДЗЕВУНЬ, ГЫ'НДЗЕВОН *прысл.* Вунь дзе. *Гондзево наша хата — ты дайшоў бы сам дадому?*

ДРЫПАЦЬ, ДРЫПУЛІЦЬ *незак.* Хадзіць дробнымі крокамі, манерна. *І куды гэто Волька Самусёвых дрыпая гын? Ух, як Ганначка Хіміна на танцы ў горад дрыпуліць — фацэтная дзеўка!*

ДРЭБЫ *мн.* 1. Старыя драбіны (ад воза і інш.). *І куды ты валачэш гэтыя дрэбы? Нашто іх пад страхой ставіць? Пасячы лепш.* 2. *перан.* Парэбрыны, ногі, рукі. *Павыцягвая свае дрэбы — сухія, доўгія. Паадмярзаюць. Чуяш? Схавай ногі.*

ДУРНЯ'К, ДУРНЯЧО'К *м.* Дурань. *Бо дурняк ты яшчэ, бо розуму ў цябе малавато яшчэ, малы, адным словам.*

ДЗЕВУЛЯ′ *ж. абразл.* Сталая дзяўчына. *Пане мой, дзевуля такая вырасла, хай сама варыць есці, хай даглядая бацьку старого.*

ЖА′БКА *ж.* Жалезная набіўка на задніκі, перадкі, каб не збіваўся абутак. *Мне бацька жабкі на чаравікі прыбіў — і на наскі, і на задніκі паставіў.*

ЖАЛАПА′ЦЬ *незак.* Хлябтаць, піць прагна. *Нашто ты воду халодную жалапаяш так — пашкодзіць можа.*

ЖВЯ′ГА *м.* і *ж.* Назола. *От як прыстала гэта жвяга — дай да дай, дай да дай: дзе ты ні дасі.*

ЖВЯГАВА′ЦЬ, ЖВЯ′ГАЦЬ *незак.* Назойліва прыставаць з размовамі. *Жвягая тут як дзень цэлы, што ты ад мяне хочаш?*

ЖУ′ЖАЛЬ *м.* Жыжа. *Бяруць з-пад каровы жужаль ды паліваюць памідоры — добро растуць: як ні кажы, гной.*

ЗАКАТУ′ЛАК *м.* Прыпынішча, закутак. *Кажны чалавек хоча мець закатулак свой. Ляжыць у сваім закатулку, спіць.*

ЗАМЫ′ДЗГАНЫ *прым.* Мурзаты, упэцканы; недарослы. *Кавалер замыдзганы, бач, да дзяўчат ужэ лезя.*

ЗАМЫ′ДЗГАЦЦА *зак.* Упэцкацца. *Замыдзгаяцца за цэлы дзень каля гэтаго трактара, ідзе дахаты, ні пазнаць яго.*

ЗАПАДА′ЦЬ *незак.* Хварэць перыядычна. *Часто западая мой мужынёк — нікудышняё здароўё.*

ЗАХВЭ′НДАНКА *ж.* Неахайная жанчына. *Вазьмеш такую захвэнданку замуж — паглядзець мутарно будзя.*

ЗАХВЭ′НДАЦЦА *зак.* Абляпацца, абпэцкацца. *Захвэндаяцца ды ходзіць так цэлы дзень сабе — якая ты нічыстая баба.*

ЗБРУХІНЯ′ЦЬ *зак.* Здратаваць. *Каравэ чысто збрухінялі агарод — чаму ні абгарадзіць?*

ЗВЕРАВО′К: ДОЖДЖ ЯК ЗВЕРАВОК. Праліўны дождж. *Ні высунуцца на двор — дождж як зверавок.*

ЗГРЫ′БЧЫЦЬ *зак.* Схапіць. *Згрыбчыў, як чорт грэшную душу, і папёр перад сабою дахаты.*

ЗНО′САК *м.* Апошняе яйка, знесенае курыцай, звычайна малое. *Зноскі моцныя бываюць — любоё яйцо пабіць можно: дайней на Вялікдзень у біткі зноскамі гулялі.*

ЗРА′ДАВАЦЦА *незак.* Нацешыцца, нарадавацца. *І не зрадуецца маці твая з цябе — гэдакі, пане мой, хлапчыско вышугай.*

ЗРАНКАЧЭ′ *мн. экспр.* Вочы, лупачы. *Ты што гэто на мацяру вылупляеш свае зранкачэ?*

І′РХА: ВЫРАБІЦЬ НА ІРХУ. Высушыць, замучыць. *Вырабіў бабу на ірху, ледзьвя ходзіць — о, гэто мужынёк.*

КАНА′ЦЦА *незак.* Гадаць на кійку. *Канаюцца на кійку звычайна — сціскаюць кій, кулак на кулак; каму не хапае кійка, каб узяцца на поўны кулак (і каб крыху было яшчэ), той і прайграе. Давай канацца, каму ісці перайmаць каравэ.*

КАПУ′ХА *ж.* Маруда. *Ой, капуха ты, і калі ты перабярэш гэты шчавей.*

КАСМЫ′ТКА *ж.* Нерасчасаная, раскудлачаная дзяўчына. *Касмытка! Ніколі косы не зачэша, як след.*

КАЦУБА′ *ж.* Булавешка. *Вось як дам гэтай кацубой па лапах — што ты робіш, гіцаль.*

КЛО′МЛЯ *ж.* Рыбацкая снасць.

КЛЯ′КНУЦЬ *зак.* Загінуць, прапасці. *Цяпярся такія дажджэ — клякнуло нашо жыто: парасце ў мэнтлях.*

КО′ЛКІ *мн.* Калаццё. *Цэлы дзень колкі колюць — якое там здароўё.*

КО′СЫ *мн.* Валасы. *Косы ў хлопчыка кучаравыя, густыя.*

КРАТАВІ′НА *ж.* Кратавінне. *Ні балото — суцэльная кратавіна: гэдак перарылі кратэ, гэдак перарылі.*

КРУЖЫНЯ′ЦЬ *незак.* Хадзіць не па прамой. *Нашто табе было кружыняць, можно было напраcткі прайсці. Прыйшоў ды от кружыняю каля хаты гэтае, каторую пору — дзе яны, ні душы ні відаць.*

КРЭЧ *м.* Лямант, гармідар. *І чаго вы тут крэчу на ўсю хату нарабілі?*

КУ′ЧЫЦЬ *незак.* Вымагаць, націскаць, *Кучыў цэлы дзень — а дзе я яму вазьму тых грошай. Як я ні кучыў яго, як ні ўгаворваў — ні хоча і слухаць: ні прадам каровы і ўсё, хаць ты яму што хочаш.*

ЛАХМЫ′ТКА *ж.* Абарванка. *Лахмытку гэту цётка ў хату не пусціць — ідзі, адзену лепшую сукенку.*

ЛАХТАЧЫ′НА *ж.* Упадзіна, лагчына. *Заселі з возам у лахтачыні. У лахтачыні траву касіў, то і памок.*

ЛЮБО′ШЧЫ *ж.* Гарачае каханне. *Любошчы завяла на старыя годы — патрэбно гэто ёй.*

ЛЯ′ШЧЫЦЬ *незак.* Пляжыць, дубасіць, сячы. *Нехто бярэзнік ляшчыць, аж ляха ідзе. Ляшчыць жонку кожны дзень, уцячэ яна ад яго, дурань гэдыкі.*

МАЗГАЎНЯ′ *ж. абразл.* Галава. *Ты думаеш, што ў яго мазгаўня на вязах е? Дудкі!*

МА′РА *ж.* Прывід. *Некая мара па балоці ходзіць. Як мара, у вочы лезя.*

МУЖЧЫ′НІСКО *м. экспр.* Мужчынішча. *Мужчыніско такі! Дзіво, што косіць так лёхко.*

МУСО′ВО *прысл.* Абавязкова. *Мусово трэба ўзяць з балота гэтаё сено — а што як дождж пайдзе.*

НАЖАЛАПА′ЦЦА *зак.* Нажлукціцца, нахлябтацца. *Нажалапаяцца за цэлы дзень вады абы-дзе, то от і баліць жывот.*

НІДАЛЯГА′ЦЬ *незак.* Нездаровіцца. *Усё нешто нідалягая яму — ходзіць скрыўляны.*

НІЗГРАБО′ЦЁ *н.* Нязграбны, няўклюдны чалавек; няўклюда. *І трэба ж было яму ўзяць такоё нізграбоцё замуж?*

НІНАЖО′РА *м.* і *ж.* Ненаедны, ненасытны чалавек. *Нінажора некая — ні хлопяц: есць ды есць, ні наўмецца яды той.*

НІ′ЧАЛЬНІЦЫ *мн.* Ніты. *Буду ткаць у чатэры нічальніцы.*

ПА′ДКІ *прым.* Ахвочы, ахвотнік. *О, ён падкі да гарэлкі, есці ні давай, а чарку падняслі.*

ПАДРАШЭ′ТАВІК *м.* Махавік (грыб). *Німа грыбоў — дзе яны: вось два савяке ды некалькі падрашэтавікаў за ўсю ранніцу падняла.*

ПАЗА′ЎТРА *прысл.* Паслязаўтра.— *Калі пайдзеш? Заўтра? — Не, пазаўтра.*

ПАМАЛЕ′ЧКУ, ПАМАЛЕ′ЧАЧКУ *прысл.* Памаленьку, ціхутка. *От жыву памалечку — гадэ ні тыя. Ішоў памалечачку — памаленечку.*

ПА′МКІ: У ПАМКІ. У памяці. *Яму ні ў памкі было — вяселё гулялі.*

ПАПАБРА′ЦЬ *зак.* Насварыцца, выгаварыць, прабраць. *Я тады яго папабрала, папабрала і выгнала з хаты.*

ПАШЧЭ′НКА *ж.* Сківіца. *Пашчэнкі звяло — такоё кіслаё яблыко даў.*

ПЛЕШЫНА′ *ж.* Высокая надрэчная трава. *Пайдзі, сынку, пад рэчку, накасі плешыны, трэба карову падаслаць.*

ПЛЮ′ХІ *мн.* Від асенніх грыбоў. *Пайду ў лес, хоць плюхаў якіх назбіраю — так захацёласё грыбоў.*

ПЛЯТНЯ′К *м.* Пляцень. *Якжэб-то цяперашнія, то*

*сходзяцца, то расходзяцца, плятуць жыцё плятняком.*

ПО'ВІДАМ: І ПОВІДАМ НЕ ВІДАЦЬ. Нідзе (анідзе) не відаць. *І повідам ні відаць — ён далеко ўжэ.*

ПО'ЛІВАМ *прысл.* Цурком, моцна. *Полівам вада з вядра цячэ.*

ПО'РХАЦЦА *незак.* Калупацца, корпацца. *Якое мацерыно здароўё? Ходзіць паціху — порхаяцца яшчэ ля хаты.*

ПРАДО'ХНУЦЦА *зак.* Даць трэшчыну, стаць дзіравым. *Палядзі мяне, дохтарко, гэдак зуб баліць, мусіць, прадохся.*

ПРЫМЕ'ЦЬ *зак.* Мець змогу, магчы. *Каб прымеў, з'еў бы мяне, здаецца: такі гадкі чалавек, такі гадкі.*

ПУБЗДЫР *м.* Недаростак. *Такі пубздыр, а ўжэ да дзяўчатаў падсядая.*

ПУ'ЦНУЦЬ *зак.* Упасці ад стомы, зваліцца. *Здаецца, пуцнуў бы на ложак і, як ніжывы, праляжаў бы так да вечара.*

РАЗРАБІ'ЦЦА *зак.* Папаўнець, папрашіцца, патаўсцець. *Як ён разрабіўся — у дзверы ні ўлазіць.*

РАСКАВЕ'СІЦЬ *зак.* Развесіць (губы). *Прышоў, раскавесіў свае губені ды сядзіць сабе цэлы вечар тут — чаго?*

РАСТЫКА'ЦЬ *незак.* Раздаваць абы-каму, распускаць, транжырыць. *Растыкаў дабро чужым чужаніцам, а сам галадай.*

РЭ'СПУСТ *м.* Распуснік. *Рэспуст такі! І чаму толькі бацько цябе ні лупцуя — ні будзя з цябе чалавека.*

РЭ'СТРАСЬ *ж.* Нешта зношанае, старое. *Што ты рэстрась гэтую зноў правіш — дзірка на дзірцы, латка на латцы, трэба новаё пальто хлопцу зрабіць. Рэстрась ні хата — старая, дзіравая.*

САЛАПЕ'НДА *м.* і *ж.* Салапяка. *Салапенда гэтая прыйшла сюды, губы раскавесіў, стаіць. Хто цябе сюды прасіў?*

СЕ'ДНЯ *ж.* Сядзенне (як працэс). *Абрыдла седня гэтая з дня ў дзень, хочацца руху якого.*

СЛЕПЯНДА' *ж. абразл.* Той, хто дрэнна бачыць; сляпак. *І ўродзіцца ж такая слепянда — нічого яна ні ўбачыць ніколі.*

СЛОН *м.* Услон. *Сядзь на слоне каля сцяны.*

СМЯРДЗЮ'Х *м.* Смярдзючка. *Смярдзюх малы, усюды ўлезя, усюды дападзе.*

5. Зак. 2197

СМЯЦЮ'Х *м.* Верабей. *Смяцюх ты гэдакі. З вераб'ямі на сметніку табе грабціся, от што!*

СПІРА'ЦЬ *незак.* 1. Праць. *Маці палатно на рэчцы спірая.* 2. *экспр.* Біць, сцябаць. *Ну й спірала ўчора свайго ўнука бабка Агата, ну й спірала.*

СПРАВУ'НКІ *мн.* Уборы, убранні. *Усё справункі робіць сабе, вядома, дзеўка ўжэ, замуж скоро.*

СПРУНЖЫНО'ЎКА *ж.* Культыватар. *Спрунжыноўкай пахадзіў, тады згараў, то мякко, німа прэю.*

СТРАМЯ'КА *ж.* Стрэмка. *Страмяку такую пад ногаць загнала, ах, каб ты!*

СУПРАГА'НЁ *н.* Аб'яднанне гаспадароў для сумеснай апрацоўкі зямлі (від хаўрусу). *Якое там было супраганё — у мяне конь, як звер, а ў яго адны дрэбы, праўда, з цягам часу ён яго падправіў, адхаяў трохі, адкарміў.*

СУПРАГА'ЦЦА *незак.* Аб'ядноўвацца пры апрацоўцы зямлі (калі ў гаспадароў па адным кані). *Я тады са шваграм сваім супрагаўся — зямлі пораўну было, у яго адзін конь і ў мяне адзін.*

СЦІШКА' *прысл.* Спадцішка. *Ён сцішка як скажа што, падаюць усе сосмеху.*

СЦЯ'ЦЦА *зак.* Схапіцца. *От якжэбто дурні — сцяліся за мех некі ды грызуцца, як сабакі.*

ТАБЛЯ'К: НА ТАБЛЯКУ. Не апіраючыся, не дакранаючыся. *Буду сядзець каля гэтаго стала на табляку — як бы ні так. Трымая карова нагу на табляку, на нешто прабіла, мусіць.*

УВІНУ'ШЧЫ *прым.* Рухавы, увішны. *Ён у мяне ўвінушчы хлопчык — як бач, зробіць, што ні папросіш. Якая яна ўвінушчая — усюды ёй трэба дапяць.*

УДО'МА *прысл.* Дома. *Дзе ж ён — удома, кнігу чытая.*

УЗБАМБАВА'ЦЬ *зак.* Раздуць. *Узбамбавало нагу, як калодзіна, стала. Узбамбавало карову, аб'елася нечаго ці якое ліхо.*

УСЕ'Й *прым.* Увесь, цэлы. *Усей дзень каля вакна праседзела — цябе так чакала.*

УЦЕРАБІ'ЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Паўбохана хлеба ўцерабіў — от прагаладаўся!*

ФУГАНУ'ЦЬ *зак.* Вытурыць, выгнаць. *Вось фугану з хаты, нагамі забрашчыш.*

ХЛАПЧЫ'СКО *м.* Дзяцюк. *Чаму ты ні можаш? Хлапчыско такі: само бацьку памагчы па гаспадарцы.*

ХЛАПЧЭ'НЯТКО *н.* Хлапчанё, хлапчук. *А хлапчэнят-*

*ко ж ты маё харошаё, і як гэто я цябе выцяў так, як жа ты пад руку падлезло.*

ЦАПІ′ДЛО *н.* Цапільна. *Цапідло добраё будзя, ні цяжкоё — спраўны цэп зраблю, адным словам.*

ЦІШЭ′ЧКАМ *прысл.* Употайку, цішком. *Вазьме, бало, цішэчкам пудоў са два жыта, паложыць на сані ды на базар — прадасць, а грошы прап'е.*

ЦО′ХКАЦЬ *незак. экспр.* Ссаць са смакам, смактаць апетытна. *Як яно цохкая гэтую карову, як яно цохкая — спраўнаё целятко.*

ЦЫ′ПАЧКІ, ЦЮ′ПАЧКІ: НА ЦЫПАЧКАХ, НА ЦЮПАЧКАХ. На кукішках. *Ён ніколі не садзіўся на лаву, зайдзе, бало, у хату, прымосціцца дзе каля сцяны на цыпачках (цюпачках), так і прасядзіць усей вечар.*

ЧАРАПЕ′НДА *ж.* Нязграбная, няўклюдная жанчына. *Трэба пачакаць чарапенды гэтай — яна заўсёды так, якжэбто чарапенда.*

ШАЛЯСТУ′Н *м.* 1. Бом. *Шалястунэ толькі пад дугою будуць звінець.* 2. *перан.* Пустазвон. *Які ён чалавек? Шалястун няшчасны.*

ШКАДО′ШЧЫ *мн.* Шкадаванне, пяшчота. *Мне ні патрэбныя твае гэтыя шкадошчы — ты лепш заўша па-чалавечы адносся да мяне.*

ШНАР *м.* Рубец на целе, пісяг. *Толькі шнар на твары астаўся — разрэзаў много тады. Шнароў столькі на карові ад пугі — так сячэ пастух быдло, так сячэ.*

ШНА′РЫЦЬ *незак.* Шукаць, вынюхваць. *Чаго ён па-за гумнішчу шнарыць цэлы ранак?*

ШУ′СНУЦЬ *зак.* Аб'ехаць, рухнуць, абсунуцца. *Хата на вачах так і шуснула — скалынуло моцно: мы ўсе на дварэ былі, а то пахавала б пад сабою.*

ШЧАРБЕ′ЛЬ *м.* Бяззубы чалавек. *Шчарбель малы, рагоча, аж заходзіцца.*

ЯГЛЫ′ *мн.* Нешта неакрэсленае (наконт яды). *Што варылі? Яглы — ні еўшы спаць ляглі.*

***В. В. Шапялевіч***

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КАЎНЯЦІН ПІНСКАГА РАЁНА

Артыкул з'яўляецца працягам публікацыі «З лексікі дзвюх вёсак Брэсцкай вобласці» (Жывое слова. Мн., 1978).

БРЫ′КНУЦЦА *зак. экспр.* Нечакана ўпасці. *Вун покоўзнуўса і брыкнуўса на люд.*

ВЫ′ЛЬЧЫК *м.* Верхавіна. *Собака як напужаў кота, то на самым выльчыку грушы опынуўса.*

ВЫ′СКЫРЫТЫ *зак.* Выскаліць. *Зноў зубы выскырыў, пустосміх.*

ВЫ′СЭКАТЫСА *зак.* Высмаркацца. *Хотілосо высэкатыса, але було нэўдобно пры людях.*

ГАЛЯ′ТЫ *незак.* Гуляць, хадзіць без справы. *До ночы галяеш, а січка нэ рызана.*

ГЫДЫ′ТЫ *незак.* Абражаць, праклінаць. *Згыдыла бабу на нет.*

ГЭ′БЫ *злучн.* Нібы. *Такому, гэбы ты, тяжко на світы прожыты.*

ДОЛЕГОВА′ТЫ *незак.* Не хапаць (здароўя, фізічных якасцей, умоў). *Ёму, мусыть, нішчо долегуе, колі ў солдаты нэ бэруть.*

ДЭ′МОНУТЫ *незак. экспр.* Кінуцца наўцёкі. *Ніхто стрэліў: Марко як дэмонуў у корчы, аж голле затрэшчало.*

ЗАКАБА′І *мн.* Закавулкі. *У гэтых закабаях можно заблудытыса.*

ЗМУТЫ′ТЫ *зак.* Падмануць. *Прызнаюса одкрыто, змутыў я тобі ўчора.*

З′ЯГА′ *м.* і *ж.* Назола, прыдзіра. *З′яга ты, нэ чэпляйса до еі.*

ЙІ′ЛКЫ *прым.* Не зусім свежы (аб страве), ёлкі. *Масло ўжэ йілкэе, але йісты шчэ можна.*

КА′ЎКАТЫ *незак.* Квакаць. *Жабы каўкають — погода будэ.*

КАТА′НКА *ж.* Безрукаўка. *Одэны катанку, занэпогодылосо нішчо.*

КВА′ШЭЛІНА *ж.* Квашаніна, халадзец. *Вэльмы ў Ганны квашэліна ўдаецца, пойды поучыса готоваты.*

КЛЮ′ЧКА *ж.* Капач. *Каміннёў поўны горо́д — аж іскры з-под ключкы скачуть.*

КОЛЕ′Я *ж.* Чарга. *Заўтра мні колею одпасвыты трэба.*

КРО′ШКЫ *прысл.* Трошкі, крыху. *Тэпэра стало крошкы ліпш, чым було ўчора, можэ й вычуняе.*

КУ′ХЭР *м.* Куфар. *Полотно у кухры на дні, а лянычная рубашка звэрху.*

ЛЕКА′ТЫ *прым.* Пужаць. *Нэ лекай мэнэ бульш, бо я ніколі так пэрэлекаўса, шчо два місяцы хворыў.*

МУСО'ВО *прысл.* Абавязкова. *Як узяўса — мусово зробыты.*

МУТЫ'ТЫ *незак.* Хлусіць. *От мутюн, мутыть, гэ як шойком шые.*

МЭ'НДРЫ *прым. іран.* Хітры. *Ганна, оддай мні гэты рушнык. Вэльмы мэндры ты, Мыколай, мнуго хочэш.*

НАДОГЫ'ДЭТЫ *зак.* Моцна надакучыць, абрыдзець. *І нэ надогыдэла ёму гэта робота? Не, другоі вун нэ хочэ.*

НАТЭНУ'ТЫ *зак.* Наштурхну́ць (на думку). *Натэны крошкы, тогді ўспомню.*

НАЎПРОСТКІ' *прысл.* Наўпрост. *Пойду наўпросткы — хучэй будэ.*

НА'ЎСПОТЫЧ *прысл.* Потырч. *Зачэпыўса за пэнька і полетіў наўспотыч.*

НАШЫХОВА'ТЫ *зак.* Падрыхтаваць, сабраць. *Мамо, чы ты ўжэ торбу нашыховала?*

НІ'ШЧО *прысл.* Нешта.

НЫЦ *прысл.* Нічога. *Вун ныц нэ робыть, оно грошы роспускае.*

НЭОБО'ЛІТЫ *незак.* Зайздросціць, не жадаць дабра. *Сусід нэоболіть, шчо у мэнэ і ў хаты, і на дворы заўшэ порадок.*

НЭСУДО'МЫ *прым.* Нясцерпны, нязносны. *Кыслотте нэсудомэе — такых яблік я заводыты нэ хочу.*

ОНО' *прысл.* Толькі. *Оно ты мні трэба, бульш ныхто.*

ОПЫНУ'ТЫСА *зак.* Апынуцца. *Я з того пэрэпуду чорт-відь дэ опынуўса, ледь на дорогу трапыў.*

ПАЗЮ'Р *м.* Ногаць. *Ну й пазюры у тэбэ поодро́сталі, гэбы ў мэдвэдя.*

ПАЛЬ *м.* Стоўб, які адзначае мяжу. *Соткы обміралі і палі побылі.*

ПІ'ГЭЛЬ *м.* Дзіцячая гульня. *Заўтра прыходьтэ зноў, пограем у пігля.*

ПЛЕСКА'ТЫ *прым.* Плоскі. *У его буў вэльма плескаты нус.*

ПО'НОЧЫ *прысл.* Цёмна. *Було так поночы, шчо я обмацком шукала дорогу на хутор.*

ПО'ПЫРСКЫ *мн.* Пырскі. *Кынуў цэгліну у лужу: попырскы полетілі ажны до стэны.*

ПО'ТЭСЬ *ж.* Прасніца. *Прынэсы потэсь, я кудэлю прыв'яжу, буду прасты.*

ПРА'ТЫ *незак.* Мыць, праць. *Чы ты ўжэ прала радюжкы́?*

ПРАЧ *м.* Пранік. *Возьму прача́, да пойду на луг по-*

*лотно праты.*

РАДЮ′ЖКА *ж.* Дзяружка, посцілка. *Выткала хорошу радюжку, усэ сэло завыдуе.*

РАСПОНА′ДЫТЫ *зак.* Разбэсціць, распусціць. *Распонадылі вы свуй статок, так і прэцца ў шкоду.*

РЫ′ГАТЫ *незак.* Рыдаць. *Чого ты рыгаеш, його усе ройно нэ вэрнэш, а жыты трэба.*

РЫ′ХТЫК *прысл.* Якраз. *Вун рыхтык такы, як батько: зробыть — е на шчо подывытыса.*

СМАКУ′ТТЕ *н.* Смак. *Домашніе блінцы — такэ смакутте, шчо світ нэ бачыў.*

СО′ПКА *ж.* Канапа. *Нашого кота з сопкы нэ прогнаты, стаў гэбы панскы.*

СПОТЯГНУ′ТЫ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Спотягнула б я тэбэ гэтым паском, да твое шчасте — нэ достану.*

СПРОЦЬ *ж.* Рагатка. *Выкынь спроць, хыба тэбэ гэты гараб′і чэпають?*

СУ′ЗМА *прысл.* Нахабна. *Комары опановалі, сузма лізуть у вучы.*

СТУЗ *м.* Звязка. *Цілы стуз кныжок прыслалі ёму ўчора з города.*

ТРЫ′БЛО *м. абразл.* Трыбух. *Ныц нэ хочэ робыты, жэрэ, жэрэ — трыбло гэбы бочка.*

ТЭЛЕ′ВЫТЫ *незак.* Кеміць, разумець. *Вун ныц нэ тэлевыть у гэтум ділы.*

ТАРАБІ′ЧЫТЫ *незак.* Цягнуць, несці. *Мыкыта молодец, учора прытарабічыў два мэшкы одразу на мэльныцу — і коня нэ трэба.*

ХАМЧУ′ЧА *м. абразл.* Неахайны чалавек. *Нэ прыбэрэцца, а заўшэ ходыть гэбы хамчуча.*

ХУ′ХАТЫ *незак.* Дзьмухаць. *Я похухаў на пташэня, і воно заворушылосо, ожыло.*

ЦІ′ЎКА *ж.* Цэўка. *Позыч мні дві ціўкы ныток.*

ШВЭ′ДА *ж.* Скварка. *Мні кашу будэш варыты бэз швэдэй, а то нэ йістыму.*

ШУ′ПКА *ж.* Прыбудоўка каля хлява. *Дрова занэсэш у шупку, а то дождж маецца буты.*

ШЫХОВА′ТЫ *незак.* 1. Шанцаваць. *Ему заўшэ шыхуе.* 2. Рыхтаваць. *Корзіну яблік нашыховала — пойіду на базар.*

ЯК БАЧ. Вельмі хутка, у адзін момант. *Молоды, здоровы, як бач дялку выкосыў.*

ЯРЭ′Й *м.* Аер. *Бач, якы ярэй вырос. Трэба на свято яр′ю нарваты.*

*М. М. Аляхновіч*

## СЛОЎНІК НЕАДНАЗНАЧНЫХ ДЗЕЯСЛОВАЎ
### (з лексікі вёскі Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці)

ГОМОНЫ'ТЫ *незак.* 1. Гаварыць, размаўляць. *Чого забавіласа? От, прышла дядына, да як сталі гомоныты, так і прогомонылі пойдня.* 2. Шумець. *Ныяк заснуты нэ можна: госты ў другой хаты* [пакоі] *ўсэ гомонылі і гомонылі, як тут заснэш?*

ДЫВІ'ТЫСА *незак.* 1. Глядзець. *Дывіса оно под ногі добрэ, коб грыба якого нэ ростоптаў. Тут трэба ой як дывітыса, коб усэ побачыты.* 2. Берагчыся, засцерагацца. *По лохачэ йдэш? То мусіш добрэ дывітыса, бо тамэка, у том болоты, усякой заразы хапае — коб нэ ўкусіло шчо.* 3. Здзіўляцца. *Чого там дывітыса, ты й сам так зробіш, як захочэш. Ныц тут дыўного нэма.*

КЕ'ШКАТЫСА *незак.* 1. Марудзіць. *Надумаесса куда пойте, дак зразу кешкатыса почынае: шчо-то пэрэбірае, чого-то нэ знаходыть — ныколі ўпору нэ прыходымо ныкуды.* 2. Перабіраць, корпацца. *Бувае, оччыныть кухра і кешкаецца ў одэжы, пэрэкладае, дывіцца, зноў складае... І чого там кешкатыса?* 3. Грабціся. *Куры кешкаюцца ў пэску.*

КЛА'СТЫ *незак.* 1. Апранаць. *Холодае, пора тэплейшу одэжу класты.* 2. Распальваць (вогнішча). *Намоклі, огонь трэба класты, коб обсушытыса крохі, бо так замэрзнэм, пэрэхворэем.* 3. Есці. *Прышоў после роботы, сеў за стол і давай класты ўсэ, шчо стояло — ох і выголоднеў, мусі, бо поеў усэ чысто.*

ЛА'ДЫТЫ *незак.* 1. Жыць згодна, дружна. *Воны побэруцца й будуть ладыты: подобраліса однаковые, шанують однэ одного.* 2. Рамантаваць. *Подрос хлопэц, помагае батьку хлева ладыты.*

ЛО'ПАТЫ *незак.* 1. Разрывацца, распадацца. *Булькаўкі на воде сталі лопаты.* 2. Стукаць. *Лопаты дубцом по халявы.* 3. Страляць. *Накідалі патроноў у огонь, а тые*

*лопаты сталі.* 4. Прагна есці. *Як сядэ капусту лопаты, дак нэ зроўняесса, такі хуткі.*

ЛУПІ'ТЫ *незак.* 1. Лупіць, чысціць. *Новых картоплёў накопалі, лупіты трэба — на вэчэру зварым.* 2. Абдзіраць. *Кору з лозы лупіты. Гэто раней лупілі кору да здавалі.* 3. Біць, лупцаваць. *Гэтого дурня добрэ трэба папругою лупіты, бо наплачэтэса вы од ёго. Як браты по розуму, а нэ по дуру, то лепш лупіты по шкуры, чым шкуру* (прымаўка). 4. Хутка бегчы. *Собаку спустылі, то так, гіцэль, лупіў по корчах, шчо й нэ догналі, будэ знаты, як другі раз у город лазіты.* 5. Ліць (пра моцны дождж). *Дошч лупіть як з вэдра, гэбы на конэц света. Трэба сподэватыса, шчо доўго так лупіты нэ будэ — стыхнэ.*

ЛЯ'СКАТЫ *незак.* 1. Стукаць. *Ляскаты кіём по плоты.* 2. Гаварыць пустое. *Як нэма чым рук заняты, до збэрucца на лаўцы пэрэд хатою і ляскають хто про шчо, покуль нэ надоесць.*

ЛЯ'СНУТЫ *зак.* 1. Стукнуць. *Ляснуты молотком по ковадлу.* 2. Лопнуць, разарвацца. *Нэ надувай такого вэлікого шара — ляснуты можэ.* 3. Сказаць неўпапад. *А ўжэ шчо баяты ўмэе, то ныхто, мусіть, так нэ бае. Розговорыцца й нэ думае, шчо кажэ, такэе ляснуты можэ, шо на ногах нэ ўстоіш.* 4. Не атрымацца. *Шыховаў, шыховаў хлопца до бабы, а ўсэ ляснуло — захворэў малы.*

МОЛО'ТЫ *незак.* 1. Малоць. *Поехаў стары на мэльныцу муку молоты, а як доўго вон там будэ ее молоты, нэ знаю.* 2. Гаварыць пустое, балбатаць. *Кінь, шолото, абы-шчо молоты, завэжы языка, колі вон вэлікі.* 3. Хутка перастаўляць ногі, перабіраць нагамі. *Нешчо ж купіла Одарка ў лаўці, выскочыла натто хутко і пошла ногамі молоты — хвалітыса побегла.*

МОЛОТЫ'ТЫ *незак.* 1. Малаціць. *Жыто молотымуть на той нэделі.* 2. Біць. *Бач, нэ далі цукерка малому, дак розозліўса, давай бабу молотыты ручкамі.* 3. Гаварыць пустое. *Коб хто, а Ярынка наговорыть, станэ молотыты — нэ пэрэб'еш, намолотыть на ўсэ сэло.*

МУТЫ'ТЫ *незак.* 1. Падманваць, хлусіць. *Навучыўса мутыты, мутыть усем і ўсюды і сам дывіцца, чого гэто ёму ныхто нэ вэрыть, ныхто компаніі нэ водыть.* 2. Муціць, ванітаваць. *Пэрэгрэўса на сонцы, дак зарэ мутыты стало, голова боліть.* 3. Каламуціць. *Воду мутыты ў рове будуть, коб рыба навэрх повыплывала.*

МЭНТЫ'ТЫ *незак.* 1. Мянташыць. *Косу мэнташкою мэнтыты после клепання трэба долікатно, доводыты,*

*ройняты, а нэ гострыты.* 2. Гаварыць, мала думаючы пра сэнс. *Говорыла малая з дедом, нешчо роскизвала, а зарэ ўжэ мэнтыть абы-шчо, нэ думае, мусіть, надоело ёй баяты з дедом.* 3. Хутка есці. *Будэ мэнтыты ўсэ, оно давай на стол, бо то чужэе, а нэ свое. Така натура ў чоловека.*

МЭРКОВА'ТЫ *незак.* 1. Думаць, жадаць. *Вон мэркуе набраты тэпэр одных грыбоў* [баравікоў], *знае, дэ ходыты.* 2. Прымервацца, прыкідваць. *Колі так доўго мэрковатымо, як кажну дошку прыбіваты, то за год шопкі нэ зробімо .*

МЭША'ТЫ *незак.* 1. Перамешваць. *Мэшаты сено с соломою, коб потом сечкі нарэзаты.* 2. Чаргаваць. *Як брала маты швэдра, то мэшала белу ныткy з сінёю.* 3. Перашкаджаць. *Дэтэй с собою по ягоды браты нэ трэба: оно мэшаты будуть там, у лесі.*

НАБІ'ТЫ *зак.* 1. Набіць, пакараць. *Набіты когонь. Хотеў набіты дубцом того нэслуха, да пошкодоваў.* 2. Насадзіць. *Новэ дэржално набіты на жэлезняка даўно пора, бо гэтэе трэснутэ.* 3. Запоўніць. *Набіты сенныка свежым сеном.*

НАГНА'ТЫ *зак.* 1. Дагнаць. *Поехала Маня ровэром по ягоды, нагнаты наўрад чы нажэнэм, а ў лесі стрэнэмса.* 2. Наклікаць. *Нэ кляны так людэй, дытя: добра з того мало, а бэду нагнаты можна.* 3. Наслаць, напусціць. *Лазять по яблыка ў садок? То трэба доброго страху нагнаты, коб надоўго запомнілі, як чужые садкі обіраты.*

НАКІ'ДАТЫ *зак.* 1. Накідаць. *Накідаты сена на воз.* 2. Падкінуць, дабавіць. *Накідаты больш дроў у пэч, бо догорають ужэ.* 3. Акрэсліць, намеціць. *Ты зразу вуголіною на стэне накідай, як трэба робіты, покажы, шчо думаеш, а потом разом і зробімо.* 4. Нагаварыць. *Нэ чэпляйса до гэтой деўчыны, бо вона такіх проклёноў тобе накідае, шчо за ўсю жытку такіх нэ почуеш.* 5. Набіць, адлупцаваць. *Шчо тут думаты доўго: накідаты добрэ лозіною раз-другі, до будэ слухатыса.*

НАКЛА'ДАТЫ *незак.* 1. Апранаць. *Накладаты нового кожуха.* 2. Абуваць. *У чоботях зручней тобе будэ косіты лужка, трэба чоботы накладаты.* 3. Уздзяваць. *Кавалерыско вырос, а хамута на коня нэ ўмэе накладаты, дэўчата засмэють.* 4. Накладваць. *Картоплёў много нэ трэба на воз накладаты, бо по дорозі трэбэка гарбузы будэ забраты.*

ОБОЙТЕ' *зак.* 1. Абысці. *Лес тут вэлікі, коб обойте, то часу много трэба.* 2. Абагнаць. *Як ужэ вэрхом ездыў, то*

*ездыў, обойте его наўрад чы кому ўдавалосо.* 3. Абкасіць. *Возьмі косу да обойды-но ўчастка свого, проложы хоть одного прокоса, коб знак буў.* 4. Акучыць. *Хрышчоны ўсьпеў по разу свое картоплі шчэ два дне назад обойте, так шчо тэпэр чы заўтра потскочыть с сошкою, обгорэ й нашы.* 5. Падмануць. *То хітры чоловек, раз-два обойте можэ, нэ особо ёму веры давай.*

ПАЛІ'ТЫ *незак.* 1. Паліць, спальваць. *Паліты смэтте на огню.* 2. Распальваць. *Огонь паліты ў затышку, коб вэтёр нэ задуў зразу.* 3. Моцна хацець. *Воды паліть, шчо жыты нэ хочэцца, а напітыса нэма дэ.* 4. Моцна грэць, свяціць. *Под полудэнь сонцэ стало так паліты, шчо ўсэ картопленне повяло ўраз.*

ПЭКТЕ' *незак.* 1. Пячы, смажыць. *С самого ранку стала блінцэ пэкте.* 2. Моцна грэць, награваць. *Нэ садыса бліско кай огню, бо пэкте ўжэ почынае добрэ — гледы, коб кухайка нэ ўзяласа. Як сонцэ будэ так і далей пэкте, то погорыть усэ ў городы.* 3. Моцна хацець. *Так пэчэ воды напітыса.* 4. Біць, лупцаваць. *Нашчо ж так коня пугою пэкте, хіба вон потягнэ такого воза?*

ПЭРЭБІРА'ТЫ *незак.* 1. Перабіраць, сартаваць. *По вэсне скопца открылі і сталі пэрэбіраты картоплі, бо подмоклі знызу.* 2. Браць больш, звыш меры. *Маня зліцца, клянэ мужыка і ўвэсь свет, крычыть больш, чым трэба, про ўсэ, пэрэбірае, а потом люды пэрэказвають, смэюцца.* 3. Доўга выбіраць (каго). *Пэрэбірала хлопцоў, добірала жэныхоў, а деўкою осталаса.* 4. Прыцэньвацца, таргавацца. *О, Одась пока шчо купіть на базары, доўго будэ пэрэбіраты, пэрэпітваты — хапае ж у чоловека тэрпення.* 5. Павольна іграць. *Сэдыть з гармонёю, пэрэбірае гузікі, нешчо сам собе спэвае.* 6. Гаварыць лішняе. *Як шчо роскаэвае, дак заўшэ пэрэбірае, выдумляты почынае.* 7. Нанова рабіць. *Роспустыла швэдра ўсёго, кажэ, буду пэрэбіраты, бо нэ так зробіла, як хотелоса.*

ТРОШЧЫ'ТЫ *незак.* 1. Разбураць, ламаць. *Напіўса, сеў на трактора і пошоў плоты трошчыты.* 2. Рваць, не выбіраючы. *Яблыка трошчыты на яблоні. Гэто як хто боіцца або ўлез у чужы садок чы город, то нэ рвэ, а трошчыть, бо спэшыть, нэ розбірае.* 3. Прагна, хутка есці. *Трошчыть усэ, шчо попало, зголодаў так.*

ТУ'РЗАТЫ *незак.* 1. Нарываць, балець. *Мусіть, дэрэво ў палец загнаў, бо моцней боліть, турзае пальца.* 2. Тузаць, цягнуць. *За рукава турзаты когонь. Турзаты коня за лейцы.*

УЛЕ'ЖАТЫ *зак.* 1. Вылежаць. *Полотно наткалі, а зарэ воно на поплаўцу лежыть: трэба, коб добрэ ўлежало.* 2. Вылежацца. *Роботы людям нэ було дён colькі, так улежалі, шо надоело, хотелі ўжэ й додому ехаты.* 3. Выспацца. *Гэто трэба тэрпэнне вэлікэе, коб столькі ўлежаты — спіть і спіть собе, гультяіна такая.*

УТЭРУСІ'ТЫ *зак.* 1. Натрэсці. *Сено злежалоса, трэба на ноч коровы крохі ўтэрусіты, хай есць.* 2. Укінуць. *Утэрусіла ў чыгун коляндры, смачней будэ.*

УТЭРЭБІ'ТЫСА *зак.* 1. Залезці ў шкоду. *Конь утэрэбіўса ў город, потоптаў загоны з гуркамі. Утэрэбітыса ў шкоду.* 2. Загразнуць. *Роскісла стэшка з дошчу так, шчо як утэрэбіўса, то оно шчо вылез.*

ЧАВІ'ТЫ *незак.* 1. Быць цесным. *Чоботы купілі малые, чаўлять; як так чавітымуть, то ногі пороспухають.* 2. Пацiскаць. *Чавіты руку, здороўкатыса.* 3. Давіць, расціскаць. *Ідэ, ныц нэ бачыть. Нашчо ж чавіты такіе ягоды — іды лепш стэшкою.*

ШМОРГНУ'ТЫ *зак.* 1. Пацягнуць, рвануць. *Шморгнула зэліну з морквы.* 2. Пацягнуць носам. *Оно нэ хапае тобе зарэ носом шморгнуты — тогде соўсём на двор нэ пустять, будэш у хаты сэдеты.* 3. Стукнуць. *Думала шморгнуты якім паўрозом, да не — утёк, гіцэль.*

ШМУ'ЛЯТЫ *незак.* 1. Церці. *Гэто ж пошыў собе некую куртку шкурану, а зарэ ходыть, шмуляе рукавамі, трэцца.* 2. Рэзаць. *Як нож тупы, то нэ рэжэ, а шмуляе. Шмуляты ножом по вэроўцы.*

***Г. Ф. Вештарт***

## НАЗВЫ ЕЖЫ НА ПРЫПЯЦКІМ ПАЛЕССІ БЕЛАРУСІ

Пададзеныя ніжэй назвы ежы з'яўляюцца працягам публікацый па палескай лексіцы гэтай тэматычнай групы [1].

Прынятыя скарачэнні раёнаў: Брэсц.— Брэсцкі, Бяроз.— Бярозаўскі, Ельск.—Ельскі, Жабінк.—Жабінкаўскі, Жытк.— Жыткавіцкі, Іван.— Іванаўскі, Івац.— Івацэвіцкі, Калінк.— Калінкавіцкі, Кам.— Камянецкі, Кобр.— Кобрынскі, Лельч.— Лельчыцкі, Лун.— Лунінецкі, Маз. — Мазырскі, Малар. — Маларыцкі, Нар. — Нараўлянскі, Петр.— Петрыкаўскі, Пін.— Пінскі, Пруж.— Пружанскі, Стол.— Столінскі.

[1] Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968. С. 366—414; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971. С. 89—142.

АГА′ПКА *ж.* гл. га́пка.

АЖА′РКІ *мн.* Скваркі ад induced пeратопленага нутранога тлушчу. *Трэба засмачыты боршч, то ўкіну ажаркі.* Сялец Бяроз.

АЗАЛЕ′ЦЬ *зак.* Абрызгнуць, пракіснуць (пра малако). Яўсевічы, В. Сялюцічы, Белка, Пціч Петр.

АНДРЫЯ′Н *м.* Свіны страўнік, начынены мясам і правялены. Мікашэвічы Лельч.

БАЛЭ′ЙБУХ *м.* Бабка, прыгатаваная з дабаўленнем тоўчанай бульбы. Камароўка Брэсц.

БАНКУ′ХА *ж.* Род печыва. Замосты Кам.

БАСМАНЫ′, БАЦЬМАНЫ′ *мн.* 1. Коржыкі з льнянога семені. Харэва Пруж. 2. Абрадавыя прэсныя коржыкі. Гарадняны Пруж., Запруды Кобр. 3. Бульбяныя аладкі з прымессю мукі. Броды Пруж.

БЕЧ *м.* Страва з запечанай дранай бульбы, бабка. Дуброва Лельч.

БЛІЗНЮКЫ′ *мн.* Два пірагі, якія маладая нясе маладому. Нэплі Брэсц.

БЛЯША′НЫК *м.* Хлеб, спечаны ў бляхах. Ракітніца Жабінк.

БО′БІК *м.* Страўнік, начынены мясам і правялены. Лунін Лун.

БОБО′К *м.*, БОПКІ′ *мн.* Маленькія галушкі, якія пякуцца на Саракі. *На Сорок сетыйе пеклі сорок бопкоў, да шчэ борону і плуга, і косу, хлопчыкам борону і плуга, а дзеўкам — серпа.* Кароцічы Стол.

БОХО′ННЕ *н. зборн.* Боханы (хлеба). *Бохоння насаджала поўну печ.* Красная Воля Лун.

БУБЛЫ′ *мн.* Галушкі. Дудзічы Калінк.

БУ′КСЫ *мн.* Галушкі з мятай бульбы і мукі. *Тоўканыя з мукой, голушкы поробать, называйуть буксы. Буксы варыла.* Бярозаўка Кам.

БУЛЁ′НЫ *мн.* Цэлая вараная бульба. *Булёны потоўкці — то баба з мятых картопляў.* Запясочча Жытк.

БУРАКО′ЎКА *ж.* Бурачны боршч. *Буракоўкі йана не захацела і ў рот браць.* Кіраў Нар.

БЭ′БАХ *м.* Страўнік у каровы. Дрэбск, Любань Лун.

ВА′РА *ж.* Усё варанае, гатаванае. Бобрык Пін.

ВАРУ′НКА *ж.* Адзін кавалачак пакрышанай бульбы. Кажан-Гарадок Лун.

ВАРЭНІ′НА *ж.* Рэдкая страва з жытняй мукі, папярэдне падпражанай. Дварэц, Вітчын Лун.

ВЫ′БЭГЕНЬ *м.* Сухі выраст з боку буханкі хлеба.

Бярозаўка, Камянюкі Кам., Лышчыцы Брэсц. *Дай мне выбэгня скушаты, то хутчэй замуж вы́йду.* Камянюкі.

ВЫБЭГА'НКА *ж.* Тое, што і ВЫБЭГЕНЬ. Абрамавічы Жабінк.

ВЫБІ'РАНКА *ж.* Апошняя буханка хлеба з астаткаў цеста. Варацэвічы Іван.

ВЫРО'БІКЫ *мн.* Свежына; вячэра пасля таго, як заколюць кабана. *Ходы́ на выро́бікы.* Бярозаўка Кам.

ВЫ'ХОПЭНЬ *м.* Блін з хлебнага цеста. Малая Курніца Брэсц.

ГАЛГА'НЫ *мн.* Клёцкі з дранай бульбы, начыненыя мясам. Запясочча Жытк.

ГАЛЁПЭНЬ *м.* Булачка ў форме птушкі, бараны, сахі і інш., спечаная на Благавешчанне. *Бусел, бусел, на тобе галёпэнь, дай мне жыта копу.* Запруда Кобр.

ГАЛЮКІ' *мн.* Вялікія галушкі з дранай бульбы, адвараныя, адцэджаныя і засмажаныя. Буда-Сафіеўка Лельч.

ГА'ПКА *ж.* Свіны страўнік, начынены мясам або ліверам. Валута, Красная Воля, Кажан-Гарадок Лун.

ГЛЯЦА'Н *м.* Пра недакісшы, няўдалы хлеб. *Вот гляцаноў напякла йа сягодні.* Стадолічы Лельч.

ГЛЕПАШАВА'ТЫ *прым.* Недапечаны (пра хлеб). Шаставічы Петр.

ГОЛУХЫ' *мн.* Галушкі з дранай бульбы. Страдзічы Брэсц.

ГО'ПА *ж.* Страва з дранай запечанай з салам бульбы, бабка. *Картошку натрэ, у чыгунку пычэцця — гопа.* Верхалессе Кобр.

ГРАДА' *ж.* Квашаніна. Канатоп Нар.

ГУ'СЬКА *ж.* Булачка своеасаблівай формы. Валаўск Ельск.

ГЫ'БАНІК *м.* Від святочнага хлеба. Вайская Кам.

ДАЎГА'Ч *м.* Буханка хлеба даўгаватай формы. Ракітніца Жабінк.

ДЗЕД *м.* Запечаная з салам драная бульба. Задуб'е Лун.

ДЗЁРГАЦЬ *незак.* Дзерці на тарцы (бульбу). *Дзяруноў надзёргала ды напякла.* Бібікі Маз.

ДО'ЛОТО *н.* Талакно. Лапацін Пін.

ДРАЧ *м.* Блін з дранай бульбы. Міхнавічы Калінк.

ДУ'ЖЫКІ *мн.* Каржы з мёдам, якія пякуцца ў першы дзень посту. Млынок Лельч.

ДЫЛЯНІ'ЦА *ж.* Пірог, які прывозіцца сватамі на вяселле і дзеліцца паміж маладымі. Тэўлі Кобр.

ЖЫВАСО'ЛЬ *м.* Рапа (з сялёдкі, салёнага мяса). Замошша Лельч.

ЗАВА'Р *м.* Адвар з канаплянага семені. *Сім'е коноплянэ тэрлі, у вэрехе заварвалы. Завар на одвідкі неслі.* Нэплі Брэсц.

ЗАВІ'ВАНІКІ *мн.* Наліснікі. Валаўск, Засінцы Ельск.

ЗВАР *м.* 1. Від падлівы з проса. Ліплёўка Брэсц., Радванічы Жабінк. *Пшоно мочать, давлять, разводять рітко, кіпячону воду ллють, голійом закрашвайуть — то звар. У звар грэчанікі мочайуть.* Радванічы. 2. Від падлівы з канаплянага семя, маку і г. д. Камароўка Брэсц., Ляхавічы, Сварынь Бяроз. 3. Усё варанае, што прыносіцца парадзісе. *Йак народзіцца дзіця, то нясуць квас, кашу — усё гэта звар.* Вялікія Сялюцічы Петр.

ЗГОРІ'ЛКА *ж.* Прыгарэлая пры варцы ў печы бульбіна. Арэхава Малар.

ЗО'РЫ *мн.* Кроплі тлушчу на паверхні вадкай стравы. Камароўка Брэсц., Ракітніца, Радванічы Жабінк.

ЗЫХО'ДНІ *прым.* Квашаны, рашчыняны. *Зыходні галушкі пэклі.* Гусак Малар.

ІВА'НКО *м.* Страўнік, начынены мясам з прыправамі. Жытнавічы Пін.

ЙУ'РДА *ж.* Заправа з тоўчанага канаплянага семені, разведзенага вадой. Яўсевічы Петр. *Йурду у пост робілі. Натоўкуць семені, цёплой воды пераваранай, перамешайуць, посоляць. Мочайуць хлебом, ладкамі.*

ЙУРО'К *м.* Булачка, якая пячэцца на Юр'я. *Йуркі кладуць у жыта, калі відно йіх, то будзе плохі урожай.* Сварынь Бяроз.

ЙУШНЫ'К *м.* Спорава Бяроз., Адрыжын Іван., Заазер'е Пін., Дварэц Лун., ЙУШНІ'К Красная Воля, Мікашэвічы Лун., Грычынавічы, Пухавічы, Хлупін Жытк., Шаставічы Петр., Балажэвічы Маз. 1. Халадзец. 2. Юшка з рыбы. Адрыжын Іван.

КАРЧО'КІ *мн.* Бульба. Сялец Бяроз.

КВАСНЫ'К *м.* 1. Прэсны корж, які пячэцца спецыяльна на квас. Камянюкі, Бярозаўка, Вайская, Замосты, Воўчын, Відамля Кам., Лышчыцы, Астрамечава, Малая Курніца, Нэплі Брэсц. *Кваснык сразу затоўчэ, вымешайе, йон солоткі.* Камянюкі. 2. Рошчына на квас. Пецькі, Верхалессе Кобр.

КВАСОВІ'ННЕ *н.* Размоклы хлеб, вотруб'е і г. д., на

якіх настойваецца хлебны квас. *Квас кушайем с картошкойу, на квасовінні рошчыняйем хліб.* Відамля Кам.

КВАСОВІ'ЦА *ж.* Салодкі суп, звараны з сухіх груш і яблыкаў з крупамі. Засінцы Ельск.

КВАСО'ЎКА *ж.* Кіслая рэдкая страва, прыгатаваная на якім-н. квасе (хлебным, бураковым, бярозавым і г. д.). Белка Петр., Міхалкі Маз., Вішанька Ельск., Даўляды Нар.

КЛЕВЕ'Ц *м.* Пра няўдалы, нявыпечаны хлеб. *Хлеб бу клевец, сядзе на сподню скурку, пудняць ня можно.* Дзяржынск Лельч.

КЛІНОВА'СТ *м.* Клінок, палатняная торбачка для прыгатавання тварагу і сыру. Запясочча Жытк.

КЛІНОВА'Ч *м.* Тое, што і кліноваст. Альманы Стол., Тонеж, Дзяржынск Лельч.

КНЫШ *м.* Галушка з дранай бульбы, начыненая мясам. Белка Петр.

КОВДУ'Н *н.* 1. Свіны страўнік. Трасцяніца, Малая Курніца, Нэплі, Страдзічы, Камароўка Брэсц., Гусак, Макраны Малар., Брады Пруж., Тэўлі Кобр. *Путчэрывье клалы у ковдун і на літо ховалы. Ковдун налывалы крывей.* Гусак. *Сальцісон роблят у ковдун; надзіваня зробылы у ковдун.* Брады. 2. Страўнік, начынены тонкім салам, мясам. Камароўка, Гусак, Брады.

КО'ЛОВО *н.* Ляхавічы Бяроз., КО'ЛІВО Жытнавічы Пін., КО'ЛЫВО Вулька Іван. Памінальная страва: салодкая вада з бобам (Ляхавічы), салодкая вада або сыта з пакрышанай у яе булкай, хлебам.

КОРОГО'Д *м.* Абрадавы пірог, які пячэцца на Юр'я і з якім карагодзяць. Кароцічы Стол.

КО'ТЬКЫ *мн.* Камароўка Брэсц., КО'ЦІКІ Вішанька, Засінцы Ельск., Антонаў Нар. 1. Маленькія мучныя ляпёшкі, адвараныя і адцэджаныя, закрашаныя салам, алеем, смятанай і г. д. Вішанька, Антонаў. 2. Ляпёшкі з грэцкай мукі, перамешанай з макухай. Камароўка Брэсц.

КОТЭ'НІКІ *мн.* Галушкі з тоўчанага канаплянага семені. Ляхавічы Бяроз.

КОЎБУШКІ' *мн.* Шышкі, якімі ўпрыгожваецца каравай. Дзяржынск Лельч.

КОЎПАЧО'К *м.* Страўнік свіны, цялячы (не начынены). Дрэбск Лун.

КРУТЫ'ЛЬ *м.* Лапацін Пін., КРУТЭ'ЛЬ Кашара Стол. Род печыва з начынкай. *Мы крутылі пыклы под сьвято.* Лапацін.

КРУЧО'НІКІ *мн.* Галушкі з дранай бульбы, начыненыя мясам. *Кручонікі налілі салам.* Прудок Маз.

КУТО'К *м.* Кутняя кішка, начыненая дранай бульбай. Гарадняны Пруж.

КУ'ТЭНЬ *м.* Брады Пруж., Тэўлі Кобр., КУ'ТОНЬ Верхалессе Кобр. Страўнік або кішка, начыненыя мясам, салам. *Йак напхáйут ковдýн — кýтонь.* Верхалессе.

ЛАБАНДА' *ж.* Варэнне з чарніц з дабаўленнем мукі. *Йа ж наварыла лабанды з йагод, это однэ — што лабанда, што йагодніца.* Вялье Стол.

ЛАМА'ЙКА *ж.* Невялікая буханка хлеба. Дзяржынск Лельч.

ЛУ'ЖЫЦЬ *незак.* Абдзіраць лупіны з маладой бульбы. Астражанка Лельч.

ЛУПТЭНЫ' *мн.* Боршч са свежай капусты, буйна парэзанай. Бярозаўка Кам.

ЛУПЫ'ННЫКЫ *мн.* Бульба, звараная ў лупінах. Ракітніца Жабінк.

ЛЫ'КАВЫ: ЛЫ'КАВЭ МЯ'СО. Поснае, без тлушчу мяса. Бобрык Пін., Задуб'е Лун.

ЛЫПЭ'НЫК *м.* Пра недапечаны хлеб. Сычы Бяроз.

МІЛ *м.* 1. Здор. *Затэрла мілом боршч.* Малая Курніца Брэсц. 2. Рошчына з аўсянай мукі, з якой варыцца кісель. Гарадная Стол.

МІНДРУ'К *м.* Свіны страўнік, начынены мясам. *Міндрук розмінайем, мясо мяхкойе туда, йон вісіц, наростуц новыйе картоплі, тогды будэм рэзац ды потребляц. Сьцёгна обрізайем у міндрук.* Запясочча Жытк.

МНЕ'ТКЫ *мн.* Бульбяная каша (з тоўчанай варанай бульбы). Камароўка Брэсц.

МНЯ'ТУШКА *ж.* Тое, што і мнеткы. Радванічы Жабінк.

МОЛОНІ'ЦА *ж.* Бабка (з дранай бульбы). Любань Лун.

МОЎЧУ'Н *м.* Бабка (з дранай бульбы). Тонеж Лельч.

МОЧА'ЛО *н.* Растопленае сала або смятана, у якія мачаюць бліны, пірагі. Харомск Стол.

МУЛОЧЭ'НА ж. Сырадой. Камароўка Брэсц.

МЯРЭ'ЖА *ж.* Бабка (з дранай бульбы). Асава Столін.

НАБІ'ВАНКА *ж.* Кіслая белая капуста (квасіцца без вады). Белка, Пціч Петр., Белая Маз., Міхнавічы Калінк.

НАБО'ЙКА *ж.* Тое, што і набіванка. Колкі Петр.

НАСО'ЛЬВАНІКІ *мн.* Бульба, перарэзаная, пасоленая і звараная ў лушпінах. Рубель Стол.

НЭРУ'ХАНЫ *дзеепрым.* Прэсны. Камароўка Брэсц.

НЭРУ'ХАШЧЫ *дзеепрым.* Прэсны. Ліплёўка Брэсц.

ОБІ'РАНКА *ж.* Звараная ў лупінах, затым ababраная бульба. *Навары сухопаркі, обіры, порэж на сковороду і обіранка.* Гарадняны Пруж.

ОГА'РОК *м.* Прыгарэлая зверху бульбіна. Адрыжын Іван.

ОГУ'ЛЬНІК *м.* Разнавіднасць бабкі. Бярозаўка, Замосты, Воўчын Кам., Трасцяніца Брэсц. 2. Род мучнога печыва. Лукава Малар.

ОКО'НОШНЫЦА *ж.* Вялікі кавалак тоўстага сала. Радванічы Жабінк.

ОКРА'СА *ж.* Сала, тлушч як заправа ў страву. Бярозаўка, Вайская, Замосты, Воўчын Кам., Астрамечава, Страдзічы Брэсц., Ліплёўка Жабінк. *Закрасіты борщ чі суп йе трошку окрасы.* Страдзічы.

ОКРУ'ШОК *м.* 1. Першы кавалак хлеба, адрэзаны ад новай буханкі. Воўчын Кам., Ліплёўка Брэсц., Пецькі Кобр. 2. Вялікі адрэзаны кавалак хлеба. Камянюкі, Расна Кам., Трасцяніца, Страдзічы Брэсц., Абрамавічы, Ракітніца Жабінк., Гусак, Макраны Малар., Тэўлі, Гірск Кобр.

ОСКОДА'ВЭЦ *м.* Торбачка для прыгатавання сыру, тварагу. Харомск, Рубель Стол. *Оскодавэц шчо сцэджвайуць молоко.* Рубель Стол.

ОСМА'ЛОК *м.* Падгарэлая зверху бульбіна. Гусак Малар., Верхалессе Кобр.

ОСО'ВУВАТЫ *прым.* Абрызглы. *Осовуватэ молоко.* Варацэвічы Іван.

ОСТО'Й *м.* Абястлушчанае малако. Казловічы Калінк.

ОСУ'Х *м.* 1. Блін з мятай бульбы і мукі, печаны на капусным лістку. *Осух такэ сухэ пляцкэ.* Камароўка Брэсц. 2. Прэсны блін з грэцкай мукі. Ліплёўка Брэсц.

ОТВА'Р *м.* Напітак, звараны з сухіх груш. Гусак Малар.

ОТКІ'ДАЧ *м.* Торбачка для прыгатавання сыру, тварагу. *Откідач — што молоко квасьне откідайуць.* Буда-Сафіеўка Лельч.

О'ТКЫТКА *ж.* Тварог. *Откыткі трохі зобрала.* Бярозаўка Кам.

ОТТО'ПКА *ж.* Тварог. Асава Стол.

ОХЛА'ПКЫ *мн.* Сала вакол галавы. Гірск Кобр.

ПАРТЫ'ЧКА *ж.* Вялікі кавалак хлеба. Адрыжын Іван.

ПАЧРЭ'ВІНА *ж.* Падчарэўе. Сялец Бяроз.

ПЛАТА'НКА *ж.* Салёная рыба (разабраная). Пціч Петр.

ПЛЕСКУ'ХА *ж.* Блін з хлебнага цеста. Любань Лун.

ПОВА'Л: НА ПОВАЛІ. Укачваючы ў муку (пячы хлеб). Юркевічы, Пухавічы Жытк.

ПОЕ'ДОК *м.* Ежа, страва. *Быў такі пойедок.* Трасцяніца Брэсц.

ПОМНЕ'ТУХА *ж.* Відамля Кам., Малая Курніца Брэсц., ПУМНЕ'ТУХА Ліплёўка Брэсц. Тое, што і мнятушка.

ПОПЛУ'НІК *м.* Блін з хлебнага цеста, спечаны перад полымем. Жытнавічы Пін.

ПО'СЦЕЛЬ *м.* Слой сала ў дзежцы, бочцы. *Ужэ адна посьцель сала асталась.* Гарадняны Пруж.

ПОТРЕБЯ'НКА *ж.* Вантрабянка. Канатоп, Дзёрнавічы, Даўляды Нар.

ПРОПЕ'КА *ж.* Блін з хлебнага цеста, які пячэцца перад полымем. Красная Воля, Дрэбск, Любань Лун.

ПРОШЧАВЕ'РВАНЫ *дзеепрым.* Пракіслы (пра малако). Пухавічы Жытк.

ПРОШЧА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Пракіслы (пра малако). Мікашэвічы Лун., Асава, Белавуша, Кашара Стол.

ПРЫКОЛО'ТА *ж.* Суп з бульбы, падкалочаны мукой. Бярозаўка Кам.

ПРЫШКВА'РЫТЫ *зак.* Заскварыць. *Прытоўкты — сыройу затоўкойу, а йак сало пэчэм, то прышкварвайем.* Гарадная Стол.

ПУ'РНЫ *прым.* Порысты, пышны (пра хлеб). *Пурны, хорошы хлеб йак пернік.* Кароцічы Стол.

ПУДРОШЧЫНЫ'ТЫ *зак.* Воўчын Кам., Малая Курніца Брэсц., Брады Пруж., Адрыжын Іван., Гірск, Пецькі Кобр., Здзітава Бяроз., ПУДРОШЧЫНЕ'ТЫ Ракітніца, Радванічы Жабінк., Сварынь Бяроз., ПОДРОШЧЫНІ'ТЫ Арэхава Малар., ПІДРОШЧЫНЫ'ТЫ Ляхавічы Бяроз. 1. Падбавіць мукі ў цеста перад замесам. Арэхава, Сварынь. 2. Павялічыць колькасць закваскі ў рошчыне. Воўчын, Малая Курніца, Радванічы, Сварынь. *Пудрошчыняйуць коб хутчей узышло цесто.* Сварынь. 3. Павялічыць колькасць рашчыненага цеста. *Йесьлі мало рошчыніла, то пудрошчыныты надо.* Здзітава. 4. Рашчы-

ніць. Ракітніца, Брады, Пецькі, Гірск, Ляхавічы, Адрыжын. *Пудрошчынеты требо ўвечары, а рано місяць.* Ракітніца.

ПУДРУ'ЧНЫК *м.* Вясельны пірог, які пячэцца для маладой і маладога. Пецькі Кобр., Яечкавічы Іван., Жытнавічы, Лапацін Пін.

РОБІ'ЦЬ *незак.* Падрыхтоўваць да гатавання (чысціць, патрашыць — пра рыбу). Харомск, Рубель Стол., Запясочча, Хлупін Жытк. *Робленайа рыба.* Харомск.

РОЗРІ'ЗАНЦЫ *мн.* Бульба ў лупінах, звараная палавінкамі. Моладава Іван.

РУЛЯ'ДА *ж.* Тоўстая каўбаса з ліверу. Валаўск Ельск.

РУНДЗЮ'Х *м.* Начынены свіны страўнік, а таксама свіны, цялячы страўнік наогул. Краглевічы Івац.

РЭ'ЗКІ *мн.* Суп з бульбы. Кароцічы Стол.

СКО'БЛЕНКА *ж.* Чышчаная вараная бульба. Брады Пруж.

СКОБЛЫ'ТЫ *незак.* Бярозаўка, Расна, Воўчын, Відамля Кам., Трасцяніца, Малая Курніца, Нэплі, Камароўка Брэсц., Абрамавічы, Ракітніца, Радванічы Жабінк., Гусак, Макраны Малар., Брады Пруж., Запруда, Верхалессе Кобр., СКУБЛІ'ТЫ Вайская, Замосты Кам., СКОБЛЭ'ТЫ Пецькі Кобр., СКОБІ'ЦЬ Вялье Стол. 1. Чысціць (абразаць нажом) бульбу. Бярозаўка, Расна, Вайская, Замосты, Відамля, Трасцяніца, М. Курніца, Нэплі, Ракітніца, Гусак, Брады. *Бульва з лупынамы — не схотела скоблыты.* Брады. *Молодуйу надо скрябаты, а йак не скрябайецЯ то скоблімо.* Расна. 2. Чысціць (скрэбці) маладую бульбу. Бярозаўка, Відамля, Вайская, Замосты, Трасцяніца, М. Курніца, Нэплі, Камароўка, Абрамавічы, Ракітніца, Радванічы, Гусак, Макраны, Брады, Запруда, Пецькі, Верхалессе, Вялье.

СКРУ'ШОК *м.* Хлябец, булка з пшанічнай мукі, які даецца таму, хто прыходзіць у адведкі да парадзіхі і нованароджанага. Гарадняны Пруж.

СКРЫГА'ЛІК *м.* Лапацін Пін., СКРЫ'ГЛІК Тульгавічы Нар. Скрылік (бульбы). *Парэж бульбу на скрыгаліку.* Лапацін.

СКРЫ'ДЛІК *м.* Відамля Кам., СКРІДЭ'ЛОК Замосты Кам., СКРІДЗЁЛОК Юркевічы Жытк. Кавалачак крышанай бульбы, сала.

СКРЯ'БАТЫ *незак.* Расна Кам., Лышчыцы Брэсц., ШКРЯ'БАТЫ Страдзічы Брэсц., Гірск Кобр., ШКРО'БА-

ТЫ Ляхавічы Бяроз. Скрэбці маладую бульбу. *Молодуйу надо скрябаты, а йак не скрябайеця, то скоблімо.* Расна.

СКЫДЭ'ЛОЧОК *м.* Скрылік (бульбы). Замосты Кам.

СМАЖО'НІКЫ *мн.* Краглевічы Івац., СМАЖО'НІКІ Буразі Жытк., Яўсевічы, Пціч Петр., Казловічы, Дудзічы, Міхнавічы Калінк. Смажаная ў тлушчы бульба.

СМАЖО'НКА *ж.* Асава, Рубель Стол., Колкі Петр., Замошша Лельч., СМАЖО'НКІ *мн.* Кароцічы Стол. Вараная бульба, падсмажаная ў тлушчы. *Смажонкі робім — луплены картоплі смажым.* Кароцічы.

СМА'ЛЬКЫ *мн.* Ліплёўка Брэсц., СМА'ЛКЫ Макраны Малар. Падгарэўшыя зверху бульбіны. *На смалькы бульба посмалілася.* Ліплёўка.

СМОЛЮ'Х *м.* Замосты Кам., СМАЛЮ'Х Малая Курніца, Нэплі, Камароўка Брэсц., Абрамавічы, Ракітніца, Радванічы Жабінк., Пецькі Кобр. Падгарэўшая зверху бульбіна.

СМЭТЮ'Х *м.* Хлябец з хлебнага цеста і мятай бульбы, які пячэцца перад полымем. Гірск Кобр.

СО'ВЫ *мн.* Ляпёшкі з грэцкай мукі, прыгатаваныя на пары. *Совы моложаво замішвайу, йак очень загнэсі, то будуть тьвёрдыя.* Воўчын Кам.

СОЛО'НЦЭ *мн.* Гірск. Кобр., СОЛЁНЦЭ Сычы, Хомск Бяроз., Моладава Іван., СОЛО'НЦІ Ляхавічы Бяроз., Варацэвічы Іван., Крыўчыцы, Селішча, Лапацін Пін. 1. Чышчаная вараная бульба. 2. Бульба ў лупінах, перарэзаная і звараная з соллю. Сычы.

СОПЁРКЫ *мн.* Страва з дробна пасечаных і адвараных свіных унутранасцей (лёгкае, пячонка, страўнік). Астрамечава Брэсц.

СОРОКІ' *мн.* 1. Маленькія булачкі, якія пякуцца на Саракі. Жытнавічы Пін., Гарадная Стол. 2. Маленькія блінцы. Дрэбск, Мікашэвічы, Любань Лун., Вялікія Сялюцічы Петр.

СПУШЧА'НКІ *мн.* Клёцкі з дранай бульбы. Міхнавічы Калінк.

СТРУГА'ТЫ *незак.* Драць бульбу на тарцы. Гусак Малар., Сварынь Бяроз. *Стружэ бульбу на коржыкэ.* Сварынь.

СТРУ'ШКА *ж.* Рэдкая страва, прыгатаваная з дранай бульбы. Гусак Малар.

СУХО'ПАРКА *ж.* 1. Бульба, вараная ў лупінах. Ха-

рэва, Гарадняны Пруж. 2. Чышчаная вараная бульба. Асава Стол.

СЫМЭНУ'ХА *ж.* Прасяная каша з льняным семем. Страдзічы Брэсц.

СЫРО'ВЫ *прым.* Свежы (несалёны, няквашаны). *Сыровыйа агуркі. Сыровайа капуста.* Красная Воля Лун.

СЫТІ'ТЬ *незак.* Запраўляць салам страву. *Колысь так не сытілі, йак січас.* Гусак Малар.

СЯДРО' *н.* Здор. *Сядро упэрот скручвалы, пэрэтыралы чосноком, у сэрэдыну сало різалы кусочкамы і вішалы. Булка сядра.* Нэплі Брэсц.

ТАРКО'ВАНКА *ж.* Сырая драная бульба. *Таркованку варaць ды кауць бабка.* Пухавічы Жытк.

ТАРКО'ВАННЕ *н.* Бабка. Дрэбск Лун.

ТАРКОВА'ЦЬ *незак.* Драць бульбу на тарцы. Бобрык, Заазер'е Пін., Задуб'е, Красная Воля, Дварэц, Мікашэвічы Лун., Грычынавічы, Юркевічы, Пухавічы, Хлупін Жытк., Вялікія Сяліцічы, Шаставічы Петр., Злодзін Лельч. *Тарковаць ладзі.* Вялікія Сялюцічы.

ТА'РЧЫЦЬ *незак.* Драць бульбу на тарцы. *Лупіць да тарчыць на бліны.* Бібікі Маз.

ТО'ПТАНКА *ж.* Бульбяная каша (з тоўчанай варанай бульбы). Кароцічы Стол.

ТОЎЧ *м.* Корж з тоўчанага канаплянага семені. Харомск Стол.

ТУША'КІ *мн.* Галушкі з дранай бульбы, начыненыя мясам. Воўчын Кам.

ТУМАЧІ' *мн.* Гусак Малар., ТОКМАЧІ' Гірск Кобр., ТОМАЧІ' Валавель Бяроз., ТУКМАЧІ' Макраны Малар., Ляхавічы, Сварынь Бяроз. Бульбяная каша (з тоўчанай варанай бульбы).

ТУШО'НІК *м.* Азяраны Жытк., ТУШЭ'НІК Канатоп Нар. Скрылік (бульбы). *Рыж картоплі на малыйе тушонікі.* Азяраны.

ТЯ'ТЫ *мн.* Камянюкі, Вайская, Замосты Кам., Абрамавічы Жабінк., Макраны Малар., Брады Пруж., Пецькі, Верхалессе Кобр., ТЕ'ТЫ Гірск Кобр. Кроплі тлушчу на паверхні стравы. *Теты стойеть, занадто тлусты борщ.* Верхалессе.

УЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Рашчыніць. Шаставічы Петр., Прудок, Бібікі Маз., Тульгавічы Нар. *Учыніць бліны. Рано ўчыняйеш, за дзень укісайе.* Тульгавічы.

ХОЛОДЗІ'ЛО *м.* Халадзец. Рубель, Белавуша, Кашара Стол. *Холодзіло з ног, вушэй, головы.* Рубель.

ХОЛОДО'К *м.* Страва з квасу і цыбулі. Хлупін Жытк.

ХОЛОДЫ'НА *ж.* Халадзец. Здзітава Бяроз.

ХАЛУ'ПЕНІКІ *мн.* Коржыкі з дранай бульбы, засмажаныя ў сале. Дзяржынск Лельч.

ХРУСТЫ' *мн.* Пячэнне, спечанае ў тлушчы. Бярозаўка Кам., Адрыжын Івац., Заазер'е Пін., Кашара Стол.

ЦЕЛЬБУ'Х *м.* Свіны страўнік. *Печонка, лёхко, йазык отваруйуць, пасячэм да ў цельбух кладом.* Дудзічы Калінк.

ЦУРА' *ж.* Страва з кавалачкаў хлеба, пакрышаных у ваду. Сялец Бяроз., Краглевічы Івац.

ЦЫЛЯКІ' *мн.* Бульба, вараная ў лушпінах. Моладава Іван., Буразі, Запясочча Жытк.

ЧО'ХАЦЬ *незак.* Скрэбці (маладую бульбу). Харомск Стол.

ЧО'ХРЫЦЬ *незак.* Драць бульбу на тарцы. Харомск Стол.

ЧУСТРА'НЫК *м.* Блін з дранай бульбы. Радванічы Жабінк.

ЧУСТРЫ'ТЫ *незак.* Драць бульбу на тарцы. Абрамавічы, Радванічы, Макраны Жабінк.

ЧУХМО'РЫЦЬ *незак.* Драць бульбу на тарцы. Рубель Стол.

ЧУХРА'ТЫ *незак.* Скрэбці (маладую бульбу). Ляхавічы Бяроз., Адрыжын, Вулька Іван.

ЧЭНЭ'ТЫ *незак.* Сварынь Бяроз., ЧЫНІ'ЦЬ Шаставічы Петр., ЧЫНІ'Ц Запясочча Жытк. 1. Начыняць (мясам). Сварынь, Шаставічы. *Чэняць тонкы кешкы.* Сварынь. 2. Трыбушыць (рыбу). Запясочча.

ЧЭРЭ'ЗЛОЖКУ *прысл.* Рэдкавата. Моладава Іван.

ШВЭ'ДЫ *мн.* Краглевічы Івац., Крыўчыцы, Лапацін, Асава, Харомск Стол., ШВЕ'ДЫ Барычавічы Пін. Скваркі, кавалачкі вытапленага сала. *Шмальц — тук без шведоў.* Барычавічы.

ШКАБУРА'ТІНКА *ж.* Хлебная скарынка. Баравое Лельч.

ШКЛЕ'НДА *ж.* Камянюкі, Расна, Воўчын Кам., Тэўлі Кобр., ШКЛЭ'НДА Бярозаўка Кам. 1. Від мясной каўбасы, напханай у тоўстую кішку. Камянюкі, Бярозаўка, Расна, Воўчын. *Шкленду у грубыйа кышкы напыхайут мясам, жырам.* Расна. 2. Крывяная каўбаса. Тэўлі.

ШМОГОРЫ'ЛЬЧЫК *м.* Прыгарэлая зверху бульбіна. Барычавічы Пін.

ШНЕ'КІ *мн.* Аладкі на содзе. Кароцічы Стол.

ШТЫ́БЛІК *м.* Адрэзаны кавалачак сала. Тульгавічы Нар.

ІШЧАВЕ́ЦЬ *незак.* Красная Воля Лун., ШЧАЎЛЕ́ЦЬ Дрэбск Лун. Пракіснуць (пра малако).

*В. М. Емельяновіч, Г. А. Жук*

# ДА СЛОЎНІКА СІНОНІМАЎ ГАВОРКІ ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ РАДВАНІЧЫ БРЭСЦКАГА РАЁНА

Матэрыял падаецца ў спрошчанай транскрыпцыі. Сінанімічныя рады пабудаваны наступным чынам: спачатку прыводзіцца літаратурная назва паняцця, якая з'яўляецца і назвай рада, затым даміанта — слова, найбольш блізкае да літаратурнага, і члены рада. Кожны сінонім ілюструецца прыкладам-сказам.

АБЯЦАЦЬ — обішча́ты, зарыка́тыся, кля́стыся, божы́тыся, руча́тыся голово́ю. *Як ны лю́быш, то й обішча́ты ны быры́сь. Эх ты́, а шэ́ зарыка́вся. Ны кляны́сь зара́ння, всё ровно́ ж ны віру. Всі чу́лы, як божы́вся, і смыя́лыся. За то́чность могу́ руча́тыся голово́ю.*

АБЫЯКАВА — обыя́ково, всё ровно́, хоч бы шо́, тяп-ляп, чы́рыз пэнь-коло́ду. *Ёму всё обыя́ково, чы так, чы гэ́так. А мні всё ровно́, хоч на голові станові́ся. Стоіть і хо́ч бы шо, на́выть ны покрасніе. Яка́я там йі́хня робо́та, тяп-ляп і всё. Быз со́выстны ро́бать, абы́ чы́рыз пэнь-коло́ду.*

АДЗЕННЕ — одёжа, шмо́ткы, барахло́, тра́нты (зусім парванае адзенне). *Одёжу спра́выв хоро́шу, на до́бруй робо́ты, чы́м ны кавале́р. Забыра́й свойі шмо́ткы, і шоб ду́ху тво́го тут ны було́! Хы́ба ж то одёжа, барахло́ однэ́, ныку́ды ны го́днэ. Скынь хоч свойі тра́нты, одягны́ся, а то пы́рыд людьмы́ сты́дно.*

АСЛАБЕЦЬ — ослабі́ты, звэрэ́дытыся (падарвацца), звалы́тыся з ніг. *Так ослабів, чуть нога́мы бле́нтае. Куды́ сті́лько бырэ́ш, мало́е, то ж звэрэ́дысся, а пото́м отвіча́й. За тэ́ю робо́тою так і звалы́вся з ніг, сы́лы совсі́м ныма́.*

АШУКАНЕЦ — пудма́ншчык, мутю́н, жу́лік, проны́ра, обормо́т. *Ну й пудма́ншчык, як бач круго́м па́льця обвыдэ́. Мутю́н, світ тако́го ны ба́чыв, шо ны сло́во, то*

*ныпра́вда. Такы́й жу́лік, так і дывы́ся, шоб ны обману́в. Стыпа́н твуй проны́ра, і слу́хаты на́вып ны хо́чу. От обормо́т, ну шо́ з його во́зьмэш.*

БІЦЬ — бы́ты, лупы́ты, хрысты́ты, товчы́. *Нашо́ ж бы́ты, то ж мо́жна й сказа́ты. Ну, я ду́маю, вчытыро́х одного́ лу́пать. Могу́ й похрысты́ты, як дослу́жысся. Нашо́ ж ты его товчэ́ш?*

БРУДНЫ — гря́зный, мурза́тый, заму́рзаный, коря́вый, закорі́лый. *Якы́й гря́зный, стра́шно дывы́тыся. Чого́ ты мурза́тый, хэ́ба до́ма ныма́ воды́? Ну й заму́рзаный, куды́ тілько до́ма дыввяцця. Коря́вый такы́й, ны похо́жый сам на сэ́бэ. Закорі́лый, на́вить мі́сьця чы́стого ныма́.*

БЯСПЛАТНА — бысплатно, да́рма, зада́ром, за спасі́бо, ны за поню́шку табаку́. *А мні по́вну се́тку накла́в, і бысплатно. Да́рма оддаю́, дэ́ ж ты лі́пш на́йдзеш. Та вжэ быры́ зада́ром, шо́ там торгова́тыся. Шо́ ж ты за́раз хоч, сам адда́в за спасі́бо. Взяв ны за поню́шку табаку́, а тыпэ́р хо́чэ гро́шы взя́ты, смі́х одён.*

ВАВЁРКА — бе́лка, ліві́рка. *Ну й бе́лка, ну й бе́лочка, так і хо́чыцца зачыпы́ты. Дывы́сь, ліві́рка побі́гла, дава́й зло́вымо, ты гна́тымэш ї́ї сюды́, а я за дэ́рвом схава́юся.*

ЕСЦІ — йі́сці, гомла́ты, муры́жыты (павольна), сплыта́ты (паспешліва, з апетытам), навора́чуваты (есці хутка, многа). *Пошлы́ йі́сты, по́сля обі́да ко́нчым. Го́млай помале́ньку, ны спышы́, шэ вспі́ем. Тырпі́ты ны могу́, як ся́дэ, муры́жыть, як наза́втрый трэ́ба. От оплыта́е, тілько ло́жка лэ́тае. У ха́ты вжэ сыды́ть, навора́чуе дру́гу мы́ску.*

МАГАЗІН — магазі́н, ла́вка, гамазе́я. *Він каза́в, шо магазі́н откры́вся. Ты в ла́вку пу́йдэш, чы не́? Знов в гамазе́ю посу́нувся, мо́жэ, хоч хлі́ба ку́пыть.*

МАЁМАСЦЬ — бога́цтво, мона́ткы, добро́, барахло́. *Забыры́ собі то́е бога́цтво, мні воно́ ны трэ́ба, шо́ в його то́лку. Збыра́й мона́ткы, ху́тко пойі́дэмо наза́д. Нажы́в добра́, ну й трыма́йся його. Куды́ мое́ всё барахло́ діва́ты, про́сто ны зна́ю.*

ПАБЕГЧЫ — побі́гчы, драпану́ты, полыті́ты, прыпусты́ты, зорва́тыся з мі́сця. *Знов хоч побі́гчы? Драпану́в, аж пя́ткі засвырка́лы. Ну́, то я полыті́в, ху́тко бу́ду наза́д. Як прыпусты́в, тілько його й ба́чылы. Малы́й ху́тко зорва́вся з мі́сця.*

ПЯРЭСТЫ — пырі́стый, пырылу́пый, рябы́й. *Тро́шкы зылёный, тро́шкы жо́втый, а обшэ́-то пырі́стый. Всёй пы-*

*рылу́пый, аж у вочо́х мыгты́ть. Рябы́й настілнык став, як покра́сыла.*

РЭДКА — рідко, в ряды́-го́ды. *Кіно́ гэть рідко бува́е, ра́зы два в місяць. Прыхо́дыш в ряды́-го́ды, хо́ч бы довш посыділа.*

СМЕРЦЬ — смэрть, могы́ла, гроб, капэ́ць, каю́к, кры́шка, амінь, капу́т. *Смэрть ны пыта́е, колы́ хоч вмэ́рты. Вжэ до могы́лы ма́ло оста́лось, одны́ ко́сты світяцця. До гро́ба ны бу́дэ споко́ю, ко́жный дэнь робо́та, робо́та. Посмыхну́вся й ка́жэ: «Капэ́ць тобі, й мо́вы ныма́». Ху́тко каю́к ёму, так паразітовы і трэ́ба. Ны лізь, куды́ ны про́сять, а то кры́шка. Амінь — і слідів ны на́йдэш. Стары́й Нычы́пор повсігда́ добовля́в: «Вжэ капу́т нам всім».*

СТАРЫ — стары́й, пожы́лый, старова́тый, оджы́тый. *Шо́ ж ты зро́быш, стары́й вжэ, в літа́х. А не́, пожы́лый, вжэ літ за со́рок. Старова́тый вжэ, куды́ ж тобі за молоды́м гна́тыся. Шо й говоры́ты, оджы́тый чоловік, мніго чо́го ба́чыв на світы.*

СЫТЫ — сы́тый, жірный, гла́дкый, наліва́ный. *Дя́дько такы́й сы́тый. А до чо́го жірный, е́ле хо́дыть. Гла́дкый, а шэ ка́жэш, шо похудів. От наліва́ный хло́пчык, як ны повырны́.*

ЯК-НЕБУДЗЬ — як-нэ́будь, сяк-так, ча́сом з ква́сом, поро́ю з водо́ю. *Як-нэ́будь прожывэ́м, світ ны быз до́брых люды́. Пыта́еш, як жыву́, а, сяк-так пырыбыва́юся. Всяк у жытті бува́ло, як-нэ́будь і тыпэ́р бу́дэ: ча́сом з ква́сом, поро́ю з водо́ю.*

***Т. М. Кананенка, Г. М. Малажай***

## АЦЭНАЧНЫЯ НАЗВЫ АСОБЫ Ў ГАВОРКАХ БРЭСТЧЫНЫ

Ацэначныя лексемы падаюцца ў тлумачальных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, нямала іх у дыялектных слоўніках, яшчэ больш у жывой мове жыхароў розных мясцін Беларусі. У нашу падборку ацэначных назваў асобы ўключаны словы, з дзяцінства вядомыя аўтарам артыкула, і словы, запісаныя студэнтамі філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута.

Прынятыя скарачэнні раёнаў: Бар.— Баранавіцкі, Брэсц.— Брэсцкі, Бяроз.— Бярозаўскі, Ганц.— Ганцавіцкі, Драг.— Драгічынскі, Жабін.— Жабінкаўскі, Іван.— Іванаўскі, Івац.— Івацэвіцкі, Лях.— Ляхавіцкі, Малар.— Маларыцкі, Пін.— Пінскі, Стол.— Столінскі.

АХЛУ'ДА, ОХЛУ'ДА *м.* і *ж.* Высокі здаровы чалавек, звычайна гультаяваты, някемлівы. *А ты, ахлуда, чаго стаіш рот разявіўшы, памог бы.* Кукава-Бор Ганц. *Ой, охлуда нека вона будэ, гэто ніц ішы нэ значыт, шо з выгляду хороша, прыглянса добрэ.* Шылін Бяроз.

БАЛБО'Т, БО'ЛБАТ *м.* Балбатун. *Балбот урадзіўся, каб хоць трохі памаўчаў.* Пачапова Бар. *Ну, хваціт трапацца, болбат. Так я табе і паверыў.* Гошчава Івац.

БАЛДЫ'КА *м.* Блазень. *На дорозы балдыка шукае батька, лемэнтуе: «Тато, Тато!»* Замшаны Малар.

БАЛУ'ТА *м.* Весялун, гаваркі чалавек. *Раз балута прышов на танцы, то вжэ насмыюця дывчета. Він і пуграе, він і путанцюе, і пуспывае.* Дарапеевічы Малар. *Вон-то ўмее балу-балу, але з балутою нэ заўшэ ў жызні договорыса.* Шылін Бяроз.

БЗУК, БЗЫК *м.* Звяглівы чалавек. *Бзўка ліпш обыходь, бо ек розбзычыцця, то ны втаймуіш.* Карсынь Іван. *Як гэто, коб мушчына такій бзык быў? Гэто бабі гэтак можна было б назоляці, да і то трэба мера.* Шылін Бяроз.

БІ'ГЛЯ *м.* і *ж.* Непаседа. *Ты, бігля, хоть мынуту у хаты посыділа б.* Барычэвічы Пін.

БЛЁ'МАЛО *м.* і *ж.* Балбатун. *Хваціт, блёмало, ужэ плесці абы-шо, думаеш одзін ты усэ знаеш, хай хто говорыт, а ты послухай.* Шылін Бяроз.

БЛО'НТАЛО *м.* і *ж.* Валацуга. *Настояшчы блонтало стаў ужэ, мало задэржваеца ўдома.* Шылін Бяроз.

БО'БКА *ж.* Невысокая жанчына з дробнымі рысамі твару. *Вона такая бобка, а роботу робыть ны гурш за вылыкую.* Выжлавічы Пін.

БУ'РВАЛОК *м.* Пануры чалавек. *Бурвалок вечно ходыть з опушчонэю головою, до ныкого нэ одзываецца.* Барычэвічы Пін. *Бурвалок некі, коб хоч колі поговорыў с кім, посмэяўса.* Шылін Бяроз.

БУРДЫ'ГА *м.* Каржакаваты чалавек. *Здаровы бурдыга, як машына застрагне, то плечком выпхне.* Задуб'е. Ганц.

БЫСІ'ДНЫК *м.* Гаваркі, вясёлы мужчына. *Батько добрый бысідных, і скажэ, і прыскажэ. Гувуркый завшэ, як люды разом збыруцця.* Дарапеевічы Малар.

БЫСІ'ДНЫЦЯ *ж.* Гаваркая, вясёлая жанчына. *Ганна пэрша бысідныця ў гурту бабэй.* Дарапеевічы Малар.

ВА'ЛУХ *м.* Нерухавы чалавек. *Ну ж і валух. Кулькі*

*тобі спаты трэба, гэто ж часоў дванацэть нідэ спаў.* Выжлавічы Пін.

ВЫХРА'Й *м.* Наравісты, упарты чалавек. *Ты гэтого выхрая нэ пэрэпрэш, він шчо схочэ, тэе і зробыть.* Табулкі Пін.

ВЕЛІКДУ'РА, ВІЛІКДУ'РА *м.* і *ж.* Блазень. *Ужэ хутко сімнаццать літ, а сам зробыты ныц ны можэ, велікдура.* Рагодашч Іван. *Чого ты, вілікдура, помыж малэмэ влізла.* Заніўе Драг.

ВОЛОЧА'Й *м.* Валацуга. *Той волочай прыходыть у штыры-пять часов. Волочыцця нідэ усю ныч.* Моладава Іван. *Подумайтэ, люды, якій волочай. Нэбыто брыгадір, батько дорослых дытэй, ужэ мае внукы, а шчэ ёму волочытыся трэба.* Карсынь Іван.

ВПЫР, У'ПОР *м.* Неслух, упарты чалавек. *Ну й впыра кусок, як ны поставыть по-свойму, так жывы ны будэ.* Выжлавічы Пін. *Шо упор, то упор гэтэ дзіця, і ў кого вон такі ўдайса, коб хоч колі послухаў старшых, нэ робіў оно по-своёму.* Шылін Бяроз.

ВЫРЗА', ВЭРЗА' *ж.* Пляткарка. *Вырзу послухаты, то люды нычого ны вартыі.* Моладава Іван. *Любого можна назваці вэрза, хто любіт подмуціці, обговорыці.* Шылін Бяроз.

ВЫ'ХНЯ *ж.* Тое ж. *У выхні й роботы ныма, ек языком молоты да обговоруваты.* Карсынь Іван.

ВЭ'РСАЛА *ж.* Тое ж. *От жа вэрсала, толькі вушы растаўляй да слухай, нагаворыць такое, шчо і у свеці няма.* Падлаззе Лях.

ГЛАДО'ХА *ж.* 1. Прыгожая, добра апранутая жанчына. *Ны була б она гладоха. Подывывшыса, то ныхто хорішшэй за іі ны выглядае.* Асабовічы Пін. 2. Мажная жанчына. *Ну і гладоха Панасова Маня, кулькі ўвышкі, стулькі і ўтоўшчкі.* Плотніца Пін.

ГЛУШЭ'Ц *м.* 1. Глухаваты чалавек. *Ніколі ты адразу ні ўчуеш, глушэц які.* Востраў Ганц. *Таму глушцу гучней крычы, бо сяраўно ні ўчуе.* Кукава-Бор Ганц. 2. Нячулы чалавек. *Тяжко жыты з такім, він глушэц, ны розуміе того, шо я думаю.* Кустын Брэсц.

ГО'МАЛО *м.* і *ж.* Ненасытны чалавек. *Гомало на любого скажут, хто вэльмі много ест чы часто, аж об'едаеца.* Шылін Бяроз.

ГОРУ'ХА *м.* і *ж.* Працавіты чалавек. *Гэтой горуха, колы ны прыйды, він усэ шчось робыть.* Асабовічы Пін. *У мане усе дочкі горухі, беды нема.* Мачуль Стол.

ДАЛІКТУ'СЯ *ж. іран.* Тая, што баіцца фізічнай працы. *Ну й даліктуся гэта Пурыкава нявестка. Навет ніколі карча картоплі не ўкапае.* Востраў Ганц.

ДЫВЧУ'К *м.* Дзяўчына-падлетак. *Дывчук вжэ такый вона, высёлая, то хлопці й ходять.* Азяты Жабінк.

ДЗЭ'ГАР *м.* Зух, рызыкант. *Як хлопэц дзэгар, то дэўчата заглядаюцца, а нэ знають, шо для жызні лепш спокойны чоловек. На дзэгара лепш збоку подзівіціс.* Шылін Бяроз.

ЗАДЫРНЯ' *м. і ж.* Надта ганарысты чалавек. *Задырня пошла. Задырэ голову, коб яма, то впала б, бо ныц жэ пырыд собою ны бачыть.* Моладава Іван.

ЗА'ЕДЬ, ЗАІ'ДЬ *м. і ж.* 1. Скнара. *Гэто нэ баба, а заедь нека. Для еі усё мало і мало.* Табулкі Пін. 2. Звяглівы чалавек. *Гэтая заідь мынэ ўсю жызнь грызла, а тыпэр ныхай побачыть на старость, чы мні добрэ тогді було.* Асабовічы Пін.

ЗДЫ'ХЛО *н.* Вельмі хваравіты чалавек. *То ж жэныўся і вылюднів, а було здыхло і всё.* Кустын Брэсц. *Гэтэ здыхло шы недэ прэцца, сэдзеў бы ўжэ, нэ мэшаў под рукамі.* Шылін Бяроз.

КОЛУПА'ЙЛО *м. і ж.* Маруда. *І шо за колупайло гэтой чоловек, коб ты ўжэ такую простую роботу гэтак помалу робіў.* Шылін Бяроз.

КОЛЮ'ПА *м. і ж.* Тое ж. *Якая ж колюпа, вечно з гэтымы дялкамы ззаду сыдыть.* Моладава Іван.

КОРУ'ЗЯЛО *м. і ж.* Тое ж. *Ны дівка, а корузяло. Хоть тыпэр замуж отдай, а вона ек сновда ходыть.* Брашэвічы Драг.

КУ'ЛЫЧ *м.* Злодзей. *Гэто настояшчый кулыч, ужэ усі омэты колхозны пэрэтягав.* Табулкі Пін.

ЛАБЫ'НДА *м. і ж.* Клышаногі чалавек. *Некі лабында пошов в брышчу, мо корчів набраты.* Азяты Жабінк.

ЛЫНОГУ'З *м.* Абібок, лежань. *Добрэ, шчо і гэтэ зробыў лыногуз. То ж оно курыть, а робыты ны вэльмы стараіца.* Выжлавічы Пін.

ЛЯЎКА'Р *м.* Ляўша. *От ляўкар, хто ж гето піша левою рукою.* Кукава-Бор Ганц. *Ляўкар зараз гэты мячык закіне на метраў сто, а я левою і блізка ня кіну.* Падлаззе Лях.

МАГРІ'ЗА *м. і ж.* Сквапны чалавек. *Такого магрізу світ ны бачыв. Колысь казалы, шо хотів брата забыты за мэжю.* Забалацце Малар.

МА'ХА *ж.* Высокая жанчына. *Коб маху поцыловаты,*

*трэба стромынку браты.* Карсынь Іван. *От у Мані маха дзеўчына, як вона собе кавалера знайдэ. У нас і нэмаш зарэ такіх вэлізных хлопцоў.* Шылін Бяроз.

МО′ВША *м.* Ляўша. *Мовша і пысаты лівою рукою брався, да набога побачыла, одучыла.* Карсынь Іван.

МЭ′ЛЬКУТ *м.* Балбатун, пляткар. *Ну і мэлькут наш сусід, нычого ны втрымаецця на язэковэ.* Вайская Кам. *Мэлькута того знають в сэлі.* Амелянец Кам.

НАЯ′ДА *м.* і *ж.* Той, хто любіць навучаць іншых. *Знов прышла наяда, будэ надокучяты своімы указамы.* Азяты Жабінк. *От ужэ наяда, так наяда. І тут ёй трэба ўлесці, нэ можэ, коб нэ гучыці кого.* Шылін Бяроз.

НУДЭ′РА *м.* і *ж.* Зануда. *Як то вік прожыты з такою нудэраю.* Кустын Брэсц. *Ужэ нудэра адвесіла губу, то гаварыць ня будзе доўга.* Падлаззе Лях.

НЫО′БОЛЬ, НЭ′ОБОЛЬ *м.* Зайздроснік. *Ныоболь ты, будэ і у тыбэ, ны усэ зразу робыцца.* Выжлавічы Пін. *І ты іщы надзееса, шо гэтой нэоболь тобе поможэ? Вон жэ радоваціс оно будэ, як у тэбэ бэда.* Шылін Бяроз.

НЫПРЫЛЮ′ДОК *м.* Нелюдзь. *Шо з ёго возьмэш. Він за вырсту убходыть, шо б ны пуздороватысь. Ныпрылюдок такый.* Дарапеевічы Малар.

ПАЦЯНЕ′ЧНІК *м.* Гультай. *Але ж і пацянечнік геты Адасеў хлопец, трактар паставіць, а сам пад куст зашыецца і спіць цалюткі дзень.* Кукава-Бор Ганц.

ПЛЮ′ХА *ж.* Неахайная жанчына. *Плюха, прыбралас бы крохы, тэпэр жэ свято.* Табулкі Пін.

ПОСВІСЦЁ′Л *м.* Нясталы чалавек. *Чого вона за ёго пошла, чы ж гэто мужык, посвісцёл некі будэ, зразу відно, шо горовацi прыдэца.* Шылін Бяроз.

ПОСІРТУ′ХА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Ходыть гэта посіртуха од гыршы до гыршы, дэ хаты шыршы.* Маладзельчыцы Пін.

ПОХАТА′РНЫЦЯ *ж.* Тое ж. *Ходыть похатарныця од хаты до хаты і мэлэ языком.* Табулкі Пін.

ПОХА′ТУХА *ж.* Тое ж. *Ідэ вжэ тая похатуха, сядэ й просыдыть повдня.* Ласінцы Драг.

ПРОЙДА′К *м.* Прайдзісвет. *Такому пройдакові ніц і нэ зроб'ят, бо знают, шо ёго ўжэ нэ зменіш.* Шылін Бяроз.

ПРОСЮ′ХА *ж.* Пазычальніца. *Нэ була б она просюха, як прыдэ ў хату, то нэ одыйдэ, коб шчо нэ выпросыты.* Табулкі Пін.

ПРО'СЯ *ж.* Тое ж. *Як прося, то і нэ трэба, можэ, шо, обышласа б, а обачыт — дай і ёй.* Шылін Бяроз.

ПРЫРО'ДУХА *ж.* Прыгожая жанчына. *Гэто ж трэба, коб у такэі матыры дочка зародыласа такая прыродуха, гэтакэе у іі усэ хорошэе.* Выжлавічы Пін.

П'ЯНЧУ'ЖНЫК *м.* П'яніца. *Ну і п'янчужнык. Трэба ж додуматыся до такого, прожэні його.* Қарсынь Іван.

РА'БКА *ж.* Вяснушкаватая жанчына. *Рабка завшэ адзінакавая: і зімой, і летам.* Крывошын Лях.

РО'СТРАСЭНЬ *м.* Неахайна апрануты чалавек. *Понасмыкае на сэбэ усякых латэй, дай стоіть, бы ространсэнь.* Табулкі Пін.

РУДІ'ЛЯ *ж.* Гультайка. *Хватыть тубі, руділя, лыжаты, трэба ж маты пумохчы.* Дарапеевічы Малар.

СҚРЫ'МУ'ХА *м.* і *ж.* Скнара. *Скрымуха моя тітка, шкодуе собі поісты добрэ.* Моладава Іван.

ТАЎҚЕ'ЛЬ *м.* Чалавек, які перашкаджае нешта рабіць. *Гэты таўкель заўшэ пад нагамі мнецца.* Қрывошын Лях.

ТОРО'ҚА, ТЭРЭ'ЧА *ж.* Балбатуха. *Торока торочыть, шчо ны пырыслухаты, однэ і тэе, однэ і тэе.* Моладава Іван. *Доколь гэта тэрэча будэ пустозвоніці, бы у ее роботы ніколі нэма, чы шо тут робіца.* Шылін Бяроз.

ТРАПЯТУ'ХА *ж.* Працавітая жанчына. *Як жонка трапятуха, то гароды воврэмя будуць зроблены.* Крывошын Лях.

ТЭ'РНЫЦЯ *ж.* Жанчына з рэзкім тонкім голасам. *Послухай надвычорком, то одну тэрныцю і чуты коло двора.* Қарсынь Іван.

ТЮ'ХТЯЛО, ЦЮ'ХЦЯЛО *м.* і *ж.* Маруда. *Тое тюхтяло пока шось зробыть, то вэчор будэ.* Қарсынь Іван. *Гэто цюхцяло, а нэ роботнік, скажы, хай ўзаўтра нэ прыходзіт, лепш самые зробімо, вон хучэй нэ зробіт, я бачу.* Шылін Бяроз.

УНЫ'РОҚ *м.* Пануры чалавек. *Вон оно коло чужых людэй уныроқ, а ўдома, кажут, і вэсэлейшы бывае.* Шылін Бяроз.

ХАРМЫЗО'Н *м.* Нясталы чалавек. *Хармызон жэ ты, толком нычого ны зробыш.* Выжлавічы Пін.

ХРАПА'Ч *м.* Таўсцяк. *Ох, твой зяць і храпач стаў, чого вон так розлез, то ж молоды ішы.* Шылін Бяроз.

ХУДО'БЕЛЬ *м.* Вельмі худы, хваравіты чалавек. *Ну й худобель Юрчык, нельга просто глядзець.* Востраў Ганц.

ЧЫРЫВА'ЛЬ *м.* Пузаты мужчына. *Гэтому чырывалю і зогнутыса важко.* Асабовічы Пін. *Наш брыгадір такый чырываль, шчо ледь поворочваецца.* Барычэвічы Пін.

*П. А. Міхайлаў*

## З ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКІХ ГАНЧАРОЎ
### (апрацоўка гліны)

Для вырабу глінянага начыння сыравіну неабходна вельмі старанна апрацаваць. Усе лексічныя абазначэнні ў мове беларускіх ганчароў, якія датычаць працэсу апрацоўкі гліны, падзяляюцца на дзве групы: агульныя і канкрэтныя.

Сярод агульных абазначэнняў працэсу падрыхтоўкі сыравіны для фармавання гліняных вырабаў намі запісаны наступныя: *гатóвіць* (*готóвіті* — 20 [1]) — 2, 7, 9, 12, *загатóвіць* — 6, *прыгатóвіць* — 16, *прыгатаўля́ць* — 17, 23, *гатавáць* — 14, *уготóўлівать, віготоваті* — 20, *вы́рабіць* — 13. *Лепш гліна вырабіцца верхніца* (13). *Прыгатовіў гліну да работы* (16). *Трэба віготоваті гліну* (20). *Кажу суседу: «Пайду прыгатаўляць гліну»* (17).

Астатняя лексіка, якой абазначаюцца разнастайныя прадметы і дзеянні, звязаныя з падрыхтоўкай фармовачнай масы, адносіцца да групы канкрэтных абазначэнняў. Гэтая група вельмі шматлікая і разнастайная ў плане моўнага афармлення выкарыстоўваемых тэрмінаў.

Першапачатковая апрацоўка ганчарнай сыравіны пачынаецца яшчэ ў сховішчы, калі яна сама па сабе пад уздзеяннем знешняга асяроддзя становіцца больш пластычнай, *угнівае.* Працэс жа апрацоўкі гліны непасрэдна самім ганчаром праходзіць некалькі асобных стадый: збіванне гліны ў сцірту (гэтая стадыя апрацоўкі гліны праводзіцца не ўсімі беларускімі ганчарамі), здрабненне гліны разнастайнымі інструментамі або проста рукамі, апрацоўка гліны нагамі на падлозе і рукамі на лаўцы, дзяленне апрацаванай гліны (фармовачнай масы) на кускі-загатоўкі неабходнага памеру, якія ідуць на выраб посуду.

---

[1] Пасля кожнай назвы прыводзіцца нумар населенага пункта, дзе яна зафіксавана. Спіс населеных пунктаў з адпаведнымі нумарамі гл. у канцы артыкула.

Складаюць гліну ў сцірту ў хаце і шчыльна збіваюць яе якім-небудзь інструментам, што неабходна для большай зручнасці пры яе далейшай апрацоўцы. У якасці інструмента для збівання гліны ганчары выкарыстоўваюць рыдлёўку, спецыяльны драўляны молат, звычайную палку або кавалак жэрдкі даўжынёй да аднаго метра і пранік.

Часцей за ўсё ганчары збіваюць гліну ў сцірту рыдлёўкай (той жа самай, што нарыхтоўваюць сыравіну) і драўляным молатам. Апошні ў мове беларускіх ганчароў мае наступныя назвы: *до́ўбня* — 7, 9, 16, 21, *даўбня́* — 14, *даўбе́шка* — 9, 14, 22, *даўбе́нька* — 23 (*доўбе́нька, доўбэ́нька* — 20), *чычу́ха, колоту́шка* — 19, *ку́ка* — Беразіно, Блінава, 9. *Як мел качаюць, то б'юць доўбнямі і пранікамі* (16). *Гліна збіта доўбняю і ўсё такое* (21). *Даўбешка прыбіваць гліну* (14). *Даўбенькай б'еш гліну, каб нідзе й дзіркі не было* (23). Беластоцкія ганчары драўляны молат для збівання гліны ў сцірту называюць *сля́га, сля́ха, шля́га* — Цясельскі, 213.

Кавалак жэрдкі, якім збіваюць гліну ў сцірту, ганчары называюць *трепы́шка* — 6 і *кача́лко* — 18: *Бярэш трепышку і перабіваеш гліну* (6). *Качалко трэмбоваці гліну, шоб вона шчыльно прылягала. Трэба качалком шчыльно збіті гліну* (18).

Асобныя ганчары Гродзеншчыны для збівання гліны выкарыстоўваюць звычайны пранік, якім жанчыны пяруць бялізну: *пра́нік* — 12, 16.

У в. Дарасіно Любанскага раёна гліну апрацоўваюць не на падлозе, як у большасці беларускіх ганчароў, а на спецыяльнай драўлянай падстаўцы круглай формы, якую называюць *круг*: *Баба* [сцірта збітай гліны] *стаіць на кругу* (21).

Працэс збівання гліны ў сцірту ў мове пераважнай большасці беларускіх ганчароў абазначаецца дзеясловам *біць* (7, 9, 21, 23) і яго лексічнымі варыянтамі: *збіва́ць* — 2, 4, 9, 12, 14, 17, 22, 23 (*збіва́ты* — 20), *прыбіва́ць* — 14 (*прыбіва́ты* — 20), *прыбі́ць* — 17, *абабі́ць* — 12, 16, 17, *перэбі́ць* — 8. *Лапатай гліну збіваеш, каб ні асталася камкоў, каб не былі залоскі* (4). *Збіваеш гліну ў бабу* (14). *Як цепло, то я ў катусе збіваю бабу і таркую. Як абаб'еш кругом бабу — вона гладка і добрэ таркуецца* (17). *Збіваю пласты гліны* (20). *Бяром доўбню і б'ем гліну* (7). *Разоў чатыры-п'яць трэба біць гліну даўбешкаю* (9). *Б'ём у бабу гліну* (21). *Як улезе ў коцак, то*

*выкідае патроху гліну на падлогу, а потым абаб'е рукамі і топча* (16). *Гліну трэба перэбіць, а потым драць* (8). *Пранікам абівалі кругом топчыва, каб вада не ўпітвалася ў гліну* (12). Акрамя дзеяслова *біць* і яго лексічных варыянтаў, некаторыя ганчары ў сваёй мове ўжываюць таксама і іншыя дзеясловы для абазначэння працэсу збівання гліны: *сплатняць* — 2, *трэмбоваті* — 18. *Сплатняць трэба гліну, як суровая, свежая, а як пралежыць год, то не трэба* (2).

Ганчары в. Брацянка Навагрудскага раёна гэты працэс абазначаюць словазлучэннем *рабіць бабу*.

Мае сваю спецыяльную назву ў мове ганчароў і сціртa збітай гліны. Найбольш распаўсюджанай з усіх зафіксаваных намі з'яўляецца назва *баба* — 8, 12, 14, 17, 20, 21 і яе лексічны варыянт *бабка* — 20: *Збіваю гліну рыдлёўкаю ў бабу* (17). *Збій гліну ў бабу і пойду стругаты* (20). *Гэту бабу таркуемо таркаю* (21). Слова *баба* як назва сціpты збітай гліны ўжываецца ў тых ачагах ганчарнай вытворчасці беларусаў, якія знаходзяцца прыкладна ў межах паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы і сярэднебеларускіх гаворак. Іншыя словы-назвы запісаны намі ў асобных ачагах ганчарства: *куча* — 4, 11, *кучка* — 2, *ком* — 17, *клюцок* — 19, *кабіла* — 22, *высад* — 9, *глёнс* — 16, *топчыво* — 12, *стопт* — 18. *З вялікага высада выйдзе гаршкоў 120* (9). *Глёнс велькі, а обладзіў здатно* (16). *Збіваюць гліну ў топчыво* (12). *Позыч мне на стопт гліны, поеду прывезу — оддам* (18).

На тэрыторыі Беласточчыны ў гэтым значэнні ўжываюцца словы *груда, мнятка, штука* і *штучка* — Глушкоўска, 192.

Наступная стадыя ў апрацоўцы сыравіны — здрабненне гліны. Для гэтага беларускія ганчары выкарыстоўваюць драўляную рыдлёўку, зрэдку аднабокую, дрот, спецыяльную тарку, касу, серп і струг.

Драўлянай рыдлёўкай карыстаюцца ганчары ўсходняй часткі Гродзеншчыны і называюць яе *лапатка дзеравянная* — 2 і *заступ* — 7: *Нясу ў хату доўбню і заступ* (7).

Дротам апрацоўваюць гліну толькі пружанскія ганчары. Гэты інструмент і мае ў іх назву *дрот* — 18.

Даволі распаўсюджаным сярод ганчароў інструментам для здрабнення гліны з'яўляецца спецыяльная тарка, на якой дзяруць гліну падобна да таго, як дзяруць

бульбу. Ёй карыстаюцца ганчары Навагрудскага, Карэліцкага, Баранавіцкага, Пружанскага і Любанскага раёнаў і называюць яе *тáрка* — 8, 12, 17, 17а, 17б, 21 і *тэртýшка* — 18: *Тарка жэсцяна спецыяльна зроблена і таркуецца* (17). *Пойду куплю тэртушку, моя поламаласа* (18).

На поўдні і паўднёвым усходзе Беларусі для здрабнення гліны выкарыстоўваецца струг, які ва ўсіх ачагах ганчарнай вытворчасці, дзе ён выкарыстоўваецца, мае адну і тую ж назву: *струг, стружóк* — 14, 20, 22, 23. *Струг дзелалі с касы, тонкі і рэжэ роўнымі тонкімі пластамі* (14). *Стружком скобліш гліну, як саб'еш даўбешкаю* (22). *Стругам стружэш гліну тонко* (23). *Стружок повытягае з гліны ўсэ сметте* (20). У мове ганчароў Беласточчыны, якія таксама карыстаюцца гэтым інструментам, ён мае тую ж назву *струг, стружóк* — Глушкоўска, 193.

Абазначэнні працэсу здрабнення гліны залежаць ад таго, якім інструментам карыстаецца ганчар. Пры рабоце стрýгам гэты працэс абазначаецца дзеясловамі *стругáць* — 14, 22, 23 (*стругáты* — 19, 20) і *скаблíць* — 14, 22: *Садзіся гліну стружы. Стругай як хочэш, а пэрэстругай — у карыто і вадою паліў* (22). *Бабі од роду не робілі горшкі, а гліну стругалі; гэто ў Полтаві бабі горшкі роблять. Стружуть гліну бі на бумагу так тонэнько* (20). Аналагічна абазначаюць гэты працэс і ганчары Беласточчыны: *стрýжэ, стрýжыцца* — Глушкоўска, 193.

Працэс здрабнення гліны таркай абазначаецца дзеясловамі *таркавáць* — 12, 17, 21, *драць* — 8, 12, 17а, *тэ́рці* — 18: *Я таркую гліну адзін раз. Тарак чатыры-п'яць старкавай, укінуў у яшчык і змачыў вадою* (17). *Патом таркуем таркаю* (21). *От драла, аж серэдзіна боліць* (12).

Ганчары, якія апрацоўваюць гліну дротам (часта з мэтай адначасовай яе ачысткі ад дамешак), абазначаюць гэты працэс наступнымі словамі: *дратавáць* — 1, 2, 12, 17 (*дротовáті* — 18), *рэ́заць* — 11, 15, *тузавáць* — 6. *Дратавалі гліну дротам, патом пятою ціснулі* (12). *Як дратуеш, под дроцінкою камень почуствуеш, трава, корэнь остаецца на дроцінцы* (17). *Дротую пласт гліны тоненькім дротом* (18). *Будзеш рэзаць, рэзаць, пакуль выцягнеш увесь сур* (15).

Іншыя інструменты для здрабнення гліны выкарыстоўваюцца ганчарамі толькі ў асобных ачагах ганчар-

най вытворчасці. Так, ганчары г. п. Стрэшын Жлобінскага раёна і асобныя ганчары Беласточчыны здрабняюць гліну серпам і сам працэс здрабнення яе некаторыя з іх абазначаюць дзеясловам *скабліць*: *Каб мяхчая была, гліну сярпом скабліць трэба* (22). У Клецкім раёне гэтая стадыя працэсу апрацоўкі гліны ажыццяўляецца старой касой і абазначаецца словам *рэ́заць*: *Як гліна свежая, бярэм косу і рэжэм на тонкія лустачкі* (13).

У некаторых ачагах беларускія ганчары пры апрацоўцы гліны не збіваюць яе ў сцірту. Замест гэтага сыравіну кладуць у карыта, здрабняюць яе рыдлёўкай, а потым заліваюць вадой. Такі працэс здрабнення гліны ў карыце мае наступныя абазначэнні: *сячы́* — 2, 22, *перасяка́ць* — 17а, 22, *рэ́заць* — 2, *перарэ́заць* — 3, *біць* — 4, *перабіва́ць* — 3, 6, 7. *Потым сякуць гліну рыдлёўкамі* (2). *Пасёк, пасёк гліну і вадою заліваеш. Перасякаеш гліну ў карыце* (22). *Рэзаць гліну дзеравяннай лапаткай* (2). *Тады бярэш рыдзель і перарэжэш гліну. На другі дзень перабіваеш гліну дзеравяннай лапаткай, як праснакамі яе кладзеш* (3). *Біць гліну ў карыце* (4). *Перабіваем гліну надробна з аднаго боку і з другога боку і так тры разы перабіваем* (7).

Зімою, калі гліна для апрацоўкі бярэцца з вуліцы, некаторыя ганчары папярэдне заліваюць яе ў карыце гарачай вадой, каб яна растала. Гэты працэс у мове ганчароў абазначаецца дзеясловам *зава́рваць*: *Заварваць кіпятком гліну, каб разапрэла, прама разварылася. Заварыш гліну і танцуеш па хаці. Цугуны два-тры вару і завaруеш гліну* (3).

Акрамя таго, некаторыя ганчары гліну ў карыце здрабняюць проста рукамі, без прымянення інструментаў. У такім выпадку працэс здрабнення абазначаецца дзеясловам *крышы́ць* — 3, 6, 7: *Крышыш гліну ў карыта і заліваеш вады* (6). *Крышу гліну на дробныя часці ў карыта* (7). *Гліну крышыш у карыці* (3).

Пры здрабненні гліны рознымі інструментамі (стругам або таркай) атрымліваюцца тоненькія пласцінкі, якія ў мове беларускіх ганчароў таксама маюць свае асобныя назвы: *стру́жка* — 20 (*стру́шка* — 14, 18), *пласцінка* — 17, *пло́сьценька* — 20, *лу́ста, лу́стачка* — 13, *Тонкая струшка харашо размакае* (14).

Нярэдка пасля здрабнення ганчары злепліваюць гліну ў камы пэўнага памеру, якія затым топчуць нагамі або кідаюць у спецыяльныя ёмістасці і заліваюць вадою.

Гэтыя камы гліны маюць наступныя назвы: *грýдка* — 17, 20, 22 (*грýтка* — 18), *калáч* — 18, *грýда, камóк, камачóк* — 17, *гáлка, качáлка* — 22, *клёсік* — 12. *Грутку несут на пудлогу у хату топтаті. Топтаті гліна носіцца калачамі* (18). *Дай груду гліны* (17).

Сам працэс злеплівання гліны пасля яе здрабнення ў мове ганчароў мае складаныя абазначэнні ў выглядзе трохчленных словазлучэнняў (*звярнýць у гáлкі* — 22 і *злéпваць у камы́* — 17), а таксама простыя: *злéпвать, злéпваты, лепіты* — 20, *злéпліваць* — 12.

Найбольш распаўсюджанай назвай ёмістасці, у якой гліну пасля здрабнення заліваюць вадою, з'яўляецца слова *кары́та* — 2, 3, 4, 6, 7, 15, 17 (*кары́то* — 5, 17а, 21, 22): *У карыто гліну носяць* (5). *У карыце памяшаеш гліну, сціснеш харашо, а тады качаеш* (21). Астатнія назвы ёмістасці зафіксаваны намі ў асобных ачагах ганчарнай вытворчасці: *я́шчык* — 17, *цэ́бэр* — 20, *кáдоўп* 'спецыяльная дубовая бочка пад падлогай' — 13. *Кідаеш гліну ў кадоўп, с кадаўба гліны выходзіць сто дваццаць штук пасуды* (13).

Працэс аблівання гліны вадою пасля здрабнення абазначаецца лексічнымі варыянтамі дзеясловаў *ліць, мачы́ць, крапіць* і *бры́згаць: палівáць* — 8, 17, 17а, 23 (*полівáты* — 20), *покрóпваты, мочáты, умочáть* — 20, *залівáць* — 5, 6, 13, 15, 22, *злівáць* — 7, 17, *аблівáць* — 21, *прыліць* — 14, *змóчваць* — 17, *абмóчваць* — 2, *замóчваць* — 7, *абры́згваць* — 23, *збы́рзґваць* — 8, *разбы́рзґваць* — 17. *Гліну кладуць на мост* [падлога] *і паліваюць вадою, яна раствараецца* (23). *І заліваеш гарачай вадой, каб размокла* (13). *Гліну вадою зліваюць у катуху* (7). *Як настружаш гліны, трэба вадою пры́ліць* (14). *С-пад таркі трэба гліну змáчыць* (17). *Насыпаю гліны ў карыта і абмочваю вадою, і яна мокне* (2).

Пад уздзеяннем вады гліна ператвараецца ў суцэльную масу, робіцца мяккай, пластычнай і падатлівай у час яе далейшай апрацоўкі. Гэты працэс ператварэння гліны ў суцэльную масу пад уздзеяннем вады ў мове ганчароў абазначаецца наступнымі дзеясловамі: *размакáць* — 13, 14, 22, *мóкнуць* — 7, *раскісáць* — 14, *размя́кнуць* — 5, 15, *прэць, разапрывáць, разжы́зіцца* — 6, *укісáты, розыхóдзіцца, угнівáты, роскісáты* — 20, *мя́кнуць* — 5. *Вадою гліну заліваеш, каб размакала* (22). *Дзён тры мокне гліна* (7). *За ноч размякнец гліна. Залеваю вадою, тады гліна мякнець* (5). *Як размякнець*

*гліна, лапаткаю выкідаю на пасцілку лляную і тапчу нагамі* (15). *Гліна разапрываець, прыець у карыце. Заліваеш вады, каб разжызілася гліна* (6). *Ужэ гліна добрэ ўкісла, можно горшкі робіты. Гліна розыходзіцца, як помочыш водою* (20).

Наступная стадыя апрацоўкі ганчарнай сыравіны — апрацоўка гліны нагамі на падлозе (т. з. працэс «таптання») або рукамі на лаўцы. Абазначэнні гэтага працэсу падзяляюцца на агульныя і канкрэтныя. Агульныя абазначэнні наступныя: *таптáць* — 1, 2, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17 (*топтáті* — 18) і *мясíць* — 3, 7. *Добра нагамі тапчы, каб аж пухкая, як цеста, стала* (7). *Тады трэба выкідаць таптаць гліну* (16). *Пасыпалі жоўценькі песок, каб гліна не прыставала да пола, і таптали босымі нагамі* (14). *Здзяеш лапці і нагамі топчэш гліну* (6). *Пасыпаецца пясок, выкідаецца гліна с карыта і топчуць нагамі* (2). *Топчэш, пака шоб кускоў сухіх не было там* (15). *Тапталі гадзін тры босаю нагою* (13). *Гліну на падлозе нагамі тапталі* (5). *Ужэ натёр, трэба топтаті гліну* (18). Пружанскія ганчары ўжываюць таксама аддзеяслоўны назоўнік *топтáнне: Гліна готова до топтання* (18).

Канкрэтныя абазначэнні працэсу апрацоўкі гліны нагамі звязаны з паняццямі аб асобных спосабах такой апрацоўкі. У час таптання гліна размінаецца па падлозе ў тонкі пласт. Гэты працэс у мове беларускіх ганчароў абазначаецца наступнымі дзеясловамі: *разганя́ць* — 3, 4, 5, *расцілáць, растóптваць* — 13, *раскацíць* — 3, *раскáтваць* — 6. *Разгоніш як блін які* (4). *Разганяеш гліну па ўсёй хаці. Разы тры-чатыры раскоціш і рэжэш у савалкі* (3). *Разганяеш пальцы на два* (5). *Як раскатаеш, то рвем на кускі і з іх робім камы. Растоптвалі на палец, каб жарства папераэзала гліну, каб гаршкі выходзілі харошые* (13). Растаптаны па падлозе тонкі пласт гліны скачваюць або складаюць у адзін кусок і топчуць зноўку. Гэта паўтараецца некалькі разоў. Працэс складвання або скачвання растаптанай гліны абазначаецца словамі *скру́чваць* — 2, 7, 17, *скруцíць* — 4, *круцíць, скáчваць* — 11, *скачáць* — 3, *склáдваць, згóртваць* — 12, *варóчаць* — 2: *Растаптаў хоранька на блін, тады скручваецца ў камок. Варочаць трэба разы тры-чатыры* (2). *Патом скачаеш у трубу* (3). *Скруціш гліну ў савалак* (4). *Круціш гліну ў трубу. Тады скачваеш і зноў паўтараеш* (11). *Вытаптаў і скручваю ў вал* (17).

Асобныя беларускія ганчары дабаўлялі ў гліну ў час апрацоўкі тоўчанае каменне (жарству). Такая гліна ішла часцей за ўсё на выраб гаршкоў. Працэс утоптвання гэтай каменнай «мукі» ў гліну ў час яе апрацоўкі нагамі абазначаецца ў мове ганчароў словазлучэннямі *карбава́ць гліну* — 5 і *тузава́ць гліну* — 4: *Гліну карбуеш нагамі два разы і два разы збіваеш* (5).

Тоўчанае каменне, якое дадаюць у гліну, у мове ганчароў мае назву *жарства́* — 5, 7, 13, 17а (Літва, Міншчына, Галубовіч, 229): *Здзелаў пасуду на жарсцве* (5). *Сыплю жарству на гліну* (7). *Таўклі жарству на муку. Натоўкалі на дзве вядрэ жарствы* (13). Ганчары в. Сухачэва Талачынскага раёна дадавалі ў гліну не тоўчанае каменне, а зярністы пясок, які таксама называлі *жарства́: Жарства — пясок такі, ён жоўты. На жарству выкладаеш гліну* (3). У ганчароў Беласточчыны тоўчанае каменне называецца *зярно́* — Цясельскі, 214.

Пасля таптання гліны нагамі наступным абавязковым (калі не галоўным) звяном у адзіным ланцугу працэсу апрацоўкі гліны з'яўляецца апрацоўка яе рукамі на спецыяльнай ганчарскай лаўцы. На ёй ганчар не толькі апрацоўвае гліну, але і сядзіць у час фармавання посуду, прымацаваўшы да яе ганчарны круг і паклаўшы побач кучку загатовак. Гэтае прыстасаванне мае наступныя назвы: *ла́ўка* — 1, 2, 4, 5, 6, 9, 14, 17б, 18, 22, 23 (*ла́вка* — 19, 20), *ла́ва* — 8, 9, 11, 12, 17, 20, *зэ́даль* — 7 (*зэ́дэль* — 2), *слон* — 3, *засло́н* — 13, 21, *палніца* — 15, *пало́к* — 1, *за́печак* — 16. *Лаўка шырокая, тоўстая такая* (4). *Адзін камяк кладзём на зэдаль* (7). *Лаву вадою трэба збырзгваць* (8). *Ад сцяны да сцяны суцэльная шырокая лава* (12).

Працэс апрацоўкі гліны рукамі на лаўцы мае вялікую колькасць абазначэнняў у мове беларускіх ганчароў, прычым у мове аднаго і таго ж ганчара ўжываецца адначасова нярэдка некалькі дзеясловаў. Найбольш пашыранымі сярод зафіксаваных намі з'яўляюцца наступныя: *мясі́ць* — 2, 5, 8, 10, 13, 17, 17а, 22, 23 (*месі́ць* — 8, 16, *мысы́ты* — 19), *кача́ць* — 5, 14, 15, 17, 21, 22, *валкава́ць* — 11, 16, 17а (*валкова́ті* — 18), *клясава́ць* — 1, 12, *валя́ць* — 3, 4. *Тады рукамі яе, як цеста, мясіць трэба* (2). *Некалькі разоў валяеш гліну, скоціш, тады абратно апяць* (3). *Мясіць цяжэй, чым рабіць гаршкі. Адзін не ўспееш замясіць гліны. Кусочак гліны месіш пяць часоў на лаўцы* (5). *Качаеш рукамі і выбіраеш каменне* (15).

*Одвалкую дзесяць-пятнаццаць ґлёнсоў і тады раблю* (16). *Як месіш і слабкая гліна, нема песку, то просеваемо попел і посыпаем на лаву, месіш на попелу, то получаецца тужэйшая гліна* (17). *Бярэцца пласт гліны на лаўку і валкуецца* (18). *Мысы глыну, бы хліб в боццы* (19). *Цяпер рукамі мясі гліну. Хлеба так не месіш, як гліну. Качаеш гліну рукамі на лаўцы* (22).

Іншыя абазначэнні працэсу апрацоўкі гліны рукамі запісаны ў асобных ачагах ганчарнай вытворчасці: *тусува́ць* — 6, *ско́мчыць, біць* — 10, *мяша́ць* — 11, *памякшы́ць* — 9, *мяхчы́ць* — 18, *мня́ты, м'я́ты, розміна́ты, чавйти* — 20, *расця́гваць, пацягну́ць* — 9, *раска́чваць* — 3, *роска́тваць* — 17. *Рукамі трэба гліну памякшыць. Расцягнеш гліну па ўсёй досцы: пацягнеш даўжэй — лепш перабярэш, пацягнеш карочэй — горш перабярэш* (9). *Б'еш, пакуль не перастане за рукі брацца* (10). *Роскатваеш гліну на лаві ў круглы валок* (17). У мове ганчароў Беласточчыны ўжываюцца словы *месі́ті, месі́ты, месі́ць, клёсова́ць, выра́бля́ць* — Глушкоўска, 193, *клюсова́нне, выраб́яне, выгнята́не* — Цясельскі, 213.

Мае сваю асобную назву ў мове ганчароў і тонкі слой гліны таўшчынёю ў некалькі сантыметраў, у які разміnaецца сыравіна пры апрацоўцы яе нагамі на падлозе або рукамі на лаўцы: *пласт* — 18, 20, *пласто́к* — 17, 20, *блін* — 2, *ґлёнс* — 16. *Растаптаць яе на блін* (2). *Одрываецца от пласта кусок гліны і мехчыцца рукамі* (18). *За поўгодыны зомнеш пласток гліны і більш* (20).

Пры апрацоўцы гліны рукамі або нагамі некалькі разоў запар растаптаны тонкі слой ганчары скручваюць у сувой, а потым зноў топчуць. Такі сувой гліны мае наступныя назвы: *труба́* — 3, 13, *камо́к* — 2, 17, *вал, вало́к* — 17. *Скручваеш гліну ў вал* (17).

У мове ганчароў асобных ачагоў ганчарнай вытворчасці ёсць таксама словы, якімі яны называюць тую колькасць гліны, якая бярэцца імі для апрацоўкі за адзін прыём. Гэта *заме́с* — 8 і *хо́дка* — 17. *Падсеялі пясок, кідаеш с корыта рыдлёвак дзесяць гліны, вытаптаў і другую ходку тапчы* (7).

У час апрацоўкі, асабліва рукамі, гліна старанна ачышчаецца ад пабочных рэчываў, смецця, каменьчыкаў і г. д. Працэс ачышчэння сыравіны ў мове ганчароў абазначаецца дзеясловамі *выкіда́ць* — 2, 7, 8, 9, 12, 13, 16, 17 (*выкіда́ты* — 20), *вікулупаты, вісміка́ты* — 20, *выбіра́ць* — 2, 8, 15, 16, 17 (*вібіра́ты* — 20), *перабіра́ць* — 3,

9, 11, *шлямавáць* — 12 (*шлемовáті* — 18), *выкалýплі-ваць* — 12, *ачышчáць* — 17, *перасóўваць* — 3, *рэ́заць* 'ачышчаць дротам' — 4, *перэбрáць* — 6. *Перабяры савалкі два гліны* (3). *Перабіраем гліну рукамі, каб нідзе не было ні каменьчыка* (9). *Перабіраеш рукамі, каб не было марґеля* (11). *Стружком вікулупаеш каменьчыка, вон віпадэ* (20).

Канчаткова апрацаваная гліна знаходзіцца ў вялікіх кусках, ад якіх пазней ганчары адрэзваюць спецыяльным дротам або проста адрываюць рукамі невялічкія кавалачкі для загатовак памерам задуманага посуду. Вялікія кускі апрацаванай гліны таксама маюць сваю асобную назву: *савáлак* — 3, 4, *камя́к* — 7, *шмат* — 6, *разéнь* — 2, *плітá* — 13, *клёсік* — 12, *кусóк* — 9, 15, *кусóчак* — 5. *Савалак саб'еш як кірпічыну як падняць і кладзеш на лаўку* (4). *Раскачваеш на слоне савалак, а потым перабіраеш, перасоўваеш* (3). *Тады рэжам гліну на камякі, скачваем яе, камякоў пяць, і пад лаву кладзём* (7). *Складаеш шматы пад лаўку і потым начынаеш іх на лаўцы тусуваць* (6). *Рэжэш на пліты і кладзеш у кадоўп* (13). *Клёсік яшчэ раз перамешваю, пераклесоўваю* (12).

У жыхароў в. Сухачэва Талачынскага раёна мае асобную назву і сцірта вялікіх кускоў апрацаванай гліны, якія ганчары складваюць пад лаўкай,— *градá: Града гліны, як змесіш, кладзеш адзін на адзін савалкі, іх з дзесяць выходзіць* (3).

Некаторыя беларускія ганчары называюць сам працэс складвання кускоў апрацаванай гліны пад лаўку словазлучэннем *скруціць пад лáўку* — 5 і *качáті гýрбы* — 20: *На кускі гліну парэжэш і пад лаўку скруціш* (5). *На зэмлі гліну білі, стругалі і гурбы качалі* (20).

Часам пасля апрацоўкі гліны і дзялення ее на вялікія кускі, якія складаюць пад лаўку, застаюцца і невялічкія кусочкі гліны, а таксама рэшткі яе, якія саскрэбваюцца з лаўкі і злепліваюцца ў камок. Гэтыя рэшткі гліны таксама маюць свае назвы: *паскрóбак* — 2, 17, *патскрóбак* — 8, *паскрóбачка* — 9, *пýтскрэбок* — 18, *паскрóбкі, недадзірак* — 12, *астáча* — 11, *остáток, остáточок* — 20. *Паскробак — як скрабеш лаву, гэта выкідаецца ў шліхту або ў гліну* (17). *Як лаўку паскрабеш — то паскробак* (2). *Патскробак гліны — як лаву скрабеш* (8). *На другі раз як клясуецца, і астача ўкладаецца* (11). *Што выходыт, то і зробіцца с путскрэпка* (18).

*З остатку робілі посуду, можна й цацку зробіты* (20).

Наступная і апошняя стадыя працэсу падрыхтоўкі сыравіны для фармавання гліняных вырабаў — раздзяленне вялікага куска апрацаванай гліны на невялічкія, памерам на адну пасудзіну задуманага аб'ёму. Гэтыя адарваныя рукою або адрэзаныя спецыяльным ганчарскім інструментам (*нóжыкам*) кусочкі апрацаванай гліны маюць такія назвы: *кусóк* — 3, 5, 6, 11, 13, 17, 18, 20, *кусóчак* — 2, 3, 13 (*кусóчок* — 17), *ком* — 3, *кавáлок* — 20, *кавáлачак* — 16. *С пліты адрэзалі кусок гліны* (13). *Разгоніш, а тады дзеліш на кускі* (5). *Разрываць на кусочкі такія, камкі дзелаць* (2). *Ком качаеш у руках* (3). Беластоцкія ганчары кусочкі апрацаванай гліны памерам на адну пасудзіну называюць *пóрцыя, вýрглі, клюсы, пілэ́чкі* — Цясельскі, 213.

Акрамя таго, у ганчароў г. п. Івянец кусочкі гліны на адну пасудзіну, акрамя агульнай назвы, маюць яшчэ і канкрэтныя, якія адносяцца да розных па памерах кускоў. Так, напрыклад, кускі гліны на посуд ёмістасцю да 1 л называюцца *цацкóвыя кускі,* ёмістасцю 1 л — *сметанкóвыя кускі,* ёмістасцю да 2 л — *квартóвыя кускі,* ёмістасцю да 3 л — *поўґарцóвыя кускі,* ёмістасцю 6 л — *ґарцóвыя кускі.*

Аднак для таго, каб з адарванага куска апрацаванай гліны можна было вырабіць тую ці іншую пасудзіну, гэты кусок неабходна яшчэ·моцна і шчыльна збіць. Працэс збівання загатоўкі гліны ў мове ганчароў абазначаецца наступнымі дзеясловамі: *пляскáць* — 2, 3 (*плескáць* — 14, *плескáты* — 20), *папляскáць* — 9 (*поплескáць* — 17), *качáць* — 1, 3, 7, 15, 17 (*качя́ты* — 20), *клясавáць* — 8, 11, *камячы́ць* — 13, 14, *вы́катаць, опкатáць* — 17, *вы́кругліті* — 18, *парáўняць* — 6, *бы́ты* — 20, *перабíць* — 14, 16, *абабíць* — 4, *збівáць* — 2, *пабíць* — 5. *Качаеш ком, а ён расцець як хлебнае цеста ў руках* (3). *Абабіў кульку раз-раз і гатова* (4). *Камячкі папляскаў і паставіў у горбачку* (9). *Кускі трэба клясаваць рукамі на лаве* (11). *І сталі кусок гліны камячыць у руках* (13). *Гэтага камячка перабіць у руках трэба* (16). *Поплескаць рукамі кусок гліны* (17). Ганчары в. Сухачэва Талачынскага раёна і г. п. Стрэшын Жлобінскага раёна працэс збівання загатоўкі гліны абазначаюць дзеяслоўнымі словазлучэннямі *дзéлаць камы́* і *звярнýць у гáлкі* — 22.

Такі збіты кусок апрацаванай гліны непасрэдна ідзе на выраб глінянага посуду. У мове беларускіх ганчароў

зафіксаваны наступныя найменні такіх загатовак: *гру́дка* — 14, 20, 23 (*гру́тка* — 21), *гру́дочка* — 20, *ком* — 6, *камо́к* — 1, 2, *камо́чак* — 2, 5, *камя́к, камячо́к* — 9, 13, *клёс, клёсік* — 8, 11, *ґлёнсік* — 16, *сыска* — 4, 5, *галу́шка* — 14, 17, 17а, *ку́лька* — 4, *каба́тка, каба́тачка* — 15, *кова́лік* — 18, *га́лка* — 22. *Накачаў камкі гліны* (1). *Зложаныя камкі ў кучку* (2). *На гэту кульку і орыенціруесся* (4). *На сыскі падзяліў гліну* (5). *Здзелалі ў руках круглы камяк* (13). *На кабатачкі пакачаеш і ўжэ дзелаць. Рукамі атарвеш ад куска кусочак такі, пакачаеш і кабатка будзе* (15). *На лаве мешу гліну рукамі і збіваю ў галушкі до размеру горшка, які мне трэба* (17). *Месят рукамі і робіцца ковалік* (18). *Рву грудку на розьмер горшка. Як до горшка — такая робіцца грудочка* (20). *Звярнуў гліну ў галкі* (22). У мове беластоцкіх ганчароў для наймення загатоўкі гліны на адну пасудзіну адзначаны словы *клёсы, галу́шка, кімя́к* — Глушкоўска, 193. Словам *ком,* па сведчанню А. С. Дэмбавецкага, называлі загатоўку гліны на адну пасудзіну і ганчары Магілёўшчыны — Дэмбавецкі, 466.

Калі ж загатоўка гліны атрымалася меншая, чым неабходна, да яе дадаюць кусочак, які называецца *клінóк: Клінкі — дабайка да другіх камоў* (3). Ганчары в. Пруды Баранавіцкага раёна не тачылі посуд на крузе з кавалка гліны, а ляпілі яго з доўгіх жгутоў тэхнікай кальцавога налепу. Такія жгуты, з якіх вырабляўся посуд, яны называлі *кача́лка* — 17б.

Загатоўкі апрацаванай гліны складваюцца на лаўцы побач з ганчарным кругам у горку, якая таксама нярэдка мае сваю асобную назву: *ку́чка* — 2, 8, 17, *ку́ча* — 17, *ку́чачка* — 15, *гу́рба, гу́рбочка, шару́нок* — 20, *гóрба, гóрбочка* — 18, *стóпка* — 14, *груд* — 6. *Груд камоў на лаўцы* (6). *У кучачку склаў кабаткі* (15). *Поставіш у шарунок по п'яць і лічыш колько горшкоў будэ* (20).

### Прынятыя скарачэнні

1 — Ушач Віцебскай вобл., 2 — Крэва Смаргонскага р-на, 3 — Сухачэва Талачынскага р-на, 4 — Бабінавічы Лёзненскага р-на, 5 — Дуброўна Віцебскай вобл., 6 — Благаўка Шклоўскага р-на, 7 — Морына Іўеўскага р-на, 8 — Брацянка Навагрудскага р-на, 9 — М. Карнышы Навагрудскага р-на, 10 — Харосіца Навагрудскага р-на, 11 — Івянец Валожынскага р-на, 12 — Мір Карэліцкага р-на, 13 — Ганевічы Клецкага р-на, 14 — Зялёнка Бабруйскага р-на, 15 — Крычаў Магілёўскай вобл., 16 — Поразава Свіслацкага р-на, 17 — Ружаны Пружанскага р-на, 17а — Ясенец Баранавіцкага р-на, 17б — Пруды

Баранавіцкага р-на, 18 — Пружаны Брэсцкай вобл., 19 — Ляскавічы Іванаўскага р-на, 20 — Гараднос Столінскага р-на, 21 — Дарасіно Любанскага р-на, 22 — Стрэшын Жлобінскага р-на, 23 — Луначарск Рэчыцкага р-на.

Блінава — Блінава Э., Мяцельская Е. Беларуская дыялекталогія. Мн., 1969.

Галубовіч — Hołubowicz W. Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi. Toruń, 1950.

Глушкоўска — Głuszkowska J. Białoruskie słownictwo garncarskie w gwarach wschodniej Białostocczyzny // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. Warszawa, 1974. T. XIV.

Дэмбавецкі — Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилёв-на-Днепре. 1884. Кн. 1. С. 460—470.

Цясельскі — Ciesielski Z. Z badań nad garncarstwem ludowym w województwie Białostockim // Lud. Wrocław, 1968. T. LII. S. 209—250.

***В. В. Шур***

## ПРАЦЭСУАЛЬНАЯ ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКА МАЗЫРШЧЫНЫ

Прынятыя скарачэнні раёнаў: Акцябр.— Акцябрскі, Браг.— Брагінскі, Ельск.— Ельскі, Жлоб.— Жлобінскі, Жытк.— Жыткавіцкі, Калінк.— Калінкавіцкі, Лельч.— Лельчыцкі, Мазыр.— Мазырскі, Нараўл.— Нараўлянскі, Петр.— Петрыкаўскі, Светл.— Светлагорскі, Стол.— Столінскі, Хойн.— Хойніцкі.

АБГА′НІЦЬ *зак.* Абнячлавіць, бессаромна даць нізкую ацэнку. *Я ёй нічога і не сказала, а яна хутчэй ні з таго ні з сяго абганіла.* Чалюшчавічы Петр.

АБЫ′РАЦЬ *зак.* Стаць упартым, непаслухмяным. *Іш ты яго! Абыраў і панімаць нікога ні хоча.* Стрэшын Жлоб.

АГВУ′ТАЦЦА *зак.* Управіцца, дагледзець гаспадарку. *Покуль агвутаесе з тымі дзецьмі, хаджайством, дак і зноў цямнее.* Тульгавічы Хойн.

АДГО′ПАЦЬ *зак.* Збудаваць (хутка, нечакана). *Кандрат такіе два здаравенныя хлявы сабе адгопаў, што кожды пазавідуе.* Тульгавічы Хойн.

АПУПЕ′ЦЬ *зак.* 1. *экспр.* Замёрзнуць, закалець. *У такі мароз апупець можна.* Тульгавічы Хойн. 2. *асудж.* Здурнець, згубіць розум. *Мо ты апупела, што такое кажаш.* Коўчыцы Светл.

АСМЯ′ГНУЦЬ *зак.* Стаміцца, выбіцца з сіл. *Асмяглі мы ў тым балоці, пакуль сена цягалі.* Агароднікі Калінк.

АТЛУЗА′ЦЬ *зак. экспр.* Налупцаваць, насцябаць. *Атлужы етаго хлопца, а то цэлы дзень не слухае нічога.* Тульгавічы Хойн.

АЦУПЕ'ЦЬ *зак. экспр.* Азябнуць, закалець. *Ля бурта сягоні ўсе бабы ацупелі, чуць дуба не ўрэзалі.* Тульгавічы Хойн.

БЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Хадзіць без мэты. *Сядзь ды сядзі, нечага блындаць без толку.* Коўчыцы Светл.

БО'МКАЦЬ *незак.* Мармытаць, бубнець пад нос. *Нешто сабе пад нос бомкае, халера его разберэ.* Мялешкавічы Мазыр.

БУ'ТЛЯЦЬ *незак.* Гніць, прэць. *Пудваліна бутляе, бо землею прывернуў на лето.* Стадолічы Лельч.

ВА'РЫЦЬ: ГАЛАВА ВАРЫЦЬ. Добра разумее. *У кого голова варыць, той і вучыцца добрэ.* Тонеж Лельч.

ВЕ'ЗЬКАЦЬ *незак. асудж.* Размазваць, пэцкаць. *Везькаеш по сподку сметану, есьці не ўмееш.* Стадолічы Лельч.

ВЕРНЯ'КАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць абы-што. *Не вернякай, раз напіўса, а то людзі цебе боком обходзяць.* Стадолічы Лельч.

ВУ'СЬЦЕБНУЦЬ *зак.* Выпусціць з ярма. *Вусьцебні волы, бо вельмо сьлепакоў багато, не даюць ім дыхнуць.* Стадолічы Лельч.

ВУ'ТНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, стукнуць. *Адыдзі, бо вутну!* Замосце Калінк.

ВУ'ЦІСНУЦЬ *зак. экспр.* Выгнаць (самагонку). *Вуціснуў самогонкі трохі ў корчах.* Стадолічы Лельч.

ВУ'ШПІГОЎВАЦЬ *незак. асудж.* Выведваць, вывіжоўваць. *Прышла вушпігоўваць, ці я скора дачку аддавацьму.* Тульгавічы Хойн.

ВЫ'ПРАГЧЫСА *зак. экспр.* Здохнуць. *Каб воны выпрагліса етые куры, гарод зусім вудралі.* Мялешкавічы Мазыр.

ВЫ'ЦЕРАБІЦЬ, ВУ'ЦЕРАБІЦЬ *зак.* З'есці з вялікім апетытам, хутка. *Цэлу міску вуцерабіў, от ето проголодайса.* Скароднае Ельск., Стадолічы Лельч.

ВЫ'ЦЫГАНІЦЬ, ВУ'ЦЫГАНІЦЬ *зак. экспр.* Нахабна выпрасіць. *Вон усе выцыганіць, ты его шчэ не знаеш.* Мялешкавічы Мазыр., Стадолічы Лельч.

ГА'ПЦЫРЫЦЬ *незак. экспр.* Танцаваць. *О зайзято гапцырыў на вяселлі, аж людзі дзіву даліся.* Замосце Калінк.

ГАРЦА'ЦЬ *незак. экспр.* Бегаць, гойсаць, звычайна без толку. *Чому ты гарцаеш цэлы дзень не прыседаючы, узяў бу да вурокі повучыў.* Стадолічы Лельч.

ГЛУЗДОВА'ЦЬ *незак. экспр.* Біць, лупцаваць. *Ох і глуздоваць цебе трэба, хлопчэ!* Скароднае Ельск.

ГНЕНУ'ЦЬ *незак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Гненуў у сьцену, дак і шпары посыпаліса, хіба так можна сокерою ў сьцену.* Стадолічы Лельч.

ДЗЕЎБАНУ'ЦЬ *зак. неадабр.* Моцна выпіць, напіцца. *Ужэ поспеў недзе дзеўбануць, што й на ногах не стоіць.* Тонеж Лельч.

ДРЫ'НКАЦЬ *зак. асудж.* Пасціцца на дрэнным выпасе, шукаць пашы. *Хіба тут тавар пасуць, будзе дрынкаць цэлы дзень.* Рамязы Ельск.

ДУКАВА'ЦЦА *незак.* Свавольнічаць. *Дзеці, паседзіце і не дукуйцеся.* Беразнякі Жытк.

ДУКОВА'ЦЬ *незак. асудж.* Правакаваць, нацкоўваць, навучаць. *Дукуе ее цэлымі днямі да хочэ, коб невестка добра була.* Стадолічы Лельч.

ДУЦЬ *незак. экспр.* Доўга і моцна спаць. *Ты часоў дзесець сегоні дуў, спаць багато ўмееш.* Версніца Жытк.

ЗАБРЫДЗЕ'ЦЬ *зак.* Закіснуць, забрадзіць. *Столькі сахару ў варэнне ўсыпала, а яно забрыдзела.* Зарэчча Браг.

ЗАВА'ЖЫЦЬ *зак.* Падважыць. *Еты конец не заважыш, колка не пудсадзіш, хіба другі конец давай заважым.* Стадолічы Лельч.

ЗАВАРСА'ЦЬ *зак.* Зашнураваць. *Заварсай свае чаравікі, а то на шнуркі наступіш.* Мялешкавічы Мазыр.

ЗАДЗО'Г'АЦЬ *зак. экспр.* Запэцкаць, занасіць. *Ек задзоґае тые штаны, то не дам рады атмуць.* Кочышчы Ельск.

ЗАЗЕ'ПАЦЦА *зак.* Задыхацца. *Зазепайса, бегучы за таварам.* Стадолічы Лельч.

ЗАКЛЕПОВА'ТЬ *зак.* Замацаваць (глінай). *Печ нова шчэ, а цэгла з чэрэна ўся поўпадала, бо пагано заклеповаў стары, як робіў.* Дзяржынск Лельч.

ЗАСМА'ЧЫЦЬ *зак.* Запрaвіць тлушчам, прыправамі. *Трэба юшку засмачыць, бо зусім нічшымна.* Стадолічы Лельч.

ЗАСУКА'ЦЬ *зак.* Закасаць. *Засукай рукаву да сам пошоў косіць.* Стадолічы Лельч.

ЗАТЛУ'НІЦЦА *зак. экспр.* Захлынуцца, прапасці, загінуць. *Лепш бы яно затлунілася такое парася.* Коўчыцы Светл.

ЗАЎПІРАВА'ЦЬ *зак.* Закапрызіць. *Унучка, як не заўпіруе, то хораша пад'есць.* Храпавічы Браг.

ЗАХУ'ТАЦЬ *зак.* Закрыць комін у печы. *Захутай печ, бо мозклякамі паліла, хутко вухолодае.* Буйнавічы Лельч.

ЗАЮ'ШЫЦЦА *зак.* Страціць пільнасць, згубіць кантроль, стаць няўважлівым. *Хай почне рыць, мо заюшыцца, то й зловіш.* Стадолічы Лельч.

ЗБУЗАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Зашмальцаваць, занасіць. *Толькі ўчора купіла сарочку, а сегоні ўжэ збузаваў, недзе падраў.* Тульгавічы Хойн.

ЗБУЗА'НІЦЬ *зак. экспр.* Знасіць, стаптаць абутак. *Не наберэсса хлопцу чобот, збузаніць за однэ лето.* Валаўск Ельск.

ЗГЛОМО'ЗДАЦЬ *зак. экспр.* Нясмачна зварыць. *Она ж доброго нічого сабе не варыць, зգломоздае што-небудзь да й жыве за етым.* Астражанка Лельч.

ЗЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Крыху падагрэць. *Трэба злеціць воду, а не рабіць кіпеток.* Мялешкавічы Мазыр.

ЗЛЫГА'ЦЦА *зак. непахв.* Звязацца з нядобрай кампаніяй. *Злыгаўся ты з Іванам, а гэта да дабра не давядзе.* Катловіца Браг.

ЗМУШКОВА'ЦЬ *зак.* Перарыць, перавярнуць. *Змушковаў кабан у хлеве, не можна зайці, одна гразь.* Стадолічы Лельч.

ЗНАДО'БІЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Нехай паляжыць, можэ на што знадобіцца шчэ.* Мялешкавічы Мазыр.

ІМЕЦЬ: НЕ ІМЕШ. Не пакаштаваць, не ўзяць у рот. *Я'блока вельмо кіслые, не імеш.* Стадолічы Лельч.

ІНЯ'ЦЬ *зак. экспр.* Укусіць. *Дзеда Міколая іняла гадзюка.* Астражанка Лельч.

КВЕ'ЦКАЦЬ *незак. непахв.* Брудзіць, размазваць. *Квецкае шпалеру на сьцену, ніяк не ўмее клеяць.* Верасніца Жытк.

КЛЕ'МПАЦЬ *незак. экспр.* Чуць ісці, марудзіць. *Ну і клемпаеш ты, Харыто, ек у смоле ногі цягнеш.* Верасніца Жытк.

КЛЫ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Чуць жыць. *Не вужыве вон, толькі клыпае.* Стадолічы Лельч.

КУ'БЛІЦЦА *незак. экспр.* Марудзіць, таптацца. *Сколькі можна кубліцца, зусім церпенне лопнуло!* Стадолічы Лельч.

КУЁЎЦІЦЦА *незак. экспр.* Марудзіць, марнаваць час. *Што ты там куёўцісся, пашлі скарэй!* Храпавічы Браг.

КУ'ТАЦЬ *зак.* Гарадзіць. *Пара ўжо кутаць плот, а то лазяць чужые свінні.* Зарэчча Браг.

ЛА'ЦІЦЬ *незак.* Латаць. *Трэба лаціць рукаў у кажуху.* Мялешкавічы Мазыр.

МЕ'ШКАЦЦА *незак. экспр.* Марудзіць, рабіць павольна. *Ну, чаго ты там мешкаесса, усе ўжэ дадому пашлі.* Замошша Лельч.

МО'ТОШЫЦЬ *незак.* Нудзіць. *Не могу ехаць у посажырцы, мотошыць.* Перароў Жытк.

МУЗО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Шмальцаваць, брудзіць. *Не музоль нову куртку.* Тульгавічы Хойн.

НАМІНА'ЦЬ *незак.* Есці са смакам. *Ён есці заўсёды хоча, намінае сала з хлебам і ўсё.* Зарэчча Браг.

НАПЕ'ТУВАЦЬ *незак.* Набіваць (торбу, мех). *Напетуй саломы ў мех.* Радуцін Жлоб.

НІКА'ЦЬ *незак. экспр.* Заглядваць усюды без патрэбы. *Нікае по люцкіх дворох, дзе б дома седзеў да нешто робіў.* Стадолічы Лельч.

НІ'ЧКАЦЬ *незак.* Тое, што і нікаць. *Што вон там нічкае по чужому городу?* Дарашэвічы Петр.

НІ'ШПОРЫЦЬ *незак. экспр.* Назойліва шукаць нешта. *Што ты тут положыў? Чого ты нішпорыш тутэка сегоні?* Стадолічы Лельч.

ОСТОДО'ЛІЦЦА *зак.* Супакоіцца, угаманіцца. *От ужэ добрэ, што мая жонка трохі остодоліласа, а то як кабан здох, то не находзіла места.* Капцэвічы Петр.

ОТКАЛЬКОВА'ЦЬ *зак.* Адбіцца. *Пройшоў по хаці помўтой да ўвесь чобат откальковаўса на дошках.* Альгомель Столін.

ОТПЕХНУ'ЦЬ *зак.* Апрацівець (пра яду). *Квасолёвой юшкі больш не могу есьці, отпехнула й гледзець не хочу.* Стадолічы Лельч.

ПА'ТРЫЦЬ *незак. экспр.* Вышукваць, выведваць. *Там нічога нема! Не пáтры!* Верасніца Жытк.

ПАШТАКАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Аблізаць. *З'еў усё і ложку паштакаваў.* Цешкаў Нараўл.

ПЛЮ'СКАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць пустое. *Што ты там плюскаеш, нема табе сарама!* Скароднае Ельск.

ПЛЯВУ'ЗКАЦЬ *незак. экспр.* Тое, што і плюскаць. *Не слухай его, плявузкае што попало.* Стадолічы Лельч.

ПРЫПУСЦІ'ЦЬ *незак.* Моцна бегчы. *Дзе ты его дагоніш! Як прыпусціў, толькі пул леціць.* Мялешкавічы Мазыр.

ПРЫСЫРЭ'ЦЬ *зак. безас.* Надакучыць. *Нам ужэ прысырэло дрова рэзаць, отдохном трохі.* Верасніца Жытк.

ПУЦОВА'ЦЬ *незак.* Злаваць. *Чого вона на мене ўсе пуцуе, я ж ёй нічого поганого не зробіла.* Хлупін Жытк.

РАСПОТВОРЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Распусціць, даць волю. *Во распотварылі его, цепер знаду не знайдзеш.* Валаўск Ельск.

РАСХЛЕ'ШЧЫЦЬ *зак.* Адчыніць, раскрыць. *Расхлешчылі дзверы на ўсю, што б сабакі лазілі!* Мялешкавічы Мазыр.

РУ'ДЗЬКАЦЬ *незак. іран.* Многа спаць. *Уставай, хваціць рудзькаць!* Мялешкавічы Мазыр.

РЫ'МСЦІЦЬ *незак. безас.* Хацець, карцець. *От рымсціць ему сказаць, што ведае.* Мялешкавічы Мазыр.

СКАВЯРЗА'ЦЬ *зак. іран.* Няўмела пашыць. *Нічога ты не пашыла, толькі скавярзала.* Валаўск Ельск.

СКАПЫ'РДЗІЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Нешта праяе нічога не чутна, мо ўжэ скапырдзілася дзе.* Затон Жлоб.

СКЛА'СЦІ *зак.* Апрануць. *Склала на себе нову сукню і пошла ў клуб.* Верасніца Жытк.

СПЕ'РЦІ *зак. экспр.* Разбудзіць. *Чаго ён яго сп'ёр так рано, хай бу шчэ трохі паспаў.* Мялешкавічы Мазыр.

СПРА'ВІЦЬ *зак.* Вярнуць свае грошы, якія пазычаў. *Трэба ўжэ мне ў Івана грошы справіць, бо ў самого немашэка, а вон не отдае.* Стадолічы Лельч.

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Ён стаў ету дзеўку страміць.* Гарбавічы Калінк.

СЦЁ'ХАЦЦА *зак. экспр.* Вельмі схуднець (ад кахання). *От сьцёхалася за хлопцамі, адны вочы.* Стрэшын Жлоб.

СЫГЛЫ'ЧЫЦЦА *зак. экспр.* Сысціся, знюхацца. *Сыглычыўся мой старшы зь ёй і рады ні даць.* Стрэшын Жлоб.

ЦЫ'ГАЦЬ *незак. экспр.* Скакаць, быць гарэзай, непаседай. *Васілько, не цыгай, поседзі спокойно трохі.* Верасніца Жытк.

ШАВЕ'РКАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць абы-што. *Захмялеў, шаверкаў нешта, не разбярэш.* Залессе Браг.

ШАТРОВА'ЦЬ *незак.* Патрашыць, чысціць рыбу. *Мой Хведзя сённі рыбу поўмешка прынёс, да от неколі ее шатроваць.* Хлупін Жытк.

*Н. У. Быкава*

## ЛЕКСЕМЫ ІНШАМОЎНАГА ПАХОДЖАННЯ Ў НАЗВАХ ЖЫВЁЛЬНАГА СВЕТУ

Аналіз лексічнага матэрыялу да першага тома ЛАБНГ па раздзелу «Жывёльны свет» дазваляе з упэўненасцю сказаць, што аснову гэтага фрагмента слоўніка народных гаворак складае лексіка агульнаславянскага і ўсходнеславянскага паходжання. Але выдзяляецца шэраг лексем іншамоўнага паходжання, якія трывала замацаваліся ў мясцовым маўленні беларусаў. Пераходзячы ў спадчыну ад аднаго пакалення да другога, яны ўдзельнічаюць у абазначэнні найбольш значных для чалавека праяў жыцця. Аналіз дазволіў зрабіць выснову, што размеркаванне запазычанняў у беларускіх народных гаворках неаднолькавае: некаторыя з іх вядомы ўсім гаворкам, але большасці з іх уласціва занальнае пашырэнне [1]. Зразумела, што насычанасць розных дыялектных зон лексемамі іншамоўнага паходжання таксама розная. Так, пераважнае ўжыванне балтызмаў у заходняй і паўночна-заходняй дыялектнай зоне не выпадковае. Для сучаснай беларускай мовы агульнапрызнаным з'яўляецца балтыйскі субстрат і спаконвечныя моўныя кантакты з балтамі, у першую чаргу літоўцамі, нашымі суседзямі. З імі беларусаў аб'ядноўвае доўгі гістарычны лёс. Безумоўна, уплыў не выключаны і ў дачыненні да ўсіх беларускіх гаворак.

Геаграфічнае суседства беларускіх і польскіх моўных тэрыторый таксама прывяло або да прамога запазычвання шэрагу лексем з польскіх дыялектаў, або да ўплыву польскай мовы як пасрэдніцы іншамоўных запазычанняў у беларускіх гаворках.

У гаворках адзначана ўжыванне шэрагу цюркізмаў, а таксама лексем германскага паходжання.

[1] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1969. Карты 76—80.

Мэтай даследавання з'яўляецца выяўленне інвентару лексем іншамоўнага паходжання, якія абазначаюць рэаліі жывёльнага свету ў беларускіх народных гаворках. Зафіксаваны агульнапашыраныя лексемы, а таксама лексемы, якія характэрны для заходняй, паўночна-заходняй, усходняй і паўднёва-ўсходняй зон і гаворак заходняга Палесся. Акрамя таго, вылучаны лексемы, якія пазначаны спецыфічным пашырэннем, нейкім надзанальным распаўсюджаннем. Зроблена спроба сістэматызаваць іншамоўныя запазычанні і апісаць іх у залежнасці ад асаблівасцей іх лінгвагеаграфічнага пашырэння ў дыялектнай зоне. Апісаны фанетычныя, а па магчымасці і словаўтваральныя варыянты лексем іншамоўнага паходжання. Таксама зроблена спроба растлумачыць вынік тых ці іншых фанетычных змен, якія адбываліся пры адаптацыі і засваенні.

Да запазычанняў іншамоўнага паходжання, якія вядомы ўсім або амаль усім беларускім народным гаворкам, інакш кажучы, з'яўляюцца агульнапашыранымі, адносіцца лексема *шпак* 'шпак' (карта «Шпак»). Па паходжанні звязваецца даследчыкамі з польск. zspak (Булыка, 367). Думку аб першаснасці польск. szpak у адносінах да в.-ням. Spatz падтрымлівае Брукнэр, 553. Прычым па семантыцы першапачаткова гэта 'верабей', але найменне ўжываецца і пры абазначэнні чыжа, шчаглa. Фасмер лічыць, праўда, што найменне *шпак* верагодней другаснае, адваротнае ўтварэнне ад памянш. špaček, якое развілося з нов.-в.-ням. Spatz 'верабей', с.-в.-ням. Spatz (Фасмер, IV, 469). Паралельна з назвай *шпак* на паўночным усходзе і ўсходзе Магілёўскай вобласці ўжываецца найменне *скварэ́ц* 'тж'. Такое ж паралельнае ўжыванне занатавана і ў гаворках заходняга Палесся (Камянецкі, Пружанскі, Івацэвіцкі, Ганцавіцкі, Свіслацкі раёны). Лексема з'яўляецца агульнапрынятай для абазначэння птушкі Sturnus і зыходнай формай для словаўтваральнага рада (*шпако́вы, шпако́ўніца, шпако́ўня,* ТС, *5*). У гаворках адзначаюцца памяншальныя варыянты — *шпачо́к, шпакянo̓к, шпа́чак* 'шпачанё'.

Найменне *шпак* фіксуецца таксама ва ўкраінскай мове (Грынчанка, IV), у гаворках Украінскага Палесся [2], як паўднёва-заходняе адзначаецца ў рускіх гавор-

---

[2] Никончук Н. В. Полесские названия птиц // Лексика Полесья. М., 1968. С. 469.

ках (Даль, IV, 542), у гаворках заходняй Браншчыны (Растаргуеў, 299).

Да агульнапашыраных і агульнавядомых лексем можна аднесці, праўда, з пэўным дапушчэннем і назву *крумка́ч* (карта «Крумкач»). Слова ў гэтым значэнні з'яўляецца нормай для беларускай літаратурнай мовы (ТСБМ, *2*). Па паходжанні ўзыходзіць да літ. kruñkti 'каркаць (пра варон)', дакладным адпаведнікам бел. *крумка́ч* лічыцца літ. дыял. kruñkôčius 'воран' (ЭСБМ, *5*, 123).

На думку Ніканчука, у аснове наймення *крумка́ч* ляжыць гукапераймальны выклічнік *крум*, і пашырэнне яго, напрыклад, ва ўкраінскіх гаворках утварае замкнёны арэал [3]. Тым не менш думка аб балтыйскай арыентацыі пры ўтварэнні гэтага наймення ў беларускіх гаворках з'яўляецца больш слушнай. Не зусім заканамерны тут пераход [н>м] з'явіўся вынікам забыцця семантыкі слова (параўн. *кру́мкаць* 'квакаць', *кру́нкаць* 'тж', LT, 180). Лінгвагеаграфія гэтай лексемы ў беларускіх гаворках сведчыць, як нам здаецца, таксама на карысць балтыйскага ўплыву пры станаўленні наймення гэтай птушкі. У рускіх народных гаворках (заходніх, паўднёвых, смаленскіх) для наймення птушкі Corvus corax L. выступае слова *крук* 'воран' (СРНГ, *15*, 315). Гэтая ж лексема вылучаецца і ў беларускіх гаворках на фоне пашырэння слова *крумка́ч* (гл. далей), якое найбольш паслядоўна фіксуецца ў цэнтральнай частцы Беларусі і пашыраецца да ўсходняй мяжы, уключаючы ўсходняе Палессе. Праўда, тут, ва ўсходніх раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, ужыванне гэтай лексемы паралельнае з ужываннем наймення *во́ран*. Варыянт *крумка́ч* пераважае. Акрамя таго, адзначаны больш блізкі да літоўскага адпаведніка варыянт *кранка́ч* (Астравецкі), *кромка́ч* (Лельчыцкі, Ельчыцкі), *кроўка́ч* (Івацэвіцкі раён). На поўначы Беларусі назіраецца даволі паслядоўнае ўжыванне варыянтаў з коранем *грум-*: *грумка́ч* (Докшыцкі, Барысаўскі), *грунга́ч* (Расонскі), *ґрунґа́ч* (Пастаўскі, Верхнядзвінскі, Полацкі), *ґрумґа́ч* (Шаркаўшчынскі, Мядзельскі), *грымка́ч* (Магілёўскі раён). Магчыма, гэта вынік кантамінацыі лексем *крумка́ч* і

---

[3] Никончук Н. В. О народной орнитологической терминологии Полесья и Карпат // Карпатская диалектология и ономастика. М., 1973. С. 143.

*груга́н* 'тж', апошняя мае даволі паслядоўнае паралельнае з *крумка́ч* пашырэнне на поўначы рэспублікі. Захаванне выбухнога *ґ* — таксама натуральная з'ява для польскіх і літоўскіх запазычанняў у беларускіх гаворках [4].

Агульнавядомай у беларускіх народных гаворках можна лічыць лексему *кры́га* 'рыбалоўная прылада ў выглядзе двух рухомых палазоў з сеткамі' (карта «Рыбалоўная крыга»), якая лічыцца запазычаннем германскага паходжання: ад с.-в.-ням. Krieqe 'тж' (ЭСБМ, *5*, 129). Вядома яна на тэрыторыі Беларусі за выключэннем гаворак заходняга і цэнтральнага Палесся, дзе пераважаюць найменні *кло́мля (кло́мня, кло́ўля)*. Але лексема *кры́га* выступае і тут, хоць і вельмі спарадычна (Івацэвіцкі раён). У в. Рубель Столінскага раёна адзначана паралельнае ўжыванне лексем *кры́га* і *кло́мля* для абазначэння хадавой ручной лавушкі для рыбы [5], *кры́га* — у в. Сяму́радцы Жыткавіцкага раёна (ТС, *2*). На самай мяжы з Літвой лексема *кры́га* таксама ўступае найменням *брэ́дзень, трайні́к, ге́глі* ў тым жа значэнні (апошняе — паўночна-заходні занальны рэгіяналізм літоўскага паходжання).

Варыянт з [р'] *(крі́га)* адзначаны ў зоне ўсходнемагілёўскага мяккаэрага вымаўлення ў Мсціслаўскім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім, а таксама ў Сенненскім раёнах [6].

Магчыма, лексема *кры́га* была вядома ўсім без выключэння гаворкам на тэрыторыі Беларусі. Беларуская лексема *кры́га* ў гэтым значэнні стала, відаць, пасрэдніцай для рус. *кри́га, кры́га* 'частка ракі або возера каля берага, агароджаная плятнём для лоўлі рыбы', 'сетка для лоўлі рыбы', 'нацягнутая на вобад рыбалоўная сетка' і іншыя значэнні, якія фіксуюцца ў многіх рускіх гаворках (СРНГ, *15*).

Што датычыцца кампактнага арэала ў гаворках заходняга і сярэдняга Палесся, дзе найменне *кры́га* супрацьпастаўляецца і пераважае ва ўжыванні прасла-

---

4 Аб гэтым гл. таксама: СПЗБ. Мн., 1979. Т. 1. С. 11.

5 Крывіцкі А. А. Тыпы і ўжыванне назваў рыбы ў адной гаворцы Палесся // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972. С. 204.

6 Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984. С. 161—162. Што тычыцца фіксацыі варыянта *кріга* ў Сенненскім раёне, то пад час экспедыцый, якія праводзяцца аддзелам дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі ў гэтым раёне з 1985 года, тут таксама былі адзначаны вёскі, дзе фіксуецца вымаўленне [р'].

вянская назва *клóмля (кóмля, клóмня, клóўля)* у тым жа значэнні, то, відаць, гэта звязана з умовамі рыбнай лоўлі ў палескім рэгіёне і немагчымасцю ўжывання тут іншай прылады. Тым больш, што ўжыванне гэтай лексемы мае падтрымку як у польскіх, так і ў паўночнаўкраінскіх гаворках [7]. Пасля супастаўлення храналогіі фіксацый найменняў *крыга* і *клóмля* ў старых пісьмовых помніках можна дапусціць, што пашырэнне ва ўжыванні апошняй адбылося пазней [8].

Агульнапашыранай з'яўляецца лексема *табýн* 'табун коней' (карта «Табун коней»), якая лічыцца запазычаннем з чагат., тат. tabun 'род', тур., крым.-тат. tabun 'стада, натоўп' (Фасмер, *4*, 7). Лексема паслядоўна фіксуецца амаль ва ўсіх гаворках Беларусі. Часам назіраецца яе паралельнае ўжыванне з найменнем *стáда*. У цэнтры Мінскай вобласці, а таксама ў гаворках заходняга Палесся адзначаецца даволі паслядоўнае, а часам і пераважнае ўжыванне наймення *чарадá* (аб ужыванні лексемы *табýн* у іншых значэннях гл. далей).

Да агульнапашыраных адносіцца і лексема *кіпцюры́* 'кіпцюры ў птушак' (карта «Кіпцюры ў птушак»). У розных фанетычных і словаўтваральных варыянтах гэтая лексема сустракаецца амаль ва ўсіх беларускіх народных гаворках. Выключэнне — гаворкі заходняга Палесся, дзе ў гэтым значэнні пануе толькі найменне *пазуры́ (пазурэ́, пазурí* і інш.). Паралельнае ўжыванне найменняў *пазуры́* і *кіпцюры́ (капцюры́)* занатавана і на захадзе Беларусі (Гродзенская вобласць). А на ўсходзе рэспублікі (Магілёўская і Гомельская вобласці) маем добра акрэслены арэал паралельнага ўжывання *кóхці/кíпці, кіпцюры́* ў тым жа значэнні. Пашырэнне лексем *пазуры́* з захаду і *кохці* з усходу як бы падкрэслівае дзве супрацьпастаўленыя лексічныя хвалі гэтых больш позніх запазычанняў (параўн. польск. pazur, чэш. pazour 'кіпцюр', Булыка, 234; рус. коготь, когти 'тж', СРНГ, *16*) на фоне агульнапашыранага *кíпці (кіпцюры́, капцюры́)*. Па паходжанні апошнія лічацца запазычаннем з балтыйскіх

---

[7] Аб гэтым падрабязней гл.: Sławski F. Słownik etymologiczny języka Polskiego. Kraków, 1956—1965. T. 2. S. 262—263.

[8] Так, паводле картатэкі аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі лексема *крыга (кріга)* адзначаецца на пачатку XVI ст. (Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссией. 1508. Т. XIII. С. 12), *клóмля (кóмля)* — у сярэдзіне XVII ст. (Там жа. 1646. Т. XXVIII. С. 264).

моў і параўноўваюцца з літ. kìbčius 'задзіра', kẽpčiotis 'задзірацца', а таксама kìbti 'чапляцца', kìbčius 'той, хто чапляецца' (ЭСБМ, *5*, 35; Лаучутэ, 114).

Найбольш пашыраным з'яўляецца варыянт *кіпці* з асіміляцыяй [b>p], які характэрны для гаворак поўначы Беларусі, сярэднебеларускіх гаворак і адзначаецца да ўсходняй мяжы Гомельскай вобласці. У Мінскім, Пухавіцкім, Чэрвеньскім раёнах адзначаецца варыянт *кéпці*, дзе [е], магчыма, старое (параўн. літ. kẽpčiotis)[9]. У Чэрыкаўскім раёне занатаваны варыянт *кыпці* як вынік дыпалаталізацыі. Кантамінацыя *кіпці+кóхці*, верагодна, з'явілася прычынай фанетычнага варыянта *кóпці* (Брагінскі раён). У Іўеўскім і Астравецкім раёнах выступаюць варыянты *кніпці, кныпці* (параўн. літ. knìbliai 'кіпці, пазногці' (СПЗБ, *2*)), якія таксама з'яўляюцца вынікам кантамінацыі з *кіпці*. Варыянт *кніпці* адзначаны таксама ў Смаргонскім, *кнэпці* — у Воранаўскім скім (СПЗБ, *2*), *кніпіць* — у Астравецкім раёне (Сцяшковіч, 1983).

Словаўтваральны варыянт *кіпцюры́*[10] менш пашыраны. Ён адзначаецца ў заходняй зоне на пагранiччы з гаворкамі заходняга Палесся, на поўдні рэспублікі, уздоўж усходняй граніцы, а таксама занатаваны паралельна з іншымі варыянтамі на поўначы Віцебскай вобласці. Выступае ў фанетычных варыянтах *кіпцюры́, кіпцюрэ́*, а таксама са спецыфічным для гаворак поўдня Беларусі вымаўленнем пярэднеязычнага [т] — *кіптюрі́*, (Пінскі), *кіптюры́* (Лельчыцкі раён).

Фіксуецца і варыянт *капцюры́*, які трывала замацаваўся ў межах заходняй дыялектнай зоны, на паўночным усходзе Віцебскай і поўначы Магілёўскай вобласці. Спарадычна адзначаецца ён і на самым поўдні Гомельскай вобласці (Лельчыцкі, Ельчыцкі, Хойніцкі, Рэчыцкі, Гомельскі раёны). Магчыма, гэта вынік кантамінацыі *кóхці+кіпці→кóпці* (гэты варыянт ужо адзначаўся), **кáпці* і адсюль→*капцю́р*[11]. Цікавымі з'яўляюцца лінгвагеа-

---

[9] Гл.: Гринавецкене Э. Й., Мацкевич Ю. Ф., Романович Е. М., Чеберук Е. И. Нерегулярные явления в фонетике, акцентуации и грамматике белорусских говоров западной зоны // Lietuvių arealinės lingvistikos klausimai. Vilnius, 1977. P. 89—90.

[10] Аб словаўтварэнні пры дапамозе суфікса *-ур/-юр* па тыпу *стоўб — стаўбур, стог — стагур* гл.: Сцяцко П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977. С. 174.

[11] Гэтай думкі прытрымліваюцца ўкладальнікі ЭСБМ (*4*, 258).

графічныя даныя, якія сведчаць аб пераважным паралельным ужыванні варыянтаў *кóхці//кіпці, кóхці//кіпцюры́,* натуральным для гаворак усходу рэспублікі. Далей (па прыблізным колькасным падліку) ідзе спалучэнне *кóхці//капцюры́* (у напрамку поўначы), дзе і дасягаецца канчатковая перавага ва ўжыванні варыянта *капцюры́,* прычым у многіх выпадках без паралельнага дубліравання іншымі. Аб даволі значным пашырэнні яго на захадзе рэспублікі ўжо гаварылася. І таму больш правамерна тлумачыць яго не кантамінацыяй, а, магчыма, цэлым комплексам прычын. Тут, безумоўна, меў месца ўплыў фанетычнай сістэмы беларускіх гаворак, бо варыянт з *ка-* пераважае ў межах пашырэння недысімілятыўнага акання. Гэты варыянт пашыраны таксама там, дзе на сямейства слоў з коранем *кіпц-* накладваецца лексема *пазуры́.* Таму верагодным з'яўляецца і пераход *кіпцюры́>капцюры́.* Дадаткова можна прывесці гняздо фанетычна падобных слоў у літоўскай мове — kapóti 'калоць, кляваць', kapstÿti 'разграбаць, разрываць', kapstýtis 'рыцца, капацца', якія маюць пэўныя семантычныя адносіны да значэння лексемы *капцюры́* і маглі таксама нейкім чынам паўплываць на афармленне пачатковага *ка-*.

У гаворках адзначаюцца і іншыя фанетычныя і акцэнталагічныя варыянты лексемы *капцюры́: къпцюры́, капцю́ры* (Гомельскі раён), *кыпцюры́* (Мсціслаўскі, Аршанскі, Магілёўскі раёны), *купцюры́* (Талачынскі, Лёзненскі, Шклоўскі, Клімавіцкі раёны), *капцюрí* (Ельчыцкі раён). У гаворках Гродзенскай, а таксама захаду Мінскай вобласці занатаваны натуральны для іх варыянт з канчаткам *-э: капцюрэ́* (Гродзенскі, Бераставіцкі, Зэльвенскі, Ваўкавыскі, Навагрудскі, Дзятлаўскі, Стаўбцоўскі, Карэліцкі, Нясвіжскі раёны) [12]. Варыянты з пераходам [ц>дз'] — у Лагойскім *(капдзюры́),* Уздзенскім і Асіповіцкім раёнах *(кабдзюры́)*, а таксама з азванчэннем пачатковага *к-* у Вілейскім раёне *(габдзюры́)*.

У той ці іншай ступені ўсім беларускім народным гаворкам вядома лексема *шрам* 'шрам на скуры жывёліны' (карта «Шрам на скуры жывёліны»). Па паходжанні суадносіцца з польск. szram, ням. Schramme (Булыка, 369). Пераважае яна на поўначы і ўсходзе рэспублікі. На захадзе ўжыванне яе менш паслядоўнае: у

[12] Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964. С. 175—176.

заходнеславянскіх гаворках у тым жа значэнні адзначаецца найменне *паз,* а на тэрыторыі Гродзенскай і захадзе Мінскай вобласці лексема *шрам* ужываецца больш спарадычна. Тут паралельна з сямействам слоў, што задаецца коранем *паз-*, выступае найменне *шнар,* якое, магчыма, з'яўляецца кантамінацыяй *шрам+шнур* 'тж'.

Паўночна-заходняя дыялектная зона інтэнсіўных кантактаў беларускай мовы з балтыйскімі і іншымі мовамі з'яўляецца натуральна даволі насычанай рознымі іншамоўнымі запазычаннямі. Па сваім пашырэнні ў межах дыялектнай зоны лексічныя рэгіяналізмы ў найменнях жывёльнага свету неаднастайныя. Класіфікаваць іх з гэтага боку даволі цяжка. Частка запазычанняў супадае з устаноўленай умоўнай мяжой паўночна-заходняй дыялектнай зоны, але пераважная большасць падобных рэгіяналізмаў характарызуецца тым ці іншым абмежаваным пашырэннем (па ахопе гаворак зоны, па ступені ўжывальнасці і інш.) (гл. карту ізаглос № 1).

У межах вызначанай зоны, за выключэннем яе паўночнай часткі, на сумежжы з Літвой у значэнні 'авадзень' выступае лексема *гіль.* Па сваім паходжанні *гіль* 'конскі авадзень' звязана з літ. gylỹs 'авадзень' (ЭСБМ, *3*, 84), а таксама з gélti 'жаліць' (Лаўчутэ, 44). Занатаваная ў Шчучынскім, Воранаўскім, Іўеўскім, Ашмянскім, Маладзечанскім, Астравецкім, Пастаўскім раёнах лексема *гіль* супрацьпастаўляецца агульнавядомай у астатніх гаворках лексеме *авадзе́нь (вадзе́нь, ава́д, о́вад* і інш.). Дадаткова лексема *гіль* адзначана ў Гродзенскім, Мастоўскім, Навагрудскім, Стаўбцоўскім, Валожынскім, Смаргонскім, Лагойскім раёнах (карта «Што абазначае слова гіль»). У гэтых межах лексема *гіль* адзначаецца і ў значэнні 'здрок' і супрацьпастаўляецца лексемам *авадзе́нь* і *здрок.* Дарэчы, звычайна істотнай розніцы паміж самімі насякомымі *авадзень* (Oestridae Hypodermatinae) і *здрок* інфарматары не адзначаюць. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы дае значэнне 'авадзень' для лексемы *здрок* з паметай *абл.* (*2,* 465).

У гэтых жа межах занатаваны і дзеяслоў *гілю́юць,* які можна таксама лічыць паўночна-заходнім рэгіяналізмам. Ён утвораны ад асновы *гіль* па агульнапрынятай і дзейснай мадэлі (параўн. *гізу́юць, здраку́юць, зыкаюць, страку́юць* і г. д.).

Такім жа добра акрэсленым пашырэннем у межах гэтай зоны характарызуецца і лексема *ламбу́к* 'цвёрдая

частка пяра’. Па паходжанні яна лічыцца таксама балтызмам: параўн. літ. lámbas, lam̃bas ’сакавітая гародніна, трава і лісце са сцябламі’, ’пер’е цыбулі’, ’націна з буракоў’, ’стрыжань птушынага пяра’ (ЭСБМ, *5*, 220). Пераважае акцэнтны варыянт *ламбу́к*. Хутчэй за ўсё гэта натуральнае для беларускіх гаворак утварэнне з *-ук* (па тыпу наймення *цыбу́к*, якое, дарэчы, мяжуе з *ламбу́к*). У тым жа значэнні ў пазначаным арэале на мяжы Гродзеншчыны з Літвой і Польшчай (Ваўкавыскі, Слонімскі, Іўеўскі, Гродзенскі раёны) выступае і варыянт *ломб* ’тж’ з пераходам *а*>*о*. Асаблівасць гэтая адзначаецца як агульная для гаворак беларускай і літоўскай моў у гэтай зоне[13].

Паводле звестак ДАБМ (карта № 282), у значэнні ’сцябло і лісце буракоў’ лексема *ламбякі́, лашбякі́* адзначана ў Воранаўскім (былым Радунскім) раёне. СПЗБ фіксуе варыянты *ламбу́к, лымбу́к, ламбя́к, лэмп, ломб, ломп* і ў множным ліку *ламбукі́, ламбуке́, лымбукі́, ламбякі́, ла́мбы, ламбэ́, лэ́мбы* ’сцябло’, ’ліст бурака са сцяблом’, ’кветканоснае сцябло цыбулі’, ’стрыжань птушынага пяра’ ў Гродзенскай вобласці і суадносіць іх таксама з літ. lam̃bas ’сцябло’ (*2*, 615).

Паўночна-заходняй занальнай лакалізацыяй характарызуецца лексема *бака́с* ’бакас’, якая супрацьпастаўляецца найменням *бара́н, бара́нчык* (на ўсходзе і поўначы рэспублікі), *пе́кур* (на паўднёвым усходзе), *бэ́кач, пэ́кач* (у цэнтральным і заходнім Палессі) і інш. Першакрыніцай лексемы *бака́с* лічыцца франц. *bécasse* (ад bec ’дзюба’). Форма *бака́с* адлюстроўвае польскае пасрэдніцтва (ЭСБМ, *1*, 283). Пашырэнне гэтай лексемы назіраецца ў межах зоны, але на яе поўначы ўжыванне менш паслядоўнае. Асноўны і пераважаючы варыянт *бака́с,* які фіксуецца і на перыферыі зоны — у Ляхавіцкім, Ваўкавыскім, Клецкім, Капыльскім, Глускім, Крычаўскім, Чэрвеньскім, Смалявіцкім раёнах. Адзначаны таксама варыянты *бека́с* (Івацэвіцкі, Салігорскі, Барысаўскі раёны), *біка́с* (Шумілінскі, Віцебскі, Талачынскі раёны), дзе [і] натуральнае ў гэтых гаворках, *бука́с* (як вынік агублення) — у Кіраўскім і *бэка́с* — у Клімавіцкім

---

[13] Падрабязней гл.: Гринавецкене Э. Й., Мацкевич Ю. Ф., Романович Е. М., Чеберук Е. И. Нерегулярные явления в фонетике, акцентуации, грамматике белорусских говоров западной зоны // Lietuvių arealinės lingvistikos klausimai. P. 90.

раёнах. Акцэнталагічны варыянт *бэкас* як вынік польскага ўплыву адзначаецца ў Бярозаўскім, Камянецкім, Гродзенскім раёнах з працягам на тэрыторыі Украіны [14].

У прымыкаючых да Літвы раёнах у межах дыялектнай зоны адзначаецца лексема *шпа́ра* 'ракавіна капыта'. Па паходжанні ўзыходзіць да польск. szpar, szpara 'шчыліна' (Брукнэр, 552). Лексема *шпа́ра* адсутнічае на поўначы зоны, дзе, як і ў астатніх гаворках, пераважаюць найменні *ра́кавіна, ра́твіца, міжра́каціца* і інш. Адзінкавае ўтварэнне лексемы *шпа́ра* фіксуецца ў Камянецкім раёне. У тым жа значэнні, але ў форме множнага ліку, а таксама з паметай *перан.* 'прамежак між пальцамі' лексема *шпа́ры* адзначаецца ў Іўеўскім, Мастоўскім, Воранаўскім, Астравецкім, Навагрудскім, Гарадзецкім раёнах (СПЗБ, *5*).

На поўначы заходняй дыялектнай зоны на сумежжы з Літвой атрымала пашырэнне і лексема *яжгу́р,* якая ўжываецца для наймення ярша. Паходжанне яе звязана з літ. ãčgaras, ãdžgaras, judzgoris 'тж' (ЭСБМ, *1*, 95). Пашырэнне варыянтаў гэтай лексемы ў зоне абмежаванае: яны займаюць даволі суцэльны і кампактны востраў у паўночнай частцы зоны і часткова суседніх з ім раёнах Віцебскай вобласці. Супрацьпастаўляюцца агульнапашыраным у астатніх гаворках Беларусі найменням *ёрш, ерш* і інш.

Выступае лексема пераважна ў варыянце з пачатковым [ja]: *яжгу́р* (Смаргонскі, Мядзельскі, Пастаўскі, Браслаўскі, Вілейскі, Глыбоцкі, Полацкі раёны), *іжгу́р* (Чашніцкі) і ў блізкіх да яго па саваёй аснове — *яджгу́р* (Ушацкі), *яжту́р* (Пастаўскі), *яжга́р* (Шчучынскі раён). Пераважнае ўжыванне лексем з пачатковым [ja] тлумачыцца ўплывам польскай мовы (параўн. польск. jażdż, jazgarz 'тж') або тым, што ў літоўскіх гаворках [j] амаль заўсёды папярэднічае пачатковаму галоснаму. Варынты *яжгу́р, яжґу́р, ячгу́р* 'ёрш' фіксуюцца ў Глыбоцкім, Мядзельскім, Браслаўскім, Пастаўскім, Смаргонскім раёнах (СПЗБ, *5*). З пачатковым [a] занатаваны варыянты *ажгу́р* (Пастаўскі) і *аджгі́р* (Уздзенскі раён). Варыянт *ужгу́р* з пераходам [a>y] мае месца ў Астравецкім раёне, а ў Ваўкавыскім раёне адзначаны

---

[14] Аб варыянтах і пашырэнні лексемы ў гаворках украінскага Палесся гл.: Никончук Н. В. Полесские названия птиц // Лексика Полесья. М., 1968. С. 441.

натуральны для гаворак данай зоны варыянт *жгір* з адпадзеннем пачатковага галоснага.

На перыферыі арэала гэтых назваў адзначаны лексемы *іжджа́, яжджэ́й* (Крупскі раён).

Вынікам кантамінацыі назваў *ёрш, ёршык* з назвамі *эжгір, джгір* і падобнымі да іх з'яўляецца палескае *жэ́ршык* у тым жа значэнні (Драгічынскі) і *ершу́н* (Лельчыцкі раён).

У адзначанай дыялектнай зоне паўночную частку, адкрытую ў бок сумежных рэспублік Літвы і Латвіі, займае літуанізм *вягал* 'мянтуз'. Па паходжанні лічыцца запазычаннем з літ. *vėgėlė̃* 'мянтуз' (параўн. латыш. vēdzele 'тж', ЭСБМ, *2*, 298). Адзначаны варыянты *вя́гал, вя́гул, вя́гіл, вя́гъл, вя́ґъло, вя́гала* ў Пастаўскім, Шаркаўшчынскім, Полацкім раёнах [15]. Супрацьпастаўляецца пануючым у гаворках Беларусі найменням *мянёк* (у цэнтральнай частцы, усходнім і цэнтральным Палессі), *мянту́з, мінту́з* (на поўначы і ўсходзе Віцебшчыны). На родавае афармленне варыянтаў *вя́гала, вя́гъла,* магчыма, паўплывала ўжыванне назвы *кале́ка* ў тым жа значэнні, арэал распаўсюджання якой прымыкае да паўночнай часткі зоны. Літоўскае вузкае [е (ė)], не ўстойлівае ў фанетычных адносінах і ў ненаціскным становішчы, уключаецца ў сістэму акання-якання (параўн. бел. *вярпята́* 'віхор, завея' — літ. verpẽtas, дыял. verpeta 'тж', бел. *скрядзі́* 'кусок мяса жывёліны, сапсаванага пры закланні' — літ. skersti 'калоць, біць, рэзаць', бел. *панці́на* 'костка ў ніжняй частцы нагі каня ля капыта' — літ. pentìnas 'шпора').

У межах паўночна-заходняй дыялектнай зоны адзначаецца лексема *буч, бу́ча* 'верша, венцер' (карты «Рыбалоўная прылада буч, буча», «Венцер»). Большасцю даследчыкаў лічыцца літуанізмам (літ. bùčias, bùčius 'тж', уласна літ. форма bukìs 'род рыбацкай сеткі', ЭСБМ, *1*, 428). Пераважаючым варыянтам з'яўляецца лексема *буч*, а варыянт жаночага роду *бу́ча* занатаваны ў Бераставіцкім, Зэльвенскім, Мастоўскім, Гродзенскім, Шчу-

---

[15] Формы *вягало, вягела* былі занатаваны ў тым жа значэнні ў Браслаўскім і Мёрскім раёнах. Б. Лаўманэ адзначае, што ў некаторых мясцовасцях *вя́гело* толькі 'вялікі мянтуз' (вёска Краснагорка Браслаўскага раёна), а таксама можа ўжывацца ў пераносным сэнсе ў пеяратыўным значэнні 'нязграбны чалавек' (вёска Дрывяты) (Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мн., 1969. С. 16).

чынскім, Вілейскім і Расонскім раёнах. Ужыванне варыянтаў у зоне паслядоўнае, адзінкавая фіксацыя за яе межамі — *бýча* ў Аршанскім раёне.

Да паўночна-заходніх рэгіяналізмаў, праўда, не вельмі пашыраных, можна аднесці і лексему *гéглі* ’рыбалоўная крыга’, якая паходзіць ад літ. gíglinis, gegnes ’рыбалоўная снасць’ (ЭСБМ, *3*, 67). Выступае ў формах *гéглі* (Браслаўскі, Астравецкі раёны) і *гéгні* (Мядзельскі раён). Варыянт *гéгні* ў тым жа значэнні адзначаецца таксама ў Гродзенскім, Пастаўскім, Браслаўскім, Вілейскім раёнах і Тракайскім раёне Літвы (СПЗБ, *1*, 439—440) [16]. Супрацьпастаўляецца пашыраным у астатніх гаворках лексемам *крыга, кломля* і інш.

На поўначы зоны ў значэнні ’рубцы на рагах’ адзначана лексема *шрам.* Па паходжанні звязана з польск. szramowaty ’рубцаваты’ ад szram, ням. Schramme (Булыка, 369). Фіксуецца ў Пастаўскім, Шаркаўшчынскім, Расонскім, Мядзельскім раёнах, а таксама на перыферыі зоны — у Сенненскім, Чашніцкім раёнах. У Зэльвенскім раёне ў тым жа значэнні адзначаецца яшчэ адна іншамоўная лексема — *шнур* (польск. sznur, с.-в.-ням. snour, Булыка, 367). Кантамінацыя двух каранёў *шрам* і *шнур* дала ўтварэнне *шнар* ’тж’, адзначанае ў межах зоны ў Слонімскім і Карэліцкім раёнах.

Цікавай з’яўляецца і лексема *швáнка* ’тж’, адзначаная ў Ваўкавыскім, Воранаўскім, Іўеўскім раёнах. Па паходжанні гэта германізм (польск. szwank, ням. Schwank, Булыка, 361). Калі прааналізаваць значэнні польск. szwank, ням. Schwankung ’няўпэўненасць, зменлівасць, крыўда, страта, шкода, пашкоджанне’ (SWO, 376), а таксама польск. szwank ’хістанне’, ’цялесныя пакалечанні’, ’брак, памылка, прамашка’ [17], то бел. *швáнка* ’рубцы на рагах’ мае семантычнае звужэнне і пэўную тэрміналагізацыю.

У межах адзначанай зоны фіксуецца шэраг запазычанняў, якім уласціва перыферыйнае пашырэнне. Так, у

---

[16] Лексема *гéгні* адзначаецца даследчыкамі ў гэтай жа зоне і ў значэнні ’драўляная рама, частка бродня’, ’рэзгіны’, ’жалезныя шпяні ў плузе’, а таксама ў пераратыўным значэнні: ’рукі, ногі як гегні’ (СПЗБ, *1*, 439—440); Арашонкава А. У. і інш. // БЛ № 3. С. 29; Лауманс Ю. Терминология обработки дерева // LT. Vilnius. 1975. XVI. С. 156; Гринавецкене Э. і інш. // Там жа. С. 172.

[17] Podrecsny słownik dawnej Polszcyzny. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968. S. 489.

значэнні 'гайнююць (пра ваўкоў)' ужываецца дзеяслоў *гандлююць*, які па паходжанні, магчыма, звязаны з польск. handel 'гандаль'<ням. Handel 'тж'. З ням. handeln 'гандляваць' запазычана польск. handlować, адкуль яно трапіла ў беларускую мову (ЭСБМ, *3*, 47). У асноўным сваім значэнні гэты дзеяслоў вядомы паўсюдна. У значэнні 'гайнаваць' ён адзначаны ў Навагрудскім, Карэліцкім, Стаўбцоўскім, Нясвіжскім, Клецкім раёнах на фоне пашыранага ў гаворках *гайнава́ць*. У гэтых жа раёнах ён адзначаны і збіральнікамі СПЗБ (*1*, 418). У Ляхавіцкім раёне (СПЗБ, *1*, 418) ён падаецца ў значэнні 'распуснічаць' (параўн. таксама польск. handlować 'жыць з палюбоўніцай', Варш. сл., *2*, 13), што, магчыма, мела пэўны ўплыў на ўжыванне лексемы *гандлява́ць* у значэнні 'гайнаваць' у адзначаных беларускіх гаворках. У гэтым жа арэале занатаваны назоўнік жаночага роду *гандля́* 'зграя ваўкоў', утвораны па аналогіі з *гайня́, вясе́лля, ры́скаўня* 'тж'. Па-за межамі зоны дзеяслоў *гандлява́ць* 'гайнаваць' фіксуецца ў Шумілінскім і Краснапольскім раёнах.

Часам запазычанні, якія вылучаюцца сваім перыферыйным пашырэннем, выходзяць за межы зоны. Так, на перыферыі паўночна-заходняй дыялектнай зоны адзначаецца лексема *во́гер* 'непакладаны конь'. Па паходжанні звязваецца з тур. ajkir, öjgür 'тж' (ЭСБМ, *2*, 178). Лексема фіксуецца на захадзе зоны, а таксама ў яе паўднёва-ўсходняй частцы, выходзячы часам за яе межы. Выступае яна на фоне пашыранага таксама ў гэтым арэале найменне *жарабе́ц*, а ў Ганцавіцкім, Лунінецкім, Салігорскім і Жыткавіцкім раёнах — паралельна з ім. Адзначаюцца таксама варыянты *во́ґер, во́ґір, во́ґар*. У Бярозаўскім, Ганцавіцкім і Салігорскім раёнах занатаваны варыянты з адпадзеннем пачатковага зычнага: *о́ґер, о́ґэр*, а ў Драгічынскім раёне — варыянт *го́ґэр*.

Лексема voger, oger 'тж' пашырана ў беларускіх гаворках Беласточчыны, дзе яна вельмі часта суіснуе з лексемай zarabec[18]. Яна ж вядома і польскай мове: ogier, ogiera 'самец, конь непакладаны, стаднік' (Варш. сл., *3*). Хутчэй за ўсё польская мова і з'явілася пасрэдніцай пры засваенні гэтай лексемы. Картатэка Гістарычнага слоўніка беларускай мовы не мае звестак аб яе

---

[18] Atlas gwar wschodniosłowianskich Białostocczyzny. T. III, карта II (рукапіс захоўваецца ў ПАН).

ўжыванні ў старой пісьмовай беларускай мове. Наяўнасць яе ў слоўніку Насовіча (а таксама слоўніку рускіх гаворак Даля ў акцэнталагічным варыянце *огéр* (*1*, 642), у слоўніку ўкраінскай мовы (Грынчанка, *4*, 34) сведчыць, відаць, аб больш познім пранікненні гэтага запазычання ў дыялектную мову.

Такое ж перыферыйнае пашырэнне ў зоне мае і лексема *зацінлівы* 'наравісты'. Асновай яе з'яўляецца літ. tingús 'гультаяваты', дыял. літ. cing-ùs 'тж' (ЭСБМ, *3*, 310). У Слонімскім раёне адзначаны варыянт *зацíндлівы*. Як вядома, *-дл-* можа пераходзіць у *-гл-*: *зацíнґлівы* (Ляхавіцкі раён)[19]. Гэты ж варыянт адзначаецца ў Дзятлаўскім і Мастоўскім раёнах (СПЗБ, *2*). Ужыванне варыянтаў *зацíнлівы, зацíньлівы* (Валожынскі, Зэльвенскі, Слонімскі, Нясвіжскі раёны) тлумачыцца, магчыма, тэндэнцыяй да спрашчэння і заменай *дл*>*л*. З каранёвым *-е-* ў Пружанскім раёне адзначаны варыянт *зацéнлівы*. У Дзятлаўскім раёне — *зацéнґліваты*. У тым жа рэгіёне сустракаюцца і варыянты *зацёнглівы* (Столінскі раён), *зацёнлівы* (Лунінецкі раён). Варыянты без фрыкатыўнага элемента *заты́нлівый, затынáстый* фіксуюцца і ў Пінскім раёне.

За межамі зоны лексема фіксуецца спарадычна: *затóнлывъ(ы)й* (Гарадзецкі) і *зацíністый* (Касцюковіцкі раён). Ужыванне ўсіх гэтых варыянтаў адзначаецца на фоне пашырэння ў гэтым значэнні ў гаворках Беларусі лексем *наравíсты, нараўлíвы, натýрысты, натýрлівы* і інш.

У паўночна-заходняй дыялектнай зоне зафіксаваны таксама шэраг запазычаных найменняў, якія адзначаюцца ў адным або двух-трох населеных пунктах. Гэта значыць, што ў той ці іншай ступені яны з'яўляюцца рэгіянальнымі экзатызмамі[20].

Так, лексема *кундзю́к* 'страўнік у птушак', першакрыніцай якой лічыцца тур. kindik 'пуп' (ЭСБМ, *5*, 34), фіксуецца толькі ў Воранаўскім і Дзятлаўскім раёнах на

---

[19] Падрабязней аб паходжанні і ўжыванні суфікса *-дл-* у беларускіх народных гаворках гл.: Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968. С. 226—227; Арашонкава А. У. Аб так званых паланізмах у беларускай мове (суфіксы *-дл-* і *-ск-*) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1963. № 2.

[20] Алинеи М. Лингвистический атлас Европы: принцип создания, проблемы, перспективы // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. М., 1989. С. 79.

фоне агульнавядомага наймення *пуп/пупо́к*. Геаграфія ж гэтай лексемы, але ў значэнні 'страўнік у жывёлы', 'начынены мясам свіны страўнік', 'вантробы', 'хто нізкага росту' значна шырэйшая і мае заходнюю лакалізацыю (гл. далей).

У Воранаўскім, Іўеўскім раёнах у значэнні 'бязрогая карова' занатавана лексема *бу́кса*, якая таксама з'яўляецца рэгіянальным экзатызмам. Яе ўжыванне адзначана на фоне пашыраных тут найменняў *бязро́гая, лаба́тая*. Дасканалага тлумачэння паходжання гэтай лексемы няма, але хутчэй за ўсё яна звязана з літ. buksà (LT, 169; ЭСБМ, *1*, 406). У літоўскай мове ёсць гняздо аднакарэнных лексем: buksà 'бязрогая карова, чалавек без пальцаў', bùkti 'тупець, прытупляцца, затупляцца', bùkas 'тупы' (LKŽ, *1*, 1143—1145), а таксама bùkšas *(разм.)* 'бязрогі, камолы' (LKŽ, Ліберыс).

У значэнні 'чарга, радоўка' ў Шчучынскім, Дзятлаўскім, Іўеўскім і Вілейскім раёнах адзначаецца лексема *ра́та,* запазычанне або з польскай, або з нямецкай мовы. Агульнагерманская лексема rat мела значэнне 'турбота, клопат аб адзенні, харчаванні', 'патрэба ў харчаванні, адзенні', 'усё тое, што характарызуе жыццёвы ўзровень'. Адсюль развілося значэнне 'карысць, якую можна атрымаць ад назапашвання, забеспячэння ўсім неабходным з аплатай у будучым' (Грым., 14).

У сучаснай нямецкай мове Rate 'частка, доля, частковая аплата', in Raten zahlen 'плаціць у растэрміноўку' (НРС, *2*); польск. rata 'частковая плата', лац. rata pars 'дамоўленая частка' (Бруκнэр, 454; Кюнэ, 92), 'частка грашовага доўга, які трэба выплаціць у адзначаны тэрмін' (Дарашэўскі, 7, 28; SWO, 627; Варш. сл., *5*, 479)[21].

Магчыма, у гаворках паўночна-заходняй зоны мы маем вынік звужэння семантычнага значэння слова і перанос гэтага значэння на частку агульнага абавязку, якім з'яўляецца пасьба жывёлы. Значэнне 'дамоўленая частка', відаць, і легла ў аснову значэння лексемы *ра́та* 'чарга, чарговая павіннасць'. Акрамя таго, пастуху, якога наймалі, выплачвалі або адзеннем, або харчаваннем.

Слоўнікі фіксуюць ужыванне гэтай лексемы ў тым жа

---

[21] У значэнні 'купляць, плаціць у растэрміноўку' лексема ўваходзіць у словазлучэнні *плаціць ратамі, сплаціць раты, купляць на раты, браць на раты, у ратах,* якія фіксуюцца ў слоўніках польскай мовы. У гэтым значэнні лексема вядома і ў гаворках Беларусі (СПЗБ, *4*).

значэнні ў Жыткавіцкім (ТС, *4*), Ашмянскім (МСММГ, 1974), Маладзечанскім (МС, 105) раёнах.

Адзінкавым ужываннем характарызуецца лексема *ґілóнь* 'джала ў пчалы', звязаная па паходжанні з літ. geluonìs, дыял. gyluonìs, gylũonys 'тж' (Лаўчутэ, 64). Адзначана яна ў Воранаўскім раёне і з'яўляецца хутчэй за ўсё спрошчанай літоўскай формай са звужаным карнявым дыфтонгам (параўн. таксама літ. gẽibti — бел. *гэ́бнуць*, літ. akúotas — бел. *акóта*).

У значэнні 'логава ваўка' ў Глыбоцкім раёне адзначаецца семантычны ізалят *лаўжó* (на фоне агульнапашыраных лексем *лóгава, гняздó* і інш.). Лексема генетычна звязваецца з літ. láužas 'агонь, касцёр', 'лом', 'куча галля', láužti 'ламаць' (Лаўчутэ, 39) [22].

Адметная рыса заходняй дыялектнай зоны — выразнае тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне яе ў адносінах да запазычанняў усходняй зоны. Так, прыстасаванне для навязвання жывёлы абазначаецца тут лексемай *ланцýг*. Па паходжанні яна звязана з ням. lann-zug (Кюнэ, 73) [23]. Гэтая лексема супрацьпастаўляецца найменню *цэп, цэ́пка* ў тым жа значэнні, якое пашырана ва ўсходняй дыялектнай зоне Беларусі. Праўда, у паасобных пунктах на сумежжы гэтыя дзве лексемы *ланцýг* і *цэп* ужываюцца паралельна. Паўсямеснае паралельнае ўжыванне лексем назіраецца і ў заходнепалескіх гаворках. Аднак назва *цэп* тут адносна новая.

Лексема *ланцýг* выступае пераважна ў варыянтах *ланцýг, ланцýх,* а таксама *ламцýх* (Слонімскі раён). Спецыфічнымі па сваёй фанетычнай структуры з'яўляюцца варыянты *лыньцю́г, ланцю́г, лінцю́г,* характэрныя для заходнепалескіх гаворак.

Заходняй лакалізацыяй характарызуецца і лексема

---

[22] Агляд ужывання лексемы *лаўжó* ў гэтым значэнні і яе амонімаў, іх паходжання, развіцця семантыкі гл.: ЭСБМ, *5,* 257. Аб лінгвагеаграфіі лексемы *лоўж* 'куча сухога галля' гл.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене А. І., Мацкевіч Ю. Ф. і інш. Лексіка балтыйскага паходжання ў беларускіх гаворках // БЛ. 1973. Вып. 3. С. 30, а таксама: Непокупный А. П. Балто-северославянские языковые связи. Киев, 1976. С. 187—194.

[23] Параўн. таксама польск. łancuch, lencuch, с.-в.-ням. lanne 'тж' // Галай О. М. Бытавая лексіка нямецкага паходжання ў старабеларускай мове: Аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук. Мн., 1976. С. 85.

*кіндзю́к* 'страўнік у свінні'. Праўда, на поўначы зоны яе ўжыванне абмежаванае, тут пераважае назва *трыбу́х*. Па паходжанні лексема *кіндзю́к* звязваецца з тур. kindik 'пуп' (ЭСБМ, *5*, 34). Лексема мае розныя мясцовыя адрозненні ў сваёй гукавой форме. Форма *кіндзю́к* з'яўляецца найбольш пашыранай у межах зоны, форма з канцавым [х] — *кіндзю́х* адзначана ў Нясвіжскім, Клецкім, Лунінецкім раёнах, *кундзю́к* — у Шчучынскім, Дзятлаўскім, Воранаўскім, Навагрудскім раёнах, *кэндзю́х* — у Бярозаўскім, Іванаўскім, Драгічынскім раёнах. Маюць месца таксама формы з адрозненнем у складзе гукаў і ў націску: *кэ́ндзюх* — у Драгічынскім, *кэлэ́ндзюх* — у Кобрынскім, *клундзю́к* — у Мёрскім раёне.

Спарадычна лексема *кіндзю́к* фіксуецца за межамі заходняй дыялектнай зоны — у Сенненскім, Лёзненскім і Аршанскім раёнах.

Заходняй лакалізацыяй характарызуецца і лексема *ве́нцер*, якая абазначае невялікую стаўную лаўшку з сеткі або лазы з вузкім уваходам без крыл. Большасць даследчыкаў лічаць яе запазычаннем з літ. vénteris 'венцер з івавага пруцця' (ЭСБМ, *2*, 83) [24]. Пашырэнне гэтай лексемы ў межах зоны таксама не зусім паслядоўнае: на мяжы з Літвой вузкай паласой адзначаецца замест яе лексема *буч* у тым жа значэнні. А на поўначы зоны пераважае лексема *не́рат (но́рат, нарато́к)*, якая з'яўляецца характэрнай для гаворак усходняй дыялектнай зоны. У гаворках заходняй дыялектнай зоны лексема *ве́нцер* выступае ў фанетычных варыянтах *ве́нцер, ве́нцяр, ве́нцір*, а ў Камянецкім, Бярозаўскім, Іванаўскім раёнах — з мяккім [т']: *ве́нтер*, характэрным для гэтага дыялектнага вымаўлення. У Кобрынскім раёне адзначаецца фанетычны варыянт *я́тер*. Варыянт *ві́нцір* занатаваны ў Астравецкім і Браслаўскім раёнах. Спарадычна лексема выступае і за межамі зоны: *ве́нцер* — у Бярэзінскім, Светлагорскім, Калінкавіцкім, Хойніцкім раёнах, *ве́нцір* — у Талачынскім і Дубровенскім раёнах.

Своеасаблівым пашырэннем вылучаецца ў адзначанай дыялектнай зоне лексема *асны́, аксны́* 'адросткі пер'яў'. Па сваім паходжанні супастаўляецца з літ.

---

[24] Да гэтай думкі схіляўся яшчэ Карскі Я. Ф. (К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие // Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 394—395); гл. таксама Лаўчутэ, 10.

akstìs, ãkstinas 'шып, асцюк' (ЭСБМ, *1*, 103) і akstinaĩ 'пянькі пер'яў» (LT, 164). У межах зоны пашырэнне гэтай лексемы абмежавана лініяй Паставы—Валожын—Дзятлава—Івацэвічы—Лунінец—Петрыкаў—Хойнікі. Яна адзначаецца даволі шырокай і акрэсленай паласой уздоўж мяжы з Літвой, Польшчай і Украінай. Цэнтральныя гаворкі, якія ўваходзяць у склад заходняй дыялектнай зоны, аддаюць перавагу лексемам *пенчукі, стрэ́лкі, дýдкі,* а лексемы *пішчы́* і *пні* пераважаюць на поўначы зоны. Вылучаюцца таксама Камянецкі, Брэсцкі, Маларыцкі, Кобрынскі і Драгічынскі раёны, дзе пераважаюць *дýдкі, шпяні.* Для ўсходу Беларусі характэрнымі з'яўляюцца найменні *пні,* а таксама *асцéнцы, касцéнцы* (Магілёўская вобласць, усход Гомельскай вобласці), *шпяні* (поўнач Гомельскай вобласці) і інш. Уздоўж літоўскага пагранічча (Пастаўскі, Астравецкі, Ашмянскі, Іўеўскі, Смаргонскі раёны) выступае больш блізкі па сваім фанетычным гучанні да літоўскага этымона варыянт лексемы *аксны́ (акснэ́)* (Шчучынскі раён). Пераважае, праўда, тут варыянт *асны́ (аснэ́).*

Такая ж лакалізацыя, іменна пашырэнне ўздоўж граніц з Літвой, Польшчай, Украінай, у межах зоны характарызуе і лексему *вангóр* 'вугор'. Яна адзначаецца прыблізна да лініі Астравец—Вілейка—Іўе—Ваўкавыск—Камянецк—Пінск. Лексема *вянгóр* лічыцца адаптацыяй польск. węgorz 'вугор' (ЭСБМ, *2*, 50) і супрацьпастаўляецца найменням *вугóр, вýгар, вугóрыч,* характэрным для астатняй тэрыторыі. Пашыраны варыянт *вангéр.* У Лідскім раёне адзначаецца варыянт *ангóр* з адпадзеннем пачатковага [в]. У Драгічынскім раёне (в. Радастава) занатаваны варыянт *ве$^{а}$нгóр,* а ў Кобрынскім (в. Нізкавічы) — *вы$^{э}$нгóр.* Трансфармацыяй польскамоўнай назвы з'яўляюцца заходнепалескія *вэ́нгар, вэ́нгор, вэ́нгер,* а таксама *вэ́нгош* (Ваўкавыскі раён).

У межах арэала адзначаны і варыянт *вангóр* (Пастаўскі, Навагрудскі, Смаргонскі, Іўеўскі, Ваўкавыскі раёны), а таксама Швянчонскі і Шальчынінскі раёны Літвы (СПЗБ, *1*).

Пашырэнне лексемы *крук* 'крумкач' у межах заходняй дыялектнай зоны хутчэй за ўсё ўказвае на літоўскамоўнае паходжанне гэтага наймення ў беларускіх гаворках. Суадносіцца з літ. kraukl̃ys 'варона', kriaukl̃ys 'крук', лат. kraûklis 'тж' (ЭСБМ, *5*, 122). Пашырэнне гэтай лек-

семы ў межах заходняй дыялектнай зоны акрэсліваецца лініяй Смаргонь—Наваградак—Шчучын—Столін—Бяроза—Жыткавічы. Адзначаная лексема *крук* супрацьпастаўляецца лексеме *крумка́ч* у тым жа значэнні, вядомай амаль усім астатнім гаворкам. Лексема *крук* занатавана таксама і ў прылягаючых да зоны Шумілінскім, Чашніцкім, Талачынскім, Лёзненскім раёнах. Адзначана яна і ў гаворках Расіі — на захадзе і поўдні (СРНГ, *15*). У Мядзельскім раёне адзначаны варыянт *ґрук*. Лексема kruk 'тж' вядома і амаль усім польскім дыялектам [25]. Таму, магчыма, для гаворак заходняга і часткі цэнтральнага Палесся верагодным з'яўляецца ўплыў польскай мовы.

Да ліку спарадычных заходніх занальных лексем можна аднесці лексему *табу́н* у значэнні 'чарада птушак' і 'стая ваўкоў'. Па паходжанні лічыцца запазычаннем з чагат., тат. tabun 'род', тур., крым.-тат. tabun 'стада, натоўп' (Фасмер, IV, 7). У значэнні 'чарада птушак' гэтая лексема адзначаецца ў Астравецкім, Маларыцкім, Драгічынскім раёнах на фоне агульнапашыраных *ста́да, ста́я,* а таксама *чарада́* ў тым жа значэнні. У значэнні 'зграя ваўкоў' лексема адзначаецца ў Валожынскім, Маларыцкім, Драгічынскім раёнах на фоне пашыраных *ста́да, гайня́, гандля́,* а таксама палескага *це́ка* і ўсходняга *сва́дзьба.*

Такім жа спарадычным ужываннем у межах заходняй зоны характарызуецца і лексема *ку́кса* ў значэнні 'бязрогая карова'. Адзначаецца яна ў Навагрудскім, Камянецкім і Кобрынскім раёнах, а таксама ў асобных вёсках Нясвіжскага і Лідскага раёнаў (СПЗБ, *2*). Утварэнне ў форме прыметніка *кукса́тая* 'бязрогая' адзначаецца ў Стаўбцоўскім, Лунінецкім, Столінскім раёнах. Па паходжанні лексема *ку́кса* — балтызм. Літ. kuksá мае значэнні: 1. Рука з адарванай кісцю. 2. Караткахвосты (з кароткім хвастом). 3. Мятла без лісцяў, змецены венік. 4. Гуз на ілбе. 5. Узвышша (LKZ, VI, 801), а аднакарэннае ўтварэнне kùksas — 1. Чалавек малога росту. 2. Штуршок. 3. Камолая, бязрогая карова.

Аналіз лексічнага складу гаворак дыялектнай зоны сведчыць аб наяўнасці ў іх таксама пэўнай колькасці асобных занальных запазычанняў іншамоўнага паходжання. Праўда, большасць з іх не мае значнага і рэгу-

---

[25] Беларуска-польскія ізалексы. Мн., 1975. С. 95.

лярнага пашырэння ў межах зоны (гл. карту ізаглос № 3).

Так, усходняя дыялектная зона характарызуецца ўжываннем у значэнні 'лунка, прасечаная ў лёдзе' лексемы *пéлька*. Па паходжанні гэтая лексема лічыцца балтызмам (параўн. літ. pélkė 'балота', лат. pelce 'лужына', ст.-пруск. pelky 'лужына', 'балоцістая мясціна', 'багна', 'дрыгва' (Лаўчутэ, 19).

Лексема *пéлька* 'пролубка' мае пашырэнне ў гаворках зоны за выключэннем яе поўначы. Для гаворак характэрным у гэтым значэнні з'яўляецца найменне *лýнка*. На ўсходзе Магілёўскай вобласці занатавана таксама паралельнае ўжыванне найменняў *пéлька/палóнка/пáнеўка*. Арэал распаўсюджання лексемы *пéлька* 'палонка' мае працяг у гаворках на тэрыторыі Расіі (СРНГ, *25*). У гэтым жа значэнні яна адзначаецца і ва ўкраінскіх гаворках[26]. Пануючым варыянтам ва ўсходняй зоне беларускіх гаворак з'яўляецца *пéлька* (па аналогіі, магчыма, з *палóнка, прóлубка, лýнка*). Паралельна з лексемай *пéлька* ў тым жа значэнні ў Лельчыцкім, Нараўлянскім, Калінкавіцкім раёнах фіксуецца варыянт *пéля*, а ў Чэрыкаўскім раёне — *пель*. Магчыма, гэта вынік асэнсавання лексемы *пéлька* як дэмінутыва і ўтварэнне ад яе аднакарэнных лексем для наймення большай па памеры палонкі.

Паўднёва-ўсходняй занальнай лакалізацыяй характарызуецца ўжыванне лексемы *лашá* 'аднагадовае і двухгадовае жарабя' (гл. карту ізаглос № 3). Лексема лічыцца даўнім цюркізмам (параўн. чуваш. *лаша* 'конь', туркм. дыял., карач., тат., башк., кумык. *алаша* 'тж' і інш., ЭСБМ, *5*, 267). Пашырэнне гэтай лексемы ў значэнні 'аднагадовае жарабя' і 'двухгадовае жарабя' абмежавана гаворкамі ў наваколлі Мазыра, а таксама Магілёва[27]. Адзначаецца шэраг яе словаўтваральных варыянтаў. Так, акрамя *лашá* (Рэчыцкі, Мазырскі, Лоеўскі раёны), адзначаны варыянты *лашáк, лошáк* (Слаўгарадскі, Ельскі раёны), памяншальныя варыянты *лашóнак*

---

[26] Лысенко П. С. Словарь диалектной лексики северной Житомирщины // Славянская лексикография и лексикология. М., 1966. С. 15—16.

[27] Аб геаграфіі гл. таксама: Щур В. В. Иноязычные элементы в полесской животноводческой лексике // Полесье и этногенез славян. М., 1983. С. 64—65.

(Слаўгарадскі, Рэчыцкі, Брагінскі раёны), *лашаня́, лошэня́* (Калінкавіцкі, Лельчыцкі), *лашачо́к, лашы́цка* (Мазырскі раён). Варыянт з суфіксам *-ак лаша́к* (без экспрэсіі зніжанасці або без значэння памяншальнасці) з'яўляецца пануючым у значэнні 'двухгадовае жарабя'. Лексема занатавана на большай частцы адзначанай тэрыторыі і выступае ў рэгулярных фанетычных варыянтах *лоша́к* (Столінскі, Мазырскі раёны), *лыша́к* (Клімавіцкі, Хоцімскі раёны). Варыянты *лашо́нак* (Рагачоўскі, Рэчыцкі, Буда-Кашалёўскі раёны), *лашаня́* (Лельчыцкі раён) ужываюцца з экспрэсіяй зніжанасці або са значэннем памяншальнасці. Для абазначэння істот жаночага полу ўжываюцца ўтварэнні *лашы́ца* (Бабруйскі, Веткаўскі, Мазырскі раёны), *лошы́ца* (Столінскі, Жыткавіцкі раёны).

Асобныя лексемы ўсходняй занальнай лакалізацыі маюць непаслядоўнае, спарадычнае пашырэнне ў межах зоны. Так, у Віцебскім, Лёзненскім і Шумілінскім раёнах адзначана лексема *кі́біс* 'кнігаўка' (СПЗБ, *2*). Яна выводзіцца з ням. Kiebitz (ЭСБМ, *5*, 26). Такім жа экзатызмам з'яўляецца і лексема *къга́льнік* 'пастух', якая па паходжанні ўзыходзіць да ст.-яўр. kāhāl 'абшчына, сход' (Фасмер, II). Як назва асобы па занятку, яна занатавана ў Гарадзецкім раёне на фоне пашыранага тут найменні *пасту́х.* Развіццё семантыкі ішло, магчыма, праз значэнні 'кампанія', 'шумны натоўп', 'зборышча', 'гурт', 'грамада; усе разам' (ЭСБМ, *4*, 25).

Цікавая група лексем рознага іншамоўнага паходжання ўласціва для гаворак заходняга Палесся (гл. карту ізаглос № 4). Так, рубец на рагах у каровы абазначаецца ў гэтых гаворках лексемай *карб.* Па паходжанні ўзводзіцца да *карбъ* 'зарубка, насечка'>польск. karb, с.-в.-ням. kërbe (Булыка, 140). У гэтым варыянце лексема адзначана ў Драгічынскім, Іванаўскім, Пінскім раёнах. У Лунінецкім, Столінскім і Жыткавіцкім раёнах выступае словаўтваральны варыянт *карбе́ж,* у Кобрынскім — *карбі́ж* і варыянт жаночага роду *карбі́на* — у Маларыцкім раёне.

У значэнні 'страўнік у свінні' на самым захадзе ў заходнепалескіх гаворках выступае лексема *калду́н,* якая лічыцца запазычаннем з польскага перыферыйнага дыялекту, дзе *kałdun* 'страўнік, вантробы, бруха' (ЭСБМ, *4*, 149). Некаторыя даследчыкі лічаць, kałdun 'страўнік'

агульнапольскай лексемай[28]. У чэшскай, верхне- і ніжнелужыцкай мовах лексема вядома ў значэннні 'унутранасці, кішкі', акрамя таго, чэш. kaldoun 'пасечаныя ўнутранасці і г. д. як страва'.

Лексема выступае ў заходнепалескіх гаворках у варыянтах *каўдýн* (Пружанскі раён), *кавдýн* (Камянецкі, Кобрынскі раёны), *ковдýн* (Камянецкі, Брэсцкі раёны), *калдýн* (Маларыцкі раён).

У гэтых жа межах адзначана і ўжыванне лексемы *гачóк* 'кручок у вудцы', якая ўзводзіцца да *гак* 'гак, кручок'. *Гак* лічыцца запазычаннем з нямецкай мовы (с.-в.-ням. hāke(n), ЭСБМ, *3*, 19). Лексема *гачóк* адзначана ў Камянецкім, Брэсцкім, Кобрынскім, Драгічынскім, Івацэвіцкім раёнах і супрацьпастаўляецца агульнапашыранаму найменню *кручóк,* па аналогіі з якім яна была ўтворана ад *гак*. У Бераставіцкім раёне адзначаны акцэнталагічны варыянт *гáчак* 'тж'.

Некаторыя лексемы іншамоўнага паходжання вылучаюцца даволі спецыфічным пашырэннем у беларускіх народных гаворках. У той ці іншай ступені падобныя лексемы адзначаюцца ў заходняй дыялектнай зоне, затым ахопліваюць заходняе, цэнтральнае і ўсходняе Палессе і пашыраюцца паласой ва ўсходняй дыялектнай зоне на поўнач Беларусі, поўнасцю выключаны гаворкі цэнтральнай часткі тэрыторыі Беларусі і паўночны захад (гл. карту ізаглос № 5).

Так, для абазначэння рыбалоўнага нерата з крыламі ў беларускіх народных гаворках пашырана лексема *жак*, якая ўзыходзіць праз польск. żak 'рыбалоўная прылада' да ням. Sack 'мяшок, кішэнь' (ЭСБМ, *3*, 202). Лексема *жак* адзначаецца ў межах заходняй дыялектнай зоны ў Верхнядзвінскім, Мёрскім, Шаркаўшчынскім, Глыбоцкім, Гродзенскім раёнах. Яна мае добра акрэслены арэал таксама ў межах усходняй зоны. Спарадычна адзначана на поўначы, дзе перамяжаецца ў сваім ужыванні з лексемай *мярóжа*. У Івацэвіцкім раёне адзначаны больш блізкі па сваім фанетычным гучанні да нямецкага этымона варыянт *сáчык,* аформлены як дэмінутыў. Арэал пашырэння лексемы *жак* ахоплівае зону паўночна-заходніх гаворак, дзе пераважае ў падобным значэнні лексема *вéнцяр,* якая, магчыма, выцесніла най-

[28] Аб гэтым, а таксама аб іншых значэннях гэтай лексемы гл.: Беларуска-польскія ізалексы. Мн., 1975. С. 18.

менне *жак* (сама лексема *вéнцер* па паходжанні лічыцца літуанізмам, параўн. літ. vénteris 'венцер з івавага пруцця', лат. veñteris).

Прыблізна ў тых жа межах, што і лексема *жак*, праўда, менш паслядоўна, у значэнні 'статак авечак' адзначаецца лексема *табýн*. Як ужо гаварылася, гэты цюркізм (Фасмер, IV) у значэнні 'табун коней' вядомы ўсім гаворкам Беларусі. У значэнні 'статак авечак' яна адзначана ў Полацкім, Вілейскім, Іўеўскім раёнах, далей арэал ужывання яе акрэсліваецца лініяй Пружаны—Баранавічы—Салігорск—Жыткавічы. На ўсходзе рэспублікі яна пашырана ў Магілёўскай і на поўначы Гомельскай вобласці. Трэба, аднак, зазначыць, што ў гаворках Палесся лексема *табýн* перамяжаецца з ужываннем у гэтым жа значэнні лексемы *чарадá*, якая наогул вельмі пашырана ў цэнтральных гаворках і як бы «разрывае» арэал пашырэння лексемы *табýн*. Прыблізна ў гэтых жа межах лексема *табýн* фіксуецца і для абазначэння статку кароў.

Падобнае пашырэнне характэрна і для наймення труса *кроль, крóлік*. Па паходжанні лексема *крóлік* лічыцца паланізмам (параўн. польск. królik, Булыка, 178), а *кроль* — утварэнне ад *крóлік* (ЭСБМ, *5*, 117). Варыянт *кроль* занатаваны ў Гродзенскім, Бераставіцкім раёнах, а таксама ў гаворках Палесся па лініі Пружаны—Пінск—Ельчыцы—Калінкавічы—Рэчыца. Гэты ж варыянт адзначаны ў Чэрвеньскім і Асіповіцкім раёнах. У Рэчыцкім раёне занатаваны варыянт *крол*. Усход Беларусі, уключаючы таксама яе паўночную частку, характарызуецца паслядоўным ужываннем варыянта *крóлік,* які таксама характэрны для гаворак Палесся і заходняй часткі Гродзенскай вобласці, перамяжаючыся тут ва ўжыванні з варыянтам *кроль*. У гэтых жа межах адзначана паралельнае ўжыванне лексемы *трус*.

У Шчучынскім і Камянецкім раёнах выступае варыянт *карóль,* у Маларыцкім — *карóлік*.

У гэтых жа межах фіксуюцца і аналагічныя варыянты лексемы, якія абазначаюць самку труса: *кралíха*— у Гродзенскім раёне, на поўдні Беларусі ўздоўж беларуска-ўкраінскай мяжы, на ўсходзе Гомельскай і ў Магілёўскай вобласці, *кральчы́ха* — у Шчучынскім, Драгічынскім, Глускім, Гомельскім, Клімавіцкім, Аршанскім, Віцебскім раёнах, *кралíца* — у Астравецкім, Воранаўскім, Бераставіцкім, Ваўкавыскім, Пружанскім, Столін-

скім, а таксама на поўдні Гомельскай вобласці (Мазырскі, Нараўлянскі, Рэчыцкі, Брагінскі, Лоеўскі раёны). У Пінскім раёне паралельна з *трусіха* адзначана *кралічка*. У Камянецкім, Брэсцкім, Маларыцкім раёнах выступае варыянт *караліха,* у Шчучынскім, Маларыцкім — *караліца*.

## Прынятыя скарачэнні

БруКнэр — Brückner A. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957.

Булыка — Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972.

Варш. сл.— Słownik języka polskiego ułożony pod red. J. Karłowicza, A. Kryńskiego i W. Niedzwiedzkiego. Warszawa, 1900—1927. Т. I—VIII.

Грым — Grim J. u W. Deutsches Wörterbuch: in 33 Banden. München. DTVerlag, 1984.

Грынчанка — Грінченко Б. Д. Словарь української мови. Київ, 1907—1909. Т. 1—4 (перавыдадзена фотаспосабам — Кіеў, 1958).

Даль — Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка. М., 1981—1982. Т. I—IV.

Кюнэ — Kühne H. Polnische Lehnwörter im Weißrussischen. Berlin, 1960.

Лаўчутэ — Лаучюте Ю. А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982.

МСММТ — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мн., 1970, 1974, 1977. Вып. 1—3.

НРС — Немецко-русский словарь. М., 1962. Т. 1—2.

Растаргуеў — Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973.

СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Мн., 1976—1986. Т. I—V.

СРНГ — Словарь русских народных говоров. М.; Л., 1965—1990. Вып. 1—25.

ТС — Тураўскі слоўнік. Мн., 1982—1987. Т. I—V.

Фасмер — Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. М., 1964—1973. Т. I—IV.

ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978—1990. Т. 1—6.

LKŽ — Lietuvių kalbos žodynas. Vilnius, 1968. T. 1.

LKŽ, Ліберыс — Lyberis A. Lietuvių-rusu kalbų žodynas. Vilnius, 1971.

LT — Гринавецкене Э., Мацкевич Ю. Ф., Романович Е. М., Чеберук Е. И. Бытовая лексика литовского происхождения в Западной Белоруссии // Lietuvių Terminologija. Vilnius, 1975. P. 163—195.

SWO — Słownik wyrazow obcych. Warszawa, 1971.

*Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене*

# З ЛЕКСІКІ ПЕРШАГА, АБО СТАРОГА, ЛІТОЎСКАГА СТАТУТА 1529 г. [1]

Да апошняга часу моваведамі выказваюцца розныя погляды наконт характару старабеларускай мовы XIV—XVII стст.[2] Навуковая літаратура па гэтай праблеме багатая. Нас цікавіць той пласт лексікі помніка, лексіка-семантычныя адпаведнікі якому мы знаходзім у сучасных беларускіх народных гаворках і ў літаратурнай мове.

Укладальнікі Старога Літоўскага статута 1529 г. (далей ЛС), як вядома, абапіраліся на тагачасныя агульныя ўсходнеславянскія і заходнеславянскія літаратурныя традыцыі. Яны выкарыстоўвалі юрыдычную тэрміналогію, якая склалася да таго часу, а таксама спецыяльныя стылёвыя прыёмы, уласцівыя дакументальна-дзелавому жанру.

Аднак тлумачальныя раздзелы артыкулаў ЛС і пастановы выкладзены на тагачаснай народна-гутарковай мове з прыцягненнем бытавой лексікі. Гэтаму спрыяла і адна з асноўных крыніц ЛС — Звычаёвае права, якое перадавалася з пакалення ў пакаленне ў вуснай форме. Кніжныя крыніцы — «Руская праўда», прывілеі, польскія статуты, абумовілі наяўнасць у помніку вялікай колькасці лексічных варыянтаў, паралельнае ўжыванне традыцыйных і агульнанародных лексічных адзінак.

Разгляд лексічнага матэрыялу помніка праводзіцца ў плане супастаўлення з данымі сучасных дыялектных слоўнікаў, лінгвістычнай геаграфіі і літаратурнай мовы.

У помніку знаходзім групу слоў, што перадаюць характар узаемаадносін паміж членамі судовага працэсу, у час якога падсудныя паведамляюць аб злачынстве, адказваюць на пастаўленыя пытанні.

У артыкулах такога зместу функцыяніруе рад лексем маўлення з дадатковым напластаваннем на асноўнае значэнне адцення юрыдычнага характару: *мовити, гово-*

---

[1] Прыклады з помніка даюцца па зборніку: Временникъ Императорскаго Московскаго общества истории и древностей Россійскихъ. М., 1854. Кн. 18. С. 1—106.

[2] Владимировас Л. На каком языке говорили и писали в Великом Княжестве Литовском в XIV—XVII веках //История: Труды высших школ Литовской ССР. Вильнюс, 1982. № XXII. С. 103—118.

*рити, менити, казати, поведити, речи* і іх дэрываты. Найбольш паслядоўна ўжываецца лексема *мовити* 'даваць паказанні, сведчыць': або которую речь мовилъ на него, который другому примовилъ (22); на которого человека злодейство помовилъ (103); может перед правом мовити: иж его несправедливе посветчили (50). Гэтая ж лексема ўжываецца і пры перадачы забароны, загаду: не маетъ инакимъ обычаем тотъ приятел мовити (47); не мает чужоземец ... ани о то мовити передъ нами господарем (48). У адзінкавых выпадках у значэнні 'сведчыць, даваць паказанні' ўжываецца лексема *говорити:* а он мает на первом сойме говорити (42).

У выніку адны і тыя ж лексічныя адзінкі маюць супрацьпастаўленыя значэнні: дазволена — забаронена.

Тэкстуальным сінонімам да *мовити* ў першым значэнні выступае *менити:* Коли бы хто кого другого о который кгвалт до суда позвалъ, жалобникъ, што менилъ, мает слушным сведомемъ доводити... (61); тот человек твой злодей... там же менити будетъ (103). У асобных выпадках *менити* перадае адценне значэння 'гаварыць няпраўду, маніць' з экспрэсіяй: есми менил на тебе, менил есми то яко песъ (22).

Лексемы *поведити, речи* ўжываюцца ў адным і тым жа значэнні 'сказаць': а он поведит иж мает листы (43); А естли бы хто принесъ листъ, а поведил, иж то приятеля его листъ (47—48); и рек бы про то: я без них о тот записъ не хочу отповедати (38); естли бы хто кому рекъ, ижбы не был шляхтичъ (21).

Лексема *казати* мае значэнне 'загадваць': не казалі... брати от попису (16); *сказати* — 'вынесці прыгавор': а втом мают судьи ему сказати водле выступку его (130).

Паняцце «называць» перадаецца лексемай *меновати* (параўн. сучаснае рус. *именовать*): а при том оказе... меновал, хто его розбилъ (62); або лист фалшивым меновал (24); або меновалъ барышники, которые тому сведоми (103).

Сустракаюцца выпадкі, калі рад лексем тыпу *поволати, помовити, речи, менити, винити* функцыяніруе як стылістычны сродак у адным і тым жа адрэзку тэксту: поволал... о злодействе, злодейство помовил, рекучи тым обычаем, тамже менити будеть. А тот, который его винил (103). Усе выпадкі можна звесці да значэння словаформ *мовити — помовил, мовячи* і г. д.

Словы *волати (отволати), откликати* рэалізуюцца і ў іншых значэннях. Сустракаецца выраз *волати кгвалту* 'моцна крычаць': девка волала кгвалту (58). У іншым кантэксце *волати* мае значэнне 'указваць на саўдзельнікаў злачынства': волал, абы они тую реч весполокъ съ ним крали (106), а прэфіксальны дэрыват *отволати* — 'апраўдвацца': а перед смертию не отволали (102).

У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы *завалаць* падаецца з паметай *размоўнае* і тлумачыцца 'прыцягнуць да ўдзелу ў чым-н.' (ТСБМ, *2*, 284); дыялект. *валаць* 'клікаць, выклікаць', *завалаць* — 'паклікаць, зазваць' (СПЗБ, *1*, 272; *2*, 186).

Лексема *закликати* ў помніку выступае ў значэнні 'апавяшчаць, аб'яўляць': поколку крот закликалъ оповедаючы ее (95). У сучаснай беларускай мове: *клікаць* — 'зваць' і адценні — 'прасіць, запрашаць, падзываць' (ТСБМ, *2*, 699), *адклікаць* — 'адазваць; вярнуць назад' (ТСБМ, *1*, 143).

З разгледжанай лексічнай групы некаторыя лексемы працягвалі ўжывацца ў пазнейшых помніках, напісаных на ўсходняй тэрыторыі тагачаснай Беларусі, з іх — дзеяслоў *мовити:* в котором посельстве мовил от цара; а коли варива просили, тые слова мовили [3]. Сучасным беларускім гаворкам слова *мовіць* не характэрна, у лінгвістычным атласе яно не адзначана (ДАБМ, карта № 320). У Тлумачальным слоўніку *мовіць* прыводзіцца з паметай *размоўнае* і мае значэнне 'сказаць; вымавіць' (ТСБМ, *3*, 170). Прэфіксальныя дэрываты *вымавіць, замовіць, прамовіць* з розным значэннем пашыраны ў гаворках і ў літаратурнай мове. Слова *мовити* адносілася да ўнармаванай лексічнай групы ўкраінскай і беларускай літаратурных моў данацыянальнага перыяду і яно адпавядала рускаму варыянту *молвити* і польскаму *mówić*. Ф. П. Філін лексему *молвити* разглядае як агульнаславянскі размоўны элемент паўднёваславянскай дыялектнай аднесенасці, які выцясняў кніжныя *речи, глаголяти* ў старажытнарускую эпоху (Філін ЛРЛЯ, 200—201).

*Мовити* 'гаварыць', *мѣнити* ў розных значэннях — 'думаць, лічыць, сцвярджаць' — прыводзіць гістарычны слоўнік рускай мовы з помніка пачатку XVII ст. (СРЯ, *9*, 228, 86).

---

[3] Коршунаў А. Ф. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975. С. 54, 145.

У некаторых беларускіх дыялектах захаваліся лексічныя адпаведнікі да слова *менити* — *мяняць* ’гаварыць недарэчнае, гаварыць абы-што’: *Што ты мяняеш языком, кладзіся і ні мяняй!* (СПЗБ, *3,* 107).

У ЛС знаходзім рад слоў і выразаў, якія перадаюць негатыўную ацэнку: *ганити (приганити)* ’абразіць’: естли бы хто кому на честь приганил, або о добрую славу (9); приганил о шляхетство (22).

Лексема *зганити* рэалізуецца ў помніку ў значэнні ’даваць (даць) адвод’: Хтобы кому светки ганил, тых светков своволне зганилъ и отставилъ, хто светкомъ заганит, с обу сторон светки межи собою заганили (73). Вядома сучаснае літаратурнае *ганіць* ’прызнаваць непрыгодным, дрэнным; даваць нізкую ацэнку’ (ТСБМ, *2,* 26) і дыялектнае *ганіць, ганыты* ’ганьбіць’ (СПЗБ, *1,* 419).

*Зсоромити* фіксуецца помнікам у значэнні ’абразіць, зняважыць’: естли бы сын отца вдарилъ або зсоромотилъ, сынъ або девка матку зсоромотили (30); хто... судью на праве зсоромотилъ (50); А естли бы кого неучстивыми словы зсоромотилъ (50); Коли бы хто... судьям соромотное слово мовил (50). Сучаснае дыялектнае *сарамаціць* ’сароміць’ (СПЗБ, *4,* 367).

*Звадитися* сустракаецца ў значэннях ’сварыцца’ і ’біцца’: Естли бы на дорозе звадился, а не ступилъ (62); Теж коли бы хто с ким звадился, а у оной зваде оба два ся ранили (63). Параўн. сучаснае дыялектнае *вадзіцца (вадзіць)* ’жыць у нязгодзе, сварыцца’ (СПЗБ, *1,* 266).

Адзінкавымі словаформамі занатаваны ў ЛС дзеясловы *пертися* і *ступити:* а естли бы тот того ся перлъ (58); а не ступилъ (62), што адпавядаюць сучасным літаратурным *уперціся* ’не захацець уступіць каму-н.’, *уступіць* ’добраахвотна адмовіцца ад каго-, чаго-н. на карысць іншай асобы’ (ТСБМ, *5,* 34, 70), дыялектнаму *упірацца* ’супраціўляцца, адмаўляцца’, вытворным *ўпар, ўпіра* ’упарты чалавек’ (СПЗБ, *5,* 214, 217).

Значную групу складаюць словаформы са значэннем ’загадваць’. Некаторыя з іх рэалізуюцца толькі ў форме 1-й асобы множнага ліку тыпу *приказуем(ъ):* хочемъ теж и приказуем грозно (13). У некатэгарычнай форме ’пастанаўляць’ перадаецца варыянтамі *уставуем(ъ)* або *уставляем(ъ)* (17). Гэтым словам пачынаюцца амаль усе юрыдычныя артыкулы помніка.

Значэнне абавязковага выканання пастановы суда,

прысуду перадаецца апісальнымі сінтаксічнымі канструкцыямі, куды ўваходзяць асабовыя формы дзеяслова *мети* (звычайна форма 3-й асобы) у спалучэнні з інфінітывам: тую шкоду мает оправовати (18); мает каран быти (20); судити мают с тым писаным правом (19). Такія выразы паўтараюцца амаль у кожным артыкуле. Сінанімічнае значэнне рэалізуецца кароткай формай прыметніка *павінен:* совито того не повинни платити (25); неповинен... кгвалту платити, мают присягнути (21); мает дати (22). Рэдка ў такой функцыі выступае дзеяслоў *мусити:* тогды ему мусити проробков своих на полы делити (70).

Такім чынам, варыянтнасць мае месца і пры выражэнні абавязковага загаду, пастановы выканання.

Акрамя ўказанай функцыі, дзеяслоў *мети* мае значэнні 'прымаць, лічыць за каго-н.': за сына мелъ (14), 'валодаць маёмасцю': именя... мѣти (40). Але асноўнае значэнне — гэта выражэнне мадальнага значэння неабходнасці, павіннасці. Што датычыцца дыялектнай суаднесенасці, то ёсць падставы сцвярджаць, што пашырэнне гэтага дзеяслова ў такой функцыі характэрна для паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускіх гаворак. Намі сабраны вялікі дыялектны матэрыял, які ў поўнай меры раскрывае спалучальнасць і значэнне разглядаемай лексемы. Вось некаторыя прыклады: *сын мая да войска ісці; што маю гаварыць; мелі расходзіцца; мелі ехаць* і інш. (СПЗБ, *3*, 61—63). Матэрыял паказвае, што, акрамя агульных значэнняў, уласцівых усім гаворкам, тут бытуюць спецыфічныя, уласцівыя толькі ўказанай зоне гаворак.

Разгледжаная лексічная група, якая выконвала камунікатыўную функцыю судовага справаводства, адрознівалася ў помніку складанай семантычнай структурай у параўнанні з сучаснымі дыялектнымі і літаратурнымі адпаведнікамі. Большасць слоў без былой юрыдычнай канатацыі захавалася ў сучасных дыялектах і літаратурнай мове, некаторыя адышлі ў пасіўны запас.

Кніжныя напластаванні старaславянскага паходжання *(речи, меновати)* складалі спецыфіку старабеларускай літаратурнай мовы.

Некаторыя лексічныя адзінкі пранікл і пад уплывам заходнеславянскіх моў (*волати, поведити* і інш.).

У плане супастаўлення лексічных пар з неаднолькавым семантычным дыяпазонам паказальныя словы *меш-*

*кати — седети.* Першае з іх ужываецца некалькі разоў у значэнні 'жыць, пражываць', другое рэалізуе складаную семантычную структуру ў значэнні 'валодаць выдзеленым надзелам зямлі': а она мает седети на третей части именя (27). Тое ж значэнне перадаецца дэрыватам *осести:* тогды мает толко на вене осести, а именя вси мают на блиские спасти (26). У тым жа значэнні выступае сінонім *мешкати:* мает мешкати на той делницы (9). Прыведзеныя ілюстрацыі адносяцца да тых артыкулаў помніка, у якіх вызначаюцца правы на ўладанне зямельнай маёмасцю феадалаў. У кантэкстах, дзе гаворыцца аб умовах карыстання зямлёй феадала беззямельнымі людзьмі, выяўляюцца іншыя значэнні лексемы *седети.* Выраз *седети на воли* апісальна можна растлумачыць як 'часова карыстацца панскай цаліннай зямлёй за адробак («трудовую повинность») або за плату грашовымі сродкамі'. Аб гэтым сказана ў тэксце 20-га артыкула 8-га раздзела помніка: Теж уставуем, иж коли-бы человекъ волный пришол за которого князя албо за пана и сел на воли, и выседевши волю хотел зася проч пройти; тогды олиж толкож заслуживши тому пану своему, колко на воли седел. Естли бы не хотел толко заслужити: тогды мает пенязми заплатити (74).

У саставе лексікі, што абазначае парушэнне прававых норм, разглядаемая лексема фіксуецца помнікам у іншых значэннях. У выразе *засести дорогу* — 'учыніць засаду на каго-н.': Хто бы на кого дорогу засел, естли бы который шляхтичъ кому иному дорогу заселъ... хотячи их зранити (60). І ў значэнні 'быць зняволеным, адбываць пакаранне': тавовый мает нятством каран быти, шест недел седети (50).

Выраз *засести за мужъ* 'выйсці замуж' зафіксаваны ў артыкуле, у якім змяшчаюцца правы бацькоў адносна выдання дачкі: Тежь уставуем естли бы девка без воли отцовское або матчиное засела за мужъ, таковая отпадываеть от посагу отчизного и материстого (29).

Выраз *на праве седячи* перадае сэнс 'займаць пэўную пасаду ў час вядзення судовага працэсу': А судья на праве седячи не мает никого соромотити (50).

Акрамя разгледжаных выпадкаў, дзе раскрываецца юрыдычны аспект, лексема *седети* фіксуецца і ў штодзённым нейтральным значэнні 'жыць, пражываць', 'знаходзіцца дзе-небудзь на сталым месцы жыхарства': тогды в чием повете ... тот подданый седит, мает взяти

вижа з ураду, в чием повете седит (71); А шляхта, которые седят в поветех (106); княжата и панове, которые не седят в поветех (105). У тым жа значэнні зрэдку ўжываецца сінонім *мешкати* (польск. *mieszkać,* укр. *мішкати*): у котором повете мешкает (43).

Дзеяслоў *седети* ў значэнні 'жыць, пражываць' складаў, відаць, семантычную асаблівасць тагачаснай жывой мовы і пісьменнасці. Пра гэта сведчыць картатэка беларускага гістарычнага слоўніка, у якой налічваецца вялікая колькасць прыкладаў тыпу: Тежь которые люди... сѣдять по мѣстомъ нашимъ (АЗР, I, 190, 1499). Семантычны варыянт *седети* 'жыць' узыходзіць да агульнарускай эпохі пісьменнасці, параўн.: а друзи сѣдоша межю Припятью и Двиною и нарекошася дреговичи (ПВЛ, 11).

Сразнеўскі прыводзіць *сѣдѣти* ў значэнні 'жыць' з Астрамірава Евангелля (Матэрыялы, III, 890).

Л. В. Табачэнка адзначае, што дзеясловы *стоять, сидеть, лежать* у рускай мове данацыянальнага перыяду ўжываліся ў значэннях 'размяшчацца, знаходзіцца, прабываць, жыць дзе-небудзь'[4].

Адно са значэнняў *седети (сѣдѣти)* 'пасяляцца, жыць, пражываць' можна разглядаць як апазіцыю да лексем са значэннем 'рухацца, перамяшчацца ў прасторы'.

Семантычныя адпаведнікі разглядаемага значэння захаваліся да нашага часу ў славянскіх мовах.

У некаторых беларускіх народных гаворках сустракаем: *Купіў хутар, дзе цяпер сядзіць; Тут, дзе мы сядзім, Сяліцкія жылі; Ён у вёсцы сядзеў* (в. Саланое, Вілейскі р-н); *Толькі адна дачка сядзіць на гаспадарцы; Лянік у лесе сядзеў* (в. Кіралі, Шчучынскі р-н); *Ён на хутары сядзіць* (в. Паляцкішкі, Воранаўскі р-н); *Сядзеў ляснік Шавяла* (в. Жылі, Іўеўскі р-н); ***Дзялка, дзе Лясун сядзеў*** (в. Лісна, Верхнядзвінскі р-н); *Даўней на прагалках людзі сядзелі* (в. Мярэцкія, Глыбоцкі р-н); *Паня сядзела каля Айшышак* (в. Кудзялянцы, Шальчынінскі р-н, Літва) (СПЗБ, *3*, 65—66).

П. С. Лысенка ў сваім слоўніку прыводзіць падобныя ілюстрацыі з палескіх украінскіх дыялектаў: *сидіет, сидіт, сидіть* 'проживати, мешкати, жити де-небудь'. *Воны*

---

[4] Табаченко Л. В. Об одной из тенденций развития обстоятельных конструкций в русском языке XI—XVII вв. // ВЯ. 1986. № 3. С. 111.

*сид'ат' там, де ви; Вони ўс'е сид'іли по хуторам; Тої на пол'ї сид'ій, а тої так; Йа ў дочки сиджу* (Лысенка, 193)[5]. Гэтае ж значэнне фіксуецца ўкраінскімі літаратурнымі слоўнікамі: *сидіти* 'жити, мешкати, проживати де-небудь' (СУМ, X, 159).

Беларускія літаратурныя слоўнікі не выдзяляюць падобнага значэння пры аналізе дзеяслова *сядзець*. Але пад уплывам жывых гаворак дзеяслоў *сядзець* у такім значэнні знаходзіць адлюстраванне ў мове беларускай мастацкай літаратуры: *Ніхто мяне з маёй зямлі не спора, на якой я спрадвеку сядзеў* (Чорны К. Зб. тв. Мн., 1969. Т. 1. С. 313); *У калектывізацыю лубнёўцы яшчэ доўга сядзелі на сваім хутары: іх гэта як бы не датычыла* (Ракітны М. Вясковыя навелы. Мн., 1969. С. 177).

Такое ж значэнне адзначана слоўнікам польскай мовы: ...gdzie od wieków dawnych Soleszczyce siedzieli (SW, *6*, 100—101).

Такім чынам, лексема *седети* і ў данацыянальны перыяд беларускай мовы адрознівалася мнагазначнасцю ў параўнанні з дзеясловам *мешкати*, які толькі ў асобных значэннях выступаў як сінонім. Аднак у помніку нямала абсалютных сінонімаў, якія выкарыстоўваюцца пісцамі ў функцыі стылістычных сродкаў.

У склад паралельных лексічных варыянтаў, якія ўзаемазамяшчаюцца ў тэксце, уваходзяць асобныя словы, а часам словазлучэнні і ўстойлівыя звароты: злого ложа сын — бенкарт (22); кому воля его будет (37) — кому хочет, кому хотя (39); без воли того (71) — без дозволенья (73); трикроть (102) — тры разы, по тры разы (68, 102); жеребей метати (62) — жеребей кинути (62); бачили бы (41) — видели (61); проч — вон: втек въ земли проч (57), мает выволан быти из земли вон (57); в руки взяти (39) — у своих руках мети (37); в ланцугъ сажати (18) — у везеню седети (10); в ката в руце быти (65) — мучити (102); тестамент чинити (39) — записати (38, 39); держати (39) — у своих руках мети (37), к своимъ рукамъ мети і шмат іншых.

Пры вызначэнні ўзросту ў СЛ паслядоўна ўжываецца лексема *лета* (мн.): лета дорослые младенцу осмнадцать лет, а девце петнадцать летъ (8, 11). У іншых выпадках — *год:* на кожный год (69); до трох год молчалъ

---

[5] У прыведзеных прыкладах намі апушчаны назвы вёсак, у якіх запісаны матэрыял.

(64); в державьи был три годы (72). І толькі зарэгістраваны адзін выпадак ужывання ў падобным значэнні *лета:* дани медовые и грошовые, штоколвекъ будуть за тые лета собрали (36). Тут, магчыма, у значэнні 'летні сезон' (?).

Некаторыя суадносныя пары размяркоўваюцца кантэкстуальна, напрыклад *пенези* і *грошы.* Першы кампанент знаходзім у тых выпадках, калі гаворыцца пра грошы без указання, колькі іх, якая сума, тыпу пенези бравши (14); тое сумы пенязей (25). У спалучэнні з колькаснымі лічэбнікамі — паслядоўна *грошы*: тры рублі грошей (83); дванадцать рублев грошей (81).

Зафіксаваны ў помніку і трохкампанентныя рады. У працэсе судовага разгляду і слухання тое, аб чым гаворыцца, што разглядаецца, падаецца агульнымі паняццямі *справа — дѣло — рэч:* тогды могут тую справу другому опекуну поручити (36); коли справа была кому (87); ку которой справе ся бралъ (47); сведецъство о земное дело (69); вси дѣла тые судити (45); а прышло бы в которой речи на опытанне того вижа (55).

Некаторыя мнагазначныя словы ўзаемазамяняюцца ў адным са сваіх значэнняў з адпаведнымі адназначнымі. Так, напрыклад, у значэнні 'пасаг' ужываюцца лексемы *вено, выправа, посаг:* Естли бы хто дочку свою выдал замуж, тогды мает ей первей вена отправити (28); А естли бы выправы не дали (28); а они ей не повинни посагу дати (29). З прыведзеных ілюстрацый *выправа, посаг* выступаюць як стылістычныя сінонімы; *вено*, акрамя пасагу, абазначала завешчаную мужам сваёй жонцы маёмасць: Теж уставуем, естли хто хотел вено жоне своей записати (24). Поўны аб'ём значэнняў даецца ў гістарычных слоўніках (ГСБМ, *3*, 103—104; СРЯ, *2*, 76).

В. В. Іваноў і В. І. Тапароў, аналізуючы юрыдычныя тэрміны ранняга славянскага права, падкрэсліваюць, што слова *вено,* як і рад іншых лексем, што адносіліся да сферы прававых адносін, мелі індаеўрапейскія паралелі [6]. Яно захавалася ў значэнні 'пасаг' у палескіх беларускіх і ўкраінскіх гаворках, як аб гэтым сведчаць дыялектныя слоўнікі: *Вено — пасаг, звычайна карова пасажная: Ек кажуць, бацько даў доцы вено, то даў*

---

[6] Иванов В. В., Топоров В. И. О языке древнего славянского права // Славянское языкознание: VIII международный съезд славистов. М., 1978. С. 241.

*корову* (ТС, *1*, 111—112); *Добрае вена за ею даюць* (Янкова, 66). Розныя фанетычныя варыянты прыводзіць П. С. Лысенка ў сваім слоўніку: *в'ена(о), виено, віно* 'пасаг' (42). Слова *пасаг* складае норму сучаснай беларускай літаратурнай мовы і пашырана ў розных групах народных гаворак.

Значэнне 'гадаваць, клапаціцца, выхоўваць' рэалізуецца лексемай *ховати:* тогды жона дети мае ховати (27). У блізкім значэнні ўжываецца *опекатися:* тогды стрыеве, або ближние мают опекатися детми (27). І апісальна: опекательники мают... и дети живити и одевати (36).

Семантычныя паралелі да *ховати* знаходзім у сучасных беларускіх гаворках: *Троя дзяцей хавала* (в. Саланое, Вілейскі р-н); *Буду Ганчыны дзеці хаваць* (в. Лоск, Валожынскі р-н); *Дзяцька хаваў тры сынэ* (в. Новікі, Гродзенскі р-н) (СПЗБ, *5*, 275—276). У мове мастацкай літаратуры: *Хто ж замене ім матулю? Хто будзе хаваць? Хто сіротак пажалее?* (Купала, *2*, 213). У падобным значэнні слова адзначана ва ўкраінскай мове (Грынчанка, *4*, 406) і ў іншых славянскіх мовах (Фасмер, *4*, 252); *ховати* — 'гадаваць, выхоўваць' (Лемцюгова, 647). Значэнні 'выхоўваць, гадаваць; жывіць' былі ўласцівы і старапольскаму chować. Падобныя значэнні вядомы і сучаснаму дыялектнаму chować (Слаўскі, *1*, 77).

У радзе выпадкаў мы наглядаем паралельнае ўжыванне лексічных варыянтаў, што дае падставы разглядаць іх як абсалютныя дублеты: *клет(клеть) — свиренъ* (101), наяўнасць якіх складала характэрную асаблівасць тагачасных дыялектных груп. Перавага таго ці іншага варыянта ўказвае на адносіны да літаратурнай нормы тых часоў. Да абсалютных сінонімаў адносяцца: *песъ* (22; 97) — *собака* (78, 97).

Знаходзім лексічныя варыянты і ў межах розных галін дзейнасці: *робити — вделати:* мети... пешню чимъ борти робити, а корыта на рыбу вделати (78); *поставити — збудовати:* Коли бы хто... реку мел... а млыны поставил (77); таковые мают заплатити... и млын збудовати (81); *праца — работа:* а за свою працу, штоколве придет з пашенъ и млыновъ... (36). У некалькі іншым значэнні выступае ў помніку слова *работа* 'валоданне якім-н. рамяством': И естли тое работы не будутъ вмети (89).

Зафіксаваны сінонімы і сярод назваў прылад працы: *сякера (секира) — топоръ:* з секерою, чым заросли рос-

теребливати, толко мают мети секиру а пешню (78); а как соткутся топоры тут будет граница (70). Яшчэ прыклад: *рубати, порубати — посечи:* Хто бы кому... у гаі рубал (83); або лес порубати (71); або лозу порубал, хмелишча... порубал (81); порубал... сосну або дубъ бортный (82). З адценнем значэння 'пашкодзіць, сапсаваць': або езъ порубалъ (82); прынады порубал (82); або соху зрубалъ (72). І толькі адзін выпадак ужывання ў такім значэнні слова *посечи* (або *посекти?*): А естли бы толко хмель подралъ, а не посекъ (82).

З двух лексіка-семантычных варыянтаў адзін з іх можа адрозніваецца большай частотнасцю ўжывання пры адзінкавасці другога: *втяти (утяти) — обрезати:* або нос втял, або ухо утял (59); толко руки утяти (23); таковому мают ушы обрезати (105). *Цяць (тяті)* і прэфіксальныя дэрываты *выцяць (вытяты), сцяць, уцяць (втяті)* маюць разгалінаваную семантычную структуру ў беларускіх народных гаворках. Сярод іх зафіксаваны значэнні, што ўзыходзяць да старажытнарускай эпохі: *сячы, ссячы, біць, рэзаць, зразаць, кусаць* і інш. (СПЗБ, *1*, 378; *5*, 251, 395); *тну, тять,* старaж.-рус. *тьну, тАти* 'рубить, сечь, зарубить'; *потАти* 'убить' (Фасмер, *4*, 66). Ф. П. Філін лічыць, што слова *тети* па сэнсу супадае з *бити* (Філін ЛРЛЯ, 210—211). Слова *тяти* ў розных значэннях захоўваецца ва ўкраінскай і польскай мовах (Грынчанка, *4*, 303; Слаўскі, 1).

Лексемы *рубати, тяти* суадносяцца тэрытарыяльна з паўднёва-заходнім дыялектам і палескай групай гаворак (тэрыторыя Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей), што пацвярджаецца дыялектнымі слоўнікамі (Сцяшковіч, *4*, 308). У такой форме захоўваецца ва ўкраінскай мове (Грынчанка, *4*, 83); параўн. польск. gąbać.

У Тлумачальным слоўніку слова *цяць* падаецца ў значэннях 'ударыць, даць чым-н.; балюча ўкусіць' (ТСБМ, *5*, 285).

Паказальны і адзінкавыя словаформы, якія сустракаюцца ў тэксце ЛС і маюць адпаведнікі ў сучасных беларускіх гаворках. У помніку адзначана форма 3-й асобы адзіночнага ліку *зженеть* ад дзеяслова *гнати*: а хто зженет от коней злодея; а тому хто зженетъ шесть грошей (105).

Адносна формы цяперашняга часу *жену* Ф. П. Філін у сваёй працы, прысвечанай аналізу старажытных летапісаў (Філін ЛРЛЯ, 198—199), сцвярджае, што форма

гэтая была жывой у гутарковай мове кіяўлян, але к XI—XII стст. часткова пачала выцясняцца пад уплывам поўначы. Як паказвае карта, складзеная аўтарам на матэрыяле сучасных беларускіх народных гаворак, парадыгма цяперашняга часу *жану, жанеш, жане, жаном, жанеце, жануць* займае паўднёва-заходні арэал, які накладаецца на паўднёва-заходні дыялект і палескую групу гаворак[7]. Такія формы зафіксаваны ў СПЗБ (*1*, 454—455). Да той жа дыялектнай лакалізацыі адносіцца дзеяслоў *гонити:* тогды тот за своимъ зверемъ мает гонити и через чужую землю (77). Ім адпавядаюць сучасныя дыялектныя формы *ганіць, гоніці, гоныты* (СПЗБ, *1*, 418—419).

Прааналізаваны фактычны матэрыял дазваляе зрабіць вывад аб тым, што лексічныя адзінкі *рубаці, цяці* і іх дэрываты складалі норму беларускай і ўкраінскай пісьмовых моў данацыянальнага перыяду.

Тое ж можна сказаць і адносна словаформ, якія ў помніку прадстаўлены адзінкавымі выпадкамі ўжывання. Мы маем на ўвазе парадыгму цяперашняга часу дзеяслова *гнати (гонити) — жену, женешь* і г. д.

Радзей лексічныя варыянты сустракаюцца ў назвах жывёльнага свету: *кобыла — кляча:* А естлибы панского стада хто жеребца або кобылу пограбилъ; а што ся дотычетъ мужиковы клячы або жеребца доморослого (93). Як відаць з прыведзеных ілюстрацый, слова *кляча* ўжыта з адценнем стылістычнай зніжанасці, што падкрэсліваецца супрацьпастаўленнем азначэнняў: панского стада кобыла і мужикова кляча.

Слова *стадо* (мн. *стада*) адносіцца толькі да сукупнасці коней і знаходзіцца ў апазіцыі да *быдло,* якое аб'ядноўвае іншых свойскіх жывёл: А волно теж будет мужу отписати жоне своей вси свои рухомые речи, кром зброи, а стада и челеди неволное и быдла дворного третюю часть (25).

Проціпастаўляецца маладая неаб'езжаная *свирепа* і *кабыла*: А свирепа естлибы которая в бороне не бывала, або дров не воживала; Естлиб хто кому побрал стадо свирепъе на его або на своей земле (93); параўн. стараж. рус. *свирѣпъ* — 'дзікі, злы, люты, звярыны' (Прэабражэнскі, *2*, 260—261).

[7] Архіў карт пятага тома Лексічнага атласа знаходзіцца ў сектары дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

Слова *быдло* выступае карэлятам да слова *скот*: Навязка на волы и коровы и иншое быдло. А хто бы въ кого пограбилъ с тыхъ скота (97). І далей пералічваецца плата за кожны від: і за малых: за теля..., за пороси..., за ягне три гроши (96).

Як паказвае карта ДАБМ № 84, назвы маладых жывёл тыпу *теля* тэрытарыяльна суадносяцца з паўднёва-заходнім дыялектам з уключэннем арэала палескай групы гаворак.

Кій, якім падганяюць вала (сучаснае палескае *остен* — ЛП, 179; *осьцён* — в. Бостынь, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.), фіксуецца ў форме творнага склону *осномъ*: не маетъ чужое борти близко подорывати, такъ какъ з борозды осномъ дерева досягнути можетъ (4, 79). Параўн. сучаснае палескае *ост'он* 'доўгая палка з цвіком на канцы, якой падганяюць валоў' (ЛП, 179).

Да тэматычнай групы «надвор'е» адносіцца *суграпъ* 'гурба снегу': а тот панъ або державца мелъ бы у своем повете суграпъ, а мели бы копу вести (69). Слова *сугроб* уласціва сучасным беларускім гаворкам усходняй зоны (Бялькевіч, 425; СПЗБ, *5*, 10).

З лексікі лясной гаспадаркі адзін раз у форме прошлага часу сустрэлася *очер* (відаць, ад дзеяслова *очерети*) у значэнні 'пашкодзіць, садраць кару з дрэва': А естли бы хто ниву розробливаючи чие дерево бортное.., очер або пожаром опалилъ (79). Слова ў сучасных беларускіх дыялектных слоўніках не зафіксавана. Украінскае *очерт — кола, круг; очертом — колам* (СУМ, *5*, 831), старaж.-рус. *чьрети*, што абазначае 'рэзаць зямлю плугам', а таксама 'знімаць кару з дрэў у час падрыхтоўкі ўчастка лесу пад высечку і карчаванне пад поле'. Разглядаемае слова адносіцца да тэрмінаў падсечнага земляробства (Філін ИОЛРГ, 45).

Магчыма, што сучасныя мікратапонімы тыпу *Церцеж, Церцежы*, зафіксаваныя ў паўднёвых раёнах рэспублікі, з'яўляюцца аднакаранёвымі ўтварэннямі ад гэтага дзеяслова пры фанетычнай замене *ч* на *ц* (МБ, 248); адзначана *чарцёж (черцеж)* 'участак на месцы лясных распрацовак'[8].

Не маюць сінанімічных пар літоўскія запазычанні. Сярод іх *бонда* 'пай парабка, яго грашовыя сродкі':

[8] Иванова А. А. Микротопонимия Мозырского Полесья: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1986. С. 11.

А естли ж полцины лицо стояти не будетъ; тогды з бонды его плачона быти (98). Слова *бонда* ў беларускіх гаворках занатавана ў розных значэннях, у тым ліку ў падобным да прыведзенага з помніка (СПЗБ, *1*, 203—205). Да гэтай групы адносяцца *дякло* (10), *рикунь* (44), *дойлида* (88) з літ. *bandá* 'булка, хлябец', *dúoklė* 'падатак збожжам, мера збожжавага падатку', *rykūne* 'даглядчыца за жывёлай', *dailidė* 'цясляр' (Булыка, *99*, *104*, *290*).

У помніку ёсць група тэрмінаў і выразаў, якая ўзыходзіць да кніжнай традыцыі старарускай эпохі. Некаторыя лексемы ўжываюцца пераважна ў юрыдычным сэнсе. Да ліку іх адносяцца *метати, смотрети, искати, сказити* і іх дэрываты. Слова *метати* ўжываецца са значэннем 'кідаць, цягнуць' — *жеребей метати (кинути)*: тогды также на початку мают сказати, жеребей метати; мают им сказати жеребей кинути (63); параўн. фразеалагізм *Метати жребий (жеребей)* (СРЯ, *9*, 124).

Слова *смотрети* ўжываецца ў значэннях 'разглядаць судовую справу ў строгай адпаведнасці з пісаным правам': суди... мают... смотрети листов и знаковъ (68); и осмотрети того ижбы... (76); 'пільнаваць, усцерагчы, дагледзець': Коли хто... того не досмотрел недбалостью своею (17) і 'пільна агледзець што-н., каго-н.': маетъ послано быти, абы лица осмотрел (106).

Тэрмін *искати* — 'прад'яўляць іск на што-, каго-н.': Коли бы хто под кимъ именя искал близкости своее (38); а тотъ... мает собе винного искати (63); маетъ истца... искати (84); А естли бы сынове и дочки змерли; тогды мают искати ближние (60).

Слова *іскаць* 'шукаць' адзначана ў дыялектных матэрыялах, сабраных у некаторых раёнах паўночнага захаду: *Ён іскаў яе па саседзях* (Пастаўскі р-н); *Іскалі бутылку, а іна ў буфеці* (Верхнядзвінскі р-н); *Давай Гродна іскаць. Ішчы ў полі ветра* (Браслаўскі р-н, СПЗБ, *2*, 348). Слова занатавана ў слоўніку І. К. Бялькевіча: *Бягу свае маткі іскаць. Пойдзіць Маланка бацькі іскаць* (Бялькевіч, 215).

*Сказити* і дэрываты маюць значэнні 'пашкодзіць, разбурыць што-н.': хто бы кому соколье гнездо сказил (81); лебединое гнездо сказилъ (81); або теж млын сказил (80); 'парушыць мяжу': Хто бы кому границу або межу сказилъ (70); 'перашкодзіць у вырашэнні судовай справы': хотечи ему тымъ права кончанье переказити

(73). У падобных значэннях прыводзіць тэрмін *казити* гістарычны слоўнік рускай мовы з помнікаў XIII—XV стст.— 'псаваць, калечыць, рабіць непрыгодным' і інш. (СРЯ, 7, 21).

Да гэтай групы адносіцца лексема *жечи* і яе прэфіксальныя ўтварэнні, сінанімічныя да *опалити*: плотов жечи (18); огнем выжег (70); млын зжогъ (80); пожогом ожог (82); спалити двор або гумно (58); або хотя дерево и не опалит (79); а пожаром опалилъ (79); дерево опалитъ (78).

Паралельнае суіснаванне сінанімічных пар тыпу *жечи — палити*, мабыць, адлюстроўвае наяўнасць іх у беларускіх дыялектах данацыянальнага перыяду, аб чым сведчаць лексічныя адпаведнікі сучасных народных гаворак. Адзінкавыя прыклады знаходзім у дыялектных слоўніках: *паджога* 'падпалка': *Нашчыпай паджогі* (СПЗБ, *3*, 306), *паджога* 'падбухторванне' (Бялькевіч, 304).

Вялікі пласт кніжнай лексікі помніка складаюць аддзеяслоўныя назоўнікі ніякага роду на *-ньe, -не*, якія працягваюць усходнеславянскую і заходнеславянскую пісьмова-літаратурную традыцыю.

У залежнасці ад семантыкі ўтваральнай асновы назоўнікі разглядаемай словаўтваральнай мадэлі падзяляюцца на канкрэтныя і абстрактныя. Некаторыя з іх суадносяцца з дзеясловамі бытавога характару: от везенья каменья (10); от кошеня сена (10); ку паленю плиты (10); и для непрыеханя сына (21); а дерева на будованье (79).

Пераважную большасць назоўнікаў гэтага тыпу знаходзім сярод юрыдычнай тэрміналогіі, звязанай з судовым працэсам, з прававымі ўказамі і пастановамі: особного росказанья (13); потверженя того привиля (11); припоминаня на то не бралъ (12); под страченем именя (13); приказаня недбаючы (16); особного допущенья (17); безъ откладанья (75); о выкупенье заставы (86); по вчиненю (39); за обсыланемъ его (44); подпиранье листовъ (52); при таком еднаньи (85); ему дати увязанье (86) і інш.

У навуковай літаратуры ўказваецца, што першапачаткова назоўнікі такога тыпу ўтварыліся ад асноў пасіўных дзеепрыметнікаў прошлага часу на *-н, -ен* шляхам далучэння суфікса *-ьје*, а пазней адбыўся працэс выдзялення суфікса *-(е)ньје*, які пашырыўся на больш

шырокае кола дзеясловаў, у тым ліку і на непераходныя дзеясловы [9].

У ЛС пераважае ўказальны займеннік *оный* пры ўказанні на асобу з падкрэсліваннем павагі: оный господар, сын оный, а люди оные, оные светки (38, 58); оного пана (40); оного судью (40); при оном вижи (52). Зрэдку ў тым жа значэнні ўжываецца займеннік *тотъ*: тот сынъ, а тотъ пан або державца (69).

З большай акрэсленасцю ўжываецца *таковы(-й)*: таковы запис (39); таковые дела (48, 58); таковую шкоду (18), які С. П. Абнорскі адносіць да кніжных элементаў.

Прыслоўе *надобѣ* як традыцыйны кніжны штамп паслядоўна выкарыстоўваецца ў ЛС: колко крот надобе (21, 69); кому будет надобе (64). У некалькі іншым кантэксце адзін раз сустрэлася *потреба*: чого ему потреба, искати (94). Магчыма, тут у функцыі назоўніка. Гістарычны слоўнік рускай мовы фіксуе *надобѣ* ў значэннях 'трэба', 'неабходна', 'патрабуецца' з пісьмовых помнікаў пачатку XI ст. (СРЯ, *10*, 72).

Да слова *надо* У. Даль у сваім слоўніку прыводзіць пералік аднакаранёвых утварэнняў, сярод якіх *надобѣ* з паметай *стар. сѣв.* Ёсць адпаведныя варыянты ў сучасных беларускіх гаворках: *нада, нады* (ДАБМ, карта № 227). У вв. Астрэйкава і Задуброўе (Суражскага р-на Віцебскай вобл.) аўтарам зафіксаваны прыклады бытавання ў жывых гаворках формы *надаби*: и табе книжачка надаби; учыць яго надаби; паесь надаби; справиць касцюм надаби; и туды надаби; пильнае дела ёсь, надаби выпалніць план (в. Задуброўе, на карце № 128); грабли надаби; усё надаби; надаби апирацыя (в. Астрэйкава, на карце № 129). На жаль, укладальнік карты № 227 не адзначыў на карце формы *надаби* асобным значком і нават не прывёў у індэксе. Ёсць падставы звязваць беларускую дыялектную форму *надаби* са старажытнай формай *надобѣ*.

Разгледжаныя тэрміны і ўстойлівыя словазлучэнні ілюструюцца ЛС як працяг літаратурна-пісьмовых традыцый агульнарускага перыяду. Лексічны састаў ЛС суадносіцца з усёй моўнай тэрыторыяй, не мае дыялектнай дыферэнцыяцыі, носіць наддыялектны характар.

---

[9] Варбот Ж. Ж. Древнерусское именное словообразование. М., 1969. С. 94—95.

У агульны лексічны фонд помніка ўваходзяць розныя тэматычныя групы лексікі, звязаныя з жывёльным светам, сельскай гаспадаркай, аховай лесу, паляваннем, пчалярствам, рыбалоўствам і іншымі промысламі, а таксама лексіка, што абазначае працоўную дзейнасць на полі, у лесе і ў іншых сферах. Толькі асобныя лексічныя адзінкі маюць комплекс характэрных адзнак, што выдзяляюць розных маштабаў арэалы. Значная колькасць лексем помніка мае дыялектныя адпаведнікі, што лакалізуюцца ў паўднёвай і заходняй зонах. Да гэтай групы адносяцца словы *звада, звадитися, справа, потреба, уцяци (втяти), робити, рубати, гонити* і формы цяперашняга часу *зженеть.* Большым арэалам адпавядаюць словы *сеножати* (78, 81), *теля, порося, егне, своранъ, каваль* і інш.

Указаная тэрытарыяльная аднесенасць пацвярджаецца і радам сінтаксічных канструкцый тыпу его себе за мужа мети (ЛС, 58, параўн. ДАБМ, карта № 212); может на собе а не возом вывезти (ЛС, 78, параўн. ДАБМ, карта № 222). Для ЛС характэрны беспрыназоўнікавыя канструкцыі тыпу *хто кому* ў адрозненне ад сучаснага *хто ў каго*: Колибъ мужикъ мужику клет выкралъ (ЛС, 101, параўн. ДАБМ, карта № 223); а мне конь падох (СПЗБ, *5*, 545).

Да паўночна-заходняга арэала адносяцца лексічныя адзінкі ЛС *быдло, бенкартъ, седети* 'жыць, пражываць дзе-н.' і інш.

Параўнальна меншая колькасць лексічных адзінак помніка суадносіцца з усходняй дыялектнай зонай: назоўнікі *сугропь, ястреб, утка, селезень* (97), *погребъ* (106), *клет (клеть)*, прыметнік *навозный*: земли навозное (83), прыслоўе *надобѣ(е)* і некаторыя іншыя.

З прааналізаванага фактычнага матэрыялу вынікае, што лексічная сістэма ЛС налічвае найбольшую колькасць лексічных адзінак і выразаў, суадносных з паўднёва-заходнім дыялектам, палескай і сярэднебеларускай групамі гаворак, шырэй — з заходняй дыялектнай зонай. Гэтая акалічнасць дазваляе выказаць гіпатэтычнае меркаванне аб дыялектнай аснове помніка, яго сувязі з гаворкамі, якія лакалізаваліся на ўказаных тэрыторыях у данацыянальны перыяд. Разам з тым ЛС адлюстроўвае значны ўплыў тагачасных усходніх гаворак.

Народна-гутарковая моўная аснова помніка дапоў-

нена і ўзбагачана кніжнымі лексічнымі сродкамі, выслоўямі, тэкставымі элементамі, што ўзыходзяць да літаратурна-пісьмовых традыцый агульнарускай эпохі.

## Прынятыя скарачэнні

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею. СПб., 1848—1853. Т. 1—5.

Булыка — Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972.

Бялькевіч — Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.

ГСБМ — Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1982—1991. Вып. 1—11.

Грынчанка — Гринченко Б. Д. Словарь украинского языка. Киев, 1909. Т. 4.

Картатэка ГСБМ—Картатэка Гістарычнага слоўніка беларускай мовы / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

Купала — Купала Я. Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1952—1954.

Лемцюгова — Лемцюгова В. П. Украінска-беларускі слоўнік. М., 1980.

ЛП — Лексика Полесья. М., 1968.

Лысенка — Лисенко П. С. Словник поліських говорів. Київ, 1974.

Матэрыялы — Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка. СПб., 1893—1903. Т. 1—3.

МБ — Мікратапанімія Беларусі. Мн., 1974.

ПВЛ — Повесть временных лет. М., 1950.

Прэабражэнскі — Преображенский А. Г. Этимологический словарь русского языка. М., 1956. Т. 1—2.

Слаўскі — Sławski F. Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 1952. T. 1.

СРЯ — Словарь русского языка XI—XVII вв. М., 1975, 1980, 1982, 1983. Вып. 2, 7, 9, 10.

СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Мн., 1979—1986.

СУМ — Словник української мови: У 11 т. Київ, 1970—1980.

Сцяшковіч — Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983.

ТС — Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мн., 1982—1987.

Фасмер — Фасмер М. Этимологический словарь русского языка: У 4 т. М., 1964—1973.

Філін ИОЛРГ — Филин Ф. П. Исследование о лексике русских говоров. М., 1936.

Філін ИОЯРГ — Филин Ф. П. Исследование о языке русских говоров. М.; Л., 1936.

Філін ЛРЛЯ — Филин Ф. П. Лексика русского литературного языка древнекиевской эпохи: (по материалам летописей). Л., 1949.

Янкова — Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982.

SW — Karłowicz J., Kryński A., Niedzwiedzki. Słownik języka polskiego. Warszawa, 1900—1927. T. 1—8.

*Я. Р. Самуйлік*

# З ГІСТОРЫІ ВЫВУЧЭННЯ ГАВОРАК ВЫГАНАЎСКАГА ПАЛЕССЯ

Выганаўскае Палессе — невялікі рэгіён у наваколлях Выганаўскага возера, якое знаходзіцца ў міжрэччы Шчары і Ясельды. Яго эканамічным цэнтрам з'яўляецца гарадскі пасёлак Целяханы. Найбольш пашыраныя гаворкі гэтай тэрыторыі — паўночнабрэсцкія (цэнтральнацеляханская група) і паўднёвацеляханскія (узоры тэкстаў гл. у канцы артыкула). На ўскраінах існуюць гаворкі гродзенска-баранавіцкія (панямонскія), паўночналагішынскія, загародскія і інш.[1] Нейкіх карэнных змен у структуры гэтых гаворак на працягу апошніх 100—150 гадоў не заўважана.

Першапачатковыя звесткі аб гаворках выганаўскага Палесся знаходзім у фальклорных і этнаграфічных працах, хоць мясцовыя дыялектныя рысы ў іх адлюстраваны не ўсе. Часам гэтыя рысы толькі «прасочваюцца» ў тэкст.

У 1847 і 1851 гг. апублікаваны працы Р. Зянькевіча[2], у якіх змешчаны тэксты песень, запісаных у Пінскім павеце. Заўважым, што большая частка выганаўскага Палесся ўваходзіла ў той час у Пінскі павет, на асноўнай частцы якога пашыраны загародскія (заходнепалескія, брэсцка-пінскія) гаворкі. Тэксты публікацый Р. Зянькевіча прыведзены ў перакладах на польскую літаратурную мову або ўяўляюць сабою няпоўную транслітарацыю з мясцовых гаворак на польскую мову. У апошніх, так званых «макаранічных», тэкстах захоўваецца нямала мясцовых дыялектных рыс. На жаль, пашпартызацыя гэтых тэкстаў адсутнічае. Таму немагчыма дакладна ўвязаць тэксты з асобнымі гаворкамі. Сустракаюцца часам рысы, характэрныя для сучасных гаворак былой паўночнай Піншчыны (Целяханшчыны), напрыклад формы *tużyt, lubit*[3]. Таму можна меркаваць, што асобныя тэксты запісаны ў гэтым рэгіёне.

---

[1] Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся: Фанетычны нарыс. Мн., 1983. С. 7—12, 38—39.

[2] Zieńkiewicz R. Pieśni ludu zebrane w Pińszczyźnie // Athenaeum. Wilno, 1847. T. 4, z. 4; Ён жа. Piosenki gminne ludu pińskigo // Athenaeum. Kowno, 1851. T. 4, z. 6.

[3] Zieńkiewicz R. Pieśni ludu... T. 4, z. 4. S. 9.

У. Быкоўскі[4] ў 1868 г. апублікаваў тэксты песень з паўночна-ўсходняй часткі Піншчыны. Пашпартызацыя тэкстаў, як і ў Р. Зянькевіча, адсутнічае. Праўда, названы асноўныя вёскі рэгіёна: Хатынічы, Бобрык, Малькавічы, Лунін, Багданаўка. Зыходзячы з такой лакалізацыі тэкстаў, а таксама па іх моўным характары можна сцвярджаць, што значная, а магчыма і асноўная, іх частка запісана ва ўсходняй частцы выганаўскага Палесся. Запісы зроблены пры дапамозе рускай графікі. Мясцовыя дыялектныя рысы адлюстроўваюцца непаслядоўна. Прыводзім урывак тэксту з публікацыі У. Быкоўскага[5].

Чій же то бацюхна по юлонцы ходіть,
Накрыж ручки носить
И сусидочки просить:
— Да сусидочки мои,
Да ходитежъ вы ко мни,
К моему дитяти,
Коровая згибати...

У. Быкоўскі гаворыць аб неаднароднасці гаворак вывучаемага рэгіёна і іх пераходнасці. У якасці прыкладу ён прыводзіць вымаўленне аднаго слова ў розных гаворках: у Хатынічах — *ходзілі,* у Бобрыку — *ходили,* у Плоскінях — *ходылы*[6].

Шэраг фальклорных тэкстаў з выганаўскага Палесся, менавіта з в. Святая Воля, апублікаваны ў 1872 г. П. П. Чубінскім[7]. Запісы зроблены пры дапамозе рускай графікі. Не ўсе дыялектныя рысы ў тэкстах адлюстраваны. У прыватнасці, у іх адсутнічае дзеканне-цеканне, якое характэрна для гаворкі в. Святая Воля. Прыводзім тэкст з публікацый П. П. Чубінскага, запісаны ў в. Святая Воля[8].

Шли гости да коляднички
Да побудили славного пана,
Пана господара:

---

[4] Быковский В. Свадебные обряды и песни в Пинском уезде Минской губернии: О празднике Купалы. Праздник куста // Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. Спб., 1868.
[5] Там жа. С. 66.
[6] Там жа. С. 63—64.
[7] Чубинский П. П. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряженной императорским Русским географическим обществом: Юго-западный отдел: Материалы и исследования. Спб., 1872. Т. 3. С. 109—110, 294—295, 335—337, 367.
[8] Чубинский П. П. Труды... С. 336—337.

— Да вставай, пане, вельми рано,
И сам уставай, и челядь буди —
По твойму полю сам Господь ходить,
Сам Господь ходить, три святці водить,
Першеє святце — святеє Юриє,
Другеє святце — святий Петро,
Третеє святце — святая Ілія.
Святеє Юриє землю одомкає,
Святий Петро жито зажинає,
Святая Илія у копи складае.

М. В. Доўнар-Запольскі ў 1895 г. (запісы зроблены ў 1890 г.) публікуе зборнік песень Пінскага павета, дзе змяшчае шмат тэкстаў, запісаных на выганаўскім Палессі [9]. Многія пункты гэтага рэгіёна ён наведаў асабіста. Ва ўступе [10] даецца характарыстыка так званаму «сярэдняму» тыпу пінскіх гаворак — відаць, своеасабліваму «кайнэ» заходнепалескіх гаворак Пінскага павета. Даюцца асобныя заўвагі аб некаторых асаблівасцях гаворак паўночных ускраін Піншчыны, г. зн. выганаўскага Палесся. Напрыклад, адзначаецца наяўнасць цекання-дзекання ў гаворках вв. Жытлін *(посіяці)*, Выганашчы *(стрєлиць, поцѣлиць)* і Хатыніцкай воласці *(зацегці, дзевяць)*. Запісаны тэксты пры дапамозе рускай графікі. Мясцовыя моўныя асаблівасці ў тэкстах песень адлюстроўваюцца непаслядоўна. Для тэкстаў, запісаных на выганаўскім Палессі, нярэдка характэрны рысы, якія не ўласцівы сучасным гаворкам гэтага рэгіёна, але тыповыя для асноўнай часткі гаворак Пінскага павета. Да такіх рыс, напрыклад, адносіцца цвёрдасць зычных перад *е, и*. Прыводзім тэксты са зборніка М. В. Доўнар-Запольскага.

1. Выйду за ворыта — слёдки знать,
Куды мое дитятко повьёз зять;
Нє знаты стєжочки, ни колее,
Оно зачуты голосокъ бы ее,
Да уже ў свєкратка ў двыры. [11]

*(м. Целяханы)*

2. Уже стоишь дѣвонька ў долыны,
Выгледае родныны;
Ее роднына пье, гуляе,
За ее нє думае.

[9] Довнар-Запольский М. В. Песни пинчуков: С приложением карты северной части уезда и статьи о говоре // Белорусское Полесье: Сб. этнографических материалов. Киев, 1895, 1896. Вып. 1.
[10] Там жа. С. III—XXVIII.
[11] Довнар-Запольский М. В. Песни пинчуков. С. 24.

— Да чаго, татенько, боисса,
Чи зневаженьки боисса?
Не бойса, матенько, не бойса,
У чирвоны черевыки обуйса;
Топчи вороги пидъ ноги,
А пидкиўками пороги.[12]

*(м. Целяханы)*

3. Мнѣ братъ кесоньку расчесаў,
Дѣ мое уплёты подѣваў,
Чи на Дунай-море попускаў,
Чи свое ботоньки подвязаў?
Як ниженькою ступене,
То сестрыцу ўспомяне:
Тут моя сестрыца ходыла,
Вѣрное дѣлечко робыла.[13]

*(м. Целяханы)*

4. Маты сына выражала,
Мисяцом опеpазала
И зыркою застягнула,
Зыркою обернула:
— Да поѣдешъ, сыночку,
У дороженьку щасну
Да по дѣвоньку красну.[14]

*(м. Целяханы)*

5. Не далеко рѣченька одъ бору,
Занудѣла дѣвонька по дому:
— Везн мене, женишокъ, дѣ ды ўзяў,
Штобъ мой вѣночок не завяў.
— Да не бойса, дѣвонька, не звяне,
Коли моя матонька нагляне.[15]

*(в. Краі)*

З дарэвалюцыйных фальклорных прац адзначым рукапісны зборнік М. А. Рамановіча [16]. У зборніку прыведзены тэксты песень з Кобрынскага (№ 1—68) і Слонімскага (№ 69—80) паветаў Гродзенскай губерні. М. А. Рамановіч працаваў настаўнікам Жытлінскага народнага вучылішча Слонімскага павета. Таму, хоць тэксты песень не пашпартызаваны, мяркуем, што песні са Слонімскага павета запісаны ў в. Жытлін ці ў яго наваколлях. Пра гэта сведчыць і мова песень, хоць паслядоўна дыялектныя рысы ў тэкстах не адлюстраваны. Прыводзім урывак з песні № 69.

---

[12] Довнар-Запольский М. В. Песни пинчуков. С. 24.

[13] Там жа. С. 25.

[14] Там жа. С. 21.

[15] Там жа. С. 27.

[16] Романович М. А. Сборник народных песен крестьян Кобринского и Слонимского уездов Гродненской губернии (рукапіс). Мікрафільм рукапісу захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа АН Беларусі (аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў).

Коло луга, коло броду
Пьють голубы сивы воду.
Пили жъ і ены, напилися,
На ноженьки поднялися
И крылами встрепенули,
На упрашку позирнули.
Козак съ коня не слезае,
До дзѣвчины поспѣшае.
Як пріѣхавъ подъ ворота,
Вышла дзѣвка, якъ золото...

У 1890 г. Д. Г. Булгакоўскі выдаў зборнік песень і этнаграфічных матэрыялаў Піншчыны. Тэксты песень не пашпартызаваны. У аснове фанетычнай структуры тэкстаў ляжаць загародскія гаворкі былога Пінскага павета. Аб гаворках Пінскага павета ў Д. Г. Булгакоўскага ёсць такая заўвага: «В языке заметен переход наречия малороссийского в белорусское, и оттого часто преобладает в нем то тот, то другой элемент»[17].

К. П. Міхальчук прыводзіць дыялектны матэрыял з в. Святая Воля. Гэта адказы на 54 пытанні спецыяльнай праграмы, складзенай І. П. Навіцкім[18]. Запісы зроблены пры дапамозе тагачаснай рускай графікі. Не ўсе дыялектныя рысы гаворкі в. Святая Воля ў гэтых запісах адлюстраваны. К. П. Міхальчук гаворку в. Святая Воля адносіць да так званага слонімска-пінскага «разноречия»[19].

А. Сабалеўскі прыводзіць некаторыя асаблівасці гаворкі в. Святая Воля[20]. Але звесткі аб гэтай гаворцы аўтарам узяты з тых апублікаваных прац, размова пра якія ішла вышэй.

Я. Ф. Карскі прыводзіць дыялектны матэрыял з гаворкі в. Хатынічы, якая знаходзіцца ва ўсходняй частцы выганаўскага Палесся[21]. Запісы зрабіў ураджэнец Случчыны, які, як адзначае Я. Ф. Карскі, унёс некаторыя

[17] Булгаковский Д. Г. Пинчуки: Этнографический сборник // Записки Русского географического общества по отделению этнографии. Спб., 1890. Т. 13, вып. 3. С. VI.

[18] Михальчук К. П. Наречия, поднаречия и говоры Южной России в связи с наречиями Галичины // Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край. Юго-западный отдел. Спб., 1872. Т. 7. С. 527—536, 548—549.

[19] Там жа. С. 500 і карта.

[20] Соболевский А. И. Очерк русской диалектологии. III. Малорусское наречие // Живая старина. 1892. Вып. IV. С. 26.

[21] Карский Е. Ф. Материалы для изучения северно-малорусских говоров, а также переходных от белорусских к малорусским (Полесье). Спб., 1898. Вып. 1. С. 2—14.

слуцкія асаблівасці, не характэрныя гаворцы в. Хатынічы. Прыводзім фрагмент гэтага запісу.

Особенности синтаксиса: Холодные зимы цяжко статку (скоту) зимаваци. За Миколая Паўловіча по 25 годъ служыли. У дзень и ў ночы нима супокою (спокойствія). У мане грошей есць багато (много), немашъ страху, нарodзицца сыноў; яна табѣ не треба будзе. Ёнъ табою мало журицца (он о тебѣ мало заботится). Гэ'то бу'дзе зна'ци. Превосходная степень: большенькій, меньшенькій. Валізный, найбульшый; 5, 6... гадоў. Гдзѣ-жъ ты буў? Ци ты гэтого бачыў? Ци жъ бацька на кепское вучыць? Чаму ты не пачакаў. Що гэ за людзи? Научыць розуму, научыць ліхому; слухай Бога; сцерегуць яблокъ; даць дыхту, даць пару, поѣхаў по овесъ; пошоў у грыбы, ў ягоды. Не му'жно вспамета'ць. Глядзѣць дзика. Объ вуще ты прышоў? «По грыбы» и «у грыбы» одно и тоже; пиць до кого горѣлку; ўдвохъ, ўтрохъ, ўдзесяцерыхъ; памятаў на Бога; сильнѣйшый над мене; лѣпший одъ цибе; смияцца зъ мине; радоваўся зъ гэтого; поцѣху маў съ того [22].

Разглядаючы пытанне беларускай этнічнай тэрыторыі, Я. Ф. Карскі грунтуецца на тых моўных звестках з выганаўскага Палесся, пра якія гаварылася вышэй і якія, як мы бачылі, непаслядоўна адлюстроўвалі сістэму мясцовых гаворак [23].

У 30-я гады XX ст. гаворкі выганаўскага Палесся даследавалі польскія вучоныя Ю. Тарнацкі [24] і Л. Асоўскі [25]. Атлас Ю. Тарнацкага прысвечаны даследаванню лексікі брэсцка-пінскага і валынскага Палесся. Уключае ён 90 населеных пунктаў. З іх у выганаўскім Палессі наступныя: Вяда (№ 82), Раздзялавічы (№ 78), Валішча (№ 81), Стайкі (№ 84), Плоскінь (№ 79). Л. Асоўскі даследаваў пераважна фанетычныя асаблівасці гаворак Палесся. У выганаўскім Палессі ім даследаваны гаворкі населеных пунктаў Выганашчы (№ 3), Вулька Целяхан-

[22] Карский Е. Ф. Материалы... С. 13, 14.

[23] Карский Е. Ф. Этнографическая карта белорусского племени // Труды комиссии по изучению племенного состава населения России. Пг., 1917. Вып. 2. С. 14.

[24] Tarnacki J. Podział językowy Polesia na podstawie faktów leksykalnych. Warszawa, 1936. Ён жа. Studia porównawsze nad geografią wyrazów (Polesie—Mazowsze). Warszawa, 1939.

[25] Ossowski L. Zagadnienie językowe Polesia. Warszawa, 1936; Ён жа. Nowsze i starsze związki Polesia z Wołynią i Czarną Rusią // Polono — Slavica. Poznań, 1939.

ская (№ 4), Целяханы (№ 5), Раздзялавічы (№ 6), Хатынічы (№ 7).

У пасляваенныя гады гаворкі выганаўскага Палесся даследаваліся ў сувязі са зборам матэрыялаў для стварэння «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы»: гаворкі вв. Козікі (№ 716), Выганашчы (№ 717), Бабровічы (№ 718), Хадакі (№ 719), Аброва (№ 722), Турная (№ 723), Азарычы (№ 725), Раздзялавічы (№ 753), Хатынічы (№ 754), Рэчкі (№ 759), «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа»: гаворка в. Азарычы — № 375 і «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак»: гаворкі вв. Горталь (№ 102), Козікі (№ 101), Хатынічы (№ 106) [26].

Акрамя таго, у пасляваенныя гады гаворкі выганаўскага Палесся даследаваліся ў шэрагу іншых навуковых прац.

Н. Т. Вайтовіч [27] на падставе асаблівасцей ненаціскнога вакалізму выдзяляе як своеасаблівую дыялектную адзінку на поўначы брэсцка-пінскага Палесся — паўночнабрэсцкія гаворкі, у склад якіх уключана асноўная частка гаворак выганаўскага Палесся.

В. М. Чэкман робіць апісанне асноўных фанетычных рыс гаворкі вв. Рэчкі і Рудня [28].

Ф. Д. Клімчук разглядае пытанне групоўкі гаворак вывучаемага рэгіёна на падставе даных фанетыкі [29]. Ім пацвярджаецца правамернасць вылучэння паўночнабрэсцкіх гаворак, адзначаюцца іх рэгіянальныя асаблівасці ў межах выганаўскага Палесся, а таксама вылучаюцца невялікія дыялектныя групы — гаворкі паўднёвацеляханскія і паўночналагішынскія — пераходныя паміж паўночнабрэсцкімі і загародскімі гаворкамі.

Некаторыя публікацыі ўяўляюць сабою невялікія слоўнічкі дыялектнай лексікі гаворак вывучаемага рэгіё-

---

[26] Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963; Общеславянский лингвистический атлас: Справочные материалы. М., 1978; Лексічны атлас беларускіх народных гаворак (рукапіс).

[27] Вайтовіч Н. Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі. Мн., 1968. С. 81, 82, 107, 108, 113, 189.

[28] Чэкман В. М. Нататкі аб праціпастаўленнях па цвёрдасці-мяккасці ў некаторых паўднёвабеларускіх гаворках // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1968. С. 6—18.

[29] Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся. С. 7—12, 38, 39; Ён жа. Групування говірок Берестейщини //XIII Республіканська діалектологічна нарада: Тези доповідей. Київ, 1969. С. 110.

на[30]. Ёсць артыкулы, прысвечаныя аналізу асобных фанетычных з'яў[31]. У некаторых працах прыводзяцца дыялектныя тэксты з гаворак даследуемай тэрыторыі: вв. Халпенічы, Бабровічы, Горталь, Амяльная, Рэчкі[32].

Асобныя факты даследуемых гаворак прыводзяцца ў шэрагу іншых прац[33].

Прыводзім узоры тэкстаў сучасных гаворак выганаўскага Палесся: вв. Доўгая (мясц. *Дóвга, Дóвгая;* паўночнабрэсцкі дыялектны тып) і Гошча (мясц. *Гэ́шча;* паўднёвацеляханскі дыялектны тып). Запісана аўтарам у красавіку 1987 г.

У гаворках вв. Доўгая і Гошча ў становішчы пасля галосных перад зычнымі, у пачатку слова і ў прыназоўніках вымаўляецца губна-губны *в (вовкі, вжэ, був, в лêс)*.

## ЯК ГОРЭЛО НАШЭ СЕЛО

Брат мнê росказвав. Я шчы маленькі був, а брату годэв чэтырнацаць було. Парцізаны сказалі, шо нêмцы будут паліці. Усê уцеклі в лêс — брат трохі затрымавса. Прыêхалі нêмцы. Нікого не знайшлі. Васіль вэльмі спу-

---

[30] Груца А. П., Паўлоўскі I. I. З лексікі в. Святая Воля // Жывое слова. Мн., 1978; Клімчук Ф. Д., Яшкін I. Я. З лексікі Выганаўскага Палесся (вёска Горталь Івацэвіцкага раёна) // Народнае слова. Мн., 1976; Арашонкава Г. У. З дзеяслоўнай лексікі Брэсцка-Пінскага арэала // З народнага слоўніка. Мн., 1975; Аляхновіч М. М. З лексікі вёскі Валішча Пінскага раёна // Народная лексіка. Мн., 1977.

[31] Araszonkowa A. Uwagi o refleksach sawogloski *o* w poludniowo-zachodnich gwarach bialoruskich // Slavia Orientalis. 1972. R. 21. N 1; Міхайлаў П. А. Аб адной фанетычнай асаблівасці паўночналагішынскіх гаворак // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Мн., 1973.

[32] Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Беларуская дыялекталогія: Хрэстаматыя. Мн., 1979. С. 228—232; Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся. С. 124, 125, 127.

[33] Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964; Блінава Э. Д., Мяцельская Е. С. Беларуская дыялекталогія. Мн., 1969, 1980; Вештарт Г. Ф., Выгонная Л. Ц., Лучыц-Федарэц I. I., Мартынаў В. У. Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Толстой Н. И. О лингвистическом изучении Полесья // Полесье. М., 1968; Мацкевіч Ю. Ф. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. Мн., 1959; Бірыла М. В. Этымалагічна мяккія губныя зычныя ў беларускіх народных гаворках // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 3; Ён жа. Рэфлексы агульнаславянскіх *о, ъ, ь, е, ь* у беларускіх гаворках // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1959. Вып. 6.; Ён жа. Парныя па цвёрдасці-мяккасці *д—дз' (д'), т—ц' (т')* у беларускіх гаворках // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1960. Вып. 7; Ён жа. Вынікі пераходу *е (<е, ь)* у *о* і з'явы, звязаныя з ім у беларускай мове // Prace filologiczne. Warszawa, 1964. Т. 18, cz. 2.

гавса. Побêг і залêз на елку на краю села. Нêмцы ходзілі і пыдпальвалі хаты́. Село загорэлосо. Половіна села тоды згорэла. А Васіль сêдзêв на елцы да гаж дрыжав. Нêмцы подышлі пыд елку. Походзілі. Васіль думав, шо вжэ конец. Так страшно було, шо, казав, гаж себэ не помнів. Але добрэ, шо елка була высока да розгаліста. Воны нê побачылі ёго. Нêмцы пошлі. Гэто гаж чы не цэлы дзень вэн там просêдзêв. Тэлькі пэзно нэччу злêз да побêг в лêс. Шчасце нашэ, шо нам парцізаны росказалі, шо паліці будут, да мы повцекалі.

*Рыгор Андрэевіч Самуйлік, 54 гады*
*В. Доўгая*

## ЯК Я ОД ВОВКЭЙ БОРОНІВСА

Поêхав я с твоім бацьком готовіці дрова. Твэй бацько шчы малы був, годэй чэтыры. Поставів я воза, а сам пошов дрова сêкці, готовіці. А Грышку на возе оставів. Бачу — вовкі. Подходзят до мане, штукі тры. Схваців я ломачыну да став бороніціса. Думаю, як там Грышка,— страшно мнê стало. Отходзю до воза, добрэ, шо недалёко було. Оглянувса, бачу: плачэ мэй Грышка, плачэ. Я одмахваюс од вовкэй, а воны пыдскаквают. Одному по зубах дав, і вовкі побêглі в лêс. Сокêру я в лéсê оставів і забув про еê, так спугавса. Подбêг до воза, узяв Грышку на рукі, а вэн гаж заходзіцца. Потрохі сціх. Добрэ, шо вовкі не напалі на вэз с конем. Во як зо мною було, так страшно вспомінаці. І зэрэ мурашкі, як вспомню, по спінê бêгают.

*Васіль Андрэевіч Самуйлік, 67 год*
*В. Доўгая*

## ЯК СÊНО ГРЭБЛІ ДА В ЯГОДЫ ХОДІЛІ

Як сêно грэблі, то в копіцэ клалі. Ходілі по болоті. Нагрэбэм на насілы бэрэмнямі да кладэм на копіцу. Да нэсэм до подка. Подок накладены з дров чы з лозы, на тэе кладэм сêно. Чы на грудку кладэм. Подка зробімо на болоті. Хтонь подае, а я стою на стожку да вэршу. А потом ідэм додому. Бувае споваем, а як натомімоса, то нэ здужаем. Прыдэш, ляжысса і оддыхаеш. А взавтра врано в ягоды йдэш. Мнэго в лêсі ягэд. Ходілі з дэвчатамі, з бабамі ходілі.

## КРАДЕНЭ ШЧАСТЯ НЭ ПРЫНЭСЭ

Одна баба да вкрала з мужыком свіныо. Укралі, завэлі у лêс да забілі. А лêс называвса Чурыло. Забілі, у бочку склалі. А торбу наклалі да в стожку захавалі. А холодно було, мороз. А воны булі в постолях. Залêзлі в стожок і ночовалі, бо бояліса іті додому. Зранку прочнуліса, вжэ додому хотêлі. Шукалі бочку, да нэ нашлі. Шлі охотнікі с собакамі. Собакі нашлі бочку с салом, собакі нюхалі да нашлі. Охотнікі пыдпісалі бочку. Мужык з жэнкою пошлі додому. Потом вэрнуліса, а мняса нэма. Мнясо забралі охотнікі. Протів хаты в возэры загата була, а там бочка стояла. Чорт ёго вêдае, нашо еê поставілі. Нêхто пыдсказав, шо прыбірайтэ бочку, бо пыдпісаная, будут знаті, шо вашая. Порэзалі, посêклі тую бочку да і в пêч укінулі, да і спалілі.

*Галоўчык Еўдакія Канстанцінаўна, 77 год*
*В. Гошча*

*А. І. Чабярук*

## АБ НАЗВАХ ТРАДЫЦЫЙНЫХ ЗБОРАЎ У ВЁСЦЫ ДЛЯ ПРАЦЫ І АДПАЧЫНКУ

У сувязі з часам, зменай укладу жыцця, рознымі абставінамі знікаюць або робяцца іншымі шматлікія вясковыя традыцыі. У сучасны момант некаторыя з іх ужо зніклі і засталіся толькі ў памяці старэйшага пакалення. З кожным годам усё цяжэй яны выяўляюцца. Да ліку такіх адносяцца і зборы дзяўчат і жанчын у пэўную пару года з працай у памяшканні.

Абрадавая лексіка такога тыпу з'яўляецца адлюстраваннем жыцця чалавека. Яна цікавая для моваведа і этнографа. Аднак да нашага часу гэта мовазнаўчая і этнаграфічная тэма не знайшла належнага месца ў даследаваннях.

У розных кутках Беларусі па-рознаму праходзілі зборы, па-рознаму называліся. У кожную назву укладваўся свой сэнс, існавалі семантычная агульнасць і адрозненне паміж гэтымі тэрмінамі.

Апісанне бытавога працоўнага абраду ў некаторых мясцінах Беларусі зроблена ў мінулым даследчыкамі беларускай культуры і мовы П. В. Шэйнам, І. Сержпутоў-

скім і інш. Значны матэрыял па разглядаемай тэме быў сабраны яшчэ па праграме Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы (ДАБМ). Матэрыял ДАБМ дае магчымасць паказаць геаграфію лексічных варыянтаў назвы збораў у асенне-зімовы час з працай, іх семантычныя, словаўтваральныя і акцэнталагічныя асаблівасці, а таксама характар гэтых збораў.

Як паказвае сабраны матэрыял, зборы адбываліся позняй восенню і зімой, калі людзі былі больш вольныя ад цяжкіх сельскагаспадарчых работ. Дакладней кажучы, жанчыны і дзяўчаты пераключаліся на іншыя віды вясковай працы: яны пралі, вышывалі ручнікі, сарочкі, вязалі карункі, панчохі і г. д.

Як паведамляе П. В. Шэйн, час гэтых збораў для працы пачынаецца ў адных месцах з 1 верасня, у другіх— некалькі пазней. Жанчыны і дзяўчаты збіраюцца ў адну хату, прыносяць мяса, каўбасы, хлеб і іншыя харчы. Першы дзень збораў з'яўляецца святам, якое адзначаецца гульнямі [1].

І. Счансновіч сведчыць, што зборы пачынаюцца позняй восенню. Яны адбываюцца звычайна ў хаце бабыля, які за гэта атрымлівае плату ў выглядзе натуральных прадуктаў. Зборы праходзілі з працай і ігрышчамі. Моладзі гэтыя зборы былі даспадобы. Яны давалі магчымасць для сустрэч, можна было і павесяліцца разам, і газы менш трацілася, і сяброўкі дапамогуць разабрацца ў якім-небудзь складаным узоры пры вязанні і вышыванні [2].

На вячэрніх зборах з працай былі людзі рознага полу і ўзросту. Аднак, як заўважае П. В. Шэйн, у некаторых мясцовасцях Віцебскага павета «парни никогда не заходят на эти вечера» [3], а на Палессі, указвае ён, калі-нікалі хлопцы бываюць.

І. Счансновіч, апісваючы супрадкі, гаворыць, што хлопцы з'яўляліся актыўнымі іх удзельнікамі. На такія зборы іншы раз дзяўчаты імкнуліся ўцячы з дому без прасніцы ці рукадзелля [4].

---

[1] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 3. Описание жилища, одежды, препровождения времени, игры. Спб., 1902. С. 119, 120, 370.

[2] Сч[енснович] И. На супрядках в Т-ах Витебской губ. // Витебские губернские ведомости. 1894. № 63—67.

[3] Шейн П. В. С. 9.

[4] Сч[енснович] И. Там жа.

Матэрыял ДАБМ таксама сведчыць, што зборы з працай маглі суправаджацца забавамі. На зборах маглі прысутнічаць хлопцы, часта з працай. Прывядзем некаторыя матэрыялы ДАБМ, якія паказваюць сутнасць збораў, іх асаблівасці і найменні: *у папрáдухі ідзéць, бярэ́ць прáсніцу й калаўрóт (днём і вечарам),* в. Казлоўцы Мёр. (68) [5]; *Вічары́нка, калі толькі гуляюць, папрáдухі, калі прадуць вечарам у каго-н.; туды прыходзілі хлопцы,* Паметнікі Пол. (70); *папрадýхі — зімой дзяўчаты збіраюцца прасці,* Слабада Ушац. (83); *у сýпраткі іці — калі сабіраліся на дзень у адну хату прасці; у нáначкі — калі сабіраліся прасці на ноч,* Казімірова Пол. (95); *сýпраткі дняўныя і вячэрнія зборы з працай,* Зарачанне Пол. (101); *папрáдухі — удзень з прасніцай, вечарýшкі — вечарам з прасніцай,* Драглеўцы Ашм. (183); *зімой дык кажуць: «Пойдзем на пóпраткі»,* П'яны Лес Докш. (200); *зімой пад каляды дзеўкі ходзяць на пóпраткі,* Чысці Пол. (204); *пóпраткі, калі адна дзяўчына просіць другую прыйсці да яе з прасніцаю,* Белая Лаг. (209); *сýпрікі, пóпрікі — прадуць і байкі баюць; пераважна дзяўчыны і жанчыны збіраліся,* Шэкі Дубр. (302); *нашлéжкі — калі вечарам прадуць і вышываюць; сýпрадкі — калі збіраюцца днём,* Вялікае Шчокатава Гор. (328); *ходзяць на вячóркі кудзéльніцы, калі прадуць уручную; вечаркé — наогул збіраюцца папрадаваць увечары разам,* Вярбілкі Шчуч. (363); *папрáдухі ўзімой — каторыя прадуць, каторыя вяжуць, а як празнікам сабяруцца, то гэта ўжэ гулянне або вічарушка,* Тупічане Ваўк. (372); *зімой, кажуць, сабраліся на папрадухі або на вячоркі,* Дзякі Ваўк. (383); *вічары́ны, калі танцуюць, вічаркí — прадзем, робім што пруткамі, хлопцы ў карты іграюць,* Есенавічы Ваўк. (385); *вячóркі — збор моладзі з працай; вечарынка — збор моладзі ў святы, абавязкова з музыкай,* Сянежыцы Навагр. (405); *вячóркі — сабіраюцца дзеўкі; хто з прасніцай, а хто вяжа; днём — пашла з кудзеляю,* Выня Кап. (457); *досвьткі — раніцаю, нъ попрътки — днём, вьчоркі — вечарам,* Парэчча Пух. (489); *збяромся, бывала, на пóпраткі або на вячóркі да й спяваям,* Обчае Пух. (492); *на папрáдухах была, дык гэта днём ходзяць с прасніцай, на вячóркі вечарам ідуць, а на дóсвітках дык ідуць прасці яшчэ досвіта,* Сорагі Слуц. (502); *пóпрат-*

---

[5] Лічба пасля назвы вёскі адпавядае нумару пункта на карце ДАБМ.

*кі — раніцай, вячóркі — вечарам, нáначкі — ідуць вечарам і начуюць,* Грабёнка Чэрв. (508); *вячóркі ўвечары, пóпраткі днём і толькі зімой, можна пер'я скупці,* Лапічы Асіп. (523); *вячóрка — збор моладзі ўвечар, звычайна дзяўчаты вязалі, пралі і г. д.; хлопцы таксама сюды прыходзілі, цяпер на вячоркі амаль не збіраюцца; вечары́нка — збор моладзі ў свята, раней — ігры́шча,* Замошша Асіп. (528); *на вячóркі — вечарам, на ранкі—раніцаю, на досветкі — пры агні,* Сымонавічы Глуск. (536); *вечарам — нашлéжкі, днём — сýпрядкі,* Батаева Хоцім. (649); *вячóркі — калі дзяўчаты збіраюцца прасці; вечары́нка — калі танцуюць; пасядзінкі — дзяўчаты збіраюцца разам прасці, вышываць, шыць, нават удзень,* Мядзведзічы Лях. (744); *вячаркі — моладзь збіраецца вечарам куды-н. у хату, прычым дзяўчаты з работай,* Кукава Ганц. (748); *вэчоркы́ — і хлопцы прыходзяць, а дзеўкі заняты сваім дзелам; попрáдухы — днём, суседка да суседкі ідзе,* Стахаў Стол. (770); *вечóркі (вечарам), пóпрадкі, поседзёнкі — днём — рабочыя зборышчы; вечары́нка для гульні; дóсвіткі — раніцай для работы,* Заклюцічы Жытк. (798); *пóпрадкі — удзень, вячóркі — вечарам прасці, а таксама, калі і прысутнічаюць хлопцы,* Растаў Акц. (829); *вячóркі, пóпрадкі — розніцы няма, ці днём, ці вечарам,* Навінкі Калін. (882); *вячóркі — зборышчы для работы без начлега,* Азершчына Рэч. (909); *пóпрадкі раніцай і днём, вячóркі — вечарам,* Пярэдзелка Лоеў. (922); *на хвацéру,* Пералёўкі, Шэрсцін Ветк. (926, 931); *ходзяць на хвацéру,* Дзям'янкі Добр. (932); *пóпрадкі для маладых, вячóркі для больш дарослых; посідзéнкі — робяць і гуляюць,* Крупец Добр. (937); *хватéра, наначкі (раней),* Усохская Буда (941); *вэчорінка — гуляць сабраліся; вэчóркі, пóпрадкі — збіраюцца працаваць: хлопцы плятуць лапці (пустулы́), дзяўчаты прадуць,* Прыбалавічы Лельч. (976); *вечóркі — зімой, калі хлопцы лапці плятуць, а дзеўкі вышываюць, прадуць,* Баравое Лельч. (989); *вячóркі — з работай вечарамі, пóпрадкі — з работай днём,* Гурыны Мазыр. (996); *вячóркі — вечарам прадуць, вышываюць, гуляюць з хлопцамі, пóпрадкі — днём,* Даўляды Нараўл. (1011).

Матэрыял паказвае, што збор адбываецца і днём, і вечарам, і раніцай, і ноччу. У працэсе лінгвагеаграфічнага даследавання збораў жанчын і дзяўчат з працай выяўляецца складаная сістэма дыялектных адрозненняў як у моўным, так і ў тэрытарыяльным плане. Назва зале-

жыць ад часу, у які адбываецца збор, прычым матываванасць назвы вельмі празрыстая: *вячóркі, вечарýшкі, вечарнúці, вакарýшкі* — зборы вечарам; *дзянýшкі* — удзень; *дóсветкі, дасвéткі* — раніцай; *на дóсвітку* — на світанні; *нáначкі, начлéжкі* — позна вечарам, уначы. Матывацыяй назвы можа быць, акрамя таго, асноўны від работы, які выконваецца на гэтых зборах, — *пóпрадкі, папрáдухі, сýпрадкі,* або дзеянне чалавека, які прысутнічае на зборах,— *пасідзéлкі;* у аснове назвы ляжыць тое, што з'яўляецца прадметам працы,— *кудзéльніцы, пакудзéльве, з кудзеляю пайсці;* найменне ўтвараецца ад назвы месца, дзе адбываюцца зборы,— *хвацéра, на хвацéру*.

Адной з характэрных асаблівасцей збораў з'яўляецца тое, што зборы былі не толькі жаночымі, вечарам на зборы часта прыходзілі хлопцы з працай, а часцей — без працы. Днём збіраліся звычайна толькі дзяўчаты і жанчыны. Цікава, што большасць дзённых збораў называецца *пóпрадкі* (або іншыя ўтварэнні ад *прад-*). Такі варыянт назвы збораў з працай можна тлумачыць і тым, што вячэрнія зборы ў асноўным уключалі іншыя віды працы, а таксама элементы гульні, адной з прычын збораў была таксама неабходнасць сустрэч, зносін. На дзённых зборах толькі пралі.

Шкада, што не ўсе збіральнікі матэрыялаў ДАБМ зрабілі заўвагі аб тым, калі адбываецца збор, гэта, у прыватнасці, датычыцца лексем *пóпрадкі, папрáдухі, сýпрадкі*. Аднак у гэтым, відаць, вінаваты не толькі збіральнікі: губляецца сама з'ява, традыцыя, губляецца і сэнс назваў — яны ўспрымаюцца без семантычных нюансаў. Таму там, дзе словы падаюцца без тлумачэнняў, як сінонімы, мы можам дапусціць, што тут згубілася розніца ў назве збораў у залежнасці ад часу, у які яны адбываюцца, і ў выніку іншых прычын. Вялікая колькасць слоў без тлумачэнняў у асобных пунктах сведчыць таксама пра тое, што назвы цяпер ужо не маюць істотнага значэння ў намінацыі збораў. Напрыклад: *нáнъчкі, сýпраткі,* Узгоі Талачын. (277); *сýпраткі раней былі,* Камарычы Бых. (593); *вечарýшкі, пóпраткі,* Сідаравічы Маг. (583). Прычым у апошнім пункце пры паўторным абследаванні зафіксавана толькі адна лексема — *пóпраткі*. Адрозненне назвы ў залежнасці ад часу, калі збіраюцца, мае месца ў наступных пунктах: Ісаі, Дуброўкі, Казяны, Мураж, Галубоўшчына Брасл.; Шчаперня, Мётлы,

Арлея, Казімірова, Сасно, Залессе, Пол.; Казяны, Запалянка Шум.; Навасёлкі, Паўлючонкі Віц.; Жукоўні Астр.; Азаркі-Пудавінка Мядз. і інш.[6] У в. Шэметаўка Сен. (301) указваецца, што супрадкі днём бываюць, але другой назвы няма, якая б указвала на збор у іншы час. Тое ж у в. Рудзіцы Шкл. (324).

*По́прадкамі* ў большасці выпадкаў называюцца зборы ўдзень, але ў радзе пунктаў заўважаецца, што гэта вячэрнія зборы: *прыду ўвечары на по́прадкі,* Салабута Карм. (598). Акрамя таго, як указваюць інфарматары, *на попрадкі збіраюцца толькі прасці кудзелю,* Лучын Раг. (604). Тое ж робяць «на кудзельніцах»: *кудзе́льніцы — калі прадуць кудзелю,* Вялікі Краснік Пруж. (675); *на кудзе́льніцах прадуць лён,* Ялова Пруж. (679). Інфарматары некаторых пунктаў паведамляюць таксама, што: *вячо́ркі, по́прадкі — розніцы няма ці днём, ці вечарам,* Навінкі Калінк. (882).

З усіх прыведзеных найменняў найбольш пашыранымі з'яўляюцца лексемы, якія ўтвораны ад каранёў *вечар-* і *прад-*. Лексемы з коранем *вечар-* вядомы на ўсёй моўнай тэрыторыі. І толькі ў віцебскай падгрупе гаворак, у цэнтральнай і ўсходняй частках полацкай групы назвы з гэтым коранем адзначаны ў адзінкавых выпадках.

Назвы, што ўзыходзяць да кораня *прад-,* бытуюць таксама на значнай тэрыторыі. Не зафіксаваны яны толькі ў паўночна-заходняй падгрупе, за выключэннем некалькіх пунктаў на яе паўднёвым захадзе.

З коранем *вечар-* вядома некалькі словаўтваральных варыянтаў. Больш распаўсюджаным з'яўляецца варыянт *вячо́ркі* і яго акцэнталагічны адпаведнік *вечаркі́(е́),* якія адзначаны на тэрыторыі пашырэння націску на апошнім складзе назоўнікаў множнага ліку (у Шчучынскім, Ваў-

---

[6] Лічбы, якія мы прыводзім ніжэй, абазначаюць населеныя пункты на картах ДАБМ, у якіх таксама зафіксавана адрозненне назвы ў залежнасці ад часу збораў для працы: 183, 193, 233, 234, 242, 245, 248, 276, 278, 283, 296, 304, 322, 328, 337, 352, 400, 457, 460, 465, 471, 485, 489, 494, 496, 499, 501, 502, 503, 507, 509, 510, 511, 513, 515, 516, 518, 521, 523, 525, 527, 530, 532, 535, 536, 539, 541, 545, 550, 553, 554, 559, 561, 562, 564, 568, 601, 604, 607, 609, 615, 626, 636, 649, 712, 716, 732, 733, 770, 774, 777, 780, 781, 783, 784, 791, 798, 800, 805, 806, 810, 815—821, 825, 828, 832, 837, 843, 846, 849, 850, 857, 859, 862, 872, 874, 881, 887, 888, 899, 912, 913, 922, 924, 966, 990, 991, 993, 994, 996, 997, 999, 1003, 1004, 1008, 1009, 1011, 1012, 1013, 1018.

Назвы вёсак, якія адпавядаюць прыведзеным нумарам, гл. у ДАБМ: Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. С. 44—171.

кавыскім, Баранавіцкім, Івацэвіцкім, Ганцавіцкім і Пінскім раёнах). На захадзе паўночнай групы гаворак назва вячэрніх збораў з працай зафіксавана і ў варыянце *вечарўшкі*. Акрамя таго, гэтая назва адзначана ў Ашмянскім, Магілёўскім, Мсціслаўскім і Крычаўскім раёнах. У трох пунктах палескай групы гаворак запісаны варыянт *вечарныцi*. У в. Шкураты Брагінскага раёна (1018) адзначаецца варыянт *падвечаркі*, а ў в. Спярыжжа гэтага ж раёна — *падвячоркі*. У в. Дамуці Пастаўскага раёна (153) зарэгістравана лексема *вакарўшкі*, якая ўзыходзіць да літ. *vakarūškos* 'вечарынка'.

Назвы, утвораныя ад кораня *прад-*, адрозніваюцца словаўтваральна-акцэнталагічнымі асаблівасцямі, якія маюць тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне. Варыянт *попрадкі* бытуе ў паўднёва-ўсходняй зоне беларускіх гаворак, а ў паўночна-ўсходняй яе частцы ён сустракаецца зрэдку. На поўначы гэты варыянт заходзіць у паўночна-заходнюю зону. Акцэнталагічны варыянт *папрадкі* зафіксаваны ў асобных пунктах: *папраткі*, в. Лаўцы Глыб. (48); *пупраткі*, Навінцы Міёр. (65); *папраткі*, Гарэлец Пух., Ачыжа Чэрв. (484, 516); *попрадкі*, Сітніца Лун. (805). Словаўтваральны варыянт з суфіксам *-ух-* — *папрадўхі* бытуе ў заходняй зоне. Больш кампактна — у паўночнай і паўднёвай частках. Радзей ён сустракаецца ў паўночна-заходняй групе гаворак. Больш пашыраным з'яўляецца варыянт з націскам на корані слова. З насуфіксальным націскам назвы бытуюць на поўнач ад Віліі ў наступных пунктах: *пыпрадўхі*, Пялікі Шарк. (40); *у папрадўхі*, Рудная Глыб. (46); *у папрадўхі хадзілі*, Саланевічы Ушац. (75); *у папрадўхі*, Лабуноўшчына Ушац.; *папрадўхі*, Слабада Ушац. (83), Пузыры Пол. (198). У палескай групе гаворак зарэгістраваны варыянты *попрады*: В. Лукамір Бяроз. (682), Брады Пруж. (683), Бельск Кобр. (704), Чарняны Малар. (952), Аса Малар. (954) і *попрадэ*: Замосце Кобр. (955). У двух населеных пунктах палескіх гаворак зафіксавана лексема *прадохі* — вв. Каленкавічы (652) і Бярозаўка (654) Высок.

Варыянт *сўпрадкі (сўпраткі)* пашыраны ў полацкай і віцебска-магілёўскай групах гаворак. Найбольш выразна акрэслены і запоўнены арэал ахоплівае віцебска-магілёўскую групу гаворак, у полацкай групе адзначаецца спарадычна. Гэты варыянт прыведзены ў Слоўніку І. І. Насовіча: **Супрядки.** Посиделки; осенние и зимние вече-

ра, в которые девицы собираются в одно место прясть. *В полночь с супрядокъ вороцились*[7].

Зборы на попрадки ў позні час, ноччу называюцца *нáначкі: у нáначкі прасці збіраліся,* Владычына Пол. (64); *хадзілі у нáначкі прасць,* Арцейкавічы Пол. (63). З гэтым жа коранем вядомы варыянт *нашлéжкі,* Карумны Дубр. (304); *начлéшкі,* Азаркі-Пудавінка Мядз. (161), Пугляі Арш. (313); *нашлéжкі,* Вялікае Шчокатава Горац. (328), Забалоцце Мсц. (609), Первамайск Крыч. (613), Ціляшы Слаўг. (618), Пільня Крыч. (625), Выдранка Краснап. (636), Батаева Хоцім. (649): *начóўкі,* Зоры Крыч. (619).

Апошнія назвы пашыраны ў віцебска-магілёўскай групе гаворак і полацкай групе, пераважаючы ў яе ўсходняй палавіне. Арэал запоўнены рэдка.

Слова *дóсветкі* называе збор дзяўчат і жанчын з працай на світанні, рана, да ўсходу сонца. Распаўсюджана гэтая назва ў цэнтральнай частцы сярэднебеларускіх гаворак і цэнтры паўднёва-заходняга дыялекту, з адзінкавымі выпадкамі на захадзе гэтага дыялекту: *на вячóркі — вечарам, на пóпраткі — удзень, на дóсвіткі — раніцаю,* Новая Ніва Чэрв. (510); *дзяўчаты ці жанкі ідуць вечарам на вячóркі (з прасніцамі), днём — на пóпраткі, раніцаю — на дóсветкі,* Дрочава Асіп (531); *дóсвіткі — як устануць рана, сабіраюцца і прадуць умесці; сýпраткі і вячóркі — адно і тое ж — вечарам,* Галік Івац. (711). Адзін выпадак такога варыянта адзначаны ў палескай групе гаворак: *вычóркы — увечары, попрáдухы — удэнь, дóсвыткы — додня прадуць,* Сочыўкі Іван. (733).

Да гэтай назвы прымыкае лексема *рáнкі: на вячóркі — вечарам, на рáнкі — раніцаю, на дóсвіткі — пры агні,* Сымонавічы Глус. (536). Аднак, як відаць з прыкладу, гэтыя зборы больш познія, чым *досвіткі,* праца ідзе пры дзённым асвятленні. Адзначана яна ў некалькіх пунктах на паўднёвы захад ад Бабруйска.

Сама за сябе гаворыць назва *дзянýшкі* і варыянт *дзянкí,* якія адзначаны ў двух пунктах на захадзе тэрыторыі: *вечарушкі, дзянýшкі — зборышчы моладзі для работы,* Хвасты Брасл. (9); *пашлі на дзянкí,* Тракелі Воран. (151).

У заходняй зоне зборы жанчын і дзяўчат, у пераважнасці дзённыя, маюць назву *кудзéльніцы* або яны абаз-

---

[7] Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 623.

начаюцца спалучэннем: *пашлі (хóдзяць) с кудзéляю.* Кампактна гэтая назва прадстаўлена ў заходняй групе гаворак: *удзень збіраюцца на кудзéльніцы,* Курчаўцы Радун. (352); *кудзéльніцы, калі прадуць уручную; вечаркé — наогул збіраюцца папрадаваць увечары разам,* Вярбілкі Шчуч. (363); *кудзéлькі,* Міжэрычы Зэльв. (386); *удзень з кудзéляю ходзяць, а ўвечары на вечаркóх,* Сіманы Лід. (400); *кудзéльніцы,* Зарой Дзятл. (407); *пóйдзем з кудзéляю,* Заполле Карэл. (443); *днём кудзéльніцы,* Сейлавічы Нясв. (453); *вячóркі — вечарам, а йдзе с кудзéллю — удзєнь,* Руднае Кап. (460).

Назвы з коранем *сед- (пасядзéлкі, пасядзéнькі)* зафіксаваны ў гаворках усходняй зоны, зрэдку ў паўднёвай палавіне заходняй зоны. Але сустракаецца гэтая назва не часта, больш яна прысутнічае ў гаворках уздоўж усходняй мяжы Беларусі: *днём — пасíдзелкі, вечарам — вечарýшкі,* Баркова Гарад. (126); *пасідзéлкі, калі збіраліся прась,* Задуброўе Віц. (128); *раней з пралкамі — пасíдзéлкі,* Глоданкі Лёзн. (130); *пасядзёлкі — тое самае, што вячóркі,* Новая Дражня Асіп. (621). Прычым лексемы з коранем *сед-* не заўсёды называюць зборы з працай. У некаторых выпадках яны называюць збор для гутаркі і зносін: *поседзéнькі — еслі нічога не робяць,* Дабучын Пруж. (680); *адна к другой пашла на пасядзенькі, гэта так сабе, бес работы,* Любішчыцы Івац. (713); *поседзéнькі — без танцаў, посядзéлкы нічога не робяць, сядзяць (у суботу, нядзелю),* Дубай Стол. (773).

У в. Целяшы Слаўгарадскага раёна зафіксавана лексема *хéйдыр,* якая мае яшчэ значэнне 'хата, у якой збіраліся з кудзеляю'. Гэта лексема з'яўляецца запазычаннем. Яна, відаць, узыходзіць да ням. *Hede* 'пакля, ачос, кудзель'.

Назва збораў з працай *хвацéра (на хвацéры)* мае вузка лакальнае пашырэнне, сустрэлася ў пяці пунктах: Пералёўка, Шарсцін Ветк., Дзям'янкі Добр., Усохская Буда, Усохі Цер. (926, 931, 932, 941, 942).

Акрамя збораў для працы, вядомы зборы моладзі для забаў. Звычайна гэта вячэрнія зборы. Варта адзначыць, што вячэрнія зборы з працай часта суправаджаліся музыкай, песнямі — «байкі бавілі і песні пелі», магчымы былі і танцы. Зборы без працы звычайна адбываліся ў святочныя дні.

Асноўнай назвай такіх збораў з'яўляюцца найменні з коранем *вечар-,* якія характарызуюцца ў большасці ін-

шымі суфіксамі, чым у аднакарэнных найменнях збораў з працай. Лексема *вячо́ркі,* якая супадае з назвай працоўных збораў, спарадычна адзначана на ўсёй тэрыторыі, часцей сустракаецца ў паўночна-заходняй зоне. У в. Кушлікі Полацкага раёна (66) слова зафіксавана ў форме адзіночнага ліку — *вячо́рка.* Больш пашыранымі з'яўляюцца ўтварэнні з суфіксам *-ынк-а(і)* у форме адзіночнага або множнага ліку пры перавазе першай. Лексема ў форме множнага ліку *(вечары́нкі)* характэрна для гаворак паўночна-заходняй зоны. На астатняй тэрыторыі спарадычна сустрэлася ў палескай групе гаворак і паўднёва-ўсходняй зоне.

Утварэнні з суфіксам *-ын-* у форме адзіночнага і множнага ліку *(вечары́на, вечары́ны)* зафіксаваны на захадзе полацкай групы гаворак, прычым пераважаюць формы ў адзіночным ліку. Вузкалакальнымі з'яўляюцца ўтварэнні з суфіксам *-ушк-* — *вечару́шкі: вечарушкі без музыкі, вечары́ны з музыкай, танцы,* Ністанішкі Смарг. (161); *вечару́шкі — танцы,* Вішнева Смарг. (166); *віча-ру́шкі — танцы,* Станіслаўцы Глыб. (196); *вечару́шкі — пасля каляд моладзь сабіраецца пагаварыць,* Атрубак Докш. (197). На захадзе паўночнай групы гаворак, у раёне Браслава, зафіксавана назва *вячо́ры (віч́оры)*: Купчэлі, Вайнюнцы, Мураж, Марозаўшчына, Галубоўшчына (7, 8, 30, 33, 34).

Назва *ігры́шча (гры́шча)* мае значны арэал у паўночна-ўсходніх і сярэднебеларускіх гаворках, выключэнне складае паўднёвая група гаворак, дзе бытаванне гэтай назвы зафіксавана толькі на паўночна-ўсходнім паграніччы групы. Адносна гэтай назвы часта зроблены заўвагі збіральнікаў аб тым, што яна старажытная. Таму, відаць, часта і суіснуе з назвамі, якія ўтвораны ад *ве́чар-,* што носьбіты гаворак лічаць новымі.

Назва *заба́ва* вядома гаворкам паўночна-заходняй зоны, але адзначана тут толькі ў Браслаўскім, Полацкім, Расонскім, Мядзельскім, Докшыцкім, Лепельскім, Нясвіжскім, Воранаўскім, Пастаўскім, Мёрскім раёнах. Трэба думаць, што як лексема *забава,* так і лексема *ігры́шча* былі больш распаўсюджаны на моўнай тэрыторыі.

Лакальнымі з'яўляюцца назвы, утвораныя ад кораня *сед-,* якія існуюць у заходняй групе гаворак і ў пагранічных з ёю раёнах: *пасядзе́лкі,* Зарачанне Пол. (101); *пасядзёлкі,* Тарчылава Арш. (314); *пасяду́шкі,* Парэчча

Гродз. (350); *пусыдэнькі,* Турная Кобр. (693); *поседзéнькі,* Дабучын Пруж. (680), Любішчыцы (713), Альшанцы (714) Івац.; *пасядзёлкы*, Дубай Стол. (773).

У паўночна-заходняй зоне зборы людзей для размоў, кантактаў звычайна без танцаў і музыкі называюцца прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі: *на сяло́ пайсці, быць на сялé.*

*Музы́ка, музы́кі* — адна з назваў збораў без працы. Сустракаецца яна ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту і ў сярэднебеларускіх гаворках.

Трэба заўважыць, што ўсе прыведзеныя назвы не маюць кампактнай тэрыторыі, а суіснуюць з іншымі назвамі.

Даследаванне назваў вячэрніх збораў у гаворках рускай мовы было праведзена В. Я. Кармаковай [8]. І калі параўнаць гэтыя назвы ў рускіх і беларускіх гаворках, то ў асноўным па лексічных варыянтах яны супадаюць, адрозніваючыся словаўтваральнымі элементамі. Напрыклад, у беларускіх дыялектах няма ўтварэнняў з суфіксамі *-ован-, -овк-* ад кораня *вéчар-*, некаторых варыянтаў ад кораня *сед- (сидéлкі, поседкі)* і інш. Не супадаюць і лексічныя варыянты. У рускіх гаворках не зафіксаваны лексемы *кудзéльніцы, дзяню́шкі* і некаторыя іншыя, а ў беларускіх — *кéльи, изо́пки, сби́тень* і г. д. Што датычыцца лексемы *бесéды (бесéдкі),* то калі ў рускіх гаворках яна мае шырокае ўжыванне са значэннем 'збор з працай', у беларускай дыялектнай мове выступае ў значэнні 'госці, кампанія' на ўсёй моўнай тэрыторыі. Прычым гэта зборы з пачастункамі, нават вяселле ці хрэсьбіны [9].

Арэалы распаўсюджання назваў у рускай і беларускай дыялектных мовах не маюць выразных супрацьпастаўленняў лексем. Апошнія або суіснуюць у адным пункце, або арэалы перарываюцца, атрымліваецца некаторая мазаічнасць, што сведчыць у даным выпадку аб разбурэнні лексічнай групы. Калі ж прасачыць за ізаглосамі гэтых моў, то відаць, што яны працягваюць адна другую. Так лексема *су́прадкі,* якая характэрна для по-

---

[8] Кармакова О. Е. Название вечерних собраний // Русские народные говоры. М., 1983.

[9] Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 5; карта складзена В. Дз. Старычонкам. Тэма карты — семантыка слова *бяседа.* Атлас падрыхтаваны да друку і захоўваецца ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.

лацкай і віцебска-магілёўскай груп гаворак, працягваецца ў пскоўскіх, смаленскіх і бранскіх гаворках — у заходніх сярэднерускіх гаворках, нязначныя арэалы ў паўднёвых гаворках, спарадычна ў паўночных. Але некаторыя ізаглосы не маюць прамога прадаўжэння ў гэтых мовах. Варыянт з коранем *прад-* (*пóпрадкі*) шырока прадстаўлены ў беларускіх гаворках. На тэрыторыі рускіх гаворак вядомы толькі на поўдні і сустракаецца там рэдка.

Словы з коранем *вечар-* у беларускіх гаворках называюць як зборы з працай, так і зборы без працы. У рускіх жа гаворках словамі з гэтым коранем называюцца зборы для гуляння. Гэтая назва не мае кампактных арэалаў на тэрыторыі рускіх гаворак.

Збор і праца ў начны час у беларускіх гаворках называецца *нáначкі* і *начлёжкі*. Такія назвы адзначаны на тэрыторыі полацкай і віцебска-магілёўскай груп гаворак. У суседніх смаленскіх гаворках яны вядомы на абмежаванай тэрыторыі.

Лексемы з коранем *сед-* (*сід-*) у беларускіх гаворках ужываюцца ў значэнні збораў моладзі для працы і збораў для размовы і гуляння. Звычайна гэта зборы жанчын. У рускіх гаворках гэта рабочыя зборы. Назвы з такім коранем мяжуюць з беларускай тэрыторыяй.

Слова *ігрышча* адносіцца да традыцыйнай лексікі ў гаворках абедзвюх моў. У Беларусі яно характэрна для паўночна-ўсходняга дыялекту, у адзінкавых выпадках зафіксавана на астатняй тэрыторыі. У дыялектнай рускай мове сустракаецца на заходняй мяжы ў раёне Бранска, пашыраючыся на ўсходзе валагодскай і кастрамской груп гаворак. Астатнія лексемы, якія прыведзены ў артыкуле з беларускай тэрыторыі, у названым вышэй даследаванні рускіх гаворак не адзначаны.

Матэрыял паказаў, што лексічная сістэма назваў збораў з працай, з аднаго боку, і збораў без працы, з другога, уяўляе сабой разгалінаваную сістэму найменняў, у аснове якіх ляжаць розныя элементы рэчаіснасці. Розніца паміж назвамі ў носьбітаў розных гаворак залежыць ад таго, якія яе элементы яны лічаць (успрымаюць) важнымі, асноўнымі.

# ІНДЭКС *



* У індэкс унесены словы ў набліжанай да літаратурнай мовы форме; нерэгулярныя асаблівасці захоўваюцца.

**В**

## Г

## Д

## Е, Ё

Ж



З

**І**



**К**

Л

## М

## Н

## С

## У

**Ю**



**Я**

# ЗМЕСТ

## ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ

Научное издание

**ЖИВОЕ НАРОДНОЕ СЛОВО**

**ДИАЛЕКТОЛОГИЧЕСКИЙ СБОРНИК**

Минск. Издательство «Навука і тэхніка»

*На белорусском языке*

Навуковае выданне

**ЖЫВОЕ НАРОДНАЕ СЛОВА**

**ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ ЗБОРНІК**

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова.* Рэдактар *А. М. Садоўская.* Мастак *А. У. Андронава.* Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец.* Тэхнічны рэдактар *В. І. Кручонак.* Карэктар *І. Л. Дзмітрыенка*

ІБ № 3905

Здадзена ў набор 12.12.91. Падпісана ў друк 01.04.92. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ум. фарб.-адб. 14,28. Ул.-выд. арк. 13,77. Тыраж 1000 экз. Зак. № 2197. Цана 3 р. 70 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. 220067. Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220067. Мінск, Жодзінская, 18.